рыялаў іх карыстальнікам; разам з тым яно можа быць дубліраваннем друкаванай археаграфічнай або неархеаграфічнай публікацыі.

Пры зыходжанні з другой тыпалогіі тэрмінам «археаграфічная публікацыя» мы абазначаем друкаваную і электронную публікацыі (узнаўленні) пісьмовых матэрыялаў, у якой матэрыялы пададзены ў адпаведнасці з патрабаваннямі публікацыязнаўства, пры падрыхтоўцы якой ужыты археаграфічныя прынцыпы і метады. Такім чынам, замест формулы для археаграфічнай публікацыі, якую абгрунтоўвае Я. М. Дабрушкін: археаграфічная публікацыя — гэта навуковае выданне дакумента ў якасці гістарычнай крыніцы (гл.: [9, с. 9]), мы прапануем іншую формулу: археаграфічная публікацыя — гэта такая публікацыя пісьмовых матэрыялаў, у якой яны апрацаваны ў адпаведнасці з патрабаваннямі публікацыязнаўства. У залежнасці ад ступені прапрацаванай працы з тэкстамі прымальна падзяляць археаграфічныя публікацыі на інтэнсіўныя і экстэнсіўныя. Да першага тыпу публікацый адносяцца публікацыі, у якіх узнаўляюцца рукапісныя тэксты, тэксты на старажытных мовах, пашкоджаныя тэксты.

Тым самым у паняцці археаграфічнай і неархеаграфічнай публікацыі намі ўключаецца іншы змест у параўнанні са зместам, які ўключае ў паняцце археаграфічнай і неархеаграфічнай публікацыі Я. М. Дабрушкін. Адзначаючы, што «…з моманту ўзнікнення спецыфічных публікацый дакументаў у інтарэсах навуковага гістарычнага пазнання ўзнікае становішча, пры якім адначасова пачынаюць функцыяніраваць дзве плыні дакументальных выданняў, якія ўмоўна магчыма падзяліць на навуковыя і ўсе іншыя» (ён абазначае іх як «археаграфічныя і неархеаграфічныя выданні дакументаў») [9, с. 32], галоўнае адрозненне паміж археаграфічнымі і неархеаграфічнымі публікацыямі ён бачыць «у мэтах, якія праследуюцца выданнем», абгрунтоўваючы, што «археаграфічная публікацыя — гэта замацаваныя навуковыя веды пра дакумент як гістарычную крыніцу» [9, с. 32—34, 43].

Аднак тое, што пры падрыхтоўцы археаграфічных публікацый да друку «археограф глядзіць на публікуемы дакумент як на гістарычную крыніцу» [9, с. 35], яшчэ не дае падстаў вылучаць дэфініцыю паняцця археаграфічнай публікацыі як публікацыі дакументаў у якасці гістарычных крыніц. Я. М. Дабрушкін указвае, што «…задача археаграфічнай публікацыі — стварыць перш за ўсё адэкватную копію наяўнага дакумента, якая павінна пачаць функцыяніраваць у сістэме гістарычных навуковых ведаў…» [9, с. 37]. Аднак такое палажэнне зусім не эквівалентна яго выснове пра тое, што археаграфічная публікацыя — навуковае выданне дакумента ў якасці гістарычнай крыніцы. Такому палажэнню адпавядае выснова пра археаграфічную публікацыю як пра публікацыю дакумента ў якасці часткі крынічнай базы навуковых даследаванняў (інакш — археаграфічнага фонду).



Абгрунтоўваючы трактоўку археаграфічнай публікацыі, Я. М. Дабрушкін сцвярджае: «…археаграфічная публікацыя — узноўлены публікатарам вобраз выдаваемага дакумента на падставе пэўных навуковых (крыніцазнаўчых) установак…» [9, с. 42]. Дабрушкін звязвае паняцце археаграфічнай публікацыі з адзнакай не рэтраспектыўнага характару дакументаў, а перш за ўсё з адзнакай прапрацаванай навуковай працы. Заўважым, што выкарыстоўваемы ім выраз — «вобраз дакумента» — метафара філасофкага плана, якая нічога каштоўнага не дадае да характарыстыкі археаграфічнай публікацыі як выніку пэўнай археаграфічнай працы, і таму непрымальны ў якасці тэрміна тэорыі археаграфіі.

Пункт гледжання А. Д. Сцяпанскага на археаграфічную публікацыю даволі блізкі да пункту гледжання, якога прытрымліваецца У. П. Казлоў. Ён адносіць да археаграфічных публікацый рэтраспектыўныя, але не апературыўныя публікацыі, надзяляючы першыя шэрагам адметных рыс: «…публікацыя ажыцццяўляецца ў мэтах пазнання мінулага … публікуемая крыніца ўзята з архіва … падрыхтоўку да выдання выконвае археограф … крыніца, як правіла, не толькі ўзнаўляецца, а і абагачаецца…» [23, с. 10]. Тым самым Сцяпанскі атаясамлівае ў значнай ступені паняцце рэтраспектыўнай публікацыі з паняццем археаграфічнай публікацыі, паколькі для яго галоўны крытэрый аднясення публікацыі матэрыялаў да рэтраспектыўных і аперытыўных публікацый — мэта выдання: навукова-гістарычная — для першых, і палітычная або адміністрацыйная — для другіх.

Выдзяленне паняццяў рэтраспектыўнай і аперытыўнай публікацыі пісьмовых матэрыялаў мэтазгоднае. Большасць тэарэтыкаў археаграфіі трактуюць рэтраспектыўныя дакументальныя публікацыі як публікацыі тых дакументаў, якія страцілі сваё заканадаўчае і адміністрацыйнае значэнне, вынутыя з бягучага справаводства. У прыватнасці, У. П. Казлоў, не карыстаючыся тэрмінам «рэтраспектыўная публікацыя», пад (дакументальнай) публікацыяй гістарычнай крыніцы [20, с. 26] разумее публікацыю дакумента, «які страціў свае першапачатковыя мэтавыя функцыі, службовы характар» [21, с. 30]. Пры падобнай трактоўцы да рэтраспектыўных публікацый магчыма адносіць выключна дакументы, але не наратывы. Калі прыняць некалькі іншы крытэрый выдзялення рэтраспектыўнай публікацыі пісьмовых матэрыялаў — публікацыі матэрыялаў, напісаныя ў мінулым грамадства, пэўнай краіны, у папярэднюю эпоху, якія ўжо нельга адносіць да сучаснасці, то ў адпаведнасці з такім крытэрыем прымальна адносіць да рэтраспектыўных матэрыялы, афіцыйна выдадзеныя і напісаныя ў пэўны перыяд (напрыклад, да абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь).

На наш погляд, паколькі паняцце публікацыі гістарычнай крыніцы — паняцце крыніцазнаўства, а паняцце археаграфічнай публікацыі — паняцце публікацыязнаўства, то не зусім карэктным будзе ўжываць выраз «апублікаваныя крыніцы» ў межах апошняй. А. Д. Сцяпанскі, канстатуючы: «У нашай (савецкай. — *Ю. Н.*). крыніцазнаўчай і бібліяграфічнай літаратуры шырока распаўсюджаны тэрмін «апублікаваныя крыніцы», заўважае, што «пры канкрэтным знаёмстве са складам матэрыялаў, якія адносяць сюды, не можа не кідацца ў вочы, што тэрмін гэты штучна аб'ядноўвае дзве розныя катэгорыі публікацый — аператыўныя (якія прадпрыняты для мэт кіравання і бягучага справаводства) і рэтраспектыўныя (якія прадпрыняты для мэт гістарычнага пазнання)». Атаясамліваючы археаграфічныя публікацыі і рэтраспектыўныя публікацыі дакументаў з публікацыямі гістарычных крыніц (разумеючы пад апошнімі як выданні архіўных дакументаў, так і перавыданні старажытных матэрыялаў), ён ужывае выразы «археаграфічныя публікацыі» і «публікацыі гістарычных крыніц» як эквівалентныя. Пры гэтым Сцяпанскі лічыць, што «археаграфія ж традыцыйна сканцэнтроўвае свае намаганні на праблемах рэтраспектыўнай публікацыі дакументаў у мэтах выкарыстання апошніх менавіта ў якасці гістарычных крыніц» [23, с. 41]; і ўвогуле «да археаграфіі адносяцца толькі рэтраспектыўныя публікацыі» [24, с. 17].

А. Д. Сцяпанскі абгрунтоўвае таксама адрозненне такіх, на яго погляд, «агульных тэрмінаў археаграфіі», як «археаграфічна апублікаваныя крыніцы» і «археаграфічны твор друку», патлумачваючы пры гэтым, што «ўсякая археаграфічная публікацыя з'яўляецца творам друку (кніга) або яго часткай (прыкніжная, часопісная, газетная падборка) і ў якасці такіх можа і павінна разглядацца не толькі з архівазнаўчых, крыніцазнаўчых і архівазнаўчых пазіцый, але і з пазіцый кнігазнаўчых. У прынцыпе археаграфія ўвогуле можа быць прадстаўлена як частка кнігазнаўства». (У апошнім выказванні мы ўгледжваем непаслядоўнасць, улічваючы тое, што Сцяпанскі не аспрэчвае вызначэння археаграфіі як гістарычнай дысцыпліны.) Ён ўдакладняе, што «калі для крыніцазнаўцы і архівазнаўцы цэнтральным паняццем у археаграфіі з'яўляецца «археаграфічна апублікаваная крыніца (архіўны дакумент)», то для кнігазнаўцы такім паняццем будзе «археаграфічны твор друку». Гэтыя два паняцці супадаюць толькі тады, калі публікацыя ўключае ў сябе толькі адну крыніцу (або поўны комплекс крыніц пэўнай катэгорыі)» [23, с. 43—44]. Не аспрэчваючы дадзеныя тэзісы, мы не бачым у іх аргументаў на карысць ужывання ў рамках тэорыі археаграфіі ў якасці базісных тэрміны «археаграфічныя творы друку», «археаграфічна апублікаваныя крыніцы».



Я. Ф. Шорахаў у артыкуле ў СА, аналізуючы паняцці публікацыі дакументаў і публікацыі гістарычных дакументаў, зыходзіць з поглядаў балгарскага філосафа Т. Паўлава і робіць выснову, што «калі падысці да публікацыі дакументаў з пункту гледжання (тэорыі, паняцця? — *Ю. Н.*) інфармацыі, магчыма заўважыць, што публікуемыя ў зборніках дакументы не што іншае, як носьбіты інфармацыі, і … гэта інфармацыя не заўсёды мае рэтраспектыўны характар». Заняўшы пункт гледжання на дакумент як на носьбіт інфармацыі, Шорахаў адрознівае паняцці гістарычнага дакумента, дакумента і гістарычнай крыніцы: «…па-першае, публікуемыя ў зборніках дакументы не абавязкова будуць выкарыстаны як гістарычныя крыніцы, і, па-другое, абумоўленасць ўзроўню інфармацыйнай насычанасці зборніка, заключанай у ім інфармацыі, прынцыпаў яе сістэматызацыі і пошуку мэтавым прызначэннем выдання — вось тыя крытэрыі, якія разам з іншымі, распрацаванымі археаграфіяй, дапамогуць правільна вырашаць пытанні выяўлення, адбору, сістэматызацыі дакументаў і стварэння навукова-даведачнага апарату зборнікаў». Я. Ф. Шорахаў не характарызуе адназначна публікуемыя ў зборніках дакументаў пісьмовыя матэрыялы як публікацыі гістарычных крыніц, ён адзначае, што «…не належыць разглядаць зборнік дакументаў толькі як зборнік носьбітаў інфармацыі, але бачыць у кожным выданні комплекс інфармацыі, якая разлічана на пэўнае мэтавае прызначэнне, будзе правільным» [1, с. 54].

Калі не лічыць публікацыязнаўства часткай крыніцазнаўства, то няма падстаў браць тэрмін «апублікаваныя гістарычныя крыніцы» для абазначэння паняццяў тэорыі археаграфіі.

А. Д. Сцяпанскі сцвярджае, што: «Публікацыя, якая скажае тэкст (або іншыя элементы) дакумента, з'яўляецца антынавуковай і выкарыстанню не падлягае» [25, с. 19]. Аднак, заўважым, маюцца розныя ступені скажэння тэксту. У паасобна ўзятай публікацыі маецца, мабыць, мяжа скажэння тэксту, апушчэнне ніжэй якой робіць выданне непрыдатным для выкарыстання яго матэрыялаў пры правядзенні даследаванняў. З другога боку, сустракаюцца археаграфічныя публікацыі, у якіх няма яўных скажэнняў тэксту, але якія належыць ацэньваць як антынавуковыя, з прычыны тэндэнцыйнага падбору матэрыялаў. Такі падбор можа быць абумоўлены палітыка-ідэалагічнымі ўстаноўкамі. У БССР і СССР выходзілі іншы раз публікацыі са скажонымі тэкстамі матэрыялаў (г. зн. антынавуковыя публікацыі), але іх паспяхова выкарыстоўвалі навукоўцы-гісторыкі для мэт, якія ставіліся перад імі. Гэта значыць, тэрмін «антынавуковая публікацыя» не з'яўляецца несупярэчлівым.

Канцэптуальнае дзяленне С. О. Шмітам у 1979 г. археаграфічнай працы на палявую, камеральную (апісальную) і эдыцыйную археагра-

фію (гл.: [5, с. 136; 26]), з'яўляецца зусім аптымальным і сёння. Разам з тым мы лічым мэтазгоднай наступную тэрміналагічную карэкцыю: ужываць замест тэрмінаў «палявая, камеральная, эдыцыйная археаграфія» тэрміны «палявая, камеральная, эдыцыйная археаграфічная праца». Ужыванне першых тэрмінаў паказвае на неадрозненне іх ужывальнікамі археаграфіі як навуковай дысцыпліны і археаграфіі як пэўнага роду практыкі. І нават калі навуказнаўча адрозніваць археаграфію як галіну ведаў (і даследаванняў) (якую мы ўслед за М. С. Каштанавым называем «публікацыязнаўства») і археаграфію як пэўнага роду практыку, датычную такіх даследаванняў, нязручна абазначаць розныя паняцці публікацыязнаўства адным і тым жа тэрмінам. Што да тэрміна «практычная археаграфія», то ім звычайна абазначаюць або паняцце той працы, якая выражаецца тэрмінам «эдыцыйная археаграфія», або больш шырокае паняцце, якое ўключае і рэдакцыйна-паліграфічныя аспекты здзяйснення публікацыі. Але ўлічваючы тое, што археаграфія трактуецца як пэўнага роду практыка, тэрмін «практычная археаграфічная праца» супярэчлівы і непрымальны для ўжывання ў межах тэорыі археаграфіі.

Ужываць тэрміны «археаграфічная праца», «археаграфічная дзейнасць», «археаграфічная практыка» для «разгружэння» шматзначнага тэрміна «археаграфія» мы лічым мэтазгодным незалежна ад адказу на пытанне пра ўключэнне ў склад археаграфіі як навуковай дысцыпліны практыкі падрыхтоўкі да публікацыі пісьмовых матэрыялаў. Належыць адрозніваць іх значэнне і значэнне тэрміна «археаграфія». Тэрмінам «археаграфічная праца» аптымальна абазначаць пэўную працу па пошуку, апісанні, падрыхтоўцы да друку пісьмовых матэрыялаў, якая вядзецца ў межах археаграфіі як сферы грамадскай дзейнасці.

Амаль у кожнай працы па археаграфіі магчыма сустрэць тэрмін «археаграфія», які ўжываецца ў значэнні навуковай дысцыпліны, і ў значэнні пэўнага роду практыкі, і ў змешаным значэнні і навукі, і практыкі датычных публікацыі пісьмовых матэрыялаў. Зыходзячы з непрымальнасці такога становішча, лічым абавязковым адрозніваць тэрміналагічна навуковую дысцыпліну пад найменнем «публікацыязнаўства», публікацыю пісьмовых матэрыялаў, ажыццяўляемую на аснове строгіх прынцыпаў і метадаў, якія распрацоўвае методыка археаграфіі («археаграфічную публікацыю»), і працу, якая ажыццяўляецца для дасягнення такой публікацыі («археаграфічную працу»).

Лічым непрымальным ў якасці базісных тэрмінаў тэорыі археаграфіі ўжываць тэрміны «тэарэтычная, ужытковая археаграфія», як гэта робяць, у прыватнасці, У. П. Казлоў і А. М. Міхальчанка [21, с. 7], улічваючы тое, што археаграфія як навуковая дысцыпліна (г. зн. публікацыязнаўства) і без гэтага пры ўстанаўленні яе навуказнаўчага статуса вызначаецца як ужытковая дысцыпліна.



А. Д. Сцяпанскі заўважае: «Паўстае пытанне пра суадносіны тэорыі і методыкі (археаграфіі. — *Ю. Н.*). Увядзенне паняцця «тэорыя археаграфіі» не суправаджалася вызначэннем гэтага паняцця» [25, с. 22]. Пры гэтым ён трактуе прадметныя рамкі тэорыі археаграфіі занадта вузка (не ўключаючы ў іх пытанні тыпалогіі пісьмовых публікацый, базіснай тэрміналогіі): «На наш погляд, да галіны тэорыі археаграфіі належыць адносіць толькі пытанні пра задачы, аб'ект і прадмет археаграфіі — іншымі словамі, пытанні пра межы і структуры паняццяў «археаграфія» і «публікацыя гістарычнай крыніцы». У такім разе да методыкі адыдзе працэс падрыхтоўкі публікацый» [25, с. 23]. Апошняе палажэнне трывіяльна.

Акрамя таго, А. Д. Сцяпанскі лічыць, што «…тэрмін «методыка» ўяўляецца нам састарэлым і недастатковым — больш прымальна казаць «тэхналогія» [25, с. 23]. Наконт такога тэрміналагічнага ўдакладнення належыць заўважыць, што калі яго і прымаць, то не ў якасці ўдакладнення наймення радзела археаграфіі — «тэхналогія археаграфіі». На наш погляд, слова «тэхналогія» больш падыходзіць у якасці складанай часткі найменняў раздзелаў навуковых дысцыплін, якія класіфікуюцца як тэхнічныя, але і не ў межах дысцыплін, якія класіфікуюцца як гістарычныя.

«Тэорыя археаграфіі», «методыка археаграфіі», «гісторыя археаграфіі» — найменні раздзелаў публікацыязнаўства. Выраз «методыка археаграфіі» падаецца яўна супярэчлівым у тым выпадку, калі называць «археаграфіяй» навуковую дысцыпліну, у межах якой распрацоўваецца методыка археаграфічнай працы. Але ён несупярэчлівы, калі называць такую дысцыпліну інакш — «публікацыязнаўствам», а ім абазначаць у якасці наймення раздзел яе, а ў якасці тэрміна паняцце сукупнасці прынцыпаў і метадаў археаграфічнай працы. Нагадаем, што «методыка» — тэрмін, прыдатны для абазначэння паняцця сукупнасці метадаў, правіл, прыёмаў, працэдур, рэкамендацый, якія звязаны са строгім ажыццяўленнем пэўнага роду дзейнасці.

Выкладзем найбольш істотныя высновы праведзенага даследавання. Належыць адрозніваць паняцці навукі і навуковай дысцыпліны, археаграфіі як навуковай дысцыпліны і як сферы грамадскай дзейнасці. Навука як сацыяльны інстытут альбо інстытуцыялізаваная сфера грамадскага жыцця, а больш вузка — дзейнасці, якая накіравана на вытворчасць новых ведаў, у тым ліку такіх ведаў, з дапамогай якіх ажыццяўляецца кіраванне працэсамі наваколля. Навуковая дысцыпліна — гэта самастойная галіна даследавання (навуковага пазнання), узятая і разглядаемая з боку атрымліваемых ведаў. Навука, узятая ў кагнітыўным аспекце, уяўляе сабой сукуп-

насць галін даследаванняў, адносна якіх выдзяляюцца эмпірычны і тэарэтычны, а таксама метатэарэтычны ўзроўні даследавання.

Археаграфія, выдзяляемая як сфера грамадскай дзейнасці, ахоплівае не толькі археаграфічную і публікацыязнаўчую працу, а і архіўную эўрыстыку, краязнаўства, рэдакцыйную справу. Пры разглядзе археаграфіі як феномена культуры (г. зн. выдзяляючы формы дзейнасці людзей, з дапамогай якіх назапашваецца іх гістарычны вопыт) перш за ўсё выдзяляецца такі феномен, як археаграфічная публікацыя.

Археаграфію аптымальна вызначаць як комплексную грамадскую дзейнасць, якая ўяўляе сабой перш за ўсё комплексную практычную дзейнасць — пошук, апісанне і падрыхтоўку да публікацыі не толькі старажытных і рукапісных пісьмовых матэрыялаў і рознага роду помнікаў пісьменства (літаратурных, філасофскіх і інш.), публікацыю розных пісьмовых матэрыялаў, у мэтах забеспячэння навуковых (у першую чаргу — гістарычных) доследаў матэрыяламі, для патрэб навучання, для прапаганды пэўных ідэй. Археаграфічную працу нельга абмяжоўваць выключна падрыхтоўкай публікацый для мэт навуковага даследавання, але такая праца павінна весціся ў пэўнай адпаведнасці з патрабаваннямі публікацыязнаўства.

Прапануем наступнае вызначэнне: публікацыязнаўства (інакш — археаграфазнаўства) — навуковая дысцыпліна, у якой вывучаюцца розныя аспекты і моманты археаграфічнай працы, і з'явы, датычныя археаграфіі, выкарыстоўваюцца агульнанавуковыя і распрацоўваюцца спецыфічныя прынцыпы і метады навуковай працы (напрыклад, прынцып дыферэнцыраванага падыходу да выбару тэксту пісьмовага матэрыялу (дакумента), метад вызначэння падразнавіднасці яго).

Разважанні пра археаграфію ў вузкім і шырокім сэнсах паняцця замацоўваюць ужыванне шматзначнага тэрміна «археаграфія». Тэрміналогію, якая ўжываецца ў рамках тэорыі археаграфіі, сёння мэтазгодна дыферэнцыраваць (у прыватнасці, ужываць замест тэрміна «археаграфія» тры тэрміны — «археаграфія», «археаграфічная праца», «публікацыязнаўства») і карэлятыўна эксплікаваць.

Мы прапануем не элімінаваць, а абмежаваць у рамках тэорыі археаграфіі выкарыстанне тэрміна «дакументальная публікацыя», зыходзячы з абгрунтаванасці выдзялення дакументальных, наратыўных і камбінірованых публікацый як тыпаў друкаванай публікацыі пісьмовых матэрыялаў. Больш адэкватным будзе паняцце, якое сёння ім абазначаецца, перадаць праз тэрміны «друкаваная, археаграфічная публікацыя (пісьмовых матэрыялаў)».



Л і т а р а т у р а


1. Шорохов Е. Ф. О некоторых вопросах теории советской археографии // СА. 1976. № 4.
2. Несцяровіч Ю. У. Базавая тэрміналогія па археаграфіі // Архівы Беларусі на рубяжы XX—XXI стст.: гісторыя, стан, перспектывы развіцця. Міжн. навук.-практ. канф. Мінск. 8—9 лютага 2001 г. Мн., 2001.
3. Несцяровіч Ю. У. Абгрунтаванне і крытыка выкарыстання некаторых тэрмінаў у археаграфіі // Архивознавство. Археографія. Джерелознавство. Міжвідомчий наук. зб. — Вып. 5: «Архіви — складова інформаційних ресурсів суспільства». К., 2000.
4. Шумейко М. Ф. О роли и месте археографии в ряду исторических дисциплин источниковедческого цикла // Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны. Мн., 2002.
5. Шмидт С. О. Некоторые вопросы развития советской археографии // Археографический ежегодник за 1978 год. М., 1979.
6. Козлов В. П. Приглашение к размышлению об археографии состоялось… // ОА. 2002. № 6.
7. Селезнев М. С. О некоторых вопросах советской археографии // Исторический архив. 1960. № 4.
8. Козлов О. Ф. К вопросу об определении предмета советской археографии // СА. 1976. № 2.
9. Добрушкин Е. М. Основы археографии. Учебное пособие. М., 1992.
10. Шмидт С. О. Советская археография и ее современные задачи // Материалы всесоюзной научной конференции «Архивы СССР периода развитого социалистического общества» М., 1979. Ч. 1.
11. Черных В. А. О предмете археографии и ее месте в кругу смежных научных дисциплин // СА. 1976. № 6.
12. Черных В. А. Еще раз об объекте и предмете археографии // ОА. 2001. № 3.
13. Современные проблемы советской археографии (к итогам дискуссии в журнале «Советские архивы» // СА. 1979. № 6.
14. Шмидт С. О. 25 лет Археографической комиссии АН СССР // Археографический ежегодник за 1981 год. М., 1982.
15. Каштанов С. М. О предмете и объекте археографии (Некоторые заметки по поводу статьи В. К. Козлова) // ОА. 2002. № 3.
16. Огурцов А. П. Дисциплинарная структура науки. М., 1988.
17. Уитли Р. Когнитивная и социальная институциализация научных специальностей и областей исследования // Научная деятельность, структура и институты. М., 1980.
18. Казлоў У. П. Дакумент у стане спакою // БАШ. Вып. 4. Мн., 2003.
19. Старостин Е. В. Терминологическая интервенция // ОА. 2001. № 5.
20. Козлов В. П. Теоретические основы археографии с позиций современности // ОА. 2001. № 1.
21. Казлоў У. П., Міхальчанка А. М. Некаторыя пытанні археаграфіі як навуковай дысцыпліны // БАШ. Вып. 2. Мн., 2001.

22. Коршук В. К. Программа Белорусской Социалистической Громады // Веснік БДУ. Серыя 3. 1993. № 1.
23. Степанский А. Д. Археографическая база и археографический фонд исторической науки // ОА. 1991. № 1.
24. Степанский А. Д. К 225-летию русской археографии // ОА. 1992. № 6.
25. Степанский А. Д. Археография: термин, объект, предмет // ОА. 1996. № 3.
26. Шмидт С. О. Некоторые вопросы истории и методики археографии и архивоведения // Актуальные вопросы архивоведения и источниковедения марксизма-ленинизма и истории КПСС. М., 1979.
27. Кравченко А. И. Основы социологии. М., 2002.
28. Лешкевич Т. Г. Философия науки: традиции и новации. М., 2001.
29. Абушенко В. Л., Кацук Н. Л. Дисциплинарность, дисциплина // Новейший философский словарь. Мн., 2003.

***О. С. Иванова***

## «НАХОДКА» ТРЕТЬЕЙ ЧАСТИ «БЕЛОРУССКОГО АРХИВА ДРЕВНИХ ГРАМОТ» И. И. ГРИГОРОВИЧА В БГАМЛИ

Главной заслугой выдающегося белорусского археографа Ивана Ивановича Григоровича по праву считается подготовка и издание в 1824 г. сборника документов «Белорусский архив древних грамот» (ч. I). Однако судьба «Архива» остается невыясненной до конца. Вскоре после выхода первой части возникла необходимость продолжения издания, что было обусловлено появлением более широких возможностей для исследования белорусских архивов и соответственно увеличением количества документов для публикации. Поэтому «вторую книжку архива надлежало начать снова с помещением в ней древнейших актов, чтобы чрез то в следующей дать место и позднейшим. Таким образом, в сей второй части заключаются грамоты с половины XIII до окончания XVI века». Эта часть, хранившаяся в рукописи, несмотря на многочисленные свидетельства о ее существовании, долгое время считалась исчезнувшей, пока не была обнаружена А. А. Преображенским в Красноярской коллекции Г. В. Юдина.

О части III «Архива» нам достоверно известно лишь то, что в ней должны были «заключаться грамоты XVII века, с начала онаго»[1]. Данное свидетельство мы интерпретируем как то, что в ч. III должны были включаться грамоты и XVII, и XVIII вв. Несмотря на отсутствие реестра документов, включаемых И. И. Григоровичем в ч. III «Архива», возможно составить приблизительный перечень документов, предположительно включаемых в ч. III, исходя из анализа «Предисловия» к т. 2 «Архива», общих тенденций археографической работы Григоровича над



«Архивом» и на основании хранящихся в БГАМЛИ документов древне-средневекового периода истории из коллекции Григоровичей.

Основная работа над ч. I «Белорусского архива древних грамот» была проведена непосредственно И. И. Григоровичем, исправления и дополнения вносились К. Ф. Калайдовичем, И. Н. Лобойко, Н. П. Румянцевым, а также митрополитом Евгением (Е. А. Болховитиновым). Часть I «Архива» была напечатана только спустя год после составления предисловия. Сначала все листы были планомерно отпечатаны, затем сверены и исправлены[2].

Еще до выхода первой части началась масштабная работа по изучению белорусских архивов. Значительно расширился состав членов Румянцевского кружка. В полоцких архивах работали: законоучитель полоцкого училища иерей Федор Голодковский, регент подкоморских судов Иван Сытенко (Сыценко[3], Сыщанко[4]), возглавил группу смотритель полоцких уездных училищ, губернский секретарь Антоний Дорошкевич, бывший в 1820—1822 гг. членом Комиссии по разбору местных иезуитских архивов. С марта по сентябрь 1824 г. они описывали и копировали материалы Полоцкой греко-униатской консистории. В октябре 1824 г. Дорошкевич получил распоряжение Румянцева наведаться в архивы Друи и Дисны, а в январе 1825 г. туда был направлен Сытенко, который затем обследовал и хранилища Лепеля.

В августе 1825 г. Дорошкевич и Сытенко получили разрешение на осмотр архивов Витебской губернии. Здесь было обнаружено и скопировано дело об убийстве в 1623 г. епископа Иосафата Кунцевича. Предполагалось также просмотреть и материалы Сапег в Деречине. В феврале 1825 г. переводчик главного губернского суда г. Могилева, губернский секретарь Н. Г. Гортынский с двумя писарями был направлен для работы в Мстиславль[5].

Скопированные «списчиками» документы пересылались в Гомель графу Румянцеву, который «их представлял на рассмотрение митрополита Евгения»[6], а затем они попадали к Григоровичу, который в свою очередь должен был делать с нужных бумаг списки и отправлять их обратно Румянцеву[7].

Перечисленные этапы работы Румянцевского кружка можно проследить в документах коллекции И. И. Григоровича в БГАМЛИ. Здесь, например, можно ознакомиться с двумя вариантами «Реестра списанных копий из разных древних документов, описанных в архиве Полоцкой греко-униатской консистории» от 8 декабря 1825 г., составленными А. Дорошкевичем[8]. В связи с этим Н. П. Румянцев в письме И. И. Григоровичу от 16 сентября 1825 г. сообщает: «Г. Дорошкевич препроводил мне копии некоторых грамот, отысканных им в архиве Полоцкой греко-униатской

консистории, и при особом им реестре, я их представлял на рассмотрение митрополита Евгения. Из приложенного его здесь письма Вы усмотреть изволите, что он почитает их важными, но заключает, что списки столь неисправны, что прежде напечатания их во II части Белорусского архива, непременно нужно потребовать от Дорошкевича списков точных и безошибочных»[9]. Румянцев также просит Григоровича поместить эти списки во вторую часть «Архива». Но эта просьба выполнена не была.

Первая часть «Архива» была подготовлена на основе материалов, извлеченных из архивов Могилева (2 документа заимствованы из мстиславльского и оршанского хранилищ). Это издание «было следствием предположения собрать материалы к объяснению истории и словесности Белорусской»[10]. Комплекс, состоящий из 57 документов, охватил период с 1463 по 1768 г. При этом подавляющее большинство документов относится к XVI и XVII вв., соответственно 42 и 36%, и лишь оставшиеся 12 документов — к XV и XVIII столетиям. Что же касается тематики сборника, то большинство материалов отражают историю г. Могилева (45%), включены также документы городов Мстиславля, Орши и Витебска. Учитывая тот факт, что первоначальной целью обследования белорусских архивов было выявление документов для дополнения работы Амвросия «История русской иерархии»[11], не удивительно, что большинство документов первой части (49%) посвящены истории церкви.

Вторая часть «Архива» состоит из 67 документов и включает грамоты с 1253 г. до конца XVI в., о чем и сообщает И. И. Григорович в предисловии. Большинство грамот (65%) относятся к XVI в., 17% — к XIV, остальные к XIII, XIV, XVII и даже XVIII вв. Как и в первой части, большинство документов (55%) касается церковной истории, в равной степени отражены развитие городов и общегосударственные процессы.

Предисловие к ч. II «Архива», написанное рукой протоиерея Григоровича, датировано 26 декабря 1825 г. Граф Румянцев умер 3 января 1826 г.. Вполне вероятно, что протоиерей не успел переслать ему ни подготовленный второй том, ни те материалы, которые были присланы для работы над третьим, и оставил их у себя. Аналогичная ситуация была описана Николаем Григоровичем: разбирая архив отца, он обнаружил черновик ответа протоиерея на записку графа Румянцева от 8 декабря и сделал вывод, что канцлер не успел с ним ознакомиться[12].

Потеряв советчика и мецената, И. И. Григорович обращается к Киевскому митрополиту Евгению, принимавшему активное участие в работе кружка, более всего интересуясь историей церкви. И 10 мая получает от него письмо, в котором митрополит сообщает: «Оглавление 2-й части Белорускаго архива я у себя оставляю, полагая, что у вас список с онаго



есть». Митрополит также уверяет, что издание книг после смерти Н. П. Румянцева не должно прекратиться, т. к. в распоряжение комиссии был предоставлен значительный капитал, поэтому он советует Григоровичу не прекращать работы над третьей частью «Архива». «Но отыскание грамот с кончиною мецената теперь уже, без сомнения, прекратится»[13]. Однако со смертью графа прекратилось не только собирание, но и издание грамот, касающихся истории Беларуси. И. И. Григорович был вынужден прекратить работу над «Архивом», а собранные материалы остались в его собственном архиве, часть которого хранится сегодня в БГАМЛИ.

В 1837 г. при Министерстве народного просвещения России начала работу Археографическая комиссия, которая в своем издании «Акты Западной России» активно использовала как первую, так и вторую части «Белорусского архива древних грамот», ссылаясь на рукопись последней, как на «принадлежащую Археографической комиссии»[14]. И. И. Григорович, являясь главным редактором Актов, «со свойственным ему бескорыстием пожертвовал в комиссию богатое свое собрание … приготовленное им к изданию как 2-я часть Белорусских грамот»[15]. Речь о передаче материалов третьей части не шла. Сегодня они находятся в одном фонде, поэтому можно предположить, что либо Григорович имел еще один вариант рукописи II части «Архива», либо она слишком часто использовалась им для работы и после смерти оказалась в личном архиве. Вторая версия менее вероятна, поскольку Археографическая комиссия, несомненно, потребовала бы вернуть рукопись, тем более, что владельцем личного архива Григоровича стал его сын Николай, сотрудник упомянутой комиссии.

В предисловии ко второй части сборника «Белорусский архив древних грамот» составитель определяет хронологию планируемой третьей части. В рамках данного сборника составителем предполагалось неизменными оставлять тематику, хронологию и территориальный охват документов.

Коллекция И. И. Григоровичей в БГАМЛИ содержит около 195 копий документов (листов, привилеев, грамот), переписанных и подписанных уже упомянутыми А. Дорошкевичем, Ф. Голодковским, И. Сытенко, И. Шулякевичем (архимандрит Иероним), Н. Гортынским, а также самим Григоровичем (причем не на всех таких документах имеются подписи).

В целом материалы охватывают период с 1503 по 1797 г. Из них — 87% относятся к XVII и XVIII вв. 12% — фиксируют события XVI в., остальное — это документы XIV в. В большей степени отражена история городов Могилева и Мстиславля, в меньшей — Полоцка, Витебска, Орши, Друи, Быхова, Себежа, Гродно, Гомеля и т. д., всего информацию по истории городов содержат 40% документов, по церковной истории — 30%.

**Сводная таблица**
**характеристики документов, содержащихся в ч. I—II**
**и предполагаемых к включению в ч. III**
**«Белорусского архива древних грамот»**

| Части «Архива» | Хронологические рамки, заданные составителем (вв.) | Хронология документов по векам (%) | | | Территориальный охват (%) | | | Тематика документов (%) | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | XVI | XVII | XVIII | Могилев | Мстиславль | ВКЛ | История церкви | Права городов |
| I | XV—XVIII | 42 | 36 | 15 | 45 | 14 | 22 | 49 | 35 |
| II | XIII—XVI | 65 | 7 | 0,6 | 13 | 13 | 41 | 55 | 19 |
| III | с XVII | 12 | 48 | 39 | 19 | 16 | 12 | 30 | 40 |

На основе приведенных данных выделим основные, на наш взгляд, тенденции в отборе материалов для издания: во-первых, документы охватывают более широкий промежуток времени, чем было намечено, однако сохранение первоначального хронологического замысла очевидно в первых двух частях и особенно ярко выражено в материалах третьей. Во-вторых, количество документов по истории белорусских городов постепенно увеличивается, что связано с расширением поисков в рамках Румянцевского кружка. В-третьих, преобладающей тематикой является история церкви. Эта тенденция несколько нарушена в последней группе, которая, кстати, не была до конца подготовлена к изданию. Тематика материалов коллекции Григоровичей в БГАМЛИ в значительной степени совпадает с тематикой документов, опубликованных в ч. I—II «Архива». Она соответствует общей тенденции отбора документов И. И. Григоровичем для сборника «Белорусский архив древних грамот».

Из рассматриваемой группы протоиереем было опубликовано всего несколько документов: один — в первой части «Архива», шесть — во второй и незначительное количество в «Актах Западной России», куда практически полностью были перепечатаны документы первых двух частей «Белорусского архива древних грамот». После смерти графа Н. П. Румянцева рукопись ч. II «Белорусского архива древних грамот» вместе с материалами готовившейся III части, вопреки принятым правилам, остались в личном архиве И. И. Григоровича.

Мы считаем, что среди материалов коллекции Григоровичей в БГАМЛИ имеются материалы к III части «Белорусского архива». Это мы заключаем из того, что около 85% тех материалов относятся к XVII—XVIII вв., что, как известно, соответствует первоначальному



замыслу И. И. Григоровича. Кроме того, тематика таких материалов вполне соответствует, на наш взгляд, общим тенденциям формирования ч. I, II «Белорусского архива» Григоровичем.

Таким образом, в БГАМЛИ хранится не только подготовленная к изданию ч. II сборника «Белорусский архив древних грамот», но и материалы к ч. III, работа над которой была прекращена к середине 1826 г., через некоторое время после смерти Н. П. Румянцева. БГАМЛИ располагает копиями документов, являющимися ценными источниками для исследования истории Беларуси.

[1] Белорусский государственный архив-музей литературы и искусства. Ф. 6. Оп. 1. Д. 14. Л. 2.
[2] Григорович Н. Переписка Григоровича с графом Румянцевым // Чтения в обществе истории и древностей российских. Кн. 2. СПб., 1864. С. 57.
[3] БГАМЛИ. Ф. 6. Оп. 1. Д. 3. Л. 10.
[4] Козлов В. П. Колумбы российских древностей. М., 1981. С. 31.
[5] Там же.
[6] Григорович Н. Указ. соч. С. 61.
[7] Там же. С. 60.
[8] БГАМЛИ. Ф. 6. Оп. 1. Д. 15. Л. 1—4.
[9] Григорович Н. Указ. соч. С. 61.
[10] БГАМЛИ. Ф. 6. Оп. 1. Д. 14. Л. 2.
[11] Козлов В. П. Колумбы российских древностей. М., 1981. С. 74.
[12] Григорович Н. Указ соч. С. 82.
[13] Там же. С. 91.
[14] Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и издаваемые Археографической комиссией. СПб., 1851. Т. 4. С. 21.
[15] Григорович Н. Указ. соч. С. 37.

***С. Я. Новікаў***

## ПРА НЕАБХОДНАСЦЬ АРХЕАГРАФІЧНАЙ РАСПРАЦОЎКІ ДАКУМЕНТАЛЬНЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ ФОНДУ «WI STAB OST» АБ ГЕРМАНСКАЙ ВАЕННА-ГАСПАДАРЧАЙ ПАЛІТЫЦЫ Ў БЕЛАРУСІ (1941—1944)

У айчыннай гістарыяграфіі аналіз дакументальных матэрыялаў фонду «Wi Stab Ost» [1] (гаспадарчага штаба Ост. — *С. Н.*) праводзіцца ўпершыню. У замежнай гістарыяграфіі іх распрацоўка пачалася нядаўна — на рубяжы 1980—90-х гадоў [2]. Пра значнасць дадзеных дакументальных матэрыялаў, уведзеных у навуковы ўжытак, сярод іншага сведчыць той факт, што яны адразу патрапілі ў рээстр

важнейшых распрацовак па вывучэнні «ваенна-эканамічнай» гісторыі другой сусветнай вайны [3, s. 324; 4, s. 17].

Інтарэс беларускай грамадскасці і асабліва прафесійных гісторыкаў да матэрыялаў, выяўленых у фондзе Wi Stab Ost Федэральнага ваеннага архіва Германіі, вынікае нават з агульных колькасных характарыстак: амаль тысяча адзінак захавання ці каля 18 уліковых метраў. Навуковая каштоўнасць гэтага комплексу дакументальных матэрыялаў, на наш погляд, значна ўзрасце ў выніку ажыццяўлення крыніцазнаўчага аналізу ўсяго корпуса матэрыялаў і археаграфічнай распрацоўкі асобных першакрыніц у прыватнасці, асабліва тых архіўных дакументаў, якія маюць прамое дачыненне да германскай эканамічнай палітыкі ў Беларусі ў гады другой сусветнай вайны.

Прапанаваны ў дадзеным артыкуле агляд, на наш погляд, дазваляе: па-першае, рэканструяваць структуру гаспадарчага штаба Ост; па-другое, выявіць сутнасць яго ваенна-эканамічнай палітыкі на ўсходзе; па-трэцяе, раскрыць характар «вядзення гаспадаркі» на акупаванай тэрыторыі Беларусі ў 1941—1944 гг.

Разглядаючы масіў арыгінальных матэрыялаў у першую чаргу скрозь прызму вывучэння малавядомых аспектаў ваенна-эканамічнай гісторыі Беларусі, трэба мець на ўвазе, што ў фондзе захаваны шэраг унікальных дакументальных крыніц, сярод якіх: дырэктывы, указы, загады, распараджэнні, прадпісанні, інструкцыі, планавыя заданні, бягучыя і выніковыя справаздачы, дзённікі баявых дзеянняў, статыстычныя даныя, табліцы, карты і шмат усяго іншага, што ўсебакова характарызуе дзейнасць аднаго з упраўленняў адначасова і ўпаўнаважанага па чатырохгадовым плане трэцяга рэйха, і вярхоўнага галоўнакамандавання германскага вермахта — гаспадарчага штаба Ост на ўсёй усходняй акупаванай тэрыторыі, у тым ліку ў Беларусі.

Сістэматызацыя матэрыялаў, якія раскрываюць структуру фонду Wi Stab Ost, паказвае, што будова эканамічнай арганізацыі вялася ў абставінах падрыхтоўкі Германіяй праграмы заваёвы «жыццёвай прасторы на ўсходзе» з улікам выключнага вырашэння як ваенных, так і эканамічных задач, асабліва па «забеспячэнні» прадуктамі харчавання дзеючых вайсковых часцей і «ўзмацненні» ваеннай эканомікі трэцяга рэйха шляхам максімальнага выкарыстання «рускіх» рэсурсаў [5]. Вырашыць новыя задачы, абумоўленыя ходам вайны на ўсходзе і характарам «татальнага» выкарыстання ўсіх гаспадарчых рэсурсаў, вышэйшае кіраўніцтва трэцяга рэйха патрабавала ад спецыяльна створанага дзеля дасягнення гэтай мэты арганізацыйна-выканаўчага органа — «гаспадарчага штаба», які да пачатку захопу тэрыторыі СССР меў назву «Ольдэнбург» [6, bl. 1]



(зашыфраваная назва «Ост». — *С. Н.*). Як вынікала з загаду начальніка ўпраўлення эканомікі і ўзбраенняў галоўнакамандавання вермахта генерала Г. Томаса, «ваенна-гаспадарчая арганізацыя Ост» з канца кастрычніка 1940 г. павінна была стаць галоўным «выканаўчым органам» трэцяга рэйха ў вобласці ваеннай гаспадаркі на ўсходніх тэрыторыях [6, bl. 1].

Падпарадкаваная непасрэдна ўпаўнаважанаму па чатырохгадовым плане трэцяга рэйха Г. Герынгу новая арганізацыя з самага пачатку 1941 г. бачыла галоўныя вынікі аперацыі на ўсходзе ў «ваенна-гаспадарчым выкарыстанні сельскай гаспадаркі, рэсурсаў і прамысловасці» [6, bl. 5]. З улікам такога падыходу начальнік ўпраўлення эканомікі і ўзбраенняў 8.05.1941 г. зацвярджае структуру «рабочага штаба» будучай эканамічнай арганізацыі, куды ўвайшлі — кіруючы штаб эканомікі Ост, гаспадарчы штаб (начальнік — генерал-лейтэнант люфтвафэ В. Шуберт), гаспадарчыя інспекцыі, гаспадарчыя каманды, групы IV Wi (гаспадарка. — *С. Н.*) пры палявых камендатурах і аддзелы IV Wi армейскага камандавання [7, bl. 1]. У ходзе правядзення ваеннай аперацыі на ўсходзе прадугледжваўся падзел захопленай тэрыторыі з улікам яе знаходжання ў кожнай з дзвюх зон ваеннага падпарадкавання: у першым выпадку — у зоне аператыўнага армейскага тылу, у другім — у зоне глыбокага тылу групы армій Mitte, дзе гаспадарчыя службы павінны былі вырашаць асноўныя задачы па выяўленні «ўсіх прадуктаў сельскай гаспадаркі», выкарыстанні захаваных прамысловых вытворчасцей і запасаў сыравіны, лясной гаспадаркі і рабочай сілы. Практычнымі выканаўцамі планаў па гаспадарчым выкарыстанні ўсходняй тэрыторыі разам з гаспадарчымі групамі, інспекцыямі і камандамі з'яўляліся таксама ваенна-гаспадарчыя службы тылавых аддзелаў армій, армейскія перадавыя гаспадарчыя каманды, аддзяленні перадавых гаспадарчых каманд, аддзяленні гаспадарчых каманд і інш. [2, s. 31—35; 7, bl. 3—6].

Групуючы матэрыялы на аснове іх прыналежнасці да канкрэтнай структурнай адзінкі (галоўнага выканаўчага органа ці падпарадкаваных яму службаў), бачым, што асаблівую каштоўнаць для даследавання германскай ваенна-гаспадарчай палітыкі на тэрыторыі Беларусі маюць дзённікі баявых дзеянняў гаспадарчых каманд, адпаведна: Wi Kdo 203 — Клімавічы (з 20.06.41 да 30.04.43 г.); Wi Kdo 206 — Віцебск (з 1.01.42 да 9.01.44 г.); Wi Kdo 207 — Полацк (з 1.10.41 да 31.03.43 г.); Wi Kdo 208 — Бабруйск (Бунцлаў) (з 9.06.41 да 30.09.43 г.); Wi Kdo 209 — Гомель (з 25.01.42 да 27.05.43 г.); Wi Kdo 211 — Орша (з 1.01.42 да 31.06.43 г.); Wi Kdo 212 — Магілёў (з 12.01.42 да 31.09.43 г.); Wi Kdo 213 — Барысаў (з 21.09.41 да 20.08.44 г.); Wi Kdo 214 — Лепель (з 1.01.42 да 31.03.43 г.) [8].

Адзначаючы важнасць паўмесячных і месячных паведамленняў і справаздач, а таксама бягучых дзённікаў дзевяці гаспадарчых каманд,

неабходна заўважыць, што ў гэтых матэрыялах адсутнічаюць абагульненыя звесткі ў дачыненні да ўсёй тэрыторыі Беларусі, што ўваходзіла ў зону аператыўнага армейскага тылу і глыбокага тылу групы армій Цэнтр. Аднак праблема адсутнасці гэтых матэрыялаў здымаецца ў выпадку выкарыстання іншых матэрыялаў фонду Wi Stab Ost. У першую чаргу дзённікаў баявых дзеянняў штаба Wi In Mitte (гаспадарчай іспекцыі Цэнтр з месцам знаходжання ў Барысаве. — *С. Н.*) за перыяд з 9.06.41 да 31.10.43 г. і з 1.11.43 да 27.10.44 г. [9].

Аналіз архіўных дакументаў паказвае: штаб інспекцыі забяспечыў выкананне гаспадарчымі камандамі, спецыяльнымі групамі і нарыхтоўчымі камандамі «дырэктыў аб вядзенні гаспадаркі на новазанятых усходніх тэрыторыях» праз адпаведныя загады і распараджэнні, вызначаючы пры гэтым канкрэтныя гаспадарчыя заданні ў такіх галінах, як нарыхтоўка сельскагаспадарчых прадуктаў і сыравіны, выпуск прадукцыі прамысловай вытворчасці, лясной гаспадаркі і дрэваапрацоўкі, выкарыстанне рабочай сілы. З дырэктыў вышэйшага кіраўніцтва трэцяга рэйха вынікала, што інспекцыі разглядаліся ў якасці «аддзелаў чатырохгадовага плана», паколькі адказвалі за выяўленне, улік, ахову, выкарыстанне, дастаўку і захаванне прадукцыі, а таксама за аднаўленне прамысловых вытворчасцей, забеспячэнне іх кіраўнікамі, сыравінай і матэрыяламі, пастаўку электраэнергіі, выкарыстанне мясцовай рабочай сілы і г. д. [10, bl. 12—14].

Сістэматызацыя дакументаў, якія раскрываюць характар дзейнасці ўсіх ваенна-гаспадарчых службаў, патрубуе вызначэння галоўных напрамкаў германскай эканамічнай палітыкі на акупаванай тэрыторыі Беларусі. У адпаведнасці з дырэктывамі Wi Stab Ost галоўнай «выканаўчай адзінкай па практычным выкарыстанні» захопленай тэрыторыі з'яўляліся гаспадарчыя каманды [10, bl. 14], якія павінны былі: выяўляць захаваныя вытворчасці і вызначаць магчымасці іх практычнага выкарыстання; прызначаць кіраўнікоў на дзеючыя вытворчасці; пастаўляць рабочую сілу на ўведзеныя ў лік дзеючых вытворчасці; пастаўляць на іх сыравіну і матэрыялы, забяспечваць электраэнергіяй; наладжваць фінансаванне, а таксама забяспечваць працуючых харчаваннем, вопраткай і месцам пражывання; кантраляваць выкананне правіл працоўнай дысцыпліны і аховы працы. Зыходзячы з пастаўленых задач, гаспадарчая каманда мела структуру, цалкам адпаведную гаспадарчай інспекцыі з групамі — сельскай гаспадаркі, лясной гаспадаркі і дрэваапрацоўкі, прамысловасці, работы, вытворчага развіцця і прафесійнай падрыхтоўкі.

Тэматычны аналіз дакументаў бачыцца нам найбольш удалым на прыкладзе разгляду не столькі справаздач гаспадарачых каманд і гаспадарчай інспекцыі Mitte, колькі дакументальных матэрыялаў па гісторыі



гаспадарчага штаба Ост. Такі падыход дазваляе ўбачыць асноўныя напрамкі дзейнасці «выканаўчага органа», выявіць функцыі падпарадкаваных яму «практычных службаў» і паказаць асаблівасці «вядзення гаспадаркі» на акупаванай тэрыторыі Беларусі, што адлюстравана праз:

— гісторыю стварэння гаспадарчага штаба Ост і падпарадкаваных яму іншых выканаўчых структур з мэтай «вядзення гаспадаркі» на ўсходзе (дырэктыўныя ўказанні аб стварэнні ваенна-гаспадарчай арганізацыі «Ольдэнбург», распараджэнні, інструкцыі і прадпісанні гаспадарчага штаба Ост (1941—1943), загады аб правядзенні структурных змяненняў у гаспадарчай арганізацыі Ост, матэрыялы па камплектацыі асабовага складу арганізацыі Ост і г. д.) [1];

— забеспячэнне вермахта (распараджэнні аб харчовым забеспячэнні часцей вермахта, загады аб уліку і нарыхтоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі, справаздачы аб аб'ёмах паставак прадуктаў харчавання, статыстычныя даныя аб харчовым забеспячэнні армейскіх часцей на ўсходняй тэрыторыі, дзённікі гаспадарчых каманд па пастаўках прадуктаў харчавання, фуражу і інш.) [1];

— арганізацыю работы ў вобласці сельскай гаспадаркі і нарыхтоўкі харчавання (дырэктывы аб правядзенні «аграрнай рэформы», планавыя заданні на 1941/42, 1942/43, 1943/44 гаспадарчыя гады, планы па выкананні заданняў па харчаванні, становішча з забесяэннем прадуктамі харчавання мясцовага насельніцтва, харчовае становішча ў Беларусі, забеспячэнне прадуктамі цывільнага насельніцтва, нарыхтоўка і пастаўкі тэхнічных культур з акупаванай тэрыторыі і г. д.) [1];

— выкарыстанне лясной гаспадаркі і арганізацыі вытворчасцей па дрэваапрацоўцы (асноўныя распараджэнні аб выкарыстанні рэсурсаў лясной гаспадаркі на захопленай тэрыторыі, агульная карціна лясной гаспадаркі і дрэваапрацоўкі на ўсходзе ў 1942—1943 гг., выкарыстанне рабочай сілы на лесанарыхтоўках і ў дрэваапрацоўцы ў 1943—1944 гг., планавыя заданні па вывазу леса і матэрыялаў дрэваапрацоўкі, статыстычныя даныя аб стане лясной гаспадаркі і інш.) [1];

— аднаўленне прамысловай вытворчасці (загады аб аднаўленні прамысловых вытворчасцей, заданні для галаўной групы гаспадарчага штаба Ост, штотыднёвыя паведамленні шэфгруп, рапарты аб выніках работы тэкстыльных фабрык, статыстычныя даныя аб торфанарыхтоўках на акупаванай усходняй тэрыторы, у тым ліку ў Беларусі і інш.) [1];

— улік і нарыхтоўку сыравіны і матэрыялаў для прамысловых вытворчасцей (звесткі аб нарыхтоўцы сыравіны, агляды матэрыялаў і сыравіны, выкарыстанне рабочай сілы, збор сыравіны і г. д.) [1];

— дзейнасць гандлёвых і нарыхтоўчых усходніх арганізацый (дырэктывы аб стварэнні ўсходніх арганізацый, матэрыялы аб дзейнасці цэнтральнага гандлёвага таварыства аб збыце і нарыхтоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі ZHO, статыстыка аб выніках дзейнасці сельскагаспадарчага таварыства на занятай усходняй тэрыторыі LO) і інш. [1].

Нават кароткае знаёмства з дакументамі гаспадарчага штаба Ост пацвярджае той факт, што апошні з'яўляўся галоўным органам па выкананні праграмы «максімальнага выкарыстання запасаў і рабочай сілы» ўсходу для германскай ваеннай эканомікі. Знаходзячыся ў падпарадкаванні «Кіруючага штаба эканомікі Ост», гаспадарчы штаб быў самым важным звяном у ланцугу ад ўпаўнаважанага па чатырохгадовым плане трэцяга рэйха да гаспадарчых інспекцый, каманд і груп на акупаванай тэрыторыі Беларусі ў 1941—1943 гг.

Вывучэнне зместу архіўных матэрыялаў, скампанаваных у фондзе на аснове праблемна-храналагічнага падыходу, сведчыць аб захаванні значнага масіву разрозненых дакументальных крыніц, без выкарыстання якіх на сённяшні дзень практычна нельга комплексна даследаваць ваенна-гаспадарчую палітыку, што праводзілася германскай ваеннай адміністрацыяй на тэрыторыі аператыўнага і глыбокага тылу групы армій Цэнтр, а таксама ў генеральных акругах — Беларусь, Жытомір, Валынь і Падолія. На прыкладзе разгляду нават асобных дакументальных матэрыялаў паспрабуем раскрыць характар «вядзення гаспадаркі», канцэнтруючы пры гэтым увагу на канкрэтных фактах ваенна-гаспадарчай гісторыі Беларусі 1941—1944 гг.

Адным з першых дакументаў, у якім беларуская тэрыторыя з яе вытворчымі і людскімі рэсурсамі разглядалася ў якасці канкрэтнага аб'екта будучай ваеннай аперацыі на ўсходзе, з'яўляецца дакладная запіска «*Ваенна-эканамічныя вынікі аперацыі на ўсходзе*», падрыхтаваная начальнікам ваенна-эканамічнага ўпраўлення і ўпраўлення ўзбраенняў пры галоўным камандаванні вермахта генералам Г. Томасам 13.02.1941 г. Разглядаючы магчымасці атрымання значных харчовых рэсурсаў з еўрапейскай тэрыторыі СССР (акрамя Урала і Каўказа), ваенна-эканамічнае кіраўніцтва трэцяга рэйха таксама планавала максімальна поўна выкарыстаць сельскагаспадарчы патэнцыял Беларусі. Асаблівы інтарэс надаваўся пры гэтым жывёлагадоўлі. Так, у дакуменце адзначалася, што па колькасці коней беларуская тэрыторыя стаіць адразу за Украінай, Цэнтральнай часткай Расіі і краінамі Балтыкі. Паводле дакумента, асаблівае месца займала Беларусь як рэгіён, дзе меліся значныя рэзервы буйной рагатай жывёлы і асабліва свіней. Так, па лічбавых паказчыках менавіта Беларусь разглядалася ў якасці аднаго з важнейшых рэгіёнаў па вырошчванні свіней: каля 20% ад агульнай колькасці ўсяго СССР, што з'яўлялася другім паказчыкам пасля Украіны [2, s. 389—390].



Коратка спынімся на некалькіх канкрэтных дакументах фонду Wi Stab Ost і паспрабуем прааналізаваць іх змест у рамках раскрыцця характару «вядзення гаспадаркі» на акупаванай тэрыторыі Беларусі. Так, значную цікавасць у беларускіх даследчыкаў можа выклікаць статыстычны матэрыял, сабраны ў выглядзе дадаткаў да архіўнай справы 84 пад назвай «Geschichte der Wi Stab Ost». Разгледзім, напрыклад, дадатак 10, адлюстраваны ў табл. 1 (нумарацыя аўтара. — *С. Н.*).

*Табліца 1*

**Шчыльнасць насельніцтва і сельскагаспадарчай рабочай сілы на кожныя 100 га с /г угоддзяў (снежань 1942 г.), %**

| Вобласць | Агульн. кол-ць нас-ва на 100 га с/г угоддзяў | С/г нас-ва на 100 га с/г угоддзяў | С/г рабоч. сіла на 100 га с/г угоддзяў | С/г рабоч. сіла на 100 га ворнай зямлі |
|---|---|---|---|---|
| ГА Беларусь | 89,3 | 74,4 | 40,9 | 78,0 |
| РК Остланд | 60,7 | 47,2 | 27,1 | 47,9 |
| Гі Поўнач | 47,4 | 42,0 | 26,1 | 62,0 |
| Гі Цэнтр | 64,1 | 51.6 | 28,4 | 49,2 |
| ГА Валынь і Падолія | 86,4 | 79,7 | 33,2 | 50,0 |
| ГА Жытомір | 96,4 | 79,3 | 30,9 | 38,1 |
| РК Украіна | 69,9 | 55,4 | 25,7 | 33,8 |
| Гі Поўдзень | 75,5 | 46,6 | 25,0 | 34,6 |
| Увогуле па зан. усх. тэрыторыі | 66,9 | 50,9 | 26,3 | 39,5 |

*Складзена па:* BA-MA, RW 31/84: Anlage 10. Bevoelkerungsdichte und landwirtschaftliche Arbeitskraefte je 100 ha landwirtschaftliche Nutzflaeche (Stand vom Dezember 1942).

Як бачна з табліцы, у дачыненні да ўсёй акупаванай на канец 1942 г. тэрыторыі СССР, якая знаходзілася ў падпарадкаванні ваеннай і цывільнай адміністрацый (рэйхскамісарыятаў Остланд і Украіна, а таксама эканамічных інспекцый Поўнач, Цэнтр, Поўдзень), прыведзены працэнтныя паказчыкі аб агульнай колькасці насельніцтва і выключна сельскага насельніцтва з улікам яго суадносін на кожныя 100 га сельскагаспадарчых угоддзяў, а таксама аб фактычным становішчы з наяўнасцю рабочых рук на кожныя 100 га угоддзяў і ворнай зямлі. З дакумента

вынікае, што тэрыторыя генеральнай акругі Беларусь адлюстравана лічбавымі паказчыкамі, якія значна адрозніваліся ад сярэдніх паказчыкаў па ўсіх астатніх рэгіёнах акупаванай тэрыторыі СССР. Напрыклад, сярэдні паказчык аб агульнай колькасці насельніцтва на кожныя 100 га сельскагаспадарчых угоддзяў вагаўся ад 60,7% у рэйхскамісарыяце Остланд да 75,5% — на тэрыторыі эканамічнай інспекцыі Поўдзень, у той час як у генеральнай акрузе Беларусь ён складаў 89,3% (аднак самым высокім быў паказчык па генеральнай акрузе Жытомір — 96,4%); падобная карціна назіралася і па сельскагаспадарчым насельніцтве з улікам яго выкарыстання на кожныя 100 га сельскагаспадарчых угоддзяў: самы нізкі паказчык 46,6% быў на тэрыторыі эканамічнай інспекцыі Поўдзень, самы высокі сярэдні паказчык — 55,4% характарызаваў становішча ў рэйхскамісарыяце Украіна, у той час у генеральнай акрузе Беларусь ён складаў 74,4% (аднак самы высокі сярэдні паказчык мела генеральная акруга Валынь-Падолія — 79,7%). Дакумент апрача ўсяго ўтрымлівае інфармацыю і аб наяўнасці працоўнай сілы на сяле — менш за ўсё яе было ў рэйхскамісарыяце Украіна, дзе на кожныя 100 га сельскагаспадарчых угоддзяў сярэдні паказчык складаў толькі 35,7% ад усяго сельскага насельніцтва, у той час як у генеральнай акрузе Беларусь — 40,9%, прычым гэта быў самы высокі паказчык у параўнанні з усёй акупаванай тэрыторыяй на ўсходзе. Першы радок займала генеральная акруга Беларусь і па паказчыках аб выкарыстанні сельскай рабочай сілы на кожныя 100 га ворнай зямлі — 78,0%, тады як самым ніжэйшым быў рэйхскамісарыят Украіна (33,8%).

Змест некалькіх наступных дадаткаў гэтай жа архіўнай справы дае магчымасць прааналізаваць дакладныя лічбы аб аб'ёмах вытворчасці сельскагаспарчай прадукцыі, пасяўных плошчах, плануемым ураджаі зерневых культур «за 1941/42, 1942/43 гаспадарчыя гады», а таксама ўбачыць ход выканання даведзеных «без наступных змяненняў» заданняў на «1941/42, 1942/43 і 1943/44 гаспадарчыя гады» па нарыхтоўцы хлеба, фуражнага зерня, мяса, тлушчаў і іх пастаўках вермахту і ў рэйх.

Правядзём аналіз статыстычных лічбаў, выяўленых у некалькіх табліцах. Так, цікавым можа быць параўнанне лічбаў у дачыненні да нарыхтоўкі асноўных відаў сельскагаспадарчай прадукцыі, у першую чаргу жыта, пшаніцы, аўса і ячменю на тэрыторыі генеральнай акругі Беларусь і эканамічнай інспекцыі Цэнтр. Так, у 1942 г. агульны аб'ём нарыхтаванага азімага жыта павінен быў скласці 241,5 тыс. т, у наступным годзе — 238,0 тыс. т. Пшаніцы, паводле дакументальных матэрыялаў, за першы год планавалі нарыхтаваць 34,1 тыс. т, за другі — 30,0 тыс. т. Адпаведна гэтаму аўсу — 130,0 і 126,0 тыс. т, ячменю — 65,1 і



65,0 тыс. т. Калі запланаваны аб'ём гэтых відаў зерненарыхтовак на тэрыторыі генеральнай акругі Беларусь у 1942 г. складаў 470,7 тыс. т, то ў 1943 г. — 459,2 тыс. т. (падлікі аўтара. — *С. Н.*) [2, s. 445—446].

Больш змястоўную інфармацыю ўтрымліваюць дадаткі 27 і 28, у якіх знайшлі адлюстраванне лічбы аб фактычным выкананні даведзеных заданняў на 1941/42, 1942/43 і 1943/44 гаспадарчыя гады па нарыхтоўках зерня, мяса, тлушчаў і іх абавязковай адпраўцы ў рэйх ці для вермахта (гл. падрабязней табл. 2 і 3).

*Табліца 2*

**Заданні па нарыхтоўцы зерня і іх выкананне за 1941/42, 1942/43 і 1943/44 гаспадарчыя гады (у тонах)**

| | Заданні па зерні (без дадатковых змяненняў) | | | Выкананыя пастаўкі па зерні (вермахту і ў рэйх) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1941/42 | 1942/43 | 1943/44 | 1941/42 | 1942/43 | 1943/44 |
| Гі Поўнач | 310 000 | 50 000 | — | 204 000 | 31 000 | 64 000 |
| РК Остланд | | 304 000 | 280 000 | | 255 000 | 224 000 |
| ГК Беларусь | 450 000 | 90 000 | 50 000 | 239 000 | 37 000 | 39 000 |
| Гі Цэнтр | | 260 000 | 220 000 | | 118 000 | 69 000 |
| РК Украіна / Гі Поўдзень | 1 300 000 | 2 150 000 | 2 500 000 | 1 562 000 | 2 293 000 | 1 570 000 |
| Увогуле | 2 060 000 | 2 854 000 | 3 050 000 | 2 005 000 | 2 734 000 | 1 966 000 |

*Складзена па:* BA-MA, RW 31/84: Anlage 27. Getreideauflagenund ihre Erfuellung in den Wirtschaftsjahren 1941/42, 1942/43 und 1943/44 (in Tonnen).

Звернемся да зместу табл. 2, у аснове якой ляжаць лічбавыя паказчыкі аб абавязковых заданнях, даведзеных да гаспадарчых інспекцый, гаспадарчых каманд, нарыхтоўчых груп і іншых ваенна-гаспадарчых службаў на тэрыторыі ваеннай адміністрацыі, а таксама кіраўнікоў галоўных аддзелаў ці начальнікаў аддзелаў генеральнага і акружных камісарыятаў на тэрыторыі рэйхскамісарыятаў Остланд і Украіна на кожны гаспадарчы год. Але пры гэтым засяродзім увагу толькі на тых даных, якія з'яўляліся фактам выканання гаспадарчых планаў. З іх вынікае, што планавыя лічбы ў большасці сваёй заставаліся толькі на паперы, хаця і дакумента. Параўнанне лічбавых паказчыкаў, асабліва таго, што было запланавана, і таго, што выканана ў час адпраўкі зерня, мяса, тлушчаў для вермахта і ў рэйх, дае магчымасць для некаторых высноў у дачыненні да тэрыторыі акупаванай Беларусі. Так, за 1942/43 гаспадарчы год самы найменшы паказчык па выкананні зерневых заданняў быў на тэрыторыі генеральнай акругі Беларусь — 41%, пры самым высокім у рэйхска-

місарыятах Остланд — 83% і Украіна — 106%, у той час як заданне 1943/44 гаспадарчага года ў генеральнай акрузе было выканана на 78% (пры самым высокім паказчыку ў 80% у рэйхскамісарыяце Остланд), а на тэрыторыі эканамічнай інспекцыі Цэнтр — 31%. Як вынікае з дакументальных матэрыялаў, за тры гаспадарчыя гады з тэрыторыі генеральнай акругі Беларусь і гаспадарчай інспекцыі Цэнтр агульная колькасць нарыхтаванага і адпраўленага вермахту і ў рэйх зерня складала толькі 46,9%, ці 502 000 т (падлікі аўтара. — *С. Н.*).

Даныя аб нарыхтоўцы мяса і тлушчаў з акупаванай тэрыторыі Беларусі ўтрымлівае табл. 3, адпаведна:

*Табліца 3*

**Заданні па нарыхтоўцы мяса і іх выкананне за 1941/42, 1942/43 і 1943/44 гаспадарчыя гады (у тонах)**

| | Заданні па мясу (без дадатковых змяненняў) | | | Выкананыя пастаўкі па мясу (вермахту і ў рэйх) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1941/42 | 1942/43 | 1943/44 | 1941/42 | 1942/43 | 1943/44* |
| Гі Поўнач | 55 000 | 3000 | 2000 | 59 895 | 1803 | 5500 |
| РК Остланд | | 50 000 | 50 000 | | 46 613 | 50 000 |
| ГК Беларусь | 120 000 | 25 000 | 12 000 | 70 524 | 3478 | 5500 |
| Гі Цэнтр | | 40 000 | 25 000 | | 9070 | 11 000 |
| РК Украіна / Гі Поўдзень | 150 000 | 188 000 | 130 000 | 136 883 | 176 596 | 68 000 |
| Увогуле | 325 000 | 306 000 | 219 000 | 267 302 | 242 560** | 140 000*** |

*Складзена па:* BA-MA, RW 31/84: Anlage 27. Fleischauflagen und ihre Erfuellung in den Wirtschaftsjahren 1941/42, 1942/43 und 1943/44 (in Tonnen).

Аналізуючы прыведзеныя лічбы, можна ўбачыць тую сітуацыю, якая складвалася ў генеральнай акрузе Беларусь, дзе ў 1942/43 годзе працэнт выканання задання па нарыхтоўцы мяса складаў лічбу 13. У гэтай сувязі падаецца малазразумелым, як аб'ёмы пастаўленага вермахту і ў рэйх мяса ў 1943/44 гаспадарчым годзе маглі дасягнуць 45% і пры гэтым пераўзышлі паказчыкі папярэдняга гаспадарчага года практычна на 2000 т? Адказам на гэта пытанне можа быць згадка, прыведзеная ў

* Падлікі частковыя.
** Уключаны пастаўкі па птушыным мясе, а таксама пастаўка 20 000 т мяса з Каўказа.
*** Уключаны пастаўкі па яйках, птушцы і рыбе з пералікам на мяса.



якасці тлумачэння да гэтай лічбы. Атрымалася, што канчатковая лічба магла стаць вынікам праведзенага пераразліку іншых сельскагаспадарчых паставак, напрыклад, яек, птушкі, рыбы. Іншая сітуацыя ў дачыненні да мясанарыхтовак была характэрнай толькі для рэйхскамісарыята Остланд, дзе выкананне заданняў па мясу дасягала 93% у 1942/43 і 100% — у 1943/44 гаспадарчым годзе. У гэты ж час на тэрыторыі эканамічнай інспекцыі Поўнач, адпаведна 60 і 275%, Цэнтр — 22 і 44%; гаспадарчай інспекцыі Поўдзень і рэйхскамісарыята Украіна (разам) — 93 і 52%. Па тлушчах: за першы гаспадарчы год самы нізкі працэнт быў у генеральнай акрузе Беларусь — 53%, за другі ён склаў 66%, у той час як самым меншым ён быў якраз на тэрыторыі эканамічнай інспекцыі Цэнтр — 20% пры самым высокім у рэйхскамісарыяце Остланд — 68% (падлікі аўтара. — *С. Н.*) [2, s. 448].

Звернем увагу на тое, што менавіта разгляд гэтых лічбавых паказчыкаў пераканаўча сведчыць аб тым, што фактычнае выкананне заданняў на «1942/43 і 1943/44 гаспадарчыя гады» па абавязковых пастаўках зерня, мяса і тлушчаў, інакш кажучы, самых неабходных прадуктаў харчавання, з'яўлялася адлюстраваннем той харчовай катастрофы, якая складвалася ў выніку злачыннага рабавання мясцовага насельніцтва на акупаванай тэрыторыі Беларусі.

Аб поўнай карціне харчовых «Паставак з занятай усходняй тэрыторыі з пачатку акупацыі (ліпень 1941 г.) да 31 снежня 1943 г.» можна ўбачыць з дадатку 28, у якім у выглядзе табліцы сабраны лічбы аб фактычнай колькасці сельскагаспарчых прадуктаў, напрыклад тлушчаў, мяса, рыбы, птушкі, яек, бульбы, цукру, садавіны, гароднiны, а таксама сена, саломы і інш., нарыхтаваных на акупаванай тэрыторыі СССР і пастаўленых вермахту і ў рэйх. Так, да канца 1943 г. было пастаўлена 6 320 000 т зерня, з якога: для германскага вермахта — 4 710 000, для рэйха — 1 610 000 т. За гэты ж час было нарыхтавана мяса 600 564 т: для вермахта — 537 208, для рэйха — 63 356 т.; яек 872 400 000 шт.: для вермахта — 760 000 000, для рэйха — 118 100 000 шт.; бульбы 2 693 000 т, у тым ліку для вермахта — 2 677 100, для рэйха — 15 900 т і інш. [2, s. 449].

Падлікі, праведзеныя на аснове двух апошніх дакументальных матэрыялаў паказваюць, што за «1941/42, 1942/43 і 1943/44 гаспадарчыя гады» на тэрыторыі генеральнай акругі Беларусь і эканамічнай інспекцыі Цэнтр заданне па нарыхтоўцы зерня складала 1070 тыс. т, з якога фактычна было пастаўлена вермахту і адпраўлена ў рэйх 502 тыс. т, ці 46% ад абавязковага задання. Пры падрабязным аналізе даных вынікае: на насельніцтва генеральнай акругі Беларусь выпада-

ла практычна трэць тых заданняў, якія па зерненарыхтоўках былі выкананы на тэрыторыі эканамічнай інспекцыі Цэнтр. Блізкія да гэтых суадносіны захоўваліся і ў дачыненні да заданняў па нарыхтоўцы мяса, якога за тры «гаспадарчыя гады» з тэрыторыі генеральнай акругі Беларусь і эканамічнай інспекцыі Цэнтр нарыхтавалі 99 572 т. Пры гэтым пры параўнанні аб’ёмаў планавых заданняў атрымоўваецца, што практычна палова нарыхтовак па мясу ў 1942/43 і 1943/44 гаспадарчыя гады была выканана з тэрыторыі генеральнай акругі Беларусь. З выніковых лічбаў бачна: агульныя зерне- і мясанарыхтоўкі на тэрыторыі Беларусі і тылавой групы армій Цэнтр хаця і складалі адпаведна толькі восьмую частку (падлікі аўтара. — *С. Н.*) ад агульных аб’ёмаў зерня і трэць мяса [2, s. 449], нарыхтаваных да 31.12.1943 г. з усёй акупаванай усходняй тэрыторыі, аднак гэта было выпрабаваннем на выжыванне для мірнага беларускага насельніцтва.

Разглядаючы іншыя матэрыялы, якія ўтрымліваць падрабязныя даныя аб выніках дзейнасці гаспадарчых службаў ваеннай і цывільнай адміністрацый на тэрыторыі Беларусі, неабходна заўважыць, што даныя аб выкананні за «1941/42 і 1942/43 гг. гадавых гаспадарчых заданняў» маюць канкрэтную геаграфію і датычацца ў асноўным генеральнай акругі Беларусь і тэрыторыі эканамічнай інспекцыі Цэнтр, г. зн. тэрыторыі Беларусі, якая знаходзілася ў тылавой зоне групы армій Цэнтр. Між тым неабходна памятаць, што астатняя тэрыторыя Беларусі, якая, як вядома, уваходзіла ў склад 10 паўночных акруг рэйхскамісарыята Украіна, а таксама ў склад акругі Беласток і генеральнай акругі Літва, у разглядаемай дакументальный крыніцы не выдзелена асобным радком, што абцяжарвае даследчыцкі пошук у дачыненні да выяўлення абсалютных лічбаў па ваенна-гаспадарчым рабаванні акупаванай тэрыторыі Беларусі.

Завяршаючы ў рамках дадзенага артыкула агляд дакументальных матэрыялаў фонду «Wi Stab Ost», аўтар звяртае ўвагу айчынных даследчыкаў: па-першае, на каштоўнасць для распрацоўкі раённай гісторыі Беларусі комплексу дакументальных матэрыялаў фонду гаспадарчага штаба Ost; па-дургое, на неабходнасць іх усебаковай археаграфічнай распрацоўкі; па-трэцяе, на патрэбу ва ўвядзенні ва ўжытак усяго комплексу дакументальных матэрыялаў па праблемах ваенна-эканамічнай гісторыі германскай акупацыі Беларусі 1941—1944 гг.

Л і т а р а т у р а


1. Федэральны ваенны архіў Германіі (далей: BA-MA). Bestand RW 31 /1—986.
2. Die deutsche Wirtschaftspolitik in den besetzten sowjetischen Gebieten 1941—1943. Boppard a. R., 1991.





3. Mueller R.-D., Ueberschaer G. R. Hitlers Krieg im Osten. Ein Forschungsbericht. Darmstadt, 2000.
4. Gerlach Ch. Kalkulierte Morde: die deutsche Wirtschafts- und Vernichtungspolitik in Weissrussland 1941 bis 1944. Hamburg, 2000.
5. BA-MA. RW 31/144. Wirtschatliche Richtlinien fuer die Wirtschats- organisation Ost vom 23.5.41., erarbeitet von der Gruppe Landwirtschaft.
6. Ibid. RW 31/80: OKW / Wi Z I /II. Geschichte der Wi Stab Ost. Aus Akte «Oldenburg».
7. Ibid.: Arbeitsstab zb. V. v. 8.05.1941. OKW/WFSt, Stab Ia 42/41 gK.
8. Ibid. RW 31/770—864: KTB Wi Kdos 203, 206—209, 211—214.
9. Ibid. RW 31/358—393, 554—580: KTB Wi In Mitte, 9.06.41—31.10.43, 1.11.43—27.10.44.
10. Архіў Інстытута сучаснай гісторыі (Мюнхен) — A IfZ. ED 2 /I, II: Kriegswirtschaft im Operationsgebiet des Ostens in den Jahren 1941—1943: Bd. I, bl. I—XII, 1—195.

# АРХІВАЗНАЎСТВА

***Г. М. Брэгер, Л. А. Лінская***

## ФРАГМЕНТ АРХІВА СЛУЦКАГА ТРАЙЧАНСКАГА СВЯТА-ТРАЕЦКАГА МАНАСТЫРА Ў ФОНДАХ НМГІКБ

Час узнікнення Слуцкага Свята-Траецкага манастыра невядомы. Упершыню ён згадваецца ў 1455 г.[1] У пазнейшых дакументах фундатарамі і калятарамі манастыра называюцца князі Алелькавічы (Слуцкія), якія валодалі Слуцкім княствам з канца XIV ст. Несумненна, заснавальнікам і фундатарам манастыра быў пратапласта роду князь Аляксандр (Алелька) Уладзіміравіч Альгердавіч, які атрымаў Слуцк у спадчыну ў 1395 г. (памёр у 1454 г.[2]). На манастырскіх землях ужо ў XVI ст. існавала мястэчка, якое атрымала назву ад тытула манастыра — Траецкае. З сярэдзіны XVII ст. назва манастырскага мястэчка трансфармавалася ў Трайчаны, якое пазней ужо лічылася як прадмесце Слуцка. Траецкі манастыр меў вялікае значэнне ў праваслаўным свеце, з'яўляўся цэнтрам архімандрыі Кіеўскай мітраполіі, цэнтрам судова-адміністрацыйнага кіравання парафіямі Слуцкай пратапопіі.

Гісторыя і склад архіва Слуцкага Трайчанскага манастыра каротка апісана гісторыкам Андрэем Сніткам у 1913 г. у выданні «Минская старина»[3]. Там жа прадстаўлены загалоўкі і тэксты некаторых дакументаў. Архіў быў перададзены ў 1870 г. у Мінскі Свята-Духаў манастыр разам з пераводам туды і манахаў Слуцкага манастыра. Пазней архіў паступіў у распараджэнне Мінскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта. Аднак найбольш старажытныя дакументы архіва XVI—XVIII стст., пераплеценыя ў XIX ст. у дзве кнігі вялікага фармату (якія складаюць дзве часткі 1-га тома), трапілі ў Камітэт у якасці дэпазіту ад нейкай прыватнай асобы. Пасля рэвалюцыі 1917 г. на базе Камітэта быў створаны Мінскі абласны музей, пераўтвораны пазней у Беларускі дзяржаўны музей (БДМ), дзе архіў і захоўваўся. У БДМ апісваемы 1-ы том архіва (у 2 частках) атрымаў № 107 і 108 (нумарацыя на вокладках чырвоным алоўкам). Таксама на вокладцы першай часткі маецца наклейка міжваеннага часу з валавым № 5510 /1—538 (тады ўжо не хапала двух дакументаў). Верхняя вокладка другой часткі не захавалася. Яшчэ на абедзвюх частках маецца адзіны № 201, пазначаны чорным колерам. На адваротных баках вокладак абедзвюх частак маюцца запісы аб праверцы наяўнасці аркушаў у кнігах: другая частка праверана 17 чэрвеня 1941 г. (908 аркушаў), а першая частка праверана ўжо на пачатку нямецкай акупацыі Мінска 14 ліпеня 1941 г. Апісваемыя кнігі дакументаў архіва Слуцкага манастыра былі вывезены немцамі з Мінска разам з іншымі экспанатамі музея. Пасля вайны дакументы былі вернуты ў Беларусь і часова



размешчаны ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, дзе атрымалі № 15537 (1-я частка) і № 15536 (2-я частка).

У 1964 г. дакументы Трайчанскага архіва зноў былі вернуты ў Мінск ва ўзноўлены Дзяржаўны музей БССР. Аднак апісваемыя тамы памылкова размясцілі сярод кніжных фондаў і яны не мелі сталай сігнатуры. Таму да апошняга часу архіў быў забыты і не выкарыстоўваўся даследчыкамі.

У першай частцы 1-га тома Трайчанскага архіва змешчана 540 дакументаў (арыгіналы і копіі) за 1517—1747 гг. (у другой частцы дакументы за 1747—1796 гг.). Дакументы пранумараваны алоўкам у XIX ст., а ў 1920—1930-я гг. у БДМ аркушы пранумаравалі сінім атрамантам. Паводле нумарацыі XIX ст. цяпер у 1-й частцы не хапае некалькіх дакументаў (некаторых з іх ужо не было ў міжваенны час). Акрамя дакументаў уласна Слуцкага Свята-Траецкага манастыра і Капітулы Слуцкай архімандрыі ў гэтых тамах маюцца дакументы Праабражэнскай і Успенскай цэркваў і брацтваў пры іх, Слуцкага Ільінскага і Грозаўскага Яна-Багаслоўскага манастыроў, дакументы Алелькавічаў, Радзівілаў, слуцкіх і трайчанскіх мяшчан і інш.

Дадзеная публікацыя выклікана цікавасцю даследчыкаў да гісторыі Слуцка і яго храмаў. Да таго ж выданне «Минской старины» з'яўляецца бібліяграфічнай рэдкасцю. А самае галоўнае, што А. Снітка рабіў апісанне дакументаў на недастаткова высокім археаграфічным узроўні: шмат недакладнасцей у загалоўках і вызначэнні тыпаў дакументаў, памылак у геаграфічных назвах, прозвішчах, датах, падача толькі прозвішч асоб без імён і вызначэння тытулаў. У дадзенай працы апісаны 86 дакументаў (дакументы № 1—88 па старой нумарацыі) за 1517—1649 гг. (аднак сярод іх ёсць копіі дакументаў № 16, 17 за 1488 г.). Дакументы № 6 і 12 адсутнічаюць (магчыма, цяпер пад іншымі нумарамі музея). Прынцыпы археаграфічнага апісання вытрыманы ў рамках папярэдніх публікацый.

1. а) Ліст-обліг святара Слуцкай Спаскай царквы Афтанасія Герасімовіча дамовы з навагародскім кашталянам князем Аляксандрам Палубенскім наконт арэнды падданымі апошняга сяла Заракітляны Скавышынскай вол. царкоўнага вострава Качава за 3 капы гр. у год. Вагееўшчына, 4.12.1517.

Копіі подпісаў: Аляксандр Палубенскі; Афтанасій Герасімовіч.

б) Надпіс А. Палубенскага з пералікам сваіх падданых, якія арандуюць востраў. Без месца і даты.

Копія подпісу: Аляксандр Палубенскі.

в) Надпіс на затылку аб тым, што падданыя с. Заракітнае Скавышынскай вол. дапусцілі да сумеснай арэнды вострава падданых Пісарэўскіх і Ражанцаў. Без месца, 4.06.1601.

Копія XVIII ст. Стб. м. пол. літ. Ст. сігн.: № 13. 2 арк. (арк. 1—2адв.).

2. Выпіс з кніг Кіеўскага гродскага суда ад 19.03.1621, атрыманы ігуменам Кіеўскага Выдубіцкага манастыра Св. Архангела Міхаіла Іаасафам Дзіноўскім. Пацвярджальны прывілей Жыгімонта І ігумену Кіеўскага Выдубіцкага манастыра Св. Архангела Міхаіла Яфрэму на маёнтак Асакорскі і астравы за р. Дняпро, падараваныя раней манастыру вялікімі князямі рускімі. Варшава, 26.04.1538.

Копія подпісу: Павел Рэхоўскі, пісар гродскі кіеўскі.

Копія XVIII ст. Стб. і стукр. м. (кірыліца), 1 арк. (арк. 3—3адв.).

3. Выпіс з кніг Кіеўскага гродскага суда ад 25.04.1614. Ліст угоды паміж архімандрытам Кіеўскага Пячэрскага манастыра Елісеем Плецянецкім і намеснікам Кіеўскай мітраполіі, ігуменам Выдубіцкага манастыра Антоніем Грэковічам наконт земляў Выдубіцкага манастыра ў Звярынцу і Наводзічах і здзейсненых шкодаў.

Без месца, 1.05.1613.

Копія подпісу: Павел Рэхоўскі, пісар гродскі кіеўскі.

Копія XVIII ст. Стукр. м. (кірыліца), 3 арк. (арк. 4—[5а]).

*Заўвага*: дак. № 2, 3 пісаны разам на арк. 3—6; арк. [5а] — не пранумараваны, арк. 6 — чысты. Ст. сігн.: «Паперы Выдубіцкія».

4. а) Пацвярджальны прывілей Жыгімонта Аўгуста Марціну Валадковічу камісарскага ліста ад 18.09.1554 на абмежаванне земляў в. Міхалевічы, Дубейкі і Канюхі, яго маёнтка Грэск ад земляў маёнтка Сыравацічы князёў Юрыя і Сямёна Юр'евічаў Слуцкіх. Вільня, 15.04.1558.

Копіі подпісаў: Жыгімонт Аўгуст, кароль польскі, вялікі князь літоўскі; Яўстафі [Валовіч], маршалак, пісар.

*Заўвага*: у старым загалоўку памылкова напісана: «Агранічэнне Грозава Вялікага».

б) Надпіс на затылку аб абмежаванні земляў засценка Зубовічы ў маёнтку Старчыцы Слуцкага княства ад в. Аксаміты Грозаўскага манастыра. Без месца, 12.07.1673. Копія (выпіс) выдадзена ў 1684 г.

Копіі подпісаў: Ерафей (Яраш) Сыцко, рэвізор; Абрагам Бекер дэ Адлер Шверт, яго каралеўскай вялікасці оберштэр-лейтэнант, уладальнік старыцкі.

Подпісы (XIX ст.): З подлінным па веданню кепскаму польскай мовы здаецца верным, Грозаўскі архімандрыт (неразборліва); перакладаў дваранін Серна-Салаўёвіч.

Копія XIX ст. Пер. на рус. м. (пераклад рабіўся з дак. № 5), 4 арк. (арк. 7—10адв.).

5. Той жа тэкст, што ў дак. № 4.



Копія XVIII ст. Стб. м. пол. літ. (прывілей), пол. м. (затылак). Ст. сігн.: № 9; 75 (Грозаўскі манастыр). 4 арк. (арк. 11—14адв.).

6. Адсутнічае.

7. а) Выпіс з кніг Галоўнага Трыбунала ВКЛ у Вільні ад 15.05.1717. Выпіс з кніг Меншай Канцылярыі ВКЛ караля Яна Казіміра ад 24.07.1668 прывілея караля Жыгімонта Аўгуста, пацвярджаючага Гарадзельскі прывілей [1413 г.] на свабоды і вольнасці шляхце ВКЛ рымскага (каталіцкага) веравызнання, а таксама на тыя ж правы шляхце ВКЛ грэцкага (праваслаўнага) веравызнання. Вільня, 6.06.1563.

Копіі подпісаў: Юры Сапега, маршалак Гал. Трыб. ВКЛ; Ваўжынец Вінцэнты Максевіч, канюшы і дэпутат з в-ва Віленскага; Міхал Паўлоўскі, земскі віленскі пісар; Юзаф дэ Кампо Сцыпіён, старосціч і дэпутат пав. Лідскага; Самуэль Лазовы, войскі і дэпутат пав. Гродзенскага; Уладыслаў Тадэуш Ваньковіч, староста рушэўскі, дэпутат в-ва Мінскага; Аляксандр Генрык Руцкі, О. П. Р. (абозны?) і дэпутат пав. Рэчыцкага; Ян Міхал з Бужына Бужынскі, войскі і дэпутат в-ва Смаленскага; карыгаваў Зелянацкі.

б) Нататка аб прывілеі караля Жыгімонта Аўгуста, які пацвярджае папярэдні прывілей (дак. № 7а) для шляхты ВКЛ усіх хрысціянскіх канфесій на правы і пасады ў ВКЛ. Гродна, 1.07.1568.

Копія XVIII ст. Пол. м. Ст. сігн. № 8. 4 арк. (арк.15—18адв.).

8. Ліст князя Юрыя Юр'евіча Слуцкага да свайго езаўнічага аб дазволе карыстацца езамі і бабровымі гонямі на рацэ Арэсе і на Жыдвозеры людзям Слуцкага манастыра Св. Тройцы. Слуцк, 5.12.1466 (дата памылковая, хутчэй — 1566 г.).

Копія XVIII ст. Пол. м. Ст. сігн.: № 30, 52. 1 арк. (арк. 21).

9. Выпіс з кніг Навагрудскага земскага суда ад 12.01.1579. Тэстамент нябожчыка князя Юрыя Юр'евіча Алелькавіча Слуцкага, у якім загадвае пахаваць сваё цела ў Кіеўскім Пячэрскім манастыры, а ўсе маёнткі даручае ў апеку жонцы Кацярыне Станіславаўне, графіні з Тэнчына, кракаўскай ваеваддзянцы; пасля вяртання з навучання сыны маюць падзяліць маёнткі такім чынам: Юрыю замак Слуцкі з местам Старым Слуцкім і з дваром Івань; Сымону места Новае Слуцкае з Зарэччам і з маёнткам Новы Двор над ракой Случ; Аляксандру места Слуцкае Новы Востроў з дваром Новаастроўскім; грашовыя сумы на замку ЯКМ Бабруйскім Юрыю, а на застаўных маёнтках Глуск, Дарогі і Макраны Ноўгародскага пав. Сымону і Аляксандру; жонцы запісвае ў 60 000 пол. злотых пажыццёва замак і места Ванева Бельскага пав. на Падляшшы, маёнткі Турэц Ноўгародскага пав., Старое Сяло і Тонвы з фальваркам Скірмантавым Мінскага пав., якія пасля яе смерці сыны маюць выку-

ціць; таксама яна мае распарадзіцца як захоча маёнткамі Азярніца і Блізнікі Слонімскага пав. і Промезь Ковенскага пав. Новы Двор, 16.10.1578.

Копія XVIII ст. Пол. м. Ст. сігн.: № 96, 30. 8 арк. (арк. 22—29; арк. 22 — тытульны; арк. 28 — чысты; арк. 29 — затылак).

10. Ліст князя Юрыя Юр'евіча Алелькавіча Слуцкага да сваіх іванскіх намесніка Мікалая Прасмыцкага і ключніка Агея Казарына і да свайго слуцкага войта Купрыяна Тышэвіча з загадам выплочваць штогод жыта, мёд і грошы з маёнтка Івань багамольцам саборнай царквы Прачыстай Багародзіцы ў Слуцкім замку — папу Міне Васілевічу, дзякам Фёдару і Якаву і ўстаўніку Ваську Караневічу. Слуцк, 15.11.1577.

Копія XVIII ст. Стб. м. пол. літ. Ст. сігн.: «Соборной церкви». 1 арк. (арк. 30).

11. а) Выпіс з кніг Слонімскага гродскага суда ад 7.08.1582 ліста князёў Юрыя, Яна-Сімяона і Аляксандра Юр'евічаў Алелькавічаў Слуцкіх падзелу бацькоўскіх маёнткаў. Юрыю дасталіся замак Слуцкі Верхні і Ніжні з местам Слуцкім Старым, двары Івань, Пагост, Мецявічы, Вызна, Заўшычы, Прусы, Цялевічы, Белічы, Красны, воласць Бярэзніцкая з Морацкім манастыром Ноўгародскага пав., маёнтак Вяйсеі Гарадзенскага пав. Яну-Сімяону — места Слуцкае Новае з дваром Новы Двор, двор Амговічы, воласці Скавышынская і Валатынская, замак Копысь з местам і воласцю, двары Цімкавічы, Савічы, Скяп'ёва, Вусава, Таліховічы, места Сямёнава (Семежава?), палова маёнткаў Глуск і Дарогі Ноўгародскага пав., маёнтак Лічкава Гарадзенскага пав.; Аляксандру — места Слуцкае Новы Востраў з дваром Астроўскім і сёламі Шастакі і Брановічы (Бранчыцы?), двары Баслаўскі з фальваркам Грозава, Старыца, Быстрыца, Бялевічы, Карупатвінскі з мястэчкам Себежаўскім (Семежава?), Душава, Вялешына, Ярэмічы з мястэчкам Любанскім, Языль, палова маёнткаў Глуск і Дарогі Ноўгародскага пав., замак Петрыкавічы з местам і воласцю, двор Кольна з местам Ленін, воласці Добрадзярэўская і Юдзенаўская Мазырскага пав., маёнтак Ваўкалата Ашмянскага пав., маёнтак Сямёнавічы Мінскага пав. Слуцк, 6.07.1582.

Копія подпісу: Міхал Валовіч, староста слонімскі.

Копія XVIII ст. Стб. м. пол. літ.

б) Сумарыуш інвентару места і княства Слуцкага і Капыльскага 1566 г. Спіс сёл і колькасць служб падданых, якія належаць Слуцкім [каталіцкай] плябаніі, Уваскрасенскай царкве, манастырам Св. Тройцы і Св. Эльяша (Іллі), Морацкаму манастыру.

Копія XVIII ст., пол. м.

Ст. сігн.: № 19, 91, 85, 55. 6 арк. (арк. 31—36адв.; арк. 31 — тытульны; арк. 36 — затылак).



12. Адсутнічае.

13. Пацвярджальны прывілей караля Стэфана Баторыя ад 25.02.1585 па просьбе Кіеўскага мітрапаліта Анісіфора Дзявочкі прывілея караля Жыгімонта I па просьбе кіеўскага мітрапаліта Іосіфа, гетмана ВКЛ князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага і іншых паноў, які пацвярджае прывілеі вялікіх князёў Вітаўта, Казіміра і Аляксандра, дадзеныя на вольнасць і правы грэчаскай (праваслаўнай) царкве ВКЛ.

Берасце, 2.07.7019 (1511).

Копіі подпісаў: Стэфан, кароль; Леў Сапега, падканцлер Вялікага Княства Літоўскага.

Копія XVIII ст. кірыліцай. Стб. м. 2 арк. (арк. 37—38адв.).

14. Выпіс з кніг Ноўгародскага земскага суда ад 14.06.1588. Выпіс з кніг Ноўгародскага гродскага каптуровага суда ад 4.04.1587 ліста ноўгародскіх гаспадарскіх зямян Аршулі Багданаўны і яе сыноў Марціна, Мікалая, Станіслава і Крыштафа Сабестыянавічаў Сянковічаў-Сцяпкоўскіх продажу Аляксандру Фёдаравічу Грыдзе-Быкоўскаму і яго жонцы Ганне Міхалаўне Маклокаўне зямлі Каспароўскай у сяле Пятрылава ад іх маёнтка Сцепкаў Ноўгародскага пав. за 50 коп грошаў. Пятрылава, 2.12.1585.

Копія подпісу: Ян Галаўня, земскі ноўгародскі пісар.

Копія XVIII ст. Стб. м. пол. літ. Ст. сігн.: № 1, 23, 48, 46 (Грозаўскі манастыр). 3 арк. (арк. 40—42адв.; арк. 39 (тытульны ліст дак.) адрэзаны).

15. Пацвярджальны прывілей караля Жыгімонта III на перадачу ў карыстанне на 5 год спраўцы лясных тавараў у пушчах каралевы у ВКЛ Яну Гілебранту вёсак Вайшвілы, Стаўлокі, Скерпеева, Брэдзейкі, Боркі (дзве) у Пуньскім лясніцтве каралевы ад пісара ЯКМ ВКЛ, крынскага ляснічага Яраша Валовіча і яго жонкі Барбары Гербуртаўны з Фулштына, якія атрымалі ад сваёй цешчы і маці саноцкай кашталянавай Кацярыны з Драгаёва Гербуртавай. Варшава, 2.05.1596.

Вялікая пячатка ВКЛ. Подпісы: Жыгімонт, кароль; Война, пісар.

Арыгінал. Стб. м., 1 арк. (арк. 43, 125. Дакумент разарваны напалам; кожная частка мае асобную пагінацыю).

16. Выпіс з кніг Ноўгародскага гродскага суда ад 30.07.1599. Дароўны ліст княгіні Ганны Міхайлавай Аляксандравічавай [Слуцкай] і яе сына князя Сямёна Міхайлавіча [Слуцкага] [Слуцкаму] манастыру Св. Тройцы на стаў з млынам на рацэ Лакнея. Слуцк, 14.09.1697 (!, трэба 6997) (1488), індыкт 7. (Выпіс выданы ў 1-й пал. XVII ст.).

Копія XVIII ст. Стб. м. пол. літ., 2 арк. (арк. 44—45; арк. 45 — чысты, захаваўся напалову).

17. Той жа тэкст, што ў дак. № 16. Тут дата — 14.09.6597 (1088!).

Арыгінал выпіса выдадзены ў 1-й пал. XVII ст. (дата не пазначана).
Пячатка на кустодыі ноўгародскага падваяводы Паўла Уніхоўскага.
Стб. м. Ст. сігн.: № 8; 90; 84; 77; 59. 3 арк. (арк. 46—48адв.).

18. а) Ліст слуцкага спаскага святара, іерэя Самойлы да ананчыцкіх «мужоў» (сялянскіх старшын) Морацкага ігумена Анісіма і Нікана Аліферавічаў: інш. аб дазволе карыстацца бортным дрэвам у востраве Качова. Слуцк, 17.07.1569.

Копія подпісу: святара Спаскага Слуцкага рука іерэя Самойлы.

б) Квіт слуцкага спаскага святара Афтанасія Герасімовіча Ігнату Хомічу аб атрыманні ад яго грошаў за арэнду падданымі даманаўцамі Скавышынскай вол. царкоўнага вострава Качэва за 1602 г. Слуцк, 1602 г. (без месяца і дня).

в) Квіт слуцкага спаскага папа Лазара Кірыловіча Ігнату Хомічу аб атрыманні ад яго грошаў за арэнду ім жа (гл. № 18б) таго ж вострава за 1605 г. (Папярэднік Лазара — святар Апанас Гарасімовіч.) Даманавічы, 10.10.1605.

Копія подпісу: Лазар Кірыловіч, поп спаскі слуцкі.

Копія XVIII ст. Стб. м. пол. літ. Ст. сігн.: № 5. 1 арк. (арк. 49—49адв.).

19. Угодлівы ліст Ганны Хадкевічаўны, жонкі валынскага ваяводзіча князя Яхіма Карэцкага, аб размежаванні спрэчных земляў паміж яе маёнткам і мястэчкам Леснікі і маёнткам Хатава Елісея Плецянецкага, архімандрыта, і ўсіх братоў Кіеўскага Пячэрскага манастыра. Кіеў, 20.05.1610.

Копіі подпісаў: Ганна Хадкевічаўна, кн. Карэцкая; Гаўрыла Гонскі, харужы кіеўскі; Філон Стрыбіл, чашнік зямлі Кіеўскай.

Копія XVIII ст. кірыліцай. Стукр. м., 3 арк. (арк. 50—52; арк. 50 — чысты, абрэзаны ўздоўж напалову).

20. а) Ліст (прэзентацыя) падчашага ВКЛ, барысаўскага і інш. старосты Януша Радзівіла і яго жонкі княжны Зофіі Юр'еўны Алелькавічаўны Слуцкай святару Дзімітру Захарэвічу на службу ў грэчаскай (праваслаўнай) царкве ў сяле Манастырцы над возерам Жыд Скавышынскай вол. Слуцкага маёнтка, фундаванай іх папярэднікамі князямі Слуцкімі, пры передачы яе ад паповіча Цімафея Семяновіча. Старчыцы, 3.12.1611.

Копіі подпісаў: рукой сваёй; гэты ліст у сіле як апякун пакідаю, Радзівіл (пазнейшы подпіс?).

Копія сярэдзіны XVII ст. Пол. м.

б) Надпіс унізе аб прадстаўленні жыцкім святаром айцом Дмітрыем гэтага ліста для актыкацыі ў кнігах [Слуцкага замкавага суда]. Без месца, 5.11.1641.



Копіі (?) подпісаў: Якуб Бароўскі [наместнік замка Слуцкага]; Мікалай Крукоўскі, пісар [замка Слуцкага].

Копія (?) сярэдзіны XVII ст. Стб. м.

в) Надпіс на адвароце: «Арыгінал пры сабе затрымаўшы, да гэтага транскрыпту падпісваюся: Станіслаў Незабытоўскі, падчашы калішскі». Арыгінал, без даты.

Ст. сігн.: № 1. 1 арк. (арк. 53—53адв.).

21. Ліст-абвестка слуцкага старосты, мінскага стольніка Юрыя Капашчэўскага да падданых сяла Даманаўскага Скавышынскай вол., каб не перашкаджалі яго пасланцу і святару Слуцкай Спаскай царквы айцу Бартламею Зажкоўскаму збіраць пажыткі з вострава Качэва, прысуджаныя царкве дэкрэтам [Станіслава Раскоўскага], слугі пана маршалка [ЯКМ Грыгорыя Трызны]. Слуцк, 6.10.1612.

Кустадыйная пячатка не захавалася.

Подпіс: Павел Война Пузіноўскі, пісар.

Арыгінал. Стб. м. Ст. сігн.: № 3, 5, 9, 7. 1 арк. (арк. 54—54адв.).

22. Выпіс з кніг урада Слуцкага замка. Дэкрэт менскага стольніка, слуцкага намесніка Ю. Капашчэўскага, які пацвярджае дэкрэт С. Раскоўскага, слугі маршалка ЯКМ Г. Трызны, трымаючага вол. Скавышынскую, які прысудзіў востраў Качэва Слуцкай Спаскай царкве ў справе віленскага пратапопа, слуцкага спаскага прэзбітэра айца Бартламея Жашкоўскага з падданымі сяла Даманаўцы. Слуцк, 1.10.1612.

Пячатка на кустодыі і подпіс (па-польску) Ю. Капашчэўскага.

Арыгінал. Стб. м. Ст. сігн.: № 5, 4, 11. 2 арк. (арк. 55—56адв.).

23. Судовы ліст (дэкрэт) Захар'яша Пашкевіча, пасланца менскага стольніка, слуцкага старосты Ю. Капашчэўскага, і С. Раскоўскага, слугі слонімскага маршалка Г. Трызны, у справе слуцкага спаскага святара айца Варфаламея Жашкоўскага з падданымі сяла Даманавічы аб праве ўласнасці на востраў Качэва. Даманавічы, 22.08.1612.

Дзве пячаткі на кустодыі і подпісы: Станіслаў Раскоўскі (пол. м.); Захар'яш Пашкевіч (стб. м.).

Арыгінал. Стб. м. Ст. сігн.: № 3; 1; 2. 2 арк. (арк. 57—58адв.; аркушы цяпер паасобку).

24. Прыватны ліст (пісьмо) слонімскага маршалка Г. Трызны да менскага стольніка, слуцкага намесніка Ю. Капашчэўскага з паведамленнем наконт аплаты даманаўскімі падданымі арэнды вострава Качэўскага слуцкаму спаскаму папу, аб абрабаванні свайго падданага з с. Кузмічы зямянінам Слуцкага княства Фёдарам Загароўскім на таргу ў Слуцку і інш. Быцень, 11.05.1614.

Подпіс: Грыгоры Трызна. Пячатка на кустодыі амаль не захавалася.
Арыгінал. Пол. м. Ст. сігн.: № 13. 1 арк. (арк. 59).

25. Ліст [Станіслава Раскоўскага] аб прызначэнні пэўнага тэрміну для справы дазорцаў Слуцкай царквы Св. Спаса з падданымі даманаўцамі Скавышынскай вол. наконт вострава Качэва. Слуцк, 15.12.1616.
Подпіс: уласнай рукой. След пячаткі С. Раскоўскага на паперы.
Арыгінал. Пол. м. 1 арк. (арк. 60).

26. Обліг Карнея Патапавіча, Давіда Сямёнавіча, Дмітра Цяцерынца і Данілы Хамічэвіча, даманаўцаў, падданых слонімскага маршалка Грыгорыя Трызны, дадзены святару Слуцкай царквы Св. Спаса айцу Варфаламею Жашкоўскаму аб арэндзе вострава Качэва за 10 коп грошаў штогод. Манастыр Жыдскі, 25.10.1612.
Пячатка на кустодыі, подпіс і нататка (па-польску) Станіслава Раскоўскага, ураднікa Г. Трызны.
Арыгінал. Стб. м. Ст. сігн.: № 6; 8; 10; 9. 1 арк. (арк. 61).

27. Выпіс з кніг Гадзяцкага замка і магістрата. Апавяданне слуцкага купца Феафана Банцэвіча аб утапленні ў рацэ падчас кірмашу ў месце Гадзяч яго чаляднікa Івана Шчэрбы і пахаванні яго цела пры царкве Св. Архістраціга Міхаіла ў Гадзячы. Замак Гадзяцкі, 3.07.1696.
Пячатка кустадыйная гарадавога магістрата места Гадзяч.
Подпіс: Карп Іванавіч, пісар магістрата Гадзяцкага.
Арыгінал. Стукр. м. 2 арк. (арк. 62—63адв.; арк. 63 — чысты, толькі з анатацыяй на затылку).

28. Выпіс з кніг Слуцкага манастыра Св. Тройцы. Сазнанне [слуцкага] манастырскага мешчаніна Фёдара Сцяпанавіча Саваневіча аб продажы слуцкаму мешчаніну Астапу Грыгор'евічу Цішэвічу паўвалокі зямлі ва ўрочышчы за Астрэкамі. Слуцк, 12.05.1616.
Пячатка на кустодыі не прыціснута.
Арыгінал (дублет?). Стб. м. Ст. сігн.: № 48. 1 арк. (арк. 64).

29. Дэкрэт духоўнага суда слуцкага траецкага архімандрыта Міхайлы Загароўскага ў справе слуцкіх мяшчан з Новага Места Вострава Аўдоцці Іванаўны Рэбусчынай з мужам Максімам Луцкевічам Козічам аб п'янстве, растраце яе маёмасці, збіцці яе і яе дзяцей ад першага шлюбу і іншых шкодах з прысуджэннем Максіму не з'яўляцца ў хаце Аўдоцці тэрмінам на адзін год. Слуцкі манастыр Св. Тройцы, 7.08.1619.
Пячатка на кустодыі і подпіс: Міхаіл Загароўскі, архімандрыт слуцкі.
Арыгінал. Стб. м. 2 арк. (арк. 65—66).



30. Ліст калішскага падчашага Станіслава Незабытоўскага з прапановай новаму святару Жыцкай царквы ў Скавышынскай вол. Грыгорыю Мінкевічу дазволіць Матэушу Дзмітравічу Жыцкаму, брату і іншым сваякам былога жыцкага святара нябожчыка Стэфана Дзмітравіча, сабраць ураджай гэтага года, заплаціць ім па рахунках і інш. Слуцк, 3.05.1689.
Подпіс: Станіслаў Незабытоўскі, падчашы каліскі.
Арыгінал. Пол. м. Ст. сігн.: № 13. 1 арк. (арк. 67).

31. Дэкрэт рэвізораў, пасланых ад плоцкага стольніка Казіміра Клакоцкага і калішскага падчашага Станіслава Незабытоўскага, аканомаў маёнткаў княжны Людовікі Караліны Радзівілаўны, канюшанкі ВКЛ, у справе падданых в. Даманавічы Скавышынскай вол. і Слуцкага брацтва пры царкве Праабражэння Гасподня (Спаскай) аб праве ўласнасці і карыстання вострaвам Качэва. Слуцк, 27.01.1679.
Дзве пячаткі на чырвоным сургучы і подпісы: Самуэль Уладыслаў Вішнеўскі, рэвізор; Ваўжынец Нікшыц Горват.
Арыгінал. Пол. м. Ст. сігн.: № 95; 13. 2 арк. (арк. 68—69).

32. Ліст Грыгорыя Куніцкага, слугі і рэвізора польнага гетмана ВКЛ кн. [Крыштафа Радзівіла] падачы на ўтрыманне Васілю Скваровічу вострава Звярынец на ставе Кляпчанскім і валокі зямлі ў с. Новадворскім з двума моргамі зямлі Пастухоўскай у суме 300 злотых паводле застаўнога ліста ад Станіслава Крышкоўскага, дазорцы маёнткаў Слуцкага княства. Слуцк, 15.04.1622.
Копія подпісу: Грыгорый Куніцкі.
Копія кан. XVII — пач. XVIII ст. Пол. м., 1 арк. (арк. 70; ліст з затылкам адарваны і адсутнічае). (Гл. арыгінал № 34.).

33. Ліст рэвізора Яна Крыніцкага пра абмежаванне зямлі ў Звярынцу над р. Случ і падачы яе ў карыстанне Пятру Гутоўскаму паводле загаду калішскага падчашага Станіслава Незабытоўскага, аканома маёнткаў княжны [Л. К. Радзівілаўны], які атрымаў указанне 11.10.1698 ад свайго пана князя Нейбурскага. Слуцк, 23.04.1699.
Копіі подпісаў: Да волі князя яго міласці дабрадзея падпісваюся Станіслаў Незабытоўскі, п[адчашы] к[алішскі]; Ян Крыніцкі, рэвізор.
Копія XVIII ст. Пол. м. Ст. сігн.: № 6. 1 арк. (арк. 71).

34. Той жа тэкст, што ў дак. № 32.
Кустадыйная пячатка і подпіс Грыгорыя Куніцкага.
Арыгінал. Пол. м. Ст. сігн.: № 10; 42. 2 арк. (арк. 72—73; арк. 73 — чысты, з затылкам).

35. а) Той жа тэкст, што ў дак. № 32.
Копія XVII ст. Пол. м. 1 арк. (арк. 74).

б) Той жа тэкст, што ў дак. № 33.
Копія XVII ст. Пол. м. 1 арк. (арк. 75).
Ст. сігн.: № 6. (Два дакументы на 2 арк. — арк. 74—75).

36. а) Ліст караля і вял. кн. Жыгімонта III да ўсіх людзей духоўнага і свецкага стану грэчаскай рэлігіі ў Кароне Польскай і ВКЛ па просьбе айца кір Іосіфа Веляміна-Руцкага, мітрапаліта Кіеўскага, Галіцкага і ўсяе Русі, з дазволам правесці царкоўны Сабор, або Сінод, пасля працяглага перапынку, 6 верасня 1626 г. у месце Кобрыне. Варшава, 31.03.1626.
Без пячаткі і подпісаў.
б) Універсал Іосіфа [Веляміна-Руцкага], архіепіскапа, мітрапаліта Кіеўскага, Галіцкага і ўсяе Русі, да ўсіх людзей [грэчаскай рэлігіі] аб прызначэнні епіскапскага Сабору на 27 жніўня 1626 г. (па юліянскім (старым) каляндары) у месце Кобрыне. Навагародак, 10.06.1626.
Без пячаткі і подпісаў.
в) Нататка ніжэй Антонія Сялявы, архіепіскапа полацкага, віцебскага і мсціслаўскага, аб актыкацыі вышэй згаданых дакументаў у духоўных архіепіскапскіх кнігах і выдачы копій усім, каму належыць. Полацк, 27.06.1626.
Тагачасная копія. Стб. м. 1 арк. (арк. 76—76адв.; аркуш разарваны напалам. Дакументы б) і в) на арк. 76, дакумент а) на арк. 76адв.).

37. Рэестр спісання (інвентар) Морацкага манастыра з цэрквамі Успення Багародзіцы і Св. Цудатворца Мікалая, фальваркам і сялом Ананічы, па адной службе (сям'і) у сёлах Міхневічы і Доўгае, з перавозам і карчмой, дадзены слуцкім вайтовічам Канстанцінам Цішэвічам слуцкаму архімандрыту айцу Міхаілу Загароўскаму. Без месца, 20.07.1627.
Копія кан. XVIII — пач. XIX ст. (кірыліца). Сумесь стб. і рус. м. Ст. сігн.: № 19. 6 арк. (арк. 81—86; арк. 81 — тытульны).

38. а) Судовы ліст (дэкрэт) мінскага стольніка, слуцкага старосты Юрыя Капашчэўскага і суддзяў пры ім у справе яго пана кн. Януша Радзівіла, падчашага ВКЛ, і Андрэя Зембрыцкага, застаўніка маёнтка Ленін з в. Цімашова і Іваўліна Добрадзярэўскай вол., з Паўлам і Марціянам Ванькевічамі, уласнікамі, і слуцкім вайтовічам Амяллянам Купрыяновічам, застаўнікам в. Грычыновічы, аб праве ўласнасці на востраў Запруддзе ў Забалоцці. Слуцк, 21.08.1608.
Копіі подпісаў: Юры Капашчэўскі; Ян Чэрленікоўскі [стольнік браслаўскі]; Кастанты Гурын.
б) Судовы ліст Станіслава Крышкоўскага [слуцкага старосты], аб прысуджэнні вострава Запруддзе падданым грычыноўцам у сувязі з адмовай падданых цімашоўцаў выканаць прысягу аб праве ўласнасці на востраў. Ленін, без числа, 03.1627.



Копія подпісу: Станіслаў Крышкоўскі.
в) Судовы і падаўчы ліст рэвізора Грыгорыя Куніцкага аб памеры і падачы зямлі ў засценку Запруддзе падданым с. Грычыновічы паводле папярэдніх дэкрэтаў у справе з падданымі с. Цімашоўцы-Ноўлінцы, якім пакінута зямля ў засценку Заблоцце. Без месца, 20.12.1627.
Копія подпісу: Грыгоры Куніцкі.
Копія XVII ст. Пол. м. Ст. сігн.: «Брацкія справы». 2 арк. (арк. 77—78адв.).

39. Ліст слуцкага архімандрыта Міхала Загароўскага і слуцкага пратапопа Андрэя Мужылоўскага падачы айцу Іаану Міхайлавічу царквы Архангела Міхаіла ў месце Слуцк на [прадмесці] Востраў з царкоўнымі землямі і падданымі ў Бронавічах і іншымі ўгоддзямі паводле прывілея польнага гетмана ВКЛ кн. Крыштафа Радзівіла. Без месца, 12.03.1627.
Копіі подпісаў: Міхал Загароўскі, архімандрыт слуцкі; Андрэй Мужылоўскі, пратапоп слуцкі.
Копія XVIII ст. Пол. м. 1 арк. (арк. 79).

40. Выпіс з кніг урада Слуцкага манастыра Св. Тройцы. Сазнанне Сямёна Пастушонка, манастырскага мешчаніна мястэчка Траецкага, і яго маці Яўгеніі аб продажы мешчаніну Матфею Міскевічу Скрынніку морга зямлі за 1 капу і 38 грошаў. Манастыр Слуцкі, 14.03.1628.
Пячатка на кустодыі і подпіс Міхала Загароўскага, архімандрыта слуцкага.
Арыгінал. Стб. м. Ст. сігн.: № 32. 1 арк. (арк. 80).

41. а) Апісанне межаў земляў Морацкага манастыра пры перадачы яго ад слуцкага архімандрыта Міхаіла Загароўскага Грыгорыю Куніцкаму. Слуцк, 14.08.1628 (стары стыль).
Подпіс: Міхаіл Загароўскі, архімандрыт слуцкі (стб. м.).
б) Нататка М. Загароўскага, што Г. Куніцкі адсудзіў у [слуцкага] войта сярэбраны келіх, блюда і лыжкі, якія належалі манастыру. Без месца і даты. Без подпісу.
Арыгінал. Пол. м. (дакумент), стб. м. (нататка). Ст. сігн.: № 3; 20. 2 арк. (арк. 87—88; арк. 88 — затылак).

42. а) Тэстамент [слуцкага мешчаніна] Васілея Фёдаравіча Цішэвіча, у якім загадвае пахаваць сваё цела ў манастыры і царкве Св. Тройцы ў Слуцку, запісвае жонцы Стэфанідзе Данілаўне Міхайловічаўне 300 коп грошаў, дом у Слуцку на вул. Узіцкай, рухомыя рэчы і інш., дачцэ Стэфанідзе Васілеўне Цішэвічаўне і яе мужу Яну Дубіне замест пасагу ў 2000 злотых — дзве віціны і грашовы обліг, Траецкаму манастыру — 300 коп грошаў на за-




● — населеныя пункты:
1 — Навагрудак, 2 — Рута (Варута?), 3 — Ваўкавыск, 4 — Слонім, 5 — Пінск, 6 — Кобрын, 7 — Брэст, 8 — Турыйск, 9 — Луцк, 10 — Уладзімір, 11 — Львоў, 12 — Чэрвень, 13 — Комаў, 14 — Ахожа, 15 — Бусоўна, 16 — Люблін, 17 — Драгічын, 18 — Бельск, 19 — Пултуск, 20 — Коваль, 21 — Хелм, 22 — Любава, 23 — Інстэрбург (Істэрбок), 24 — Райгарад (Рай), 25 — Гродна,
⊙ — населеныя пункты, дзе пражывалі яцвягі (па звестках гр. А),
⊞ — землі, дзе пражывалі яцвягі (па звестках гр. А),
▥ — землі, памежныя да месцаў, дзе пражывалі яцвягі (па звестках гр. В),
← 1210 — напрамкі і даты ваенных паходаў яцвягаў (па звестках гр. С),
*р. Нараў* — назвы рэк, *зямля Судовія* — назвы зямель.



| **Група звестак** | **Геаграфічныя арыенціры** |
|---|---|
| A, арэал пражывання яцвягаў | г. Вялікі Ноўгарад, г. Драгічын, *г. Навагрудак*, княства Яцвяжскае, зямля Курляндзія, зямля Літва (у т. л. *р. Неман*), зямля Ліфлянты, зямля Падляшша (у т. л. зямля Зліна, зямля Кіменаў, г. Рай (г. Райгарад), р. Бобр, *р. Нараў*, р. Элк), зямля Прусія (у т. л. г. Інстэрбург), Бельскі павет, *Брэсцкі павет, Ваўкавыскі павет* (у т. л. *г. Ваўкавыск*), *Кобрынскі павет* |
| B, «блізкае памежжа» да арэала яцвягаў | *г. Брэст, г. Гродна*, г. Драгічын, *г. Навагрудак*, зямля Валынь, зямля Жмудзь, зямля Літва, зямля Мазовія, зямля Падляшша (у т. л. г. Пултуск, *р. Буг, р. Нараў*), зямля Прусія, *р. Неман*, лес Віншэ |
| C, «далёкае памежжа» да арэала яцвягаў | *зямля Навагрудская* (у т. л. *г. Навагрудак, г. Варута*), *зямля Пінская*, польскія землі (у т. л. г. Люблін, зямля Мазовія, зямля Куявія (у т. л. г. Коваль), (у складзе зямель Уладзіміра-Валынскіх/Галіцка-Валынскіх), г. Ахожа, *г. Брэст*, г. Бусоўна, г. Драгічын, г. Комаў, г. Луцк, г. Львоў, г. Турыйск, г. Уладзімір, г. Чэрвень, «воласць Рамана Мсціслававіча», «княства Яраслава Святаполчыча» (у складзе зямель Прусіі), зямля Хелмінская (у т. л. г. Любава, г. Хелм) |

Па тэкстах крыніц добра прасочваецца існаванне трох яцвяжскіх правінцый: паўднёвая Яцвягія, цэнтральная Дайнава і паўночная Судовія. Пры гэтым лакалізацыя Яцвягіі вызначаецца па кантактах з польскімі, рускімі і літоўскімі князямі. Лакалізацыя Судовіі вызначаецца па кантактах з Прусамі, Жмуддзю, Літвой, Падляшшам, крыжакамі і суседству з р. Неман. Лакалізацыя Дайнавы вызначана толькі яе знаходжаннем у складзе зямель літоўскага князя Трайдзеня. Паляксанамі звалі яцвягаў польскія крыніцы. Лічыцца, што найменне мае гідранімічнае паходжанне (ад назвы р. Лек (Элк)).

Звесткі групы В, у суаднясенні з групай С, акрэсліваюць арэал, у якім тэарэтычна яцвягі маглі не толькі дзейнічаць, але і бытаваць. Абапіраючыся на тыя звесткі, можна вылучыць чатырохкутнік на тэрыторыі Беларусі, што прыблізна месціцца паміж пунктамі Навагрудак—Пінск—Брэст—Гродна (гл. карту), г. зн. на ўсход ад вышэйадзначанай мяжы ўстойлівага пражывання яцвягаў Гродна—Брэст. Пункты групы С (праявы ваеннай актыўнасці яцвягаў) ляжаць, у большасці, на поўдзень ад ніжняй мяжы чатырохкутніка (лінія Брэст—Пінск) і не супярэчаць

выказанаму меркаванню. Звесткі групы А дапаўняюць прапанаваны гіпатэтычны чатырохкутнік шэрагам дакладных сцвярджэнняў.

Суаднясенне звестак табліцы выяўляе праблему храналагічнай і тэрытарыяльнай дынамікі. Так, вылучаюцца 2 пункты — гарады Драгічын і Навагрудак, якія прысутнічаюць ва ўсіх трох групах. Іх змест на працягу XIII ст. эвалюцыянірваў ад пунктаў экспансіі да месцаў пражывання; г. Брэст вытрымліваў ролю пункта скрыжаванняў.

Можна засведчыць, што XIII ст. прынцыпова змяніла змест і характар існавання яцвягаў. Пасля падпарадкавання іх зямель Уладзіміра-Валынскаму княству ў сярэдзіне XII ст. яцвягі разгарнулі ў XIII ст. мэтанакіраваныя ваенныя дзеянні, якія магчыма вызначыць як вызваленчыя. З другога боку, меў месца зваротны ваенны ціск з паўднёвага захаду на яцвяжскія тэрыторыі ў Падляшшы, з боку галіцка-валынскіх і польскіх земляў, а таксама з паўночнага захаду, з боку Тэўтонскага ордэна. Вынікам гэтых працэсаў стаў пераход у 2-й палове XIII ст. яцвяжскіх зямель пад юрысдыкцыю ВКЛ. Удакладнім, што абодва азначаныя вектары ваеннага ціску на яцвягаў мелі скіраванасць на тэрыторыю Беларусі, што можа вызначаць і адпаведныя напрамкі перасяленняў яцвягаў (гл. вышэй). Верагодна, што менавіта з гэтай «двухнакіраванасцю» звязана нераўнамернасць размяшчэння яцвягаў на тэрыторыі Беларусі (гл. матэрыялы п. 5, карту). Але «астраўны» характар знаходжання яцвягаў можа быць як вынікам іх перасяленняў [1, с. 89], так і супольнага пражывання жыхароў у актыўным узаемадзеянні.

Адметна, што 1264 г. вылучае таксама пэўную інфармацыйную мяжу ў Іпацьеўскім летапісе. Так, пасля гэтай даты храналангічная колькасць паведамленняў (XIII ст.) пра яцвягаў змяншаецца ў паўтара раза, пры тым што колькасць паведамленняў пра літву ўзрастае на чвэрць. У цэлым выкладзеныя звесткі XIII—XIX стст. ўзаемна сцвярджаюцца і дапаўняюцца.

ВЫСНОВЫ. У 1264—1270 гг. (імаверна ў 1264 г.) адбылося адміністрацыйнае ўключэнне паўднёвых і цэнтральных яцвяжскіх зямель у склад ВКЛ. Вельмі верагодна, што пачынаючы з 2-й паловы XIII ст. яцвягі перасяляліся з польскага Падляшша ў рэгіён Заходняй Беларусі, дзе ў далейшым захавалі ўстойлівае пражыванне ва ўзаемадзеянні з мясцовым насельніцтвам. Не выключана, што сярод гэтага мясцовага насельніцтва прысутнічалі і групы аўтахтонных яцвягаў і названае перасяленне адбывалася мэтанакіравана.

Літаратура


1. Kaminsky A. Jacwiez. Terytorium, ludność, stosunki gospodarcze i społeczne. Wrocław—Łodz, 1953.
2. Русские летописи. Т. 11. Ипатьевская летопись. Рязань, 2001.





3. Штыхов Г. В. Ятвяги по Ипатьевскому летописному своду // Lietuvos Archeologija. Vilnius, 2001. T. 21. P. 101—110.
4. Пашуто В. Т. Возникновение литовского государства. М, 1959.
5. Грушевский М. Хронологія подій Галіцько-Волинской літописи // Записки наукового товариства ім. Т. Шевченка. Т. XLI. Кн. 3. 1901.
6. Spory i sprawy pomiędzy polakami i zakonem krzyzackim (Lites ac res gestae inter Polonos Ordinemque Cruciferorum). Poznań, 1892. T. II.
7. Nalepa J. (Дыскусія па дакладу) // Acta Baltico-Slavica. 1976. T. IX. S. 84—85.
8. Stryjkowskij M. Kronika Polska, Litewska, Žmódzka i Wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846.
9. Дини П. У. Балтийские языки. М., 2002.
10. Петр из Дусбурга. Хроника земли Прусской. М., 1997.
11. Полное собрание русских летописей. Т. 2. Густынская летопись. СПб., 1843.
12. Лебедкин М. О племенном составе народонаселения Западного края Российской империи // Записки Императорского русского географического общества. Кн. 3. СПб., 1861. С. 131—160.


***Г. М. Сагановіч***

## ДЗЁННІК КОНРАДА КІБУРГА 1397 г.: ВЯРТАННЕ ДА ФАЛЬШЫЎКІ

Упершыню дзённік пасла Нямецкага ордэна графа Конрада Кібурга з'явіўся на свет у 1856 г. у зборы «Невялікіх гістарычных твораў» Тэадора Нарбута[1]. Новая крыніца пад назвай «Дзённік пасольства ад Прускіх Крыжакоў да вялікага князя літоўскага Вітаўта, адбытага ў 1347 г.[2] Конрадам, графам Кібургам, вялікім шпітальнікам Ордэна, з таварышамі (па прозвішчах не названымі)»[3] была апублікавана ім у перакладзе «з арыгінальнага рукапісу» на польскую мову, выкананым выкладчыкам былога Віленскага універсітэта Жэготам Анацэвічам. Як выдавец Т. Нарбут дадаў, што Ж. Анацэвіч падараваў яму гэты дзённік «разам з іншымі матэрыяламі па гісторыі Літвы. З якога архіва ці бібліятэкі ўзяты — не сказана»[4]. Пра месцазнаходжанне арыгінала і яго мову ён, маўляў, пытаўся ў Ж. Анацэвіча, аднак адказу атрымаць не паспеў з прычыны хваробы і хуткай смерці апошняга. Не ставячы пад сумненне аўтэнтычнасць тэксту, Т. Нарбут выказаў меркаванне, што аўтар знаходкі мог перакласці тэкст помніка падчас свайго побыту ў Караляўцы[5].

Праз дванаццаць гадоў дзённік графа Кібурга быў перакладзены на рускую мову і апублікаваны М. Смірновым у выглядзе дадатку да яго працы пра Ягайлу і Крэўскую унію[6]. Гэты расійскі гісторык высока ацаніў навуковую каштоўнасць помніка, цалкам паверыўшы ў яго аўтэнтычнасць[7], і максімальна выкарыстаў крыніцу ў сваім навуковым трак-

таце. Пры гэтым ён даверыўся дзённіку не толькі ў інтэрпрэтацыі некаторых падзей, але і ў апісанні знешняга выгляду ды характару літоўцаў і русінаў канца XIV ст. У прыватнасці, на яго падставе палічыў магчымым канстатаваць, што ў разумовых і маральных адносінах «русские стоят несравненно выше литовцев»[8], а ў некаторых выказваннях Кібурга ўбачыў «лицемерие, свойственное прусским рыцарям»[9].

Гэты дзённік ордэнскага пасольства, апублікаваны Т. Нарбутам папольску і прадубляваны М. Смірновым па-руску, доўгі час выкарыстоўваўся гісторыкамі як сапраўдны помнік часоў Ягайлы і Вітаўта. Яго аўтэнтычнасць прызнавалі Юзаф Крашэўскі, Анатоль Лявіцкі, Яўграф Чашыхін, Павел Бранцаў і многія іншыя. Але яшчэ ў XIX ст. пачалася і гісторыя выкрывання падробкі гэтага помніка. Адным з першых у яго сапраўднасці засумняваўся пецярбургскі прафесар В. Васілеўскі, які выказаў сваё падазрэнне ў «Віленскім весніку» ўжо ў 1869 г. Больш грунтоўна да пытання падышоў польскі гісторык Антоні Прахазка, які звярнуў увагу на поўную адсутнасць доказаў аўтэнтычнасці гэтай крыніцы[10]. Так, хоць у лісце Конрада фон Юнгінгена да інфлянцкага магістра за красавік 1398 г. (без дакладнай даты) сапраўды згадваецца пасольства Вільгельма фон Гельфенштайна і Конрада з Кібурга да Вітаўта[11], у сапраўднасці накіравана яно было ў Гародню, а не ў Вільню ў красавіку 1398 г., тады як дзённік ахоплівае перыяд з 8 чэрвеня па 12 ліпеня 1397 г. Польскі гісторык не пакінуў без увагі і іншыя несупадзенні дат[12]. Па-першае, паводле «дзённіка», пасольства мусіла выехаць з Рагнета 5 чэрвеня і дасягнуць Вільні 22 чэрвеня, аднак з іншых крыніц дакладна вядома, што ў траўні таго года граф Конрад фон Кібург быў на з'ездзе электараў у Франкфурце-на-Майне, адкуль вярнуўся ў Мальбарк толькі 10 чэрвеня[13]. Па-другое, згодна з дзённікам, з Вільні пасольства павінна было вярнуцца ў Рагнет 12 ліпеня, але аўтэнтычныя дакументы сведчаць, што Кібург у гэты дзень займаўся справамі Ордэна ў Данцыгу[14]. Па-трэцяе, акурат у дні знаходжання Кібурга ў Вільні паміж Конрадам фон Юнгінгенам і Вітаўтам вялася актыўная перапіска, у якой абмяркоўваліся важныя справы (праблема замірэння і асабістай сустрэчы вялікага магістра з вялікім князем літоўскім), але ніякага пасольства ў ёй нават не згадвалася[15].

Аспрэчваючы аўтэнтычнасць дзённіка ў тым выглядзе, у якім помнік апублікаваў аўтар дзевяцітомнай гісторыі Літвы, А. Прахазка ўсё ж дапускаў, што «дэталі, якія ён утрымлівае, могуць быць аўтэнтычныя і цэласць палягае на несумненна праўдзівых крыніцах»[16]. Іншымі словамі, паверыць у свядомае містыфікаванне было яшчэ няпроста, і вучоным уяўлялася, што публікацыя ўсё ж грунтавалася на нейкім аўтэнтычным тэксце, які Т. Нарбут толькі «сапсаваў» сваёй літаратурнай апрацоўкай.



Праз два дзесяцігоддзі з катэгарычнай крытыкай дзённіка Кібурга як крыніцы выступіў нямецкі гісторык з Караляўца Паўль Карге[17], які, здаецца, нават не быў знаёмы з цытаваным вышэй артыкулам А. Прахазкі. Добра ведаючы ордэнскі архіў і асаблівасці дыпламатычнай дакументацыі, ён адразу кваліфікаваў дзённік як няўдалую стылізацыю «чалавека, які […] ніколі не трымаў у руках сапраўднага пасольскага паведамлення»[18]. Першай падставай недаверу да апублікаванага дзённіка П. Карге назваў адсутнасць у архіве ў Каралеўцы яго нямецкага арыгінала. Невыпадкова і Ёган Фойгт, які апрацаваў ордэнскі архіў уздоўж і ўпоперак, нідзе ні словам не згадаў падобнай крыніцы ў сваёй дзевяцітомнай «Гісторыі Прусіі»[19], выдадзенай напярэдадні публікацыі Т. Нарбута. Але галоўныя аргументы на карысць неаўтэнтычнасці дзённіка даследчык убачыў у самім тэксце.

Вось жа і мова, і стыль, і тон апублікаванай знаходкі выразна адрозніваюць яе ад дыпламатычных дакументаў ордэнскай канцылярыі. Калі для апошніх былі характэрны сцісласць і гранічная прадметнасць запісаў, прычым апісвалася толькі тое, што тычылася выканання мэт пасольства, дык дзённік Кібурга не можа не здзіўляць рамантычна-сентыментальным тонам і шматслоўнасцю. Працяглыя апісанні войска і ўзбраення, віленскай забудовы, народных святаў, урачыстых прыёмаў, бясед і застолляў, экскурсы ў гісторыю Літвы — усё гэта выглядае недарэчнасцю ў запісах дыпламата. Да таго ж, заўважае П. Карге, іх не было сэнсу ствараць, бо як вялікі магістр, так і браты Нямецкага ордэна добра ведалі Літву дзякуючы шматлікім «рэйзам» рыцарскіх кантынгентаў на яе тэрыторыю.

Увогуле, тэкст помніка да такой ступені перапоўнены нехарактэрнымі для тагачаснага нямецкага славаўжывання зваротамі і выразамі, што знаўца гістарычных рэаліяў беспамылкова вызначыў: у вусны дыпламата XIV ст. укладзена мова эпохі рамантызму! Яна «настолькі несярэднявечная, што даводзіцца здзіўляцца, як гэта Т. Нарбут не пазнаў фальшыўкі!» — не стрымліваў эмоцый П. Карге[20].

Нямецкі гісторык заўважыў у дзённіку і тыя несупадзенні дат, пра якія раней пісаў А. Прахазка. Напрыклад, ён пацвердзіў тое, што, згодна з архівамі мальбарскай канцылярыі, ордэнскае пасольства з удзелам Конрада Кібурга ў сапраўднасці ехала на перамовы да Вітаўта не ў 1397 г., як падаецца ў дзённіку, а ў 1398 г., і не ў Вільню, а ў Гародню. Цяпер у гэтым можна пераканацца і з тэкстаў дзяржаўных дагавораў Нямецкага ордэна, апублікаваных Эрыхам Вайзэ[21].

Аднак больш за ўсё падробку выдаюць разгорнутыя апісанні рэаліяў і сцэн, пакінутыя нібыта нямецкім дыпламатам: яны не толькі штучныя, але і насычаныя шматлікімі гістарычнымі памылкамі. Так, напрыклад, у дзённіку гаворыцца, што гарнізон Ковенскага замка складаўся з 4000 ча-

лавек, але такую колькасць мог назваць толькі той, хто не мае ніякага ўяўлення пра памеры гарнізона сярэдняга горада! — заўважыў П. Карге. Касцёл святой Ганны апісаны ў такім выглядзе, які помнік набыў толькі пасля 1500 г.! Сабор на Ніжнім замку названы Кафедральным, хоць ён тады яшчэ зваўся Замкавым. У Вільні паслоў прымаюць быццам у «чыста выбеленай» зале, але ў той час голыя сцены не бяліліся, а завешваліся дыванамі! І такіх прыкладаў П. Карге прыводзіць цэлы шэраг. Фальшывымі ён прызнаў і апісанне многіх сцэн, а таксама паводзіны самога Кібурга: той быццам наведвае ўсе віленскія храмы і падрабязна апавядае пра набажэнствы, але празмернае падкрэсліванне рэлігійнасці было зусім не ўласцівае для людзей той эпохі. Шмат часу пасол праводзіць з віленскім біскупам Андрэем, які ўспрымае Кібурга як прадстаўніка вялікага магістра, наладжвае для яго прыёмы і застоллі, але ў сапраўднасці на чале пасольства (у 1398 г.) стаяў вялікі комтур Гельфенштайн, які на ранг пераўзыходзіў Кібурга. Сам жа Кібург, здаецца, асобнай дыпламатычнай місіяй ніколі не кіраваў. Урэшце, нямецкі даследчык выявіў у дзённіку і гістарычныя легенды XVI—XVII стст., вядомыя па позніх беларуска-літоўскіх летапісах.

Такім чынам, яшчэ амаль сто гадоў таму падробленасць дзённіка Конрада Кібурга была паказана настолькі пераканаўча, што пасля публікацый А. Прахазкі і П. Карге ніхто нават не браўся абараняць яго аўтэнтычнасць. І цяпер не было б сэнсу вяртацца да гэтай састарэлай фальшыўкі, калі б яна сама не вярнулася ў сучасную гістарычную літаратуру Беларусі. Спачатку, спасылаючыся на выданне М. Смірнова, на яе абапёрся ў сваёй кнізе пра Вялікае княства Літоўскае Мікола Ермаловіч[22], які, праўда, змест дзённіка выкарыстаў даволі сціпла. Для яго найбольш важнымі аказаліся сведчанні Кібурга пра ролю русінаў ды месца іх культуры ў дзяржаве Вітаўта. Тое, што начальнікам Ковенскага замка Кібург назваў русіна Івана Фёдаравіча, а муштрай конніцы кіраваў князь Юры, на думку М. Ермаловіча, пацвярджала факт апазіцыйнасці Жамойці да ўлады літоўскага князя[23]. Гісторык вылучыў таксама выказванне Кібурга пра непрыхільнае стаўленне Альгерда да паганства, згадкі пра панаванне русінскага (старабеларускага) пісьменства ў дзяржаве ды старабеларускую мову Вітаўта і ўсяго яго двара[24]. Праўда, у дзённіку сказана толькі наконт Альгерда і пісьменнасці[25], пра мову ж вялікага князя ў крыніцы нічога не гаворыцца.

Услед за М. Ермаловічам стары фальсіфікат пачаў выкарыстоўваць В. Чаропка, які таксама «адкрыў» дзённік на падставе публікацыі М. Смірнова. У аб'ёмнай стылізацыі ён убачыў значна больш патрэбнай фактуры і нават асобны раздзел сваёй кнігі назваў «Пасольства Конрада Кібурга»[26]. Папулярны ў Беларусі аўтар гістарычных твораў, відаць, проста захапіўся такой інфармацыйнай крыніцай (хоць можна было падумаць, чаму яе не



выкарыстоўваюць іншыя беларускія гісторыкі), таму тэкст дзённіка ўспрыняў гэтак жа некрытычна, як і расійскі перакладчык ды публікатар гэтай містыфікацыі. Напрыклад, цытуючы з дзённіка ўрывак пра конніцу пад г. Коўна, вершнікі якой «не мелі другой зброі, апроч простай дубіны»[27], В. Чаропка бярэ напісанае на веру, хоць гэта відавочны нонсенс. Паўтараючы ўслед за аўтарам дзённіка, што ў Вільні сам Кібург гаварыў пра «хрысціянска-рыцарскую роўнасць ліцвінаў»[28], В. Чаропка зноў аказваецца падманутым, бо ў рэаліях канца XIV ст. гэта было ў прынцыпе немагчыма: для Ордэна Літва і пасля хрысціянізацыі заставалася краем паганства, з якім Мальбарк працягваў вайну, жыццёва важную для яго, таму ордэнская дыпламатыя актыўна працавала на стварэнне вобраза Літвы няхрышчанай. Ніяк не магла адпавядаць рэальнасці і пададзеная колькасць жыхароў Вільні: 25 тыс. чалавек на канец XIV ст., з якіх ажно 6 тыс. складалі гарнізон горада[29] — гэта фантастыка, бо такой колькасці насельніцтва сталіцы ВКЛ дасягнула толькі ў сярэдзіне XVII ст.

Цяпер падобная даверлівасць да дзённіка Кібурга не можа не здзіўляць, бо калі яго чытаць уважліва, то агістарызм многіх сцвярджэнняў і выказванняў лёгка заўважаецца. І найперш кідаецца ў вочы, што аўтару карцела як найлепш прадставіць Літву, стварыць добры вобраз каталіцкага духавенства. У выніку атрымалася, што нават заходнееўрапейскае высакароднае рыцарства «нідзе не знаходзіла такіх выгодаў, такой гасціннасці і такога парадку ва ўсім, як цяпер у Літве»![30] Пад пяром містыфікатара і ордэнскі пасол граф Кібург час ад часу захапляецца парадкам лясістай, толькі-толькі ахрышчанай Літвы ды, параўноўваючы з ёй свой край, усклікvae: «Вось, калі б мы зберaглі рыцарскі спосаб выхавання моладзі!..»[31] (праўда, невядома, з чым ён мог параўноўваць Літву, бо сам Кібург быў швейцарцам). А віленскі біскуп Андрэй на сустрэчы з высокімі пасламі гаворыць проста-такі мовай XIX ст., калі тлумачыць немцам, што «Літва, пакінуўшы паганства, якое бало асновай яе народнасці, знаходзіцца на шляху да змены сваёй цывілізацыі ў заходнееўрапейскую»[32] (?! — *Г. С.*). Вялікі князь Вітаўт на старонках дзённіка паўстае інтэлігентам-рамантыкам, які «слухае розныя даклады», «працуе ў сябе ў кабінеце», а потым бавіць час «у сваім сямействе»[33]. Абсалютнай недарэчнасцю, якая адразу выдае і без таго няўдалую стылізацыю, трэба прызнаць укладзеную ў вусны Вітаўта плётку пра чатырох братоў-рыцараў, якія «перайшлі мяжу» (у XIV ст. ?!) ВКЛ і час ад часу з'яўляліся ў розных месцах княства са сваімі каханкамі[34]. Не больш гістарычнай дакладнасці і ў апісанні рэаліяў матэрыяльнай культуры. Напрыклад, сярод узбраення ліцвінаў фігуруюць бердышы[35], хоць у той час яны яшчэ, безумоўна, не выкарыстоўваліся; Кібург наведвае ў Вільні мураваныя касцёлы, хоць аблога сталіцы рыцарамі ў 1390 г. засведчыла, што храмы

былі яшчэ драўляныя, а ў віленскіх дамах (нават у бедных!) нямецкія паслы ўжо пабачылі шкляныя шыбы, і больш за тое, шкляныя вырабы з Літвы ўжо нават экспартаваліся за мяжу![36]

Калі падробленасць т. зв. дзённіка Кібурга не можа выклікаць сумненняў, то пытанне яго аўтарства вырашана не канчаткова. Найбольш верагодным стваральнікам фальсіфікату лічыцца сам Т. Нарбут, чыйму пяру гэтую містыфікацыю прыпісалі К. Хадыніцкі, Я. Тазбір ды іншыя польскія гісторыкі. Магчыма, гэтаму паспрыяў факт выкрывання цэлага шэрагу іншых фальсіфікацый Т. Нарбута[37]. Многія з іх, напрыклад, такія, як апублікаванае ў тым жа томе «Невялікіх гістарычных твораў» апісанне ўмацаванняў сталіцы ВКЛ, што быццам паходзіла з сярэдзіны XV ст., ліст сучасніка пра спальванне ерэтычных кніг у Вільні ў 1581 г., аповед пра хваляванні студэнтаў-езуітаў там жа ў 1644 г.[38] і інш., таксама доўгі час прымаліся за «чыстую манету».

Аднак П. Карге, у адрозненне ад польскіх даследчыкаў, не вінаваціў у містыфікацыі Т. Нарбута, а глядзеў на яго як на ахвяру падману. «Самога Нарбута я не хацеў бы лічыць фальсіфікатарам», — падкрэсліў ён. На думку нямецкага гісторыка, той спачатку і сам сумняваўся ў аўтэнтычнасці крыніцы, перададзенай яму Ж. Анацэвічам, але потым паверыў у яе[39]. Сапраўдным жа аўтарам падробкі, паводле П. Карге, «несумненна быў спадар Анацэвіч»[40].

Вядомы расійскі даследчык фальсіфікацый В. Казлоў адзначаў, што прадукаванне падробак было заняткам людзей захопленых або жулікаў[41]. Чым жа кіраваўся аўтар нашай містыфікацыі? Калі ім сапраўды з'яўляўся не Ж. Анацэвіч, а Т. Нарбут, дакладна выкрыты ў шэрагу іншых фальшаванняў, то на жульніцтве яго наўрад ці можна лавіць. Думаючы пра матывы такога занятку, К. Хадыніцкі калісь напісаў, што ў фальсіфікацыях гэты гісторык кіраваўся высакародным памкненнем — ім рухала любоў да сваёй айчыны[42]. Паводле Я. Тазбіра, гэта было «жаданне прыдаць бляску літоўскай гісторыі XIII—XVI стст.»[43], але не толькі: зайздросцячы славе Ю. Крашэўскага, Т. Нарбут меў схільнасць да белетрызацыі гісторыі, стварэнне і публікаванне фальсіфікатаў з часам «рабілася для яго амаль неабходнасцю»[44].

Незалежна ад заўважанага, думаю, трэба ўлічваць і т. зв. «дух часу». На канец XVIII — першую палову XIX ст. прыпаў найбольшы ўздым вырабу гістарычных і літаратурных фальшывак як у краінах Цэнтральна-Усходняй Еўропы, так і ў Расійскай імперыі[45]. Згадаем, што ў 1817 г. чэхі В. Ганка і В. Свобада апублікавалі «Краледворскі рукапіс» — славуты твор чэшскага эпасу, які на павер аказаўся таленавітай падробкай. Цалкам верагодна, што, як меркаваў і П. Карге, менавіта прыклад чэхаў натхняў на містыфікацыю і віленскіх гісторыкаў.



1 Narbutt T. Pomniejsze pisma historyczne. Wilno, 1856. S. 133 — 162.
2 Апіска ў Нарбута. Павінна быць 1397.
3 «Dziennik poselstwa od Krzyżaków Pruskich do Wielkiego Księcia Litewskiego Witolda, w r. 1347 odbytego, przez Konrada, Hrabi Kiburg, Wielkiego Szpitalnika Zakonu, z towarzyszami (niewymienionymi po nazwiskach)».
4 Narbutt T. Pomniejsze pisma historyczne. S. 133. Спас. 1.
5 Ibid. S. 164.
6 «Дневник посольства главного начальника гошпиталей Тевтонского ордена, графа Конрада Кибурга с товарищи (не названы) к великому князю литовскому Витовту, в 1397 г.» Гл.: Смирнов М. Ягелло—Яков—Владислав и первое соединение Литвы с Польшею. Приложение // Записки Императорского Новороссийского университета. Год 2-й. Вып. 1—6. Одесса, 1868. С. 1—41 (далей — Дневник посольства…).
7 «…мы не видим никаких поводов для непризнания посольского дневника достойным веры источником», — пісаў М. Смірноў, хоць сам заўважыў, што большая частка звестак пра Літву, заключаных у дзённіку, ужо вядомая з іншых крыніц і даследаванняў. Гл.: Дневник посольства… С. 40—41.
8 Смирнов М. Ягелло—Яков—Владислав и первое соединение Литвы с Польшею. С. 7—8.
9 Дневник посольства… С. 40.
10 Prochaska A. Spór o mitrę i pastoral w Rydze (1395—1397) // Kwartalnik Historyczny. T. 9 (1895). Z. 4. S. 645—646.
11 Liv- , Est- und Curländisches Urkundenbuch. Bd. 4. Riga, 1875. Nr. 1469; Codex epistolaris Vitoldi. Ed. A. Prochaska. Kraków, 1882. S. 51.
12 Prochaska A. Spór o mitrę i pastoral w Rydze. S. 646—647.
13 Codex diplomaticus Prussicus. Ed. J. Voigt. Bd. VI. S. 45.
14 Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch. Bd. 4. S. 179—181.
15 Prochaska A. Spór o mitrę i pastoral w Rydze. S. 646—647.
16 Ibid. S. 647.
17 Karge P. Der Gesandtschaftsbericht des Ordenssplitters Grafen Konrad von Kyburg vom Jahre 1397 — eine Fälschung // Das Litauen-Buch. Eine Auslese aus der Zeitung der 10. Armee. Wilna, 1918. S. 86—89.
18 Ibid. S. 88.
19 Гл.: Voigt J. Geschichte Preussens. Bd. 1—9. Königsberg, 1827—1839.
20 Karge P. Der Gesandtschaftsbericht… S. 87.
21 Die Staatsverträge des Deutschen Ordens in Preussen im 15. Jahrhundert. Hrsg. von E. Weise. Bd. 1. Königsberg, 1939. S. 7—8.
22 Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае. Мн., 2000. С. 239—240.
23 Там жа. С. 240.
24 Там жа. С. 240.

25 Дневник посольства… С. 26, 30.
26 Чаропка В. Імя ў летапісе. Выд. 2. Мн., 2003. С. 359—365.
27 Там жа. С. 359.
28 Там жа. С. 362.
29 Дневник посольства… С. 20; Чаропка В. Імя ў летапісе. С. 363.
30 Дневник посольства… С. 7.
31 Там жа. С. 26.
32 Там жа. С. 8.
33 Там жа. С. 35—36.
34 Там жа. С. 36.
35 Там жа. С. 32.
36 Там жа. С. 23—24.
37 Łowmiański H. Sfalszowany opis obwarowania m. Wilna // Ateneum Wileńskie. T. 3 (1925). Z. 9. S. 82—94; Chodynicki K. Ze studiów nad dziejopisarstwem rusko-litewskim // Ateneum Wileńskie. T. 3 (1926). S. 387—401; Krawiec L. Rzekome zaburzenia studenckie w Wilnie 1644 r. // Księga pamiątkowa Koła Historyków Słuchaczy USB. Wilno, 1933; Łowmiański H. Teodor Narbutt jako historyk Wilna // Kurier Wileński. Nr. 36, 14.02.1940 і інш.
38 Tazbir J. Falszerstwa historyczne w Polsce w pierwszej połowie XIX w. // Przegląd Historyczny. T. 57 (1966). Z. 4. S. 590—592.
39 Karge P. Der Gesandtschaftsbericht… S. 86.
40 Ibid. S. 87.
41 Козлов В. Тайны фальсификации. Анализ подделок исторических источников XVIII—XIX вв. М., 1996. С. 4.
42 Chodynicki K. Ze studiów nad dziejopisarstwem rusko-litewskim // Ateneum Wileńskie. T. 3 (1926). S. 401.
43 Tazbir J. Falszerstwa historyczne w Polsce w pierwszej połowie XIX w. S. 590.
44 Tazbir J. Cudzym piórem… Falsyfikaty historyczno-literackie. Poznań, 2002. S. 51; Krawiec L. Rzekome zaburzenia studenckie w Wilnie… S. 79.
45 Козлов В. Тайны фальсификации. С. 247.

***А. В. Стефанович***

## ЗАПИСИ-ПОМЕТЫ НА КНИГАХ БИБЛИОТЕКИ НЕСВИЖСКОЙ ОРДИНАЦИИ РАДЗИВИЛЛОВ

История несвижского магнатского рода Радзивиллов включает в себя моменты становления и формирования национальной культуры Беларуси. На протяжении нескольких столетий несвижские Радзивиллы являлись известными меценатами: покровительствовали музеям, частным театрам, создавали крупные культурные центры в Бресте, Мире, Слуцке, Несвиже и др. Польскими королями были дарованы Радзивиллам привилеи, дававшие право на хранение документов в Несвиже. В 1551 г. король Сигизмунд Август выдал привилей Николаю Радзивиллу



Черному (1515—1565) на устройство архива в Несвиже для хранения в нем всех привилеев, данных ВКЛ. Он находился в замке родового имения Радзивиллов и вмещал в себя до 4000 томов документов, привилеев и автографов важнейших актов. Со временем многие материалы этого собрания перешли в другие частные коллекции (к К. Квятковскому в Варшаве, Т. Дзялынскому в Курнике, Томицкому и т. д.) [1].

Первое упоминание о книжной коллекции Радзивиллов Несвижской ординации относится к XVI в. С этого момента и на протяжении всей истории существования Несвижской библиотеки она притягивала к себе внимание разных общественно-политических деятелей того времени.

Начиная с первого официального ордината Несвижа — Николая Крыштофа Радзивилла Сиротки (1549—1616) и до последнего 17-го ордината — Радзивилла Леона Владиславовича (1888—1959) [17] комплектование фондов библиотеки Несвижской ординации велось не всегда равномерно. Книжное собрание, по сути, было частновладельческой коллекцией, однако по своей функциональной принадлежности играло роль государственного книгохранилища в ВКЛ. На протяжении своего существования, начиная с первой половины XVI в. и до настоящего времени, фонды этого уникального частновладельческого книжного собрания претерпевали неоднократные изменения.

История формирования Несвижской ординатской библиотеки прослеживается начиная с XVI в. Неоднократные пожары, войны, конфискации радзивилловских собраний негативно сказались на их сохранности. К сожалению, до сих пор нет целостного описания сохранившихся коллекций. Разрозненные их части хранятся в библиотеках Польши, Литвы, Финляндии, России, Беларуси и являются объектом пристального внимания и специального исследования книговедов, археографов, архивистов и библиотечных работников.

В собрании широко представлены книги по истории Западной Европы и ВКЛ, переводные издания классиков античности. В коллекции имеются книги, относящиеся к точным наукам, литература по географии, языкознанию, искусству и культуре. Несомненно, особую ценность представляют прижизненные издания классиков художественной литературы, философов, деятелей общественной и политической жизни XVII — нач. XX в., документальная проза XIX в. Наряду со светской литературой, данное книжное собрание включает значительное количество книг теологической направленности. В коллекции также представлены издания, отражающие отдельные стороны повседневной жизни среднего класса, экономики, статистики, социологии, юриспруденции и военного дела XIX—XX вв.

Книжная коллекция Несвижской ординации Радзивиллов по своему составу, хронологии и содержанию уникальна в истории книжной культуры Беларуси.

В тематическом отношении в коллекции широко представлен пласт исторического содержания — переводные книги классиков античности, а также книги по математике, физике, географии, языкознанию, юриспруденции, искусству и другим областям знаний.

Часть книг XIX в. имела не только вклеенные экслибрисы, но и суперэкслибрисы. В XX в. их заменили на печать-штемпель красного цвета двух форм, круглой и овальной. Немалую часть Несвижской коллекции составляют книги с геральдическими знаками, которые лишены фамилии конкретного владельца и снабжены только родовым гербом. Например, на экслибрисе под геральдическим знаком написано: «Biblioteka Ordynacji Nieswieskiej» или «Biblioteka Zamku Nieswieskiego», «Biblioteka Ordynacyi Birzanskiei». Такие книжные знаки являлись паспортом персонального книгохранилища, символом династии и подчеркивали принадлежность экземпляра не кому-либо из членов семейства, а магнатскому роду в целом, со всеми его многочисленными нисходящими и восходящими ветвями.

Книги из библиотеки Несвижской ординации Радзивиллов (условно мы ее называем «Библиотека Несвижской ординации Радзивиллов 1940 г.»), хранящиеся в ЦНБ НАН Беларуси, по всей вероятности, не имеют ничего общего с коллекциями библиотеки, существовавшими до второй половины XIX в. Это книжное собрание, предположительно, было образовано позднее, уже во второй половине XIX в. (1880) Антонием Радзивиллом. Значительная часть книг была закуплена во Франции, о чем свидетельствуют сохранившиеся геральдические экслибрисы библиотеки Несвижской ординации Станислава Радзивилла с вклеенным ярлыком на французском языке. Коллекция состоит из разрозненных книжных собраний Радзивиллов: **1) Ex-libris Biblioteka Ordynacji Nieswieskiej, 2) Ex-libris Biblioteka Zamku Nieswieskiego, 3) Ex-libris Stanislaw Radziwill, 4) Ex-libris Jerzy Radziwill, 5) Ex-libris Jerzy Radziwill — [JR], 6) Ex-libris Hieronumi Radziwill, 7) Ex-libris Bibliothéque de la Princefse Antonie Radziwill, 8) Ex-libris Biblioteka Ordynacyi Birzanskiei и др.**

Анализ многочисленных помет, владельческих и иных записей в книгах, а также исследование экслибрисов дает нам основание предположить, что Библиотека Несвижской ординации (1940) как цельная книжная коллекция состоит из разрозненных частных библиотек Радзивиллов, а также вносит дополнительные ценные сведения в реконструкцию уцелевшего книжного собрания Несвижской ординации Радзивиллов.






Прижизненное издание: Skarga P. (1536—1612) Zawstydzenia nowych arianow, z wzywanie ich do pokuty Chrzesciańskiey, od x. Ktore iż chiał zniešc Pan Hieronym Moskorzewski. Ynowu ie wydaie x. Jan Gurski ... Kraków, 1608. Книга имеет рукописную запись: *Ad Theologiam Polemico Dowgialicam.* (ОБ 16—18 Нр.56)

На книгах уцелевшей коллекции из собрания Несвижской ординации Радзивиллов (1940), датируемых XV—XVIII вв. из фондов ЦНБ НАН Беларуси, имеется большое количество рукописных помет — около 79%. В изданиях XIX в. таких рукописных помет не более 35%, а в книгах первой половины XX в. рукописные пометы встречаются крайне редко.

Для анализа книг с рукописными записями следует четко различать понятия авторских и владельческих рукописных помет. ***Авторские записи*** являются продолжением тех проблем, которые подняты и разрешаемы в книге. Они могут служить дополнением к напечатанному материалу и впоследствии могут послужить поводом для переиздания дополненных и переработанных изданий. Все авторские записи имеют временную связь. Они ограничиваются годами жизни автора, средняя продолжительность которой не превышает 55—65 лет. Когда в книге находятся недатированные авторские пометы, с относительной погрешностью можно говорить о творческом периоде жизни автора: условно от 55—65 лет отнимаются первые 15—20 лет, которые были потрачены на воспитание и образование, и речь может идти о 30—40 годах творческой жизни автора. В этих временных рамках можно определить период, когда были сделаны авторские записи, если годы жизни автора не установлены.

***Владельческие записи*** многочисленней авторских записей. Иной раз владельческие записи, сделанные в разных столетиях разными людьми, датированные и недатированные, могут дать современным исследователям даже более ценную информацию, чем содержание самой книги. ***Записи-пометы,*** будь то ***авторские*** или ***владельческие,*** являются ценным источником для подтверждения научных гипотез и опровержений домыслов. Они могут быть востребованы для палеографии и библиотечного делопроизводства.

Самое раннее издание из сохранившейся коллекции Несвижской ординации, имеющее рукописные пометы, — **Duranti Guilelmus.** *Rationale divinorum officiorum. Argentina [Strassburg], 1484.* Владельческая надпись, датируемая **1635** г. [6, f. 1], гласит**: «Casimirio Spaczewski».** На полях этой книги также имеются многочисленные пометы дневникового характера, не поддающиеся прочтению. Они не датированы, написаны тем же почерком, черными чернилами [6, f. 52], что и датируемая запись на титульном листе.

Многие владельческие записи-пометы на книгах сделаны самими Радзивиллами. Например, датированная 11 января 1866 г. дарственная надпись на польском языке в учебнике для детей 1851 г. (сыну Юрию Радзивиллу (1860—1914) от отца Антония Радзивилла (1833—1904)): «*Юрию Радзивиллу! 11 января 1866 г. от любимого папы*» [7].



В книге богослужений католического костела, изданной на польском языке в Петербурге в 1899 г. [14], детской рукой сделаны многочисленные записи Леона Владиславовича Радзивилла (1888—1959) [3], посвященные богослужению: множество молитв, написанных от руки.

Особую группу представляют книги из Несвижского бенедиктинского монастыря и Иезуитской коллегии. Наибольший интерес представляют прижизненные издания. Все они имеют владельческие записи, указывающие на тесные контакты Радзивиллов с авторами этих книг: **Яном Пошаковским (Poszakowski, Jan) (1684—1757)** [18], [18, т. 5, с. 1]; **Иоанном Брициусом (Briccius Joannes) (1654—1710); Мартином Лашчем (Łaszcz, Marcin) (1551—1615)** [12]; **Фридрихом Баумайстером (Baumeister, Friedrich Christian (1708—1785)** [18, т. 5, с. 1]; **Петром Калишевским (Kaliszewski, Piotr Celestyn) (1724—1767)** [9].

На одном из сохранившихся прижизненных изданий **Петра Скарги (1536—1612),** основателя и первого ректора Виленской иезуитской академии (1579—1584), основателя Полоцкой иезуитской коллегии, активного сторонника контрреформации, автора многочисленных религиозно-политических произведений, с 1588 г. придворного проповедника Зигмунта III Вазы, на титульном листе имеется рукописная запись: «***Ad Theologiam Polemico Dogmaticam***» (без датировки) [19].

Приведем полную постраничную владельческую запись, помещенную в книге Э. А. Куропатницкого (1730—1788): «*Сия книжица есть собственна из числа книг Ивана Петра Мартина Андрея Порутчика воеводств Троцкаго сына Богдановича Дворжецкаго куплена в Вильни 1790 года м-ца июля 31 дня ценою 2 рубля российских денег мною же самим у монастыре отцов или монахов пиярами памятуемых в лавке книгопечатания того ордина отцов для общей пользы к ежечасному потреблению и выгоде благородных ис польского шляхетства дворян пожалованных монаршимдрагоценным, то есть гербами*» [11, с. 2—148]. Это единственная рукописная запись на книгах коллекции Радзивиллов, сделанная кириллицей.

Большое число книг из этого собрания ранее принадлежало другим владельцам, которые не были связаны с Радзивиллами родственными узами. Эти книги имеют многочисленные владельческие записи. Они указывают на культурный обмен частных книжных собраний польской шляхты и европейской знати, такие книги из частновладельческих библиотек: **Леопольда Хуберда (Leopold Huberd) (1832—1884)** [15] (в одной из таких книг его библиотеки, хранящейся в Несвижской ординации, датированная надпись **I. Karnowski R. (1819**) [4]: **Прусиновского (Prusinowski), Александра Здановича (Aleksandra Zdanowicza)** [2]; **Васовского (Mohilow, 1739 — P. Stanislaj Wasowski); И. А. Залвского (I. A. Zalvski)** [20]; **Катар-**

**жины Шилинговей-Пулковниковей (Pani Katarzynie Szylingowej Pułkownikoej…)** [5]; **Габриэля Томашевича (Gabrielis Tomaszewicz); (Jos. Schimelfennig. 1650)** [10]; **Иосиф Новицкий (Josephi Nowicki)** [8]; **Якоба Бернатовича (Jacobi Bernatowicz)** [13]; **Александры Корсак (Alexandri Korsak)** [20]; библиотеки ординации **Красиньских (B-ka ordinacji Krasińskich**). Здесь же имеется еще одна запись, которая свидетельствует о том, что эта книга была еще и у **Карола Третьяка (Karol Trzeciak)** [16].

Итак, в книжной коллекции Несвижской ординации Радзивиллов, которая хранится в фонде ЦНБ НАН Беларуси, каждая четвертая книга имеет владельческие записи-пометы. Как уже отмечено выше, книги XV—XVIII вв. имеют многочисленные пометы, в изданиях XIX в. таковых значительно меньше, а в книгах начала XX в., за редким исключением, они практически отсутствуют. Вероятно, это было связано с тем, что в 30-е годы коллекция была закрыта для исследователей.

Литература

1. Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при Управлении Виленского учебного округа. Т. 1—14. Вильна, 1867—1904. Т. 7: Собранный в Несвиже и изданный П. Гильтебрандтом: [Документы 1433—1764 гг.]. 1870 (ОБ 19 Ср. 42)*.
2. Biblia Święta to iest Księgi Starego i Nowego przymierza z żydowskiego i greckiego języka na Polski pilnie i wiernie przetłumaczone… Gdańsk, 1632 (ОБ 16—18 Hp. 99).
3. Brictius J. Filii Mariae eorumque obligatio in gratiam eorum, qui se Beatissimae Virgini in aliqua eius Sodalitate dicarunt … Wilno, 1697 (Д 16—18 Hp. 457).
4. Cicero, Marcus Tullius. Marka Tulliusa Cycerona o powinnaściach wszech stanów ludzi księgi troje przez Stanisława Koszutskiego przełożone y dostatecznemi przypiskami objaśnione. Wilnie, 1766 (ОБ 16—18 Hp. 2).
5. Czerniewski A. Strzały Jonathy słowa Boskie, nigdy się nie powracające bez zbawiennego pożytku pod zaszczytem Sapieżynskiey strzały … Wilno, 1728 (ОБ 16—18 Hp. 165).
6. Durandus Guilelmus. Rationale divinorum officiorum. Argentina [Strassburg], 1484 (Д 15 Ср. 1).
7. Elementarz dla dzieci polskich. [Jurko],1851(Д 20 Hp. 421).
8. Horn G. Orbis imperans. /Leiden/, apud Felicem lopes de Haro. 1668 (ОБ 16—18 Hp. 81).

* (ОБ 19 Ср. 42) и последующие номера в списке литературы служат дополнительной информацией для того, чтобы можно было легко найти конкретные источники, так как в фонде ЦНБ НАН Беларуси могут находиться дублетные экземпляры, которые не несут ту информацию, о которой говорится в статье.



9. Kaliszewski P. C. Historya celnieyszych y sławnieyszych traktatów między Europeyskiemi Mocarstwami różnemi czasami poczynionych. T.1—2. Warszawa, 1764 (ОБ 16—18 Hp. 251).
10. Kojałowicz A. W. Historiae Lituanae pars prior: de rebus Lituanorum ante susceptam Christianam religionem, conjunctionemque Magni Lituaniae Ducatus cum regno Poloniae, libri novem. [Gdańsk], 1650 (ОБ 16—18 Hp. 40).
11. Kuropatnicki E. A. Wiadomość o kleynocie szlacheckim, oraz herbach domów szlacheckich w Koronie Polskiey, i Wielkiem xięstwie Litewskim… Cz. 1—4. Warszawa, 1789 (ОБ 16—18 Hp. 44).
12. Łaszcz M. Wieczerza ewangelicka w obronie szasunku wieczerzy Ministrów wypisana… Wilno, 1594 (ОБ 16—18 Hp.3).
13. Lengnich G. Pacta conventa Augusti III, regis Polonorum Magni Duci Lituaniae et electoria saxoniae commentario perpetuo (illustrata a Godofredo Lengnich G) Dantisci et Lipsiae (Gdańsk et Lipsk), 1763 (ОБ 16—18 Hp. 93).
14. Nabożeństwo kościelne. Na niedziele i święta całego roku w przekł. Pol. Obok z tekstem łat / przez X. S. M. Kozłowskiego. Petersburg, 1899 (Д 19 Hp. 874).
15. (Neugebauer, Salamon). Icones et vitae principum ac regum Poloniae omnium adornatae atque collectae a Salomone Neugebauero de Cadano. Francofurti ad Moenum [Frankfurt a. M.], 1620 (ОБ 16—18 Hp. 45).
16. Orłowski K. Defensa Biskupstwa y Dyecezyi kijowskiey. [Lwów], 1748 (ОБ 16—18 Hp. 311).
17. Polski słownik biograficzny / PAN. Wrocław etc.: Ossolineum, 1987. T. 30 / 1—3.
18. Poszakowski J. Głos Pasterza Jezusa Chrystusa… T. 1—5. Wilno, 1736—1740 (ОБ 16—18 Hp. 163).
19. Skarga P. Zawstydzenie nowych arianow, y wzywanie ich do pokuty, y wiary Chrzesciańskiey, od x. Piotra Skargi Societatis Jesu. (Ktore iż chciał znieść Pan Hieronym Moskorzewski. Znowu ie wydaie x. Jan Gurski). Kraków, 1608 (ОБ 16—18 Hp. 56).
20. Starowolski Sz. Vita et miracula servi Dei, Vincentii Kadłubkonis, Simone Starovolscio scriptore. [Kraków], 1642 (ОБ 16—18 Hp. 69).

***Я. П. Насытка***

## КРЫНІЦЫ ПА ДЭМАГРАФІЧНАЙ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

У артыкуле ставіцца мэта даць агляд крыніц па дэмаграфічнай гісторыі, выявіць іх наяўнасць і ступень захаванасці, правесці аналіз іх верагоднасці і каштоўнасці для выкарыстання ў навуковых даследаваннях.

Па сваіх мэтах, задачах і метадах збору звестак дэмаграфічныя крыніцы разглядаемага ў артыкуле перыяду можна падзяліць на тры вялікія групы, якія адпавядаюць тром самастойным відам ўліку народанасельніцтва: рэвізскаму, адміністрацыйна-паліцэйскаму і царкоўнаму.

Рэвізскі ўлік бярэ свой пачатак з першай чвэрці XVIII ст. Для Расіі гэты перыяд быў знамянальны бурным усплескам эканамічнага развіцця, актыўным будаўніцтвам арміі і флоту. Для гэтага патрабаваліся значныя грашовыя сродкі. Павялічыць даходы казны за кошт старой падворнай сістэмы падаткаабкладання стала немагчымым. Праведзены з фіскальнымі мэтамі ў 1710 г. падворны перапіс выявіў змяншэнне колькасці двароў у краіне ў параўнанні з аналагічным перапісам 1678—1679 гг. на 19,5%[1]. Тыя ж несуцяшальныя вынікі паказаў падворны перапіс 1715—1717 гг.[2]

Неабходнасць папаўнення казны патрабавала пераходу да падушнай сістэмы падаткаабкладання шляхам правядзення рэвізій (перапісаў) падатковага насельніцтва. Пачатак увядзенню ревізій паклаў імянны указ ад 26 лістапада 1718 г.[3], які ў самых агульных рысах намеціў характар і мэты будучага перапісу. Больш канкрэтыкі змяшчаў указ Сената ад 22 студзеня 1719 г., у якім гаварылася аб абавязковай падачы рэвізскіх казак усімі катэгорыямі насельніцтва мужчынскага полу, якія па закону павінны плаціць падаткі (сяляне, мяшчане, купцы і інш.), і адказнасці ўладальнікаў за сакрыццё сваіх падданых[4].

Рэвізіі не былі навукова арганізаванымі аднадзённымі перапісамі. Яны расцягваліся, асабліва першыя, на некалькі гадоў і спалучаліся з паўторнымі праверкамі і ўдакладненнямі сабраных звестак. Усяго было праведзена 10 рэвізій. Іх датыроўку мэтазгодна праводзіць зыходзячы з года, на які прыпадае асноўная колькасць пададзеных рэвізскіх казак: 1-я — 1719 г., 2-я — 1744, 3-я — 1762, 4-я — 1782, 5-я — 1795, 6-я — 1811, 7-я — 1815, 8-я — 1833, 9-я — 1850, 10-я — 1857 г.

Неўзабаве пасля далучэння ўсходніх беларускіх зямель да Расійскай імперыі ў 1772 г. было выдадзена шэраг указаў аб правядзенні тут падушнага пераліку падатковага насельніцтва[5]. Яго вынікі былі аднесены да падрахунку 3-й рэвізіі, якая завяршылася ў 1768 г. Чацвёртая рэвізія таксама ахапіла толькі Усходнюю Беларусь і завяршылася ў адносна кароткі тэрмін: 1781—1782 гг. Яна ўлічыла і некаторыя непадатковыя саслоўі: духавенства, адстаўных вайскоўцаў і інш.

Другі і трэці падзелы Рэчы Паспалітай якраз прыпалі на перыяд правядзення 5-й рэвізіі (1794—1796), якая спецыяльным указам распаўсюдзілася на далучаныя тэрыторыі[6], г. зн. усе далучаныя землі Беларусі былі ўцягнуты ў расійскую падушную сістэму падаткаабкладання.

Правядзенне рэвізій у XVIII ст. было ўскладзена на гарадскія магістраты і ніжнія земскія суды. У XIX ст., пачынаючы з 6-й рэвізіі, сітуацыя змянілася. У кожным павеце ствараліся рэвізскія камісіі на чале з павятовым маршалкам, якія на падставе сабраных рэвізскіх казак складалі кароткую пераліковую ведамасць, адзін экземпляр якой дасылаўся ў павятовае казначэйства, другі — у губернскую казённую палату. Тут з іх ствараліся губернскія пераліковыя ведамасці, якія затым дасылаліся ў Сенат і Дэпартамент розных падаткаў і збораў, што быў створаны ў складзе Міністэрства фінансаў указам ад 5 чэрвеня 1813 г.[7]



Рэвізіі насілі чыста фіскальны характар, а таксама былі падставай для набору рэкрутаў. Ніякіх дэмаграфічных мэт яны не ставілі. Аднак на справе атрымалася так, што рэвізскія матэрыялы сталі унікальнай дэмаграфічнай крыніцай XVIII — першай паловы XIX ст.

Першасным матэрыялам рэвізій з’яўляюцца рэвізскія казкі. Яны ўяўляюць сабой загадзя падрыхтаваныя бланкі, якія патрэбна было запоўніць, адказваючы на пастаўленыя пытанні. Звесткі падаваліся па кожнай сям’і асобнага населенага пункта, затым даныя падсумоўваліся ў рамках маёнтка.

Форма рэвізскіх казак на працягу ўсяго часу праіснавала без значных змен. У тэксце адзначаліся прозвішча, імя і імя па бацьку главы сям’і, імя яго жонкі і дзяцей, іх узрост, саслоўная прыналежнасць і месца жыхарства. Прыводзяцца таксама звесткі аб колькасці жыхароў па папярэдняй рэвізіі з указаннем усіх, хто выбыў у міжрэвізскі перыяд і па якой прычыне («умер в таком-то году», «отдан в рекруты», «находится в бегах», «продан такому-то» і г. д.). Далей змешчаны лічбавыя паказчыкі па дадзенай рэвізіі і адзначана колькасць прыбыўшых з моманту папярэдняй рэвізіі («рожден в таком-то году», «из бегов вернулся», «куплен у такого-то»). У заключэнні прыводзіцца агульны вынік па пэўным населеным пункце.

Пасля заканчэння афіцыйна ўстаноўленага тэрміну падачы рэвізскіх казак па дадзенай рэвізіі праверка яе вынікаў працягвалася аж да пачатку правядзення наступнай шляхам выяўлення асоб (т. зв. «прапісных»), якім удалося ўхіліцца ад уліку ці нейкім чынам былі прапушчаны па віне чыноўнікаў або наўмысных дзеянняў уладальнікаў. На выяўленых душ таксама складаліся рэвізскія казкі. Жаночы пол праверцы не падлягаў. З 30-х гадоў XIX ст. у рэвізскіх казках з’явіліся новыя саслоўныя групы — падаткамі былі абкладзены аднадворцы і грамадзяне заходніх губерняў.

Рэвізскія казкі даюць даследчыкам багаты дэмаграфічны матэрыял. Яны дазваляюць прасачыць эвалюцыю сям’і (сярэдні памер, сярэднюю працягласць жыцця кожнага яе члена), саслоўную прыналежнасць, месца жыхарства, міграцыі і сацыяльную мабільнасць усіх катэгорый рэвізскага насельніцтва. Ёсць магчымасць убачыць таксама трансфармацыю памешчыцкага землеўладання, якая адбывалася шляхам узбуйнення ці скарачэння маёнткаў і змянення колькасці рэвізскіх душ у памешчыкаў. Рэвізскія казкі — незаменная крыніца для даследаванняў у галіне генеалогіі.

Варта, аднак, адзначыць, што даследаваць дэмаграфічную гісторыю вялікага рэгіёна на падставе толькі рэвізскіх казак немагчыма з-за таго,

што большасць з іх не захавалася. Але нават калі ўявіць, што яны ёсць цалкам у наяўнасці, скажам, па губерні, то для іх апрацоўкі аднаму даследчыку ці нават невялікаму калектыву спатрэбіліся б многія гады. Таму дадзеная першакрыніца можа з поспехам быць выкарыстана для аналізу дынамікі структуры сям'і, дворагаспадаркі і іншых пытанняў у рамках горада, вёскі, маёнтка, прыхода, інакш кажучы, пры вывучэнні мікрагісторыі. Пры дастаткова шырокай выбарцы, атрыманыя вывады са значнай доляй верагоднасці можна распаўсюдзіць і на больш шырокі рэгіён.

Некаторая частка рэвізскіх казак па 4—10-й рэвізіях пяці беларускіх губерняў захоўваецца ў фондзе Маскоўскага горнага праўлення Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва Санкт-Пецярбурга[8]. Аднак у асноўным яны аказаліся ў фондах губернскіх казённых палат мясцовых архіваў. У НГАБ у Мінску захоўваюцца рэвізскія казкі Мінскай[9], Віцебскай[10] і Магілёўскай[11] губерняў. Адносна найбольшая іх колькасць — па Мінскай. Па Віцебскай і асабліва Магілёўскай іх засталося няшмат. Рэвізскія казкі Гродзенскай губерні знаходзяцца у Гродзенскім гістарычным архіве[12], а Віленскай — у Нацыянальным гістарычным архіве Літвы. Большасць з іх складзены ў час правядзення 5, 6 і 10-й рэвізій, 9-я і асабліва 7-я прадстаўлены менш поўна.

Зводнымі матэрыяламі рэвізскага ўліку насельніцтва з'яўляюцца пераліковыя ведамасці і акладныя кнігі. Апошнія штогод складаліся ў Дэпартаменце розных падаткаў і збораў на падставе губернскіх пераліковых ведамасцей. Як тыя, так і другія ўключалі прыкладна аднолькавыя даныя. Аснову іх тэксту складалі табліцы аб колькасці і складзе падатковых і непадатковых (акрамя 7-й рэвізіі) груп насельніцтва па паветах і губернях. З 1827 г. у акладных кнігах з'яўляюцца звесткі аб зменах колькасці жыхароў за кошт міграцый, часткова адзначаны міжсаслоўныя пераходы. У асобай графе прыводзяцца лічбавыя дадныя аб часова вызваленых па розных прычынах ад падаткаў, з'яўляюцца звесткі аб купцах трох гільдый. З 1830 г. пачынаецца ўлік дваранства, звесткі аб якім збіраліся нерэвізскім шляхам.

Варта адзначыць, што ў адрозненне ад пераліковых ведамасцей, акладныя кнігі не змяшчалі звестак пра жаночы пол, падаткі на які не распаўсюджваліся.

Па змесце акладныя кнігі можна падзяліць на дзве групы — першасныя і зводныя. Першасныя складаліся на кожны год і змяшчалі падрабязныя даныя аб падатковым насельніцтве і тых, хто знаходзіўся «на льгоце» з уключэннем у спісы выяўленых збеглых і прапушчаных па папярэдняй рэвізіі.

Зводныя з'явіліся ў выніку падсумавання звестак першасных акладных кніг за шэраг гадоў. Для даследчыкаў гэта ў значнай ступені аблягчае статыстычныя падлікі, але ў той жа час маецца істотны недахоп. У пераліковых ведамасцях і першасных акладных кнігах адзначаліся асобна ўсе саслоўі і саслоўныя групы, нават самыя дробныя. Фармуляры гэтых крыніц змяшчаюць звыш 80 іх назваў. Пры складанні зводных акладных кніг чыноўнікамі Дэпартамента дробныя групы аб'яднаны ў роднасныя больш буйныя. Аднак няма поўнай упэўненасці ў абсалютнай дакладнасці гэтых аб'яднанняў. Таму даследчыкам, безумоўна, лепш мець справу менавіта з першаснымі акладнымі кнігамі. Але нават у гэтым выпадку вучоныя і ў наш час зазначаюць пэўныя цяжкасці пры дадзенай групіроўцы. Асабліва гэта тычыцца шматлікіх катэгорый сельскага насельніцтва Беларусі, якія засталіся ў спадчыну ад Рэчы Паспалітай.



Ёсць яшчэ адна акалічнасць, якую трэба ўлічваць працуючы са зводнымі рэвізскімі матэрыяламі. Найбольш дакладнай лічбай колькасці насельніцтва па дадзенай рэвізіі будзе тая, што змешчана ў акладной кнізе за год, які папярэднічае наступнай, таму што ў ёй ўлічаны ўсе выяўленыя ў міжрэвізскі перыяд збеглыя і пазбегшыя перапісу, якіх асабліва было шмат у заходнім рэгіёне імперыі. Да прыкладу, праверка вынікаў 5-й рэвізіі (1796) у 1806 г. выявіла такіх у шасці заходніх губернях: 109 921 душу мужчынскага полу, або 47,5% усіх «прапісных» па імперыі, і 5,4% падатковага насельніцтва[13]. Праверка дакладнасці 7-й рэвізій працягвалася 15 гадоў — з 1816 па 1834 г. Гэта дазволіла выявіць у тых жа губернях значна больш недаўлічаных — 35 645, што складала звыш 22% падатковага насельніцтва[14].

Асноўная маса зводных матэрыялаў па 5—10-й рэвізіях кампактна аказалася ў РДГА[15]. Акрамя таго, па 3-й і 4-й рэвізіях яны захоўваюцца ў фондах экспедыцыі па рэвізіі рахункаў Сената (ф. 558) і Першага дэпартамента Сената (ф. 1341)[16] таго ж архіва, а таксама ў фондзе Ваенна-ўліковага архіва (ВУА) Расійскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва (РДВГА)[17]. Матэрыялы па рэвізіі 1772—1774 гг. ва усходняй Беларусі змешчаны ў фондзе Сената (ф. 248) Расійскага дзяржаўнага архіва старажытных актаў (РДАСА).

Фактычна на матэрыялах рэвізій заснаваны дэмаграфічныя звесткі генеральных межаванняў канца XVIII ст. Так, эканамічныя заўвагі да іх па Віцебскім і Полацкім намесніцтвах знаходзяцца ў фондзе Межавога дэпартамента РДГА[18].

З адменай прыгону і ўступленнем Расіі на шлях капіталістычнага развіцця для народнай гаспадаркі сталі неабходнымі штогадовыя статыстычныя звесткі, у тым ліку і дэмаграфічныя. На змену рэвізіям, якія сталі анахранізмам, прыйшоў новы ўлік насельніцтва — адміністрацыйна-паліцэйскі. Ён быў уведзены з канца XVIII ст., але да сярэдзіны XIX ст. не быў самастойным, а цалкам грунтаваўся на рэвізскім і царкоўным відах уліку.

Сенацкі ўказ ад 19 красавіка 1778 г.[19] патрабаваў ад губернатараў прысылаць у Сенат звесткі аб насельніцтве, звяртаючы ўвагу на механічныя перамяшчэнні ў міжрэвізскі перыяд. Аднак указ належнага водгуку не меў, таму было яшчэ шэраг указаў, але, тым не менш, звесткі паступалі нерэгулярна, няпоўныя і фактычна дубліравалі рэвізіі. Калі-нікалі з'яўляліся даныя аб колькасці і складзе непадатковых саслоўяў. Справаздачы губернатараў XVIII ст. знаходзяцца ў фондзе 16-га разрада РДАСА (РДАСА. Дзярж. архіў, р. XVI).

З пачатку XIX ст. (1802) казённыя палаты абавязаны былі паведамляць губернатарам вынікі рэвізій, а з 1808 г. была ўведзена падрабязная форма справаздач, што паступалі ў Сенат, дзе павінны быць адзначаны колькасць і склад насельніцтва асобна па гарадах і паветах з указаннем падатковых і непадатковых саслоўяў. На самой справе справаздачы да 1830 г. змяшчаюць толькі лічбы агульнай колькасці сельскіх і гарадскіх жыхароў.

З 1830 г. для губернатараў становіцца абавязковым прадстаўленне ў сваіх ведамасцях звестак аб непадатковых саслоўях, але як і раней не ўлічваўся натуральны прырост. І толькі паводле ўказа ад 3 чэрвеня 1837 г. дэмаграфічная частка справаздач губернатараў становіцца больш падрабязнай, што патрабавала ад апошніх расшырэння крыніц збору інфармацыі, найперш звароту да царкоўнага ўліку натуральнага руху насельніцтва. Да вынікаў апошняй рэвізіі штогод даваўся натуральны прырост і ўлічвалася колькасць перасяленцаў. Задача па зборы такой інфармацыі ўскладалася на паліцыю і мясцовыя статкамітэты.

Па матэрыялах губернатарскіх справаздач было складзена некалькі зводных пагубернскіх ведамасцей: за 1826[20]; 1832[21]; 1834[22]; 1846[23]; 1849[24] і 1856[25] гг.

Справаздачы губернатараў за XIX — пачатак XX ст. знаходзяцца ў фондах РДГА: Камітэта міністраў (ф. 1263), Савета Міністраў (ф. 1281), Дэпартамента агульных спраў МУС (ф. 1284) і ўласнай Я. І. В. канцылярыі (ф. 1409). Па беларускіх губернях яны захаваліся, пачынаючы з 1804 г. Праўда, за некаторыя гады першай трэці XIX ст. маюцца пропускі, відаць, у гэты час яны проста не складаліся. Толькі з 1833 г. (а па Магілёўскай губерні з 1829 г.) справаздачы прадстаўлены за кожны год.

Не ўдаючыся ў падрабязны іх аналіз, варта адзначыць, што губернатарскія справаздачы за першую палову XIX ст. маюць значныя недахопы. У адных выпадках, у параўнанні з рэвізіямі, яны завышаюць колькасць насельніцтва, у другіх, наадварот, заніжаюць. Тэндэнцыя да завышэння ў цэлым па Расіі назіраецца з 30-х гадоў XIX ст. і працягваецца фактычна да 1917 г. Галоўная прычына ў двайных падліках мігрантаў, у тым ліку сельскага насельніцтва ў гарадах. У Беларусі сітуацыя была процілеглай, але аб гэтым крыху ніжэй.



Дадзеная крыніца па першай палове XIX ст. для даследчыкаў можа быць толькі дапаможнай. У ёй вартыя ўвагі толькі звесткі аб непадатковых саслоўях і гарадскім насельніцтве, якое адміністрацыйным шляхам чынамі паліцыі перапісвалася даволі дакладна. За некаторыя гады пачынаючы з 1825 г. статыстычныя матэрыялы па гарадах публікаваліся асобнымі выданнямі[26].

З канца 50-х гадоў XIX ст. адміністрацыйны падлік насельніцтва стаў самастойным, ён прыйшоў на змену рэвізіям. Станоўчую ролю ў яго станаўленні адыграў утвораны ў 1858 г. Цэнтральны статыстычны камітэт (ЦСК), які правёў першы ўдачны падлік насельніцтва за 1858 год[27]. Упершыню было ўлічана не прыпіснае, а наяўнае насельніцтва. Уся работа ўскладалася на мясцовую паліцыю, якая «па гарадскіх кварталах і сельскіх станах» збірала неабходныя звесткі і дастаўляла іх губернскім статкамітэтам. Пасля апрацоўкі матэрыялы паступалі ў ЦСК, дзе канчаткова правяраліся і ўдакладняліся. Такі метад уліку насельніцтва, у параўнанні з рэвізіямі, быў больш дасканалым і адлюстроўваў дэмаграфічныя працэсы блізкія да рэальнасці, хаця і меў некаторыя недахопы.

Супастаўленне лічбаў апошняй 10-й рэвізіі (1858) і падлікаў ЦСК на той жа год паказвае, што апошнія на 2—3% перавышаюць вынікі рэвізіі. На першы погляд можа здацца, што статкамітэт завысіў рэальную колькасць насельніцтва. Аднак хутчэй за ўсё наадварот — рэвізія недаўлічыла пэўную частку падатковых саслоўяў, тым больш што яе вынікі не ўдакладняліся.

Аналагічным метадам у 60—90-я гады XIX ст. было праведзена пяць агульнарасійскіх падлікаў насельніцтва: у 1863, 1867, 1870, 1885 і 1894 гг.[28] Іх вынікі былі адпраўной кропкай для цякучага ўліку, у прыватнасці, справаздач губернатараў, дзе за кожны год фіксаваўся натуральны і механічны (далёка не заўсёды) прырост насельніцтва. У гэтай сувязі цікавым уяўляецца супастаўленне лічбаў губернатарскіх справаздач і агульнарасійскіх падлікаў ЦСК за вышэйназваныя гады. Справаздачы нязменна даюць ніжэйшыя лічбы насельніцтва, прычым ступень розніцы значна вагаецца. Найбольшая яна за 1858, 1867 і 1896 гг. Па 35 паветах, што адпавядае тэрыторыі Беларусі, — адпаведна на 74,5, 71,2 і 129,8 тыс. чалавек. У адносных паказчыках розніца нязначная — не больш за 2%. Верагодней усяго ў справаздачах губернатараў не заўсёды ўлічваліся вайскоўцы, гарнізоны якіх былі раскіданы на заходніх межах імперыі, у асноўным па гарадах. З гэтай прычыны,відаць, можна растлумачыць рэзкія ваганні па гадах насельніцтва асобных гарадоў. Яркім прыкладам з'яўляецца Мінск. У 1906 г. у горадзе было зафіксавана 105 203 жыхары, а праз год 96 123[29], або на 9080 чалавек менш. І гэта пры

тым, што натуральны прырост па метрычных звестках за 1907 г. склаў 1638 чалавек. Значыць, розніца прыкладна ў 7400 чалавек прыходзіцца на вайсковы гарнізон, таму што міграцыя ў гарады рэгістравалася даволі поўна.

Выявіць ступень дакладнасці бягучага адміністрацыйнага ўліку дазваляе першы навукова арганізаваны перапіс насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г., які зафіксаваў наяўных жыхароў па стане на 28 студзеня па імперыі 125 653,2 тыс. чалавек, а бягучы ўлік на 1 студзеня 1897 г. — 127 839,1 тыс. чалавек, г. зн. на 2 185,9 тыс. (1,7%) больш. Па асобных рэгіёнах (з актыўнымі міграцыйнымі патокамі) розніца дасягнула 8—9%. У сярэднім па еўрапейскай Расіі перавага перад вынікамі перапісу з-за паўторных улікаў перасяленцаў склала 3,4%.

Зусім іншая сітуацыя з аналагічнай статыстыкай назіралася ў Беларусі, дзе знешняя міграцыя не набыла яшчэ масавы характар. Перапісам 1897 г. у 35 паветах пяці заходніх губерняў зафіксавана 64 905,0 тыс. чалавек, справаздачы ж губернатараў даюць лічбу 63 911,8 тыс. чалавек, г. зн. на 103,8 тыс. чалавек (1,6%) меншую. Можна меркаваць, што пэўны недаўлік наяўнага насельніцтва краю губернскімі статкамітэтамі меў месца і ў 60—80-я гады, прычым не толькі вайскоўцаў амаль выключна не мясцовага паходжання, але і мясцовых жыхароў. Інакш, як растлумачыць, да прыкладу, куды «зніклі», паводле звестак статкамітэта, пры адсутнасці масавых міграцый у даволі спрыяльным 1898 г. 93,0 тыс. сельскіх жыхароў Магілёўскай губерні ў параўнанні з 1897 г.[30]

У цэлым жа штогадовы адміністрацыйны ўлік насельніцтва пяці заходніх губерняў у другой палове XIX ст. недаўлічваў адносна невялікую частку насельніцтва — не больш 2%, у асноўным за кошт ухілення ад перапісу яўрэйскай беднаты. Гэта гаворыць аб дастатковай верагоднасці дадзенай дэмаграфічнай крыніцы. Яна прадстаўлена ў выглядзе архіўных матэрыялаў справаздач губернатараў, якія з канца 50-х гадоў XIX ст. друкаваліся ў «памятных кніжках», а з пачатку 70-х гадоў — у «аглядах» губерняў.

Вынікі перапісу 1897 г. пачалі публікавацца ў пачатку XX ст. асобным томам па кожнай губерні ў алфавітным парадку. Спачатку меркавалася распрацоўку весці па наяўным і пастаянным (прыпісным) насельніцтве. Таму па першых некалькіх губернях, у тым ліку Віленскай і Віцебскай, матэрыял выйшаў у трох сшытках. Затым ЦСК вырашыў спыніцца толькі на наяўным[31].

Перапіс 1897 г. — унікальная, адзіная ў дасавецкі час шматгранная дэмаграфічная крыніца. Яна дае звесткі па паветах і гарадах аб колькасці і складзе насельніцтва па поле, узросце, веравызнаннях, саслоўях, роднай мове, занятках і інш.



У пачатку XX ст. статкамітэты пры дэмаграфічных падліках за аснову бралі вынікі перапісу, затым штогод дадавалі натуральны прырост. Праўда, з улікам механічнага руху насельніцтва і вайскоўцаў ніякай пэўнасці не было.

Фактычна вяліся паралельна два адносна самастойныя падлікі: мясцовымі органамі (агляды губерняў) і ЦСК. Вынікі апошняга за 1904—1910 гг. публікаваліся ў спецыяльных зборніках[32]. Параўнанне дзвюх крыніц паказвае, што падлікі ЦСК былі стабільна вышэйшымі за ўсе гады. Так, у 1910 г., паводле аглядаў губерняў, у 35 паветах налічвалася 8 238,1 тыс. чалавек, а па ацэнцы ЦСК — 8 426,3 тыс. чалавек, г. зн. на 2,3% больш. Якая лічба бліжэй да ісціны? На гэта пытанне можна адказаць шляхам прыбаўлення да паказчыкаў колькасці насельніцтва па пераліку 1897 г. звестак аб натуральным прыросце за 1897—1910 гг. Атрыманая ў выніку лічба аказалася на 105 тыс. вышэйшай за тую, якая вынікае са справаздач губернатараў па стане на 1 студзеня 1911 г. У сапраўднасці такога быць не магло, бо па метрычных запісах колькасць народжаных і памерлых магла быць у пэўнай ступені толькі заніжанай і ніяк не наадварот. Застаецца меркаваць, што міграцыя за межы краю, якая спраўна фіксавалася, перавышала натуральны прырост або проста існаваў недаўлік насельніцтва мясцовымі органамі. На справе, відаць, у некаторай ступені дзейнічалі абедзве прычыны, паколькі натуральны прырост усё ж перавышаў адток перасяленцаў. У цэлым жа па Расіі, згодна з разлікамі У. М. Кабузана, губернатарскія справаздачы завысілі даныя аб насельніцтве ў сярэднім на 4%, а ацэнкі ЦСК — на 7%[33].

У якасці дэмаграфічнай крыніцы пачатку XX ст. варта улічваць таксама звесткі Галоўнага ўрачэбнага інспектара[34], заснаваныя на штогадовых справаздачах губернскіх урачэбных аддзяленняў. Шмат матэрыялаў аб колькасці, складзе і натуральным руху насельніцтва захавалася ў фондах губернскіх статкамітэтаў Мінска, Гродна, Вільні, але асабліва ў фондзе ЦСК (ф. 1290) РДГА. Значную карысць уяўляюць матэрыялы сельскагаспадарчага перапісу 1916 г. і дэмаграфічнага 1917 г., хаця яны не ахоплівалі ўсю тэрыторыю Беларусі.

Цікавыя звесткі для параўнальнага аналізу даюць вынікі перапісу насельніцтва Мінска 27—30 верасня 1917 г.[35] Яны, у прыватнасці, сведчаць, што насельніцтва горада з 1914 г. вырасла на 27,8 тыс. чалавек, або на 26,1% (са 106,6 да 134,5 тыс. чалавек), у асноўным за кошт міграцый мясцовых жыхароў і беглых з заходняга рэгіёна імперыі. Большасць жыхароў (53,0%) былі не мясцовымі ўраджэнцамі, з іх 38,1% прыбылі ў Мінск у 1915 г., што прыпадае на год актыўнага наступлення нямецкай арміі. У нацыянальных адносінах пераважалі яўрэі — 44,1%, далей ішлі рускія — 26,5, палякі — 23,4, беларусы — 2,4%. Падваенне ўдзельнай вагі палякаў з 11,4 (1897) да

23,4% гаворыць аб патоку бежанцаў з Царства Польскага. Прызывы ў войска знізілі долю беларусаў на 6,6%; за межы краю мігравала шмат яўрэяў (у 1897 г. іх было 51,2%); доля рускіх засталася на тым жа ўзроўні[36].

Трэцім самастойным відам дэмаграфічнага ўліку насельніцтва разглядаемага перыяду быў царкоўны. Яго матэрыялы існуюць у выглядзе метрычных кніг і кліравых ведамасцей. Апошнія ўяўляюць сабой спісы прыхаджан, якія спавядаліся і прычашчаліся, што было па закону абавязковым у хрысціянскіх канфесіях. Асабліва пільна за гэтым сачыла праваслаўная царква. У епархіях складаліся ведамасці прыхаджан па паветах з указаннем колькасці жыхароў па ўзросту, поле і частква саслоўях, ліку цэркваў і двароў. Асобна адзначаліся дзеці да 7 гадоў, падлеткі (7—16) і дарослыя. На аснове павятовых Сінод складаў зводныя ведамасці па імперыі.

З пункту погляду дакладнасці і паўнаты ўліку колькасці і складу насельніцтва кліравыя ведамасці значна ўступаюць рэвізіям і адміністрацыйным формам фіксацыі жыхароў.

Больш значную навуковую каштоўнасць уяўляюць метрычныя кнігі — адзіная крыніца па натуральным руху насельніцтва. Іх вядзенне ў Рэчы Паспалітай мела даўнюю традыцыю. У Расійскай імперыі для праваслаўных метрычныя кнігі былі ўведзены з 1722 г. Аднак яны вяліся неахайна, мелі шмат пропускаў і недакладнасцей. Зводныя матэрыялы з епархій, так званыя экстракты, якія павінны былі паступаць у Сінод, дасылаліся нерэгулярна. Таму патрабавалася шэраг указаў (1724, 1764, 1779, 1796, 1824, 1838 гг. і інш.) для нармалізацыі становішча. Толькі з пачатку 60-х гадоў XIX ст. вядзенне метрычных кніг праваслаўных прыходаў наблізілася да нармальнага.

Для іншых канфесій вядзенне метрычных кніг стала абавязковым з канца 20-х — пачатку 30-х гадоў XIX ст.

Фармуляр метрычных кніг быў даволі ўстойлівым і на працягу стагоддзя фактычна не змяняўся. Запісваліся дата нараджэння (хрышчэння) дзіцяці, яго імя, прозвішча і імя па бацьку, дата смерці і яе прычыны, для браўшых шлюб — дата вянчання і іх сведкі. Ва ўсіх выпадках адзначалася саслоўная прыналежнасць.

У першай палове XIX ст. метрычныя кнігі былі крыніцай для выяўлення «прапісных» і збеглых душ у міжрэвізскі перыяд, а выпіскі з іх уваходзілі ў якасці абавязковай часткі звестак аб насельніцтве ў справаздачах губернатараў, а ў другой палове XIX — пачатку XX ст. друкаваліся ў аглядах і памятных кніжках губерняў.

Для сучасных вучоных метрычныя кнігі — невычарпальная крыніца па генеалогіі, гісторыі міжсаслоўных і міжканфесійных шлюбаў, структуры прычын смяротнасці і іншых пытаннях, на якія не даюць адказу зводныя царкоўныя матэрыялы.



Метрычныя кнігі і кліравыя ведамасці па Беларусі ў асноўным захаваліся ў фондах рэлігійных установаў архіваў Мінска, Гродна і Вільні: кансісторый, благачынных, асобных прыходаў, цэркваў, касцёлаў, сінагог. Зводныя матэрыялы царкоўнага ўліку праваслаўнага насельніцтва захоўваюцца ў фондзе канцылярый Сінода (ф. 796) РДГА. Невялікая іх колькасць выяўлена ў фондах Дэпартамента духоўных спраў іншаземных веравызнанняў (ф. 821), канцылярыі мітрапаліта грэка-уніяцкіх цэркваў у Расіі (ф. 823) і фондзе беларуска-літоўскай духоўнай калегіі (ф. 824) РДГА. Большая частка метрычных кніг адносіцца да другой паловы XIX ст.

За 1867—1910 гг. зводныя матэрыялы царкоўнага ўліку насельніцтва па гарадах і паветах за кожны год публікаваліся ў перыядычных статыстычных выданнях[37]. Дэмаграфічныя працэсы ў іх пададзены наступным чынам: нараджальнасць — па поле і месяцах (у тым ліку і пазашлюбная), смяротнасць — па месяцах і ўзросце, шлюбнасць — па месяцах, узросце і «сямейным стане».

Лічбы дадзенага выдання фактычна супадаюць з аналагічнымі са справаздач губернатараў. Толькі за некаторыя гады ёсць нязначныя разыходжанні, што сведчыць аб магчымасці выкарыстання абедзвюх крыніц і нават іх спалучэння, а пры неабходнасці і ўзаемазамены.

Такім чынам, на сённяшні дзень у наяўнасці шырокае кола разнастайных крыніц, якія дазваляюць даволі дакладна распрацоўваць дэмаграфічную гісторыю Беларусі часоў Расійскай імперыі, раскрываць многія яе аспекты і тэндэнцыі. Тым не менш сёння няма даследавання па гісторыі народанасельніцтва Беларусі адзначанага перыяду. З усіх крыніц у навуковы зварот адносна поўна ўведзены толькі зводныя даныя рэвізій, падлікі статкамітэтаў і перапіс 1897 г. Фактычна некранутымі застаюцца царкоўныя матэрыялы аб натуральным руху насельніцтва, якія дазваляюць прасачыць дынаміку дэмаграфічных працэсаў, убачыць іх спецыфіку ў рэгіянальным, канфесійным, сацыяльным, полаўзроставым і іншых аспектах. Заўважым, што праца над імі звязана са шматлікімі лічбавымі падлікамі.

1 Милюков П. Н. Государственное хозяйство России в первой четверти XVIII в. и реформа Петра Великого. СПб., 1892. С. 660.
2 Клочков М. В. Очерки подушной переписи при Петре Великом // ЖМНП. 1915. С. 150.
3 Полное собрание законов (далей — ПСЗ). Т. V. № 3245. С. 597.
4 Там жа. № 3287. С. 618—620.
5 Там жа. Т. XIX. № 13808. С. 507—511; № 13850. С. 553—559; № 13865. С. 571—573.

[6] Там жа. Т. XXIII. № 17253. С. 556—564.
[7] Там жа. Т. XXXII. № 25398. С. 576.
[8] РДГА. Ф. 36. Воп. 1.
[9] НГАБ у Мінску. Ф. 333. Воп. 9.
[10] Там жа. Ф. 2640. Воп. 1.
[11] Там жа. Ф. 2151. Воп. 1.
[12] НГАБ у Гродне. Ф. 24. Воп. 7.
[13] Падлічана па: Кабузан В. М. Народонаселение России в XVIII — первой половине XIX в. М., 1963. С. 131—132.
[14] Там жа. С. 139—140.
[15] РДГА. Ф. 571. Воп. 6, 9.
[16] Там жа. Ф. 558. Воп. 2. Спр. 113—123 (матэрыялы па Магілёўскай губ. за 1783—1786 гг.); Спр. 176—188 (па Полацкай губ.).
[17] ЦДВГА. Ф. ВУА. Спр. 18354, 18840, 18899 (апісанні полацкага насельніцтва 1793 г., Мінскай губ. 1800 г.).
[18] РДГА. Ф. 1350. Воп. 312. Спр. 48, 49, 50, 94, 95, 96.
[19] ПСЗ. Т. XX. № 14733. С. 665—666.
[20] РДВГА. Ф. ВУА. Спр. 18411. Л. 1—4. Спр. 18412. Л. 1—19.
[21] Там жа. Спр. 18415. Л. 80—81, 82—112, 129—130.
[22] РДГА. Ф. 1290. Воп. 2. Спр. 36. Ч. 2. Л. 184—187.
[23] Ведомость о народонаселении России по уездам губерний и областей, составленная из всеподданнейших отчетов губернаторов при Стат. отдел. МВД за 1846 г. А.К. СПб., 1850.
[24] Статистические таблицы, составленные в Стат.отдел. Совета МВД по сведениям за 1849 г. СПб., 1852.
[25] Статистические таблицы Российской империи за 1856 г. СПб., 1858.
[26] Статистическое изображение городов и посадов Российской империи по 1825 г. … СПб., 1829; Обозрение состояния городов Российской империи в 1833 г. СПб., 1834; Статистические таблицы о состоянии городов Российской империи. СПб., 1840 (звесткі за 1838 г.); Статистические таблицы о состоянии городов Российской империи (по 1 мая 1847 г.). СПб., 1852; Артемовский С. Статистико-географическая таблица Российской империи. СПб., 1855 (звесткі за 1849 г.).
[27] Статистические таблицы о состоянии городов Российской империи. Вып. II. Наличное население империи за 1858 г. СПб., 1863.
[28] Статистический временник Российской империи, сер. 1, вып. 1. СПб., 1866; то же, сер. 2, вып. 1. СПб., 1871. Наличное население Российской империи на 1867 г.; то же, сер. 2, вып. 10. СПб., 1875. Наличное население Российской империи за 1870 г.; то же, серия 3, вып. 8. СПб., 1886. Сборник сведений по России за 1883 г.; Статистика Российской империи, вып. 1. СПб., 1887; Сборник сведений по России за 1884—1885 годы; то же, вып. 11. СПб., 1897. Сборник сведений по России 1896 г.
[29] Памятная книжка Минской губернии на 1908 г. Мн., 1907. С. 91; … на 1909 г. Мн., 1908. С. 105.



[30] Памятная книжка Могилевской губернии на 1898 г.; Обзор Могилевской губ. за 1898 г. (таблицы).
[31] Первая всеобщая перепись населения Российской империи. Вып. IV, тетрадь 1—3. Виленская губ.; Вып. V, тетрадь 1—3. Витебская губ.; Вып. XI. Гродненская губ.; Вып. XII. Минская губ.; Вып. XXIII. Могилевская губ.
[32] Ежегодник России. 1904—1910. СПб., 1905—1910; Статистический ежегодник России. 1911—1916. СПб., Пг., 1911—1918.
[33] Кабузан В. М. О достоверности учета населения России (1858—1917) // Источниковедение отечественной истории. 1981. М., 1982. С. 115—116.
[34] Отчет о состоянии народного здравия и организации врачебной помощи в России за 1896—1914 гг. СПб., 1905—1916; РДГА. Ф. 1298. Воп. 1. Спр. 2851, 2858 (звесткі за 1915—1916 гг.).
[35] Перепись населения г. Минска, произведенная 27—30 сентября 1917 г. Мн., 1918.
[36] Там жа. С. а, б, в.
[37] Статистический временник Российской империи, сер. 2, вып. 8, 12—14, 17, 18, 20—25. СПб., 1872—1884; сер. 3, вып. 3, 6, 7, 20, 21, 23—25. СПб., 1884—1890; Статистика Российской империи. Т. 11, 12, 18, 21, 24, 33, 34, 38, 41, 45, 47, 48, 50, 56, 58, 62, 63, 66, 70, 74, 84, 85, 87, 88, 91, 93. СПб., 1890—1916.

# ТЭКСТАЛОГІЯ

**_Г. В. Кісялёў_**

## НАД ЗАГАДКАМІ СКАРЫНЫ («ФЕОДОСИЙ… УЧИТЕЛЬ ВЕЛИКИЙ ГРЕЧЕСКАГО ЯЗЫКА»)

Як вядома, Ф. Скарына ў сваіх прадмовах не аднойчы спыняўся на гісторыі стварэння біблейскіх кніг, выказваў думкі пра іх вераемных аўтараў і перакладчыкаў, з патрыятычнай гордасцю падключаючы да гэтага шэрагу і свой пераклад. Так, у прадмове да кнігі «Ісус Сірахаў» (1517) наш беларускі першадрукар і асветнік расказаў пра ўзнікненне этапных перакладаў Бібліі на грэчаскую і лацінскую мовы (т. зв. Септуагінту і Вульгату), пра перакладчыцкую дзейнасць сямідзесяці двух вучоных біблеістаў-«талкоўнікаў» пталамееўскай эпохі і святога (блажэннага) Ераніма (ці Герасіма, як любіў называць яго Скарына). Натуральным працягам гэтай размовы гучалі словы: «Прото ж и я для похвалы божией и для посполитого доброго и размножения мудрости, умения, опатрености, разуму и науки приложил есм працу выложити книгу сию на рускый язык…»[1] Цікава, што якраз у гэтай кнізе надрукаваны партрэт Ф. Скарыны як годнага прадаўжальніка традыцый «размножения мудрости», біблейскіх перакладаў на мовы народаў свету. У кароткай форме гэтыя звесткі паўтораны ў прадмове да кнігі «Эсфір» (1519). А вось у прадмове да кнігі «Прарок Данііл», якая выйшла ў тым самым 1519 г., Септуагінта ўжо не згадваецца, а пабудаваны наступны храналагічна-сэнсавы шэраг: «Потреба теже ведати, иже сия книга святого пророка божия Даниила написана ест во Іудеи халдейским языком, а еврейскими словами…

Феодосий же, учитель великий греческаго языка, выложил с хальдейскаго писма на греческое, и светый Ероним — на латинское зуполне. А подле их выкладу не толико чтеть Данила-пророка церков Христова латинским а греческим языком, но и сирским, и египетским.

Аз теже, недостойный последовник их, нароженый в русском языку … межи иными пророки светыми выложих и Данила … на руский язык зуполне»[2].

Такім чынам, Ф. Скарына называе сябе прадаўжальнікам справы Феадосія і Ераніма, іх «последовником» (цудоўнае беларускае слова, аказваецца, мае вунь які самавіты ўзрост). Імя Ераніма, стваральніка знакамітай Вульгаты, агульнавядомае і ніякіх пытанняў не выклікае. А хто ж такі перакладчык Бібліі (ці, прынамсі, тэкстаў прарока Данііла) на грэчаскую мову Феадосій? Нельга сказаць, каб гэтае імя было на слыху. Адчуваецца ў дадзеным выпадку і пэўная разгубленасць навукоўцаў-спецыялістаў. У Скарынаўскай энцыклапедыі (1988), закліканай даць адказы на ўсе падобныя пытанні, знаходзім даведку: «Феадосій I або Вялікі (Theodosius) Флавій (каля 346—395 гг.), рымскі



імператар з 379 г. У 382 г. дабіўся шэрагу перамог над вестготамі. З 381 г. выдаў шмат строгіх распараджэнняў супраць язычнікаў. Пры ім хрысціянства прызнана канчаткова дзяржаўнай рэлігіяй, было разбурана шмат язычніцкіх храмаў (храм Сератка), спалена значная частка Александрыйскай бібліятэкі. У 394 г. кароткі час трымаў у сваіх руках уладу над 2 часткамі Рымскай імперыі. У 395 г. раздзяліў імперыю паміж сынамі Аркадзіем і Ганорыем. Скарына піша пра Феадосія ў прадмове да кн. «Прарок Данііл»[3]. Але, разглядаючы постаць імператара Феадосія, наш асветнік меў на ўвазе кагосьці іншага — не чалавека ўлады, а чалавека навукі, кніжнай мудрасці, спасціжэння таямніц слова і сакральных тэкстаў. У «Творах» Ф. Скарыны 1990 г. прыведзены наступныя каментарыі заслужанага медыявіста і скарыназнаўцы А. Коршунава: «*Феадосій* — у Скарыны — выдатны настаўнік грэчаскай мовы, які пераклаў з халдзейскай мовы поўны тэкст кнігі «Прарок Данііл». Дадатковых звестак пра гэтага перакладчыка адшукаць не ўдалося»[4]. Але ж у Ф. Скарыны, як вынікае з яго характарыстыкі асобы, размова ідзе пра вельмі вядомае імя, пра асобу, якая ўяўляе сабой этапную з'яву ў біблеістыцы і грэчаскай філалогіі, — ці ж маглі ў такім выпадку не захавацца хоць нейкія звесткі?

Дарэчы, з гэтым каментарыем можна паспрачацца і адносна іншай дэталі — пра значэнне слова «учитель» у скарынаўскую эпоху. Для Ф. Скарыны гэта не абавязкова «настаўнік», «выкладчык», а хутчэй — «вучоны муж», «знаўца», «мэтр». У гэтым лёгка пераканацца, пагартаўшы том «Твораў» нашага першадрукара, а таксама зазірнуўшы ў «Слоўнік мовы Скарыны». У згаданай вышэй прадмове да кнігі «Ісус Сірахаў» стваральнікі Септуагінты характарызуюцца як творчы хаўрус «мужей избранных, в законъ божием и в пророцех и во всех иных писмех святых добре наученых, духа святого и философии исполненых, еврейскаго языка и греческаго досконале умелых»[5]. І далей пра гэты ж самы хаўрус: «Сии же седмъдесят и два *учителя* выложили суть из еврейскаго языка на греческый закон божий, даный Моисею на горъ Синайской…»[6] Разгорнутае тлумачэнне таго, што разумелася пад словамі «учитель», Скарына падаў вышэй. «Великим учителем» у іншым месцы (прадмова да кнігі «Левіт») Ф. Скарына называе і Ераніма-Герасіма[7]. Ужываў гэта слова ён і ў самаатэстацыях: «Доконана ест книга Есфер … повелением ученого мужа … из славнаго града Полоцька, в науках и в лекарстве учителя…»[8] Тут «учитель» — сінонім слова «доктор», якое звычайна выкарыстоўвалася Скарынам у такіх выпадках. Так што «учитель» для Ф. Скарыны зусім неабавязкова «настаўнік» у сённяшнім значэнні. Ён, як, мабыць, і яго сучаснікі, надаваў гэтаму слову больш шырокі сэнс.

Зрабіўшы лексічную даведку, вернемся зноў да асобы Феадосія, імя якога ў розных формах побач з імем Ераніма (Герасіма) Ф. Скарына згад-

вае і ў дзвюх унутраных тэксталагічных рэмарках да свайго перакладу кнігі «Прарок Данііл». Размова ў рэмарках ідзе пра непаўнату яўрэйскіх версій Біблії, пра адсутнасць у іх некаторых важных мясцін. Пропускі-лакуны пералічаны ў прадмове, так што існуе сувязь паміж прадмовай і рэмаркамі. На жаль, рэмаркі, своеасаблівыя скарынаўскія мінітэксты, як і шматлікія надпісанні раздзелаў глаў, подпісы-анатацыі да ілюстрацый, у «Творы» Скарыны не трапілі, цытуем іх паводле факсімільнага выдання Бібліі. У першым выпадку імя Феадосія лацінізавана. Уся рэмарка гучыць так: «Даже дотоле во еврейских книгах не писано ест. А то еже положил есми с Теодозиева выкладу греческаго и с Еронимова латинскаго выложих»[9]. І другая рэмарка: «Речи же нижей положеные во книгах Данила пророка знашол есм в писме греческом выкладу Феотосиева и во книгах латинъских Ерасимовых и выложих на руский язык»[10]. Гэтыя дадатковыя згадкі Феадосія заўважыў Я. Неміроўскі (гл. яго вядомую манаграфію[11], а таксама артыкул у Скарынаўскай энцыклапедыі[12]), але даследчык не паставіў пытання пра яго ідэнтыфікацыю (у паказальніку імёнаў манаграфіі — «Феодосий, переводчик Библии»). Між тым такога перакладчыка біблеістыка не ведае. Несумненна, Ф. Скарына недакладна назваў імя свайго далёкага папярэдніка ў справе перакладаў Бібліі.

Каго ж ён меў на ўвазе? Можа Феафілакта? Прыгледзімся. Візантыйскі багаслоў і пісьменнік Феафілакт Балгарскі (інакш Ахрыдскі, XI—XII стст.) паходзіў з вострава Эўбея (Грэцыя). У 70-х гадах XI ст. быў настаўнікам рыторыкі ў Канстанцінопалі, потым дыяканам храма св. Сафіі. Належаў да вышэйшага кліру, быў блізкі да двара імператара Міхаіла VII, стаў выхавальнікам наследніка прастола Канстанціна. Так што перад намі па ўсіх пунктах сапраўдны настаўнік. І да таго ж не апошні багаслоў. У 1088 г. ён быў пасланы ў якасці архіепіскапа ў толькі што далучаную да Візантыйскай імперыі Балгарыю. Галоўная яго праца, якая карысталася вялікай папулярнасцю ў сярэднія вякі, — тлумачэнні Святога Пісання. Важнай гістарычнай крыніцай з'яўляюцца яго шматлікія каларытныя лісты з Балгарыі. Дык што — Ф. Скарына меў на ўвазе Феафілакта? Калі б такое меркаванне пацвердзілася, гэта ўзбагаціла б скарыназнаўства новымі звесткамі пра сувязі беларускага асветніка з культурай не толькі Візантыі, але і старадаўняй Балгарыі. Але гэта не так. Феафілакт — не перакладчык, а каментатар Бібліі, і таму яго асоба ў кантэксце ажыццяўляемага намі пошуку не можа задаволіць.

Шукаем далей, перабіраем імёны падзвіжнікаў біблеістыкі, культурных дзеячаў далёкай эпохі.

Зварот да гісторыі біблейскіх перакладаў пераконвае нас, што Ф. Скарына меў на ўвазе Феадатыёна. Гэта імя яшчэ на першых скарынаўскіх чытаннях у 1986 г. назваў Вячаслаў Чамярыцкі ў дакладзе «Літаратурныя крыніцы скарынаўскіх прадмоў». «Хутчэй за ўсё, — зазначыў вядомы даследчык даўняй беларускай літаратуры, — тут маецца на ўвазе антычны перакладчык Феадатыён, што жыў у II ст. н. э. Яму належыць поўны ўдакладнены пераклад Старога Запавету на грэчаскую мову, які месцамі пераўзыходзіць нават класічную Септуагінту. У прыватнасці, кнігу Данііла ён пераклаў настолькі ўдала, што ў кананічныя тэксты грэчаскай і славянскай біблій быў уключаны іменна пераклад Феадатыёна замест ранейшага перакладу 72 «талкоўнікаў» на грэчаскую мову»[13]. На вялікі жаль, шмат якія даследчыцкія навацыі, знаходкі, адкрыцці далёка не адразу становяцца агульнапрызнаным здабыткам навуковай грамадскасці.



Тым не менш у 1991 г. прапанову В. Чамярыцкага рашуча падтрымала Алена Яскевіч у грунтоўным артыкуле «Ф. Скарына і патрыстыка». Яе досвед асабліва каштоўны для нас тым, што яна займалася адначасова і гісторыяй філалогіі, і біблеістыкі. «Феадацьёну, — зазначыла маладая даследчыца (захоўваем прапанаваную ёю даволі ўдалую альтэрнатыўную форму беларускай транскрыпцыі старажытнага імя), — пры новай перапрацоўцы Старога Запавету ўдалося знайсці разумны кампраміс паміж літарай і духам тэксту, невыпадкова ў старажытнасці яму аддавалася перавага перад славутай Септуагінтай»[14].

Азнаямленне з матэрыяламі па гэтым надзвычай цікавым пытанні прымушае цалкам далучыцца да высноў В. Чамярыцкага і А. Яскевіч. Аргументацыя, калі падсумаваць, наступная:

1. Выходнае палажэнне: як ужо гаварылася, перакладчыка-біблеіста Феадосія, тым больш такога маштабу («учитель великий греческаго языка»), не было.

2. Фанетычная і марфалагічная блізкасць і нават блізкасць сэнсавага значэння імёнаў «Феадосій» і «Феадатыён». У абодвух выпадках іх значэнне ў перакладзе з грэчаскай мовы — «Богам дадзены». Па сутнасці, дадзеныя імёны адрозніваюцца толькі суфіксам. Магчыма, Ф. Скарына, які, вядома ж, добра валодаў старажытнымі мовамі, проста гуляў са словам, міжволі ўспамінаючы пры гэтым і адэкватную вельмі папулярную славянскую форму «Багдан» (так звалі і яго віленскага мецэната). Нельга не адзначыць, што разнабой у напісанні імя перакладчыка існаваў і ў рэальнасці: па некаторых звестках[15] у старажытных рукапісах сустракалася і такое напісанне: Θεοδοτοσ — у беларускай адаптацыі — «Феадотас». Адсюль ужо зусім блізка да формы, прынятай Скарынам.

3. Ф. Скарына меў на ўвазе этапную з'яву ў перакладах Св. Пісання на грэчаскую мову, менавіта такой з'явай, значнай, у пэўным сэнсе знакавай постаццю быў Феадатыён.

4. Ф. Скарына гаварыў пра «Феадосія» ў прадмове да кнігі «Прарок Даніїл», а менавіта такім перакладам, як слушна заўважыў В. Чамярыцкі, асабліва вылучаўся творчы даробак Феадатыёна.

Імя Феадатыёна (або бліжэй да лацінскай версіі — Тэадатыёна) добра вядомае спецыялістам. Нават у нядаўнюю ваяўніча-атэістычную эпоху, не самую спрыяльную для біблеістычных даследаванняў, у адной з манаграфій, што выйшла ў Мінску ў 1970 г., можна было прачытаць: «Для реконструкции первоначального библейского текста имеют важное значение «перевод 70 толковников» (III—II вв. до н. э.), так называемое Самаритянское пятикнижие, обнаруженное в начале XVII в., переводы Библии на арамейский язык, перевод Иеронима на латинский язык (IV в. н. э.), отрывки переводов на греческий язык Аквилы, Теодотиона и Симмаха, «Гексапла» Оригена (III в. н. э.)»[16]. Як бачым, Тэадатыён (Феадатыён) названы ў ліку самых заслужаных захавальнікаў біблейскай аўтэнтыкі. Нездарма да яго перакладу для рэканструкцыі тэксту кнігі «Прарок Даніїл» звярнуўся Ф. Скарына.

Больш падрабязна гэтыя пытанні асвятляліся ў папярэдняй літаратуры. У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі я прагледзеў рускія і польскія энцыклапедыі XIX — пачатку XX ст., у якіх біблеістыцы надавалася значная ўвага. І ва ўсіх выданнях у гаворцы пра грэчаскую версію Біблії выстройваецца ланцужок: Септуагінта — Аквіла (або Акіла) — Феадатыён (Тэадатыён) — Сімах і г. д.

Грунтоўны артыкул прысвяціла Феадатыёну вядомая энцыклапедыя Бракгаўза і Ефрона, пазнавальнае значэнне якой не змяншаецца з часам. З матэрыялаў артыкула[17] відаць, што Феадатыён быў выхадцам з грэчаскіх калоній Малой Азіі, дзе навучыўся яўрэйскай мове, жыў у часы імператара Камода (і Марка Аўрэлія — дададзім мы) і свой пераклад зрабіў на пачатку другой паловы II ст. У артыкуле з усёй відавочнасцю паказваецца, што гэты пераклад быў значным этапам у стварэнні грэчаскай версіі Біблії, асабліва вылучаецца яго пераклад кнігі прарока Даніїла. Прыводзяцца шматлікія водзывы біблеістаў рознага часу: «Св. Ипполит толковал книгу пророка Даниила по переводу Феодотиона. Новые ученые (напр., Шурер) считают его перевод древнее перевода Акилы, но это едва ли справедливо. По свидетельству Епифания, Феодотион имел целью исправление перевода LXX [рымскай лічбай «70» пазначаецца Септуагінта]. В тех местах, где этот перевод неясно выражал или опускал мысль, Феодотион делал поправки соответственно еврейскому подлиннику. По свидетельству Евсевия и Иеронима, он старался не удаляться значительно от текста LXX толковников и был к последнему ближе Акилы и Симмаха. Поэтому, считая неправильным в переводе LXX текст книги пророка Даниила, церковь, по свидетельству Иеронима, воспользовалась переводом Феодотиона как наиболее сходным по



языку с переводом LXX. Поэтому ж и Ориген в своих гексаплах, в случае пропусков у LXX, пополнения делал из перевода Феодотиона. До 400 стихов кн. Иова и доселе в греческой Библии остаются из перевода Феодотиона. Книга пророка Даниила в нашей славянской Библии переведена с перевода Феодотиона. По языку и характеру своему перевод Феодотиона занимает средину между Акилою и Симмахом, не так «рабствует еврейской литере», как Акила, и не так от нее уклоняется, как Симмах. Древние толковники относились осторожно и к этому переводу. Иероним замечает, что «Феодотион наравне с Акилою и Симмахом многие тайны о Спасителе сокрыл ложным толкованием». В переводе Феодотиона особенно выдается сохранение без перевода многих еврейских слов».

Апошняя акалічнасць тлумачыцца аўтарамі «Еврейской энциклопедии» тым, што Феадатыён недастаткова ведаў яўрэйскую мову, не родную для яго. У цэлым жа перакладу і там даецца высокая ацэнка: «…он удачно избежал дословности Аквилы и его греческий текст несравненно более удобен для чтения»[18].

Феадатыён, як і блізкія да яго па часе Акіла і Сімах, працавалі ў раннехрысціянскі перыяд, калі канчаткова каноны хрысціянства яшчэ не складіся. Таму больш позні біблеісты ставіліся да іх з недаверам. Тым не менш Еранім пры ўсёй сваёй крытычнасці[19] прызнаваў вартасці Феадатыёна-перакладчыка. Яшчэ больш вышэйшую ацэнку («учитель великий греческаго языка») з усёй уласцівай яму душэўнай шчырнёй і шчодрасцю даваў свайму далёкаму папярэдніку Ф. Скарына. За аснову свайго перакладу кнігі «Прарок Даніїл» беларускі першадрукар і асветнік, паводле ўласнага прызнання, узяў версіі Феадатыёна і Ераніма.

Факт непасрэднага звароту Ф. Скарыны да тэкстаў Феадосія адзначаны В. Дышыневіч у артыкуле «Першакрыніцы ў выданнях Ф. Скарыны»[20], але даследчыца не паспрабавала разабрацца, хто хаваецца за гэтым імем. Не пашанцавала выбітнаму эліну і ў «Слоўніку мовы Скарыны», дзе чытаем тлумачэнне: «*Теодозиевъ* — які належаў Цэадозію»[21]. Адсылкі да Феадосія (ужо не кажучы пра Феадатыёна) у ім няма. Затое з'явіўся, магчыма праз памылку друку, — ужо зусім недарэчны Цэадозій. «Феодосий» у адпаведным месцы слоўніка[22] пракаменціраваны ў старамодным духу: «настаўнік грэчаскай мовы, перакладчык з халдзейскай мовы на грэчаскую». Агульнаўжывальная форма імя перакладчыка так нідзе і не згадваецца. І гэта яшчэ раз пераконвае нас у мэтазгоднасці нашага экскурсу.

Думаецца, што гэты экскурс не будзе лішнім для канчатковага вырашэння скарынаўскай «загадкі Феадосія», для замацавання вынікаў даследаванняў В. Чамярыцкага і А. Яскевіч. З другога боку, ён дадае пэўныя нюансы ва ўяўленні пра крыніцы Скарынавых перакладаў Біблії,

пра грунтоўную абазнанасць беларускага першадрукара і асветніка ў пытаннях біблеістыкі, яго ўвагу да крыніцазнаўства і тэксталогіі.

Больш таго, пэўныя аспекты прадмовы Ф. Скарыны да кнігі «Прарок Даніїл» разам з яго тэксталагічнымі рэмаркамі да свайго перакладу дазваляюць нам лічыць Ф. Скарыну пачынальнікам навуковай тэксталогіі на землях Беларусі. Асабліва ўражвае, што Ф. Скарына не толькі прарабіў значную тэксталагічную працу на розных узроўнях, але і палічыў патрэбным спыніць на гэтых пытаннях увагу свайго «паспалітага» чытача.

1 Скарына Ф. Творы: Прадмовы, сказанні, пасляслоўі , акафісты, пасхалія / Скл. А. Ф. Коршунаў. Мн., 1990. С. 25.
2 Там жа. С. 69—70.
3 Францыск Скарына і яго час: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1988. С. 531.
4 Скарына Ф. Творы. С. 171.
5 Там жа. С. 23.
6 Там жа. С. 24.
7 Там жа. С. 56.
8 Там жа. С. 72.
9 Біблія: Факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Францыскам Скарынаю ў 1517—1519 гг.: У 3 т. Т. 3. Мн., 1991. С. 724.
10 Там жа. С. 764.
11 Немировский Е. Л. Франциск Скорина: Жизнь и деятельность белорусского просветителя. Мн., 1990. С. 277.
12 Неміроўскі Я. Л. Кніга «Прарок Даніїл» // Францыск Скарына і яго час. С. 372.
13 Спадчына Скарыны: Зб. матэрыялаў першых скарынаўскіх чытанняў (1986). Мн., 1989. С. 116.
14 Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1991. № 3. С. 95.
15 Еврейская энциклопедия: Свод знаний о еврействе и его культуре в прошлом и настоящем. СПб., «Б. г.». Т. 4. С. 509.
16 Лившиц Г. М. Очерки историографии Библии и раннего христианства. Мн., 1970. С. 93.
17 Θеодотіонъ // Энциклопедический словарь. Издатели Ф. А. Брокгауз, И. А. Ефрон. Т. 82. СПб., 1904. С. 290. Дадзены артыкул без змен паўтораны ў трохтомнай энцыклапедыі «Христианство», якая выйшла ў Маскве ў 1993—1995 гг.
18 Еврейская энциклопедия. Т. 4. С. 509—510.
19 Гл. кн.: Творения блаженного Иеронима. Киев, 1863. Т. 1. С. XCIX (кніга маецца ў ЦНБ НАН Беларусі).
20 Францыск Скарына і яго час. С. 448.
21 Слоўнік мовы Скарыны // Анамастыка і тапаміміка. Мн., 1994. Т. 3. С. 220.
22 Там жа. С. 229.



***І. П. Клімаў***

## ДАСЛЕДАВАННЕ ПЕРАКЛАДАЎ НОВАГА ЗАПАВЕТУ СЫМОНАМ БУДНЫМ

Найбольш істотнымі праявамі рэфармацыйных ідэй з'яўляліся біблейныя пераклады, якія ахоплівалі як цалкам усю Біблію, так і асобныя яе часткі, перш за ўсё Новы Запавет ці Псалтыр. Менавіта Новаму Запавету як галоўнаму падмурку веры надавалася ў пратэстанцкіх плынях найвялікшая ўвага; менавіта пераклады гэтай часткі Св. Пісання з'яўляліся найперш і яны ж выклікалі вострыя спрэчкі.

Сваю перакладчыцкую дзейнасць пратэстанты Беларусі распачалі ў эпоху, калі біблейная навука на Захадзе дасягнула апагея [3, с. 316—319]. У шэрагу заходніх публікацый меліся самыя разнастайныя выданні — ад мануметальных паліглот да кішэнных выданняў; ад шматтомных каментарыяў на ўсю Біблію ці асобныя яе часткі да тэзаўрусаў і разначытанняў, вынесеных на маргінэс старонкі. Колькасць перакладаў на народныя мовы ў Заходняй Еўропе можна было лічыць дзесяткамі.

У поўнай меры гэта філалагічнае багацце скарыстаў адзін з дзеячаў польска-беларускай Рэфармацыі Сымон Будны. Сярод сваіх паплечнікаў па антытрынітарнай плыні, што ахапіла з пачатку 1560-х гг. частку пратэстанцкіх супольнасцей Польшчы і Беларусі, ён вылучаўся шырокай эрудыцыяй у галіне сакральнай тэксталогіі і глыбокімі лінгвістычнымі ведамі не толькі ў біблейных мовах, вядомых адукаванай Еўропе, але нават і ў мове царкоўнаславянскай.

Біблеістычны досвед С. Буднага атрымаў прызнанне дзякуючы яго перакладам Св. Пісання, што выйшлі ў 1570-х гг. у розных мястэчках ВКЛ: Новы Запавет (Нясвіж, 1570; далей — NT70) разам з т. зв. апокрыфамі (шэраг кніг Старога Запавету, якія пратэстанты лічылі некананічнымі), Біблія (Нясвіж; Узда, 1572; далей — B72) і Новы Запавет (Лоск, 1574; далей — NT74). Значэнне гэтых выданняў тым большае, што яны з'яўляліся не толькі перакладамі, але і давалі ў выглядзе маргіналій ці каментарыяў у канцы тэксту (у выглядзе т. зв. «прыпісак») эксплікацыю перакладчыцкай працы і біблейнай крытыкі (выклад і публікацыю тэксту «прыпісак» NT74 гл.: [6, с. 72—80, 139—178]).

На той час пратэстанты Беларусі ўжо мелі некалькі перакладаў як на польскай мове, так і на старабеларускай [3, с. 319—321, 337]. Самым выдатным з іх з'яўляецца т. зв. Радзівілаўская біблія (Брэст, 1563; далей — RB63), над якой працаваў калектыў перакладчыкаў, у т. л. некалькі запрошаных з замежжа знаўцаў біблейных моў. Крыху пазней Новы Запавет з RB63 быў перавыдадзены асобна (Брэст, 1566). У хуткім часе тэкст

RB63 быў у асноўным паўтораны ў Новым Запавеце (Нясвіж, 1568; Лоск (?), 1580), падрыхтаваным невядомым рэдактарам, які, аднак, прамаўчаў пра сваю залежнасць ад RB63. Васіль Цяпінскі пераклаў на старабеларускую мову Евангелле (далей ЕЦ) і ў 1570-х гг. выдаў яго (на жаль, не поўнасцю, захаваліся толькі Мц. и большая частка Мк.) недзе на Беларусі ў выглядзе дыглоты з паралельным царкоўнаславянскім тэкстам.

Тэарэтычныя погляды С. Буднага па шырокім коле пытанняў перакладу і крытыкі Новага Запавету выкладаліся ў яго прадмовах да выданняў. Гэта была звычайная практыка таго часу ў Еўропе. У прадмове да B72 Будны ўвогуле не зрабіў пэўных заўваг аб Новым Запавеце. Свае меркаванні наконт новазапаветнай крытыкі ён падаў у прадмове да NT74 (выклад гэтага важнага твора зроблены ў шэрагу прац [6, с. 61—71; 1, с. 57—58; 2, с. 87—98; 3, с. 323—328; 9, с. 85—115]; цалкам тэкст прадмовы перадрукаваны [6, с. 115—139]). У гэтай прадмове С. Будны, між іншым, адзначаў, што некаторыя месцы ў яго перакладзе Новага Запавету пры друку B72 былі адвольна зменены без узгаднення з перакладчыкам. Таму Будны адмовіўся ад перакладу, што выйшаў у B72: *przekład miey za cżiy chcesz / iedno by nie za moy* (арк. d.).

С. Будны быў, напэўна, адзіным сярод польскіх і беларускіх біблеістаў, хто быў незадаволены існуючым тэкстам Св. Пісання і імкнуўся аднавіць яго ў былой чысціні [2, с. 87; 2, с. 323]. У сваёй крытыцы С. Будны імкнуўся выкрыць *fałsze y omyłki* біблейнага тэксту ды даць унутрана несупярэчлівы і вытрыманы тэкст Св. Пісання. У сваёй прадмове да NT74 Будны выкладае тую праграму, паводле якой збіраецца весці крытыку біблейнага тэксту: *Napierwey to pokażemy / ze w Nowem testamenće (tak te księgi dla zwycżaiu przyiętego zwać muszę) iest wiele nie iedno omyłek / ale co gorszego y fałszu. To prszewiodszy / pokarżem y ono / zkąd te omyłki y fałsze wzięty. Potem w ktorem ięzyku pismo Apostolskie iest szczyrsze / y nie tak dalece pofałszowanie. Na ostatek / skąd to pismo zaś ma być naprawione / a ku pierwszey szczyrośći y prawdzie przywrocone* (арк. b. адв.—b. ii). Такім чынам, яго крытыка засяроджана на чатырох пазіцыях: паказ памылак у тэксце Св. Пісання, а таксама крыніц іх узнікнення, вылучэнне найменш сапсаванай версіі Новага Запавету, вызначэнне спосабаў паляпшэння тэксту. Таму гэтая прадмова Буднага з’яўляецца адной з найбольш каштоўных крыніц для вывучэння поглядаў польска-беларускай Рэфармацыі на тэорыю біблейных перакладаў. Даследчыкі нездарма называюць гэты твор уводзінамі, ці пралегоменамі да біблейных штудый [1, с. 57].

С. Будны пачынае са сцвярджэння, што розныя версіі і выданні Св. Пісання маюць шмат памылак і нават фальшаванняў: *Nowe testamenty / … tak są pokażone / pofałszowane / że nie wiem iesli by co mogło być gorzey pokażone*[o] (арк. b). Таму евангельскае апавяданне не заўсёды згоднае паміж сабой у дэталях, што Будны паказвае на прыкладах з евангелляў і некаторых апостальскіх лістоў (арк. b. ii—b. iii адв.). Ён падкрэслівае, што супярэчлівасці, досыць шматлікія, узнікаюць пры параўнанні паміж сабой нават грэчаскіх тэкстаў, не толькі лацінскіх (арк. b. ii адв.). Спасылаючыся на працы Эразма ды іншых філолагаў і крытычныя выданні грэчаскага тэксту, С. Будны адзначае, што гэтыя хібы праніклі з трох крыніц: *Pierwsza iest głupstwo pisarzow / Druga, chytrość albo zdrada Heretykow. A trzeća omylność tłumacżow* (арк. b. iiii). Далей ён пераходзіць да аналізу кожнай з гэтых крыніц.



Напачатку С. Будны задае класіфікацыю памылак, што ўзніклі ў рукапісах у выніку іх перапісвання (іх выклад па-беларуску [9, с. 86—90]). Ён вызначае наступныя тыпы памылак: а) злучэнне двух слоў у адно ці раздзяленне аднаго слова на два (арк. b. iiii—b. iiii адв.); б) пропуск слоў ці нават радкоў (арк. b. iiii адв.); в) устаўка па памяці фрагмента з аднаго пасажа ў іншы, падобны да яго, з мэтай іх набліжэння (арк. b. iiii адв.—b. v); г) унясенне глосаў ці заўваг на палях непасрэдна ў тэкст (арк. b. v—b. vi адв.); д) эмендацыі саміх пісцоў (арк. b. vi адв.—b. vii адв.). Гэтая класіфікацыя выяўляе знаёмства Буднага з тагачаснай філалагічнай крытыкай.

Далей С. Будны пераходзіць да паказу, як ерэтыкі псавалі тэкст Св. Пісання. Прыклады наўмыснага фальшавання з боку ерэтыкоў ён падае ў большасці выпадкаў паводле айцоў царквы. Памер пашкоджанняў біблейнага тэксту, нанесенага ерэтыкамі, дасягаў, на погляд Буднага, значнага аб’ёму: *Ano nie tylko słowo albo trzy albo wirsz / albo y kilka / przydawać do pisma ś. ważyli się / (co przedsię mnieysza) lecż też całe księgi pod imiony Apostolskiemi wypuszcżać miedzy ludzi smieli* (арк. b. viii). У пераліку такіх *księg* фігуруюць апакрыфічныя евангеллі і пасланні апосталаў. С. Будны паведамляе, што яшчэ пры жыцці ап. Паўла ерэтыкі распачалі свае ідэалагічныя дыверсіі, а пасля апостальскіх часоў наогул *beze wszey boiazni pismo s. fałszowali* (арк. b. viii адв.). На думку С. Буднага, у найбольшай ступені да фальшавання тэксту мелі дачыненне Маркіён, а пасля яго гамаўзіяне (пад гамаўзіянамі ён разумее пануючую афіцыйную царкву). Затое арыяне атрымліваюцца ў яго *ludzmi (iako Erasmus świadcży) vcżonemi* і зусім годнымі: *Bo o Arrianiech tego nie czytamy żeby pismo fałszowali* (арк. b. viii адв.). Прыхільнае стаўленне С. Буднага да арыян тлумачыцца яго прыналежнасцю да той плыні ў пратэстанцтве, якую тады нярэдка называлі арыянствам, з прычыны падабенства яе дактрыны да арыянства IV—V стст., якое адмаўляла боскую прыроду Хрыста.

Нарэшце, С. Будны спыняецца на аналізе хібаў, якія маюцца ў розных недакладных перакладах. Да разгляду ён прыцягвае лацінскія (Вуль-

гата, пераклад Тэадора Безы) і польскія версіі, часам звяртаецца да версій царкоўнаславянскай ці чэшскай. Гаворачы пра польскія пераклады, Будны згадвае пераклад Станіслава Мужыноўскага (Каралёвец, 1550-я гг.), кракаўскія выданні Новага Запавету (выходзілі на працягу 1556—1568 гг.) і Бібліі Леапаліты 1561 г. Усе ранейшыя польскія пераклады ён ганіць, адзначаючы, што *mało nie w każdem … wadę bacżę* (арк. c. ii адв.), але асаблівую крытыку С. Буднага атрымаў кракаўскі пераклад 1561 г., што выйшаў пад рэдакцыяй кракаўскага ксяндза Яна Леапаліты.

Разабраўшы крыніцы памылак, што міжвольна ці свядома дапускаліся ў сакральным тэксце, С. Будны пераходзіць да высвятлення пытання, якая версія дае найменш сапсаваны тэкст Св. Пісання. Гэты пункт праграмы біблейнай крытыкі асабліва хваляваў пратэстанцкія плыні. На погляд Буднага, абсалютна беззаганнай крыніцы вызначыць нельга: *nie masz na świećie ni iednych kśiąg prawie szcżyrych* (арк. c. vi адв.).

С. Будны паведамляе, што доўгі час лічыў, быццам *Greckie księgi były ze wszech naprawdziwsze* (арк. c. iii адв.). Яго да гэтай думкі схіляў той факт, што апосталы (апрача Мацвея) пісалі па-грэчаску. Аднак гэта было памылкай. Грэчаскі тэкст з’яўляецца найбольш сапсаваным, сцвярджае Будны. *Przycżyna tego iest ta iż wszytcy iakmiarz Heretykowie y Grekowie byli y w Grecyi powstawali / y tam mieszkali. A choć też ktorzy nie Grek był / przedsię Greckiego ięzyka vżywał* (арк. c. iii адв.); *Heretykowie / tym a nie inym mowili y pisali <…> nie w-inem ktorem ięzyku / ale w tem ktorego vżywali / pismo ś: fałszowali* (арк. c. iiii). Але Будны не адкідае зусім грэчаскі арыгінал, *że z Greckich kśiąg wielki pozytek iest. Bo y nie wszytko pokarżono / y k temu znacżnieysza iest rzecż w onem ięzyku: w ktorem ią napisano / niż w onem do ktorego ią przelano* [так!] (арк. c. iiii адв), г. зн., што арыгінал мае перавагу над любым перакладам. Такім чынам, грэчаскія тэксты як першакрыніцы захоўваюць у вачах Буднага сваё значэнне для біблейнай крытыкі.

Найвялікшую шкоду грэчаскім тэкстам, паводле С. Буднага, зрабіла ерась Маркіёна, якая ўнесла туды шмат *fałszow* (арк. c. iiii). Гэты ерэтык часцей за іншых згадвацца на працягу ўсёй прадмовы. Як вядома, Маркіён адкідаў увесь Стары Запавет і лічыў, што яго нельга прымірыць з Новым. Таму ён выдаляў з Новага Запавету ўсе згадкі і алюзіі да Старога. Падобны падыход быў непрымальны для Буднага, які ідэйна сутыкаўся з іудаізмам. У пратэстанцкім памкненні да каранёў хрысціянства і арыянскім адмаўленні траістасці боскай прыроды С. Будны набліжаўся да іудаізму з яго ідэалам праведнага жыцця і вучэннем аб адзіным Богу. Закіды ў іудаізме, якія рабіліся Буднаму яшчэ ў 1560-х гг. [9, c. 28—30; 3, c. 341], былі, напэўна, небеспадстаўныя. У дэдыкацыі Яну Кішку ў NT74 (выклад зместу гэтага твора [6, c. 58—60, 111—115]) Будны скар-



дзіўся на абвінавачанні ў іудаізме, называў іх паклёпамі ды хлуслівымі плёткамі і ўсяляк адмяжоўваўся ад іудаізантаў (арк. a. v адв.—a. vi).

Найбольш годнай лічыць С. Будны лацінскую версію, паколькі *Łaćinicy ponieważ tylko iedne Homousianską sektę trzymali / a k temu nie tak bystrych rozumow byli / tak też nierowno mniey v nich Heretykow powstawało* (арк. c. iiii). І хаця лацінскія тэксты таксама не без заганы (гл. арк. c. vi), але яны *wszakoż nierowno szczyrsze są y prawdziwsze niż Greckie y niż Slowieńskie* (арк. c. iiii адв.) і *mniey fałszu maią* (арк. c. vi адв.). Будны тлумачыць і прычыну гэтаму: *Łaćinski przekład iesli nie za Apostołow / tedy rychło po nich vcżynion* (арк. c. v). Пры гэтым ён падкрэслівае, што мае на ўвазе менавіта *Łaćinskie stare księgi* (гл. арк. c. iiii, c. iiii адв., c. vi), г. зн. старажытны, даеранімавы лацінскі пераклад (т. зв. Vetus Latina), хаця ў сваёй прадмове Будны згадвае і Вульгату.

Гэты погляд беларускага пратэстанта на грэчаскі арыгінал можна лічыць наватарскім для свайго часу. С. Будны быў першым пратэстантам, які згадзіўся з тым, што тэкст на мове арыгінала можа саступаць перакладу ў сваёй правільнасці з той прычыны, што рукапісная перадача арыгінала атрымалася больш сапсаванай, чым традыцыя перакладу [2, c. 112; 3, c. 326]. У 2-й палове XVI ст. вера ў высокую вартасць грэчаскага тэксту моцна ўкаранілася сярод пратэстантаў. Абавязковым атрыбутам іх выданняў стала спасылка на арыгінальныя крыніцы, што мусіла сведчыць пра якасць і аўтэнтычнасць перакладу, хаця нярэдка за такой спасылкай хаваўся пераклад, выкананы з тэксту-пасрэдніка [1, c. 59].

Напэўна, упершыню ў рэчышчы заходнееўрапейскай традыцыі была азначана і вартасць царкоўнаславянскай версіі для крытыкі біблейнага тэксту [2, c. 112, 113; 3, c. 344]. Гаворачы пра старажытны пераклад славян, С. Будны прызнаецца, што не толькі *się w niem wielce kocham*, але і *się z niego wiele naucżył* (арк. c. v). Ён лічыць гэтую версію патрэбнай для справы біблейных перакладаў усіх славян. Але славянскі пераклад саступае лацінскаму, бо *nie prawie rychło przełozon* (арк. c. v), а *Łaćinski tłumacż starszy niż Słowieński y dla tego Łaćinski przekład prawdziwszy* — адзначае ён у маргіналіях (арк. c. vii). Апрача таго, *głupi popi* не разумелі царкоўнаславянскай мовы і псавалі старажытны пераклад (арк. c. v адв.). С. Будны налічвае *wielkie fałsze w Słowieńskich kśięgach … / od ktorych wszytkich Laćińskie stare kśięgi są wolne:* (арк. c. vi). Варта ўвагі, што такая невысокая ацэнка значэння царкоўнаславянскай версіі для крытыкі тэксту Новага Запавету падзяляецца і сучаснай біблеістыкай [2, c. 112].

Пасля кваліфікацыі моўных і тэксталагічных крыніц Будны пераходзіць да апошняга, чацвёртага пункту сваёй праграмы, заяўленай у пачатку прадмовы. Аб’ектам яго далейшага выкладу робяцца метады

выпраўлення і паляпшэння тэксту Св. Пісання. Сапраўднымі, правільнымі для Буднага з'яўляюцца тэксты, *ktore Apostołowie sami / abo iych vczniowie / pisali. Teraz my iuż takich mieć nie możemy* (арк. c. vii), коратка канстатуе ён. Гэта і прымушае да выпраўлення тэксту.

Найперш С. Будны адвяргае ўсе папярэднія спробы выпраўлення біблейнага тэксту. На яго погляд, нельга паводле грэчаскіх кніг папраўляць лацінскія ці лацінскія паводле грэчаскіх, паколькі для гэтага няма беззаганных тэкстаў. Не будзе выйсцем і крытэрый старажытнасці, бо самыя старажытныя з новазапаветных спісаў налічваюць не больш за тысячу гадоў, тады як Маркіёнава ерась пачалася ўжо праз паўтараста гадоў пасля Хрыста, а неўзабаве за ёй прыйшла і гамаўзіянская (арк. c. vi адв.).

Тым не менш, на погляд Буднага існуе некалькі методык *ku dostatecżniemu a pewnemu pisma Apostolskiego naprawieniu* (арк. c. vii). Па-першае, трэба параўноўваць розныя паралельныя пасажы паміж сабой, тады падазроны пасаж да *podobniego onemu … na wzor mieć możesz* (арк. c. vii). Па-другое, неабходна звяртацца да твораў айцоў царквы, гісторыкаў і пісьменнікаў, якія цытавалі пасажы Св. Пісання ў першыя стагоддзі хрысціянства (арк. c. vii адв. — c. viii).

На гэтым С. Будны скончвае выкладаць сваю праграму біблейнай крытыкі і пераходзіць да характарыстыкі ўласнага перакладу. Сваёй працай ён намагаўся даць праўдзівы пераклад *bez ludzkich przysąd* (арк. d адв.). Патрэбу ў гэтым сфармуляваў перад Будным (як гаворыцца ў дэдыкацыі) Ян Кішка: *taki nowy testament wydać / w ktorem by przysąd człowieczych y omyłek nie było* (арк. a. v адв.). Будны, аднак, рэалістычна ацэньвае свой пераклад і не лічыць яго за ідэал: *nie przeto mowie / żebych ten przekład za prawie doskonały miał / albo za taki ktory by w tem y sobie dosyć vczynił* (арк. d. ii).

У перакладчыцкай працы С. Будны карыстаўся *Nie z iednegom iakiego exemplarzyka / zaśiadszy nad niem*, а абапіраўся на розныя крыніцы: *Miałem oko na Greckie a nie na iedne kśięgi / dokładałem się Łaćinskich / nie zaniedbawałem Słowieńskich* (арк. d адв.). Такая метода адпавядала тагачасным патрабаванням біблеістыкі. Ён выкарыстоўваў не толькі варыянты грэчаскага тэксту (у прадмове да NT74 гаворыцца нават пра рукапісы, аднак хутчэй за ўсё Будны абмяжоўваўся тагачаснымі крытычнымі выданнямі), але і іншыя версіі — лацінскую (у прадмове згадваецца як даеранімавы пераклад, так і Вульгата), а таксама царкоўнаславянскую і, напэўна, чэшскую. Апрача таго, для экспертызы асобных пасажаў С. Будны звяртаўся да твораў айцоў царквы (называюцца Тэртуліян, Еўсевi, Эпіфан, Еранім) і аўтараў часоў Рэнесанса, у прыватнасці Ларэнца Вала, Эразма з Ратэрдама, Марціна Лютэра, Себасцьяна Касталіё (Шатыёна), Тэадора Бэзы, Мікалая Зэгера.



Далей С. Будны знаёміць чытача з канонам Новага Запавету (г. зн. складам яго кніг) і, адзначаючы, што канон складаўся паступова, ставіць пытанне на палях *Ktoreᵛ pismu wierzyć* (арк. d. ii адв.). Будны піша, што ў ранняй царкве ў гэты канон уваходзіла меншая колькасць кніг, чым зараз, затое дадаваліся некаторыя іншыя творы, якія зараз лічацца апакрыфічнымі, а асобныя кнігі, што з'яўляюцца цяпер кананічнымі, тады лічыліся апокрыфамі (арк. d. ii адв. — d. iii). Будны сам вырашыў змяніць парадак евангелляў, паклаўшы пасля Мц. і Мк. адразу Ін., а не Лк., *aby tak oboie kśięgi Lukasza ś. pospołu były* (арк. d. iii). У гэтым ён спасылаецца на Хайнрыха Булінгера, аднаго з дзеячаў Рэфармацыі, які так размясціў евангельскія кнігі ў сваім выданні Новага Запавету.

С. Будны ўпершыню [2, с. 114] увёў падзел новазапаветнага тэксту на зачалы ці *Słowieński Rozdziały* (перыкопы), якія *na żadanie braciey miłey z narodu Ruskiego po kraioch znaczył* (арк. d. iii). Таксама ўпершыню ў выдавецкай практыцы Рэчы Паспалітай указанні раздзелаў, зачал і вершаў у NT74 былі вынесены за межы евангельскага тэксту і адасоблены ад яго друкарскімі рамкамі. Так зрабіў і Цяпінскі ў сваім выданні. Будны даў наступнае абгрунтаванне гэтаму прыёму: *aby znacżno było co Duch święty przez Apostoły pisał / a co ludzie dla ratunku pamięći przypisowali* (арк. d. iii). Такім чынам ён падкрэсліў аўтэнтычнасць евангельскага тэксту, у якім рубрыкацыі першапачаткова наогул не было. Іншым спосабам захавання гэтай аўтэнтычнасці ў пратэстанцкіх публікацыях служылі дужкі, якімі ў евангельскім тэксце вызначаліся словы, устаўленыя перакладчыкам *dla snadnieyszego zrozumienia*, ці сумнеўныя месцы, наконт якога пэўнага *świadectwa niemam* (арк. d. iii адв.).

Выкладзеныя ў прадмове да NT74 погляды С. Буднага на тэорыю і практыку біблейных перакладаў не з'яўляюцца яго ўласнымі вынаходніцтвамі (як некаторыя згодны думаць [9, с. 85 і наст.]), а набыты ў тагачаснай заходнееўрапейскай біблейнай крытыцы [2, с. 113; 3, с. 324—325]. Праўда, Будны не падае крыніцы, якімі ён карыстаўся, але даследчыкі мяркуюць, што асновай для яго прадмовы служылі працы Эразма [1, с. 59—60; 3, с. 325]. У адносінах да тэзісаў, методыкі і з большага аргументацыі праца Буднага насіла, безумоўна, кампілятыўны характар. Тым не менш, на ўсходзе Еўропы падобная праца, што давала грунтоўныя ўводзіны ў біблеістыку, была навіной [1, с. 60; 3, с. 342]. Тым больш, што Будны, апрача добрай арыентацыі ў тагачаснай біблейнай літаратуры, не быў пазбаўлены і ўласнай навуковай канцэпцыі [1, с. 57]. Яго асабістым укладам можна лічыць прыцягненне ў справу выпраўлення тэксту Св. Пісання царкоўнаславянскай версіі і яе выкарыстанне для аптымізацыі польскага перакладу.

З пазіцый сённяшняга дня нельга не падзівіцца вялікім ведам С. Буднага, якія сведчаць пра добрае знаёмства з працамі заходнееўрапейскіх тэолагаў і філолагаў у асяродку беларуска-польскай Рэфармацыі. Тэорыя біблейных перакладаў на Беларусі адпавядала еўрапейскаму ўзроўню, хаця і была рэхам заходнееўрапейскай біблеістыкі. Грунтоўная філалагічная апрацоўка, якую надавалі біблеісты Рэчы Паспалітай сваім перакладам, была выключнай з'явай сярод іншых нацыянальных перакладаў [1, с. 108]. Гэта стала магчымым дзякуючы не толькі піетэту да Св. Пісання, але і свабодзе тэалагічнай думкі, навуковаму падыходу да тэксталагічных праблем [1, с. 108].

Памылкова лічыць, што славуты правадыр польска-беларускіх антытрынітарыяў ужываў біблейную крытыку выключна ў мэтах удасканалення тэксту Св. Пісання (напрыклад, [9, с. 114—115]). Такімі былі яго дэкларацыі, але практыка была інакшая. Мэты экскурсаў С. Буднага ў гісторыю перадачы і перакладаў новазапаветнага тэксту былі яскрава ідэалагічныя. Біблейная крытыка, якую дала рэнесансная філалогія ў рукі вучоных XVI ст., магла служыць з аднолькавым поспехам справе як выпраўлення, так і адвольнай інтэрпрэтацыі Св. Пісання. Пратэстанты XVI ст. выкарыстоўвалі абедзве гэтыя магчымасці, і ў гэтым яны былі не бліжэй да навуковага падыходу, чым каталікі. У сваіх выданнях пратэстанты часта рабілі інтэрпаляцыі прама ў тэкст, незалежна ад іх абгрунтаванасці, а пры перакладзе дапускалі, зыходзячы са сваёй дактрыны, шматлікія адхіленні (гэта было паказана на прыкладзе маргіналій у ЕЦ [4]). Такіх адвольных інтэрпрэтацый у Буднага шмат, у чым яго абвінавачвалі нават бліжэйшыя паплечнікі.

Напэўна, галоўным аб'ектам спекуляцый С. Буднага зрабілася прырода Боства і Хрыста. Як прыхільнік антытрынітарызму, Будны шукаў аргументаў супраць траістасці Боства і супраць боскай прыроды Хрыста, што дазваляла абгрунтаваць антытрынітарную дактрыну. Таму непажаданыя пасажы, нават цалкам бясспрэчныя, С. Будны заўжды быў гатовы абвяшчаць памылкамі перапісчыкаў, ерэтычнымі інтэрпаляцыямі ці неразуменнем перакладчыкаў. Як заўважае Яніна Чарнятовіч, у Буднага «…погляды дактрыны пераважаюць над рэальным станам тэкставага выкладу» [1, с. 61]. Гэтае назіранне пацвярджае і Дэвід Фрык, адзначаючы, што Будны падпарадкаваў філалогію канфесійнай палеміцы [2, с. 98, fn. 58; 3, с. 343].

Прыкладам дактрынальных змен, якія ўносіў С. Будны ў NT74, можа служыць выкіданне выразу «як мяркуюць», ut putabatur (*Jako mnimano*) у Лк. 3:23, дзе гаворыцца аб паходжанні Ісуса, сына Іосіфа. Будны апусціў гэты выраз у евангельскім тэксце і падаў яго толькі ў маргіналіях, адзначыўшы, што грэчаская, лацінская і славянская версіі гэты пасаж «адвольна падкідаюць» (*ich to podrżut*). Яшчэ ў NT70 і B72 ён захоўваў гэты выраз у тэксце, хаця і браў яго як сумнеўны ў дужкі; але ў маргіналіях не тлумачыў падстаў свайго сумнення. У «прыпісках» Будны тлумачыў сваю кан'ектуру тым, што гэтае месца было «пафальшавана» Маркіёнам (паводле сцвярджэнняў Тэртуліяна і Эпіфана), і спасылаўся на Яўсевія, які даводзіў, што ў яго часы гэты выраз існаваў не ва ўсіх тэкстах.



Другім прыкладам можа служыць замена ў NT74 выразу «ў жываце панясе», in utero habebit (Мц. 1:23, у Буднага верш 22) на слова «цяжарная» (*brzemienna*). Увесь гэты верш Будны ўзяў нават у дужкі, указваючы тым самым на яго сумнеўнасць. Цікава назіраць тут замену традыцыйнага значэння дзеяслова будучага часу, якое выступала яшчэ ў NT70 *w żywoćie mieć będźie*, B72 *pocznie*, на субстантыў. Такім чынам С. Будны пазбавіўся важнага для хрысталогіі ўказання на спосаб зачацця Хрыста, які пярэчыў антытрынітарнай дактрыне. Нават В. Цяпінскі ў гэтым месцы не паслядоўнічаў Буднаму і захаваў традыцыйнае чытанне: *в череве приимет*, паводле царкоўнаславянскага тэксту, з якога ён рабіў свой пераклад. У Цяпінскага сустракаецца слова *беременнымъ* 'цяжарным' Мц. 24:19, якое адпавядае царксл. *непразднымъ* і яскрава паказвае на залежнасць ад польскай версіі: у B72 / NT74 тут выступае *brzemiennym*.

С. Будны спасылаўся на два месцы Новага Запавету, Ін. 1:14 і 1-га Ін. 4:2, якія, на яго думку, указвалі, што Ісус Хрыстос не мог прыходзіць у цела. Дзеля доказу гэтага тэзіса ён быў вымушаны адыходзіць ад філалагічных аргументаў і звяртацца да экзегезы. Абвяргаючы пераклад Вульгаты ў Ін. 1:14, Будны піша, што евангеліст *ono tylko przez te słowa znać dawa / że Jesus pan acż tak świętym a zacnym Prorokiem był / tedy przedsię ćiałem / to iest śmiertelnym człowiekiem był* (арк. с. і—с. і адв.). Таксама, адкінуўшы пераклад Бэзы ў 1-га Ін. 4:2, ён піша, што *A nie tylko słowa / ale y rzecż sama iasnie pokazuie / ze to fałsz co Beza przełożył* (арк. с. іі), паколькі Сын Божы названы *Christusem też abo pomazańcem być nie mogł / Bo nielza Boga namazywać* (арк. с. іі адв.). Экзегеза гэтых месцаў Св. Пісання была зроблена С. Будным тэндэнцыйна, паводле антытрынітарнай дактрыны Сервета.

Таксама з пазіцый гэтай дактрыны С. Будны апавядае пра ерасі. У сваёй прадмове ён рэгулярна выкрывае толькі дзве старажытныя ерасі: маркіёнаву і гамаўзіянскую, але, як ужо адзначалася, пад гамаўзіянствам Будны разумее дагматыку афіцыйнай царквы: *Homousiani są / ktorzy o synu Bożem twierdzą żeby iedney iestnośći z Bogiem był Po polsku ie teraz Troycżaki zową. Oni się Orthodoxami zową* (арк. b. viii адв., заўвага на палях). Абвяшчаючы пануючую царкву ерассю і аблудай, пратэстанты такім чынам пазбаўлялі артадоксію пераваг пануючага становішча ў грамадстве і пераводзілі яе на адзін узровень з гетэрадоксіяй. На думку антытрынітарыяў, тыя пасажы пра Св. Духа, што абгрунтоўвалі траістасць Бога, адлюстроўвалі ўплыў гэтай ерасі на тэкст Св. Пісання. Таму Будны

абвяшчае гамаўзіянствам не толькі непрымальныя для яго пасажы ў Новым Запавеце, але і погляды ўсіх прававерных хрысціян.

У іншым выпадку С. Будны, крытыкуючы перакладчыка Кракаўскай Бібліі 1561 г. за *nedoucżenie*, дакарае яго за няправільныя, як на думку пратэстанта, адпаведнікі да лацінскіх тэрмінаў. Не вартым здаецца Буднаму пераклад тэрмінаў *presbiter*, *sacerdos* як *kapłan*, *ecclesia* і *templum* як *kośćioł* (арк. c. iii). Крытыцызм С. Буднага ў гэтых прыкладах, як мяркуе Дэвід Фрык [2, с. 92], мае не філалагічнае, а дактрынальнае абгрунтаванне; як пратэстант Будны імкнецца адхіліць пераклад, чыя мова вельмі цесна звязана з практыкай і традыцыяй рымскай царквы.

На прыкладзе прадмовы С. Буднага можна зрабіць выснову, што аб'ектыўнасць падыходу пратэстанцкіх біблеістаў у пытаннях перакладу і крытыкі тэксту Св. Пісання, задэклараваная ў прадмовах і маргіналіях іх выданняў, была толькі бачнасцю, разлічанай на перакананне прафанаў. Вельмі часта выдаць Св. Пісанне на зразумелай мове і суправадзіць яго тлумачэннямі азначала ў пратэстантызме навязаць чытачу аўтарскае разуменне боскай ісціны. Якраз такія абвінавачанні пратэстанты закідалі сваім каталіцкім апанентам. Пераклад і каментарый у пратэстантызме нярэдка азначаў не лягчэйшы доступ да зместу Св. Пісання, а хітрэйшы спосаб змены светапогляду чытача.

У гэтай сувязі нельга таксама давяраць скаргам С. Буднага пра сапсаванасць тэксту Св. Пісання. Ён імкнуўся ўсяляк перабольшыць памер хібаў у Новым Запавеце, каб абгрунтаваць неабходнасць самых радыкальных змен у тэксце.

Даследчыкі адзначаюць, што, нягледзячы на задэклараваную вартасць лацінскай версіі, С. Будны ў NT74 «грунтаваўся выключна на грэчаскім тэксце» [1, с. 52]. У гэтым перакладзе шмат месцаў, дзе перавага больш аддавалася грэчаскаму тэксту, чым лацінскаму [1, с. 51—53]. Але ў B72 бачныя сляды выкарыстання перакладчыкам лацінскай версіі [7, с. 396—397]. Тым не менш у NT74, дзе Будны прызнаў перавагу лацінскай версіі, а прыхільная згадка пра грэчаскія арыгіналы была знятая, ён папраўляў ранейшы пераклад «паводле грэчаскай версіі насуперак лацінскай» [8, с. 342]. Адыход Буднага ад грэчаскай версіі адбываўся толькі ў спрэчных месцах, важных для антытрынітарнай дактрыны [1, с. 52].

Хаця С. Будны часта згадваў пра грэчаскія кнігі, а ў перакладзе B72 выкарыстоўваў некалькі варыянтаў грэчаскага тэксту [7, с. 396—397], наўрад ці ён працаваў непасрэдна з грэчаскімі рукапісамі, паколькі яны адсутнічалі ў Польшчы. Грэчаскія манускрыпты можна было знайсці ў ВКЛ, напрыклад, у праваслаўных манастырах, якія мелі пэўныя сувязі з грэчаскім Усходам. Але польскім пратэстантам, несумненна, бракавала



ведаў у грэчаскай палеаграфіі і навыкаў у чытанні старажытных рукапісаў. У сваёй тэксталагічнай працы яны маглі абапірацца толькі на крытычныя выданні тэкстаў [1, с. 23]. Практычна ўсе такія выданні паходзілі з Захаду, у Рэчы Паспалітай не было здзейснена ніводнай публікацыі біблейнага тэксту на арыгінальных мовах [1, с. 27].

З гэтых выданняў С. Будны часта згадвае грэчаскія тэксты Эразма з Ратэрдама (Базель, 1516 і шмат перавыданняў у розных гарадах) і Сімона дэ Калінэя (Парыж, 1534); ён, безумоўна, карыстаўся гэтымі крыніцамі. Асабліва высока Будны ацаніў у прадмове да NT74 выданне Калінэя: *ia sam nie z iedniego mieysca doznał że mu rownego (oprocż kilka mieyśc / y ś. Iohana obiawienia) niemasz* (арк. b. vi). Апрача таго, Будны часта спасылаўся ў маргіналіях на грэчаскі тэкст Тэадора Бэзы (Цюрых, 1559, Жэнева, 1565 (двойчы), 1567), які выходзіў з уласным лацінскім перакладам побач (першыя два мелі багатыя каментарыі пад назвай Annotationes) і тлумачэннямі на палях, згадваў таксама выданні Жана Крэспэна (Жэнева, 1553) і каменціраваны лацінскі пераклад Себасціяна Шатыёна (Базель, 1551; 1556, 1573), каменціраванае выданне Новага Запавету Вульгаты, здзейсненае Мікалаем Зэгерам (Лувэн, 1559).

У сваёй перакладчыцкай працы на польскую мову С. Будны актыўна выкарыстоўваў царкоўнаславянскую версію, пра што сведчаць шматлікія царкоўнаславянізмы [7, с. 397—398, 400]. Цікава, што яны выступаюць толькі ў B72, тады як у NT70 іх яшчэ не было. Але хутка ён адмовіўся ад выкарыстання царкоўнаславянскай версіі і ў NT74 папраўляў свой ранейшы пераклад, па магчымасці паслядоўна выдаляючы царкоўнаславянскі ўплыў.

Прыкладам царкоўнаславянскага ўплыву на пераклад С. Буднага можа служыць слова *dziełaćiel* з Мц. 7:23, якое выступае ў B72 у выразе *dziełaćiele nieprawośći*. Як сведчыць слоўнік польскай мовы XVI ст., гэтае слова ў тыя часы было зусім невядома; яго польскім адпаведнікам было слова *robotnik*, якое ўжывалася ў біблейных перакладах, у т. л. і ў дадзеным месцы [8, с. 332]. У царкоўнаславянскай частцы ЕЦ на гэтым месцы выступае *д*ѣ*лающие беззаконие*, што захоўвае ў сваім перакладзе і В. Цяпінскі: *делаючие безаконие*. Будны, выпраўляючы ў NT74 свой ранейшы пераклад і ўнікаючы выпадкова трапіўшых царкоўнаславянізмаў, замяніў *dziełaciel* на *robotnicy nieprawośći*. У RB63 на гэтым месцы выступае парафраз: *wy ktorzy nieprawośći czynićie*.

Таксама трапіў у B72 іншы царкоўнаславянізм: слова *żenich*, якое выступае ў Мц. 25:5, 6, 10 (у абодвух слупках ЕЦ *женихъ*), у прыпавесці аб дзесяці дзевах. Паводле слоўніка польскай мовы XVI ст., гэтае слова, за выключэннем указаных месцаў B72, не сустракаецца ў тагачасных

польскіх тэкстах. У польскіх біблейных перакладах яму адпавядае *nowożenia* ці *oblubieńca* [8, с. 332]. У NT74 Будны замяніў *zenich* на *nowożenia*.

На залежнасць ад царкоўнаславянскай крыніцы паказвае і чытанне B72 *dostoyni* Мц. 22:8, якому ў царкоўнаславянскай частцы ЕЦ адпавядае *досьтоини*, тады як у польскіх перакладах выступае чытанне *godnymi* RB63 і *godni* NT74, таксама і ў перакладзе Цяпінскага: *годны*.

Царкоўнаславянскі ўплыў прысутнічае нават у NT74, дзе С. Будны імкнуўся свядома яго пазбягаць [8]. Слова *winnica* 'вінаграднік' (другое значэнне гэтага слова Будны адзначае на маргінесе ў NT74 пры Мц. 21:29 як 'сховішча для віна') у прыпавесці аб работніках на вінаградніку (Мц. 21:28—41) традыцыйна выступала ў біблейных польскіх перакладах. Тым не менш С. Будны ў NT74 аднойчы замяняе яго словам *winograd* (Мц. 21:29), пакідаючы *winnica* толькі на маргінесе. Але ўжо ў астатніх вершах (Мц. 21:33, 39, 40, 41) гэтага пасажу Будны вяртаецца да *winnica*, адзначаючы ў маргіналіях, што *właśniey by winograd / ale się zwyczaiowi folguie* [8, с. 332]. Паводле слоўніка польскай мовы XVI ст. слова *winograd* вельмі рэдка сустракаецца ў тагачасных тэкстах. У царкоўнаславянскай версіі, як можна бачыць на прыкладзе ЕЦ, у гэтым пасажы выступае *виноградъ*.

У сваёй працы С. Будны мог карыстацца царкоўнаславянскімі рукапісамі, якія лёгка было адшукаць на Беларусі. Але хутчэй за ўсё ён карыстаўся выданнямі, надрукаванымі ў Маскве. У сваёй прадмове 1574 г. Будны крытыкуе выданні Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца, як выкананыя з недасканалых узораў, а таксама згадвае маскоўскія Евангеллі. На той час, у 1550—60-х гг., у Маскве ўжо было надрукавана некалькі царкоўнаславянскіх Евангелляў (яны цяпер вядомы як ананімныя), наступныя друкаваныя Евангеллі ў Маскве з'яўляюцца толькі ў 1606 г. Адно з такіх ананімных выданняў было выкарыстана В. Цяпінскім у якасці арыгінала для перакладу і перадрукавана ў яго выданні [5].

На падставе прац С. Буднага добра бачна, што біблеістыка і перакладчыцкая справа ў асяроддзі польска-беларускіх пратэстантаў 2-й пал. XVI ст. знаходзіліся на высокім узроўні. Гэта стала магчымым дзякуючы глыбокаму засваенню эразміянскай філалогіі і гуманістычных ідэй.

У сваіх працах — прадмове і перакладах Св. Пісання — Будны, напэўна, упершыню ў Рэчы Паспалітай даў разгорнутую крытыку біблейнага тэксту. Хаця такая крытыка не была арыгінальнай і паходзіла з тагачаснай гуманістычнай літаратуры, яна мела вялікае пазнавальнае значэнне для мясцовай чытацкай аўдыторыі: упершыню аргументавана паказваліся хібы ў тэксце і крыніцы іх з'яўлення і дэманстравалася метадалогія біблеістычных доследаў.



Але адна толькі крытыка не задавальняла С. Буднага. Ён спрабаваў намеціць кірункі выпраўлення тэксталагічных заган. Мэтай крытыкі ён абвяшчае аднаўленне першапачатковага гучання тэксту. Разумеючы недасягальнасць гэтай мэты ў дачыненні да Св. Пісання, Будны зводзіць справу да канструявання ўнутрана несупярэчлівага і вытрыманага тэксту. Такое канструяванне адбывалася шляхам параўнання старажытных перакладаў, цытат айцоў царквы і паралельных пасажаў у самой Бібліі. Але, апрача грэчаскага арыгінала, ён фактычна працаваў толькі з лацінскай і царкоўнаславянскай версіямі. Выкарыстанне цытат і паралельных пасажаў у яго было абмежавана лічанымі выпадкамі.

С. Будны не меў магчымасці працаваць са старажытнымі рукапісамі і мусіў карыстацца публікацыямі грэчаскага тэксту Новага Запавету і яго лацінскіх перакладаў. Пры гэтым Будны паспрабаваў вылучыць найменш сапсаваную, на яго думку, версію Новага Запавету і прызнаў такой лацінскую. Акрамя таго, упершыню ў заходнееўрапейскай традыцыі была азначана вартасць для крытыкі біблейнага тэксту царкоўнаславянскай версіі, якой С. Будны шмат карыстаўся пры перакладзе.

Аднак перакладчыцкая дзейнасць С. Буднага разыходзілася з яго дэкларацыямі стварыць несупярэчлівы і правільны тэкст Св. Пісання. Дзеля падмацавання ўласных дактрынальных палажэнняў ён рабіў адвольныя інтэрпаляцыі ў тэксце Св. Пісання і злоўжываў філалагічнымі працэдурамі. Тэксталогія і біблейная крытыка была для яго не самамэтай, а толькі сродкам, які дапамагаў абгрунтаваць уласную дактрыну. Спасылкі на рукапісы і іншамоўныя версіі мусілі надаць аўтарытэт яго антытрынітарнай дактрыне. Калі тэкст супярэчыў гэтай дактрыне, Будны выкідаў, не вагаючыся, цэлыя пасажы або вершы ці абвяшчаў іх фальшывымі альбо памылковымі. Падобнае стаўленне заўважана і ў іншых пратэстанцкіх перакладчыкаў таго часу.

Літаратура


1. Czerniatowicz Janina. Niektóre problemy naukowe grecystyki w pracach biblistów polskich XVI i XVII w.: Teksty greckie a polskie przekłady. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1969.
2. Frick David A. Polish sacred philology in the Reformation and the Counter-Reformation: Chapters in the history of the controversies (1551—1632). Berkeley, 1989.
3. Frick David A. The biblical philology of Szymon Budny: Between East and West // Budny S. Biblia, to jest Księgi Starego i Nowego Przymerza. Nieśwież; Zasław, 1571—1572 / Hrsg. H. Rothe, F. Scholz. Padeborn; München; Wien; Zürich, 1994. Bd. 2. S. 309—349.
4. Клімаў Ігар П. Прагматычны аспект маргіналій у «Евангеллі Цяпінскага» // От слова к тексту: Материалы докладов Международной научной конференции, Минск, 13—14 ноября 2000 г.: В 3 ч. Ч. 3. Минск, 2000. С. 65—67.

5. Климов Игорь П. Московский оригинал церковнославянского текста в старобелорусском «Евангелии Тяпинского» // Лингвистическое источниковедение и история русского языка. 2002—2003: Сборник статей. Москва, 2003. С. 372—388.
6. Merczyng Henryk. Szymon Budny jako krytyk tekstów biblijnych. Kraków, 1913.
7. Moszyński Leszek. Zur Sprache der Bibelübersetzung Szymon Budnys von 1572 // Budny S. Biblia, to jest Księgi Starego i Nowego Przymerza. Nieśwież; Zasław, 1571—1572 / Hrsg. H. Rothe, F. Scholz. Padeborn; München; Wien; Zürich, 1994. Bd. 2. S. 354—415.
8. Pepłowski Franciszek. Zmiany językowo-stylistyczne w «Nowym Testamencie» Szymona Budnego z 1574 r. // Tekst; Język; Poetyka: Zbiór studiów. / Pod red. M. R. Mayenowej. Wrocław, 1978. S. 319—342.
9. Саверчанка Іван В. Сымон Будны: Гуманіст і рэфарматар. Мінск, 1993.



## СФРАГІСТЫКА. ГЕРАЛЬДЫКА

***М. М. Елинская***

### РОДОВАЯ ГЕРАЛЬДИКА БЕЛОРУССКОГО ДВОРЯНСТВА ЗАПАДНОЕВРОПЕЙСКОГО ПРОИСХОЖДЕНИЯ

Родовые гербы — это непременный атрибут дворянского сословия, который в символической форме красноречиво повествует о своих владельцах. В них отражена и древность рода, и национальное происхождение, а порой и личные заслуги владельца.

Архивные документы в комплексе с другими опубликованными материалами и сохранившимися в музеях и частных коллекциях произведениями искусства — живописных полотнах, ювелирных изделиях и других вещах повседневного обихода — являются уникальным источником по истории дворянства. В данной же статье предпринята попытка комплексного анализа архивных источников, в которых содержится информация о гербах дворян-иностранцев, проживавших на территории Беларуси с конца XVIII до начала XX в. Преимущественно это документы из фондов, а также Российского государственного исторического архива в Санкт-Петербурге (РГИА) и Архива древних актов в Варшаве (AGAD). В ней будут представлены описания некоторых гербов, значительная часть которых до сих пор не получила должного освещения в литературе.

При изучении родословных материалов дворян иностранного происхождения на предмет их утверждения в этом сословии обращает на себя внимание тот факт, что далеко не в каждом деле имеются сведения о фамильных гербах. О родовой геральдике таких фамилий, как Вагнер, Венцель из Пруссии, де Гаас из Франции, Гартинг (родственники которого проживали в Голландии и России) и др., никаких сведений ни в литературе, ни в архивных источниках отыскать не удалось.

Это объясняется, на наш взгляд, несколькими причинами. Во-первых, далеко не все дворяне, обосновывавшиеся на территории Беларуси, на своей исторической родине имели так называемые фамильные (или родовые) гербы, наподобие герба «Biberstein», которым пользовались представители нескольких поколений немецких дворян Биберштейн-Бляуроков. В архивном деле со ссылкой на Гербовник Несецкого (ч. I, л. 87) отмечено, что «род Бляуроков, употребляющий герб «Biberstein» — «*в желтом поле имеет быть красный олений рог. В короне таковой же рог концом воткнутый*» (рис. 1)[1], в самоотдаленнейшей древности имел сие ж название Биберштейн». Уже в XIII в. в Силезии этим гербом владел Гюнтер фон Биберштейн, а «граф Ян Биберштейн известен там около 1310 г.»[2]



1



2



3



4



5



6



7



8



Некоторые из дворян при подготовке документов в Герольдию не имели возможности представить собственный герб, так как они на своей родине дворянами не являлись, а следовательно, никакими гербами, фамильными или личными, не обладали. Гербы были им пожалованы королями Речи Посполитой, а позже императорами Российской империи, уже здесь за службу, будь то военная или гражданская, исключительно за личные заслуги перед новым Отечеством, одновременно с дворянским званием. К примеру, в одном из документов дела «об утверждении в дворянском достоинстве» Леопольда Валентьевича Дельпаце (род. в 1802 г.), проживавшего в г. Минске, сказано, что «предки рода сего, уроженцы Ломбардо-Венецианского королевства в XVII ст. поселились в Польше и, пользуясь теми самыми правами, что и коренные сего края жители, несли военную службу и исполняли всякие должности, возлагаемые на них местным правительством. Следствием сего, за оказанные в Республике заслуги, удостоились соответственного вознаграждения и между прочими — оберштерлейтенант польских войск Франц Дельпаце. Королем Польским Иоанном Казимиром с общего согласия, объявленного на Варшавском Сейме, он возведен в потомственное дворянское достоинство, о чем удостоверяет: индигенат, помещенный в Своде Польских Законов /Volumine Legum/: T. IV на стр. 570 и Конституций Варшавского Сейма в 1658, 1661 и 1662 годах, установленные на стр. 873 и 939, выданные в выписках Минскою Палатаю Гражданского суда»[3].

Аналогично и Игнатий-Цезарий-Примус Кроазе, подавая прошение на имя императора Николая I с просьбой о внесении его в дворянскую родословную книгу по Минской губернии, апеллирует к заслугам своего покойного отца Ивана Кроазе именно на российской службе. Ведь Жан, или на русский манер Иван, не будучи дворянином во Франции, но сумев получить там достаточное образование, решил испытать счастья на чужбине в качестве наставника. И, как многие его соотечественники, эмигрировал на восток, в Россию. В марте 1821 г. Правлением Виленского университета он был назначен на должность учителя французского языка в Крожскую гимназию. В 1837 г. распоряжением управляющего Министерства народного образования был переведен в Гродненскую гимназию. Иван Кроазе, автор «Recueil de prose et de poesie suivi d'un vocabulaire Francois-Russe-Polonois» («Сборник прозы и поэзии, дополненный французско-русско-польским словарем»), в 1839 г. произведен в чин коллежского асессора[4]. А согласно Своду законов Российской империи, каждый, дослуживший до восьмого класса, приобретал права потомственного российского дворянина.

Подобная же карьера прослеживается и в деле Иоганна Геркана, окончившего в 1831 г. Якобистатское уездное училище и семинарию для

начальных учителей в Дерпте. Будучи даже «из податного сословия», он дослужился до чина губернского секретаря и, являясь кавалером ордена Св. Владимира, в 1890 г. был утвержден в дворянстве вместе со всеми членами своей семьи[5]. А в формулярном списке Иоганна Вольфа, новогрудского уездного штаб-лекаря, коллежского советника, тоже кавалера ордена Св. Владимира 4-й степени, прямо указывается, что он «немецкой нации, из *купеческих* детей г. Ревеля». Но «по своей службе и достоинству Вольфы занесены в I часть Родословной книги по Минской губернии»[6]. Также «из иностранных купеческих детей» был и Иван Александрович Бернард, который в Лондоне и Эдинбурге «обучался медицинским и прочим наукам». В 1808 г. он состоял инспектором Минской врачебной управы в чине надворного советника, а чуть позже занесен в Бархатную книгу дворянских родов Российской империи[7].

Таким образом, можно заключить, что в данных вышеприведенных случаях при утверждении в дворянстве в расчет принимались не древность рода с ее атрибутами — родословной, гербами, титулами и прочим, а личные карьерные успехи и достижения. Это характерная черта внутренней политики всех европейских монархов, при которой людям, прибывшим из других стран и отличившихся перед новым государством, оказывались различные привилегии, в том числе и жалование дворянства. Как правило, с приобретением «высокородного» статуса нувориши становились обладателями и особых фамильных знаков — гербов, характерных исключительно только для второго сословия. Такая практика широко распространяется и в Речи Посполитой, начиная с правления государством первых представителей из шведской династии Вазов.

В России дворянская геральдика обрела высокий государственный статус со времен Петра I. В 1722 г. им учреждается Герольдмейстерская контора при Сенате для того, чтобы герольдмейстер или другое какое-либо должностное лицо «дворян ведал и всегда представлял к делам, когда спросят»[8]. В новом Положении о Герольдии, утвержденном в 1841 г., указывалось, что одним из главных направлений в ее деятельности является «изготовление грамот и дипломов на разные звания и достоинства, равно как и сочинение и утверждение гербов»[9]. Добиваясь утверждения в российском дворянстве, наше шляхетство, в том числе и западноевропейского происхождения, стремилось также к непременному утверждению и официальному признанию своих гербов. Впрочем, уже само обладание таковым, во многих случаях, рассматривалось как свидетельство несомненно «благородного» происхождения.

Еще одна причина отсутствия какой-либо информации о гербах некоторых дворян-иностранцев заключается в том, что представители этих



фамилий не были утверждены в дворянстве Российской герольдией, а, следовательно, их гербы не были помещены ни в один из томов Бархатной книги. Например, герб «Стокфиш» сохранился только в генеалогических таблицах 319-го фонда НИАБ. Этот род происходит из шведской Померании и, согласно архивным документам из описи 2-й 319-го фонда, его представители «с древнейших времен» обладали княжескими титулами. В частности, князь Иоганн фон Стокфиш служил в армии шведского короля (имя не уточняется) в звании генерал-квартермейстера[10]. Однако на новой родине, проживая в Минской губернии и имея здесь земельные владения, княжеский титул за Стокфишами утвержден не был; они даже не добились признания своего потомственного дворянства.

По традиционной бюрократической причине — из-за отсутствия необходимых документов — не было признано также дворянство Лихтфус-Вахштейнских. Имея на руках подлинную, 1600 г., грамоту с полученным гербом от польского короля Владислава IV Вазы, выданную Николаю Вахштейнскому, родоначальнику рода, его потомкам в середине XIX в. не удалось собрать все необходимые документы для получения российского дворянства. И 26 июня 1844 г. последовал указ Правительствующего Сената за № 2890 о неутверждении рода Вахштейнских в дворянском достоинстве[11]. Поэтому герб Вахштейнских «Lichtfus» сохранился только в генеалогических таблицах — «*на черном поле белая медвежья голова, с окровавленным ртом,обращенная в правую сторону щита; на щите из княжеской митры выходит половина белого медведя, который в лапах над головою держит венец, а над венцом три страусовых пера — белое, красное и алое*». Так же как и герб «Денгоф» (рис. 2) — «*в поле белом серебряная большая кабанья голова с открытой пастью и ушами, поднятыми вверх. В клейноде в короне половина кабана, с обеих сторон около ушей которого стрелы, направленные вверх*» одноименного рода, так как 20 августа 1855 г. вышел указ Герольдии о неутверждении А. И. Денгофа в дворянском достоинстве[12].

Количество архивных дел по Минскому дворянскому депутатскому собранию, в которых не обнаружено каких бы то ни было сведений о гербах, из ста семидесяти пяти исследованных, достигает пятидесяти. И если в вышеприведенных примерах изображения или описания отсутствуют по вполне понятным причинам, то пока трудно как-либо объяснить, почему о гербах таких явно древних дворянских фамилий, как, например, фон Гойеры из Лифляндии или фон Йорки, также нет сведений. Нет их и в опубликованной литературе — различных гербовниках или исследованиях других авторов. Хотя польские гербовники в ряде случаев являются единственным источником по гербам дворян-иностранцев.

Так, например, в деле Буша нет сведений о фамильном гербе. Но в книге Й. Хржаньского значится, что у некоего Буша был герб «Мора». Тем не менее утверждать, что данный герб принадлежал именно тем Бушам, которые проходят по 319-му фонду, оснований пока нет. Эта гипотеза требует дополнительных изысканий. Основание к этому дает сравнительный анализ двух других гербов. В деле рода Вендорфов, история которого описывается с начала XVIII в., имеется изображение и описание герба «Вендорф» (рис. 5): «*…щит продолговатый, в середине перпендикулярно по половине разделенный, которого передняя часть есть голубого цвета, а вторая красного, внизу оного щита находится желтый круглый пень, из коего же неподалеку себя выходят три прямые отрасли с листьями зелеными, на верху того щита дворянский шлем с висящим золотым сокровищем. Намет украшен по правой стороне голубыми и желтыми лентами между двумя из правой и левой стороны выходящими дротиками и флагами, который в половине из правой стороны верхней в большем куске, а красный в меньшем, а напротив из левой стороны красная половина большая, а сподняя голубая меньшая и между оными находится выше прописанному пентно*» и представлены доказательства на дворянство с происхождением (определение 20 февраля 1801 г.)[13] В книге же Хржаньского у Вендорфов значится герб «Nabram»[14]. Следует предположить, что члены многочисленного рода Вендорфов владели несколькими гербами и, в частности, означенным у польского автора.

Аналогичный пример можно привести и с родом Вагнеров, у которых, согласно документам 319-го фонда был герб «Лев»[15]. У Хржаньского же указан «Newlin».

Информация о геральдике дворянских фамилий содержится в нескольких видах документов, составляющих родословное дело. В первую очередь это жалованные грамоты польских королей — индигенаты на чин или должность. Вместе с пожалованием в дворянство, как правило, за многочисленные заслуги перед Речью Посполитой, дворяне-индигены получали герб и могли пользоваться правами потомственных дворян. Позже, российские императоры также подписывали подобные грамоты. На некоторых подлинных грамотах, в отличие от их копий, сделанных белорусскими канцеляристами, имеется изображение и герба. Например, Александр I 15 марта 1819 г. подписал Patent Феликсу Пиоро на дворянство с занесением его в I часть Родословной книги по Минской губернии. На пергаменте в нижней части документа размещен герб «Бонча» — «*в голубом поле единорог*». Изображение этого герба имеется и на заглавном листе «Вывода» фамилии Пиоро. Из этого документа становится ясно, что это военно-служилый род, первый представитель которого, означенный



на родословном древе, а именно Иван Казимир Пиоро, за военную службу 13 января 1677 г. получил грамоту от польского короля Яна Собеского. Его сын Людвиг — рейтарский ротмистр, внуки Иосиф и Игнатий — служили Августу II и принимали участие в войне с Карлом XII. Сын последнего, Фадей, был назначен на должность Самогитского стражника грамотой польского короля Августа III 6 сентября 1756 г.[16]

Второй вид документов, из которых мы можем почерпнуть сведения о геральдике — это «выводы» или истории дворянских родов. Большинство из них написано на польском языке. В архивном деле следующий за выводом документ, как правило, его копия с переводом на русский язык; экземпляр, который подавался в Департамент герольдии Сената. Часто на заглавном листе оригинала изображен герб и родословное древо. Все гербы изображены цветными красками. Сохранность большинства из них удовлетворительная, но некоторые листы при прочтении требуют очень осторожного к себе обращения. Ведь текст с гербом размещается на плотной пергаментной бумаге бóльшего формата, нежели остальные листы дела, которая сложена в несколько раз.

Сведения, а скорее только название герба или запись о том, что он был, можно получить из формулярных списков, свидетельств о рождении и крещении, различных справок, а также переписки с чиновниками из Петербурга.

Информация о гербе дворянской фамилии в архивном деле сохранилась в виде изображения, словесного описания, реже того и другого. Когда отсутствует рисунок герба, имеющееся описание тем более ценно, так как только простого упоминания о наличии герба бывает недостаточно для его выявления. Например, в деле рода Вольбеков отсутствует изображение герба, но имеется его описание: «*…должен быть в длину поделен линиею, с правой стороны щита — козел, на скаку вспятый, в правую сторону обращенный, по левой стороне возле линии в длину с ним за вверх текущая река, немного крутая. Козел в желтом поле, а поле, в коем река, гербописатели ничего не объясняют, в шлеме павлиньи перья*»[17].

В деле немецкого дворянина, помещика Речицкого уезда, Александра Михайловича Вебера де Линбурга есть интересный документ, датированный 20 марта 1835 г. Это «Вывод» рода, рассмотрение которого состоялось на заседании Минского дворянского депутатского собрания в Минске. В нем, в частности, со ссылкой на Петра Малаховского, «писателя геральдийного», описывается герб «Шампах», которым владели Веберы де Линбурги уже в XIV в.: «*…В зеленом поле на задних лапах стоит в праву сторону обращенный Лев без короны с задертым хвостом, в правой лапе держит в гору меч обнаженный. А в левой красный розовый цветок с шипулькою, ко-*

дак. № 7, 9, 48 у ПРД увогуле не значацца. Безумоўна, падобная уніфікацыя і падыходы да вызначэння разнавіднасці дакументаў патрэбны спецыялістам-археографам, а даследчыкаў-гісторыкаў пры іх працы больш зацікавяць інфармацыя пра кнігу Метрыкі, апісанне знешніх прыкмет рукапісу. Мабыць, складальнік палічыў, што для чытача (даследчыка) найбольш важна тое, чаго нельга ўбачыць у друкаванай кнізе.

Дакументы, разнавіднасць якіх вызначана як «тестамент» (завяшчанне), значацца ў ПРД пад № 11а, 20а, 41а (г. зн. толькі тры дакументы), хаця ва «Уводзінах» да кнігі ўказваецца, што такіх дакументаў 5 (дак. № 3, 11, 20, 24, 41). Але аказалася (пры зверцы з аўтэнтыкамі, а таксама са «Зместам»), што дак. № 3 з'яўляецца спавяданнем, дак. № 11, 20, 41 — пацвярджэннем «тестамента», дак. № 24 — пацвярджэннем «листа». У ХПД літары «а» і «б» далучаюцца, акрамя таго, да іншыў нумароў дакументаў, у прыватнасці да № 14, 40, 45. Такая неадпаведнасць выклікана тым, што ў кнізе Метрыкі маюцца ўключаныя акты, сярод якіх наяўныя і тэстаменты. Прыведзеныя ў ПРД дакументы, вызначаныя як «тэстамет» (завяшчанне) — класічныя тэстаменты, астатнія — некласічныя, г. зн. і па змесце, і па саманазве яны не з'яўляюцца выключна юрыдычнымі завяшчаннямі і таму, мабыць, не прыводзяцца ў ПРД.

Пэўна, дакументы Метрыкі вызначаюцца складальнікам у розных раздзелах публікацыі — ПРД, ХПД і «Змесце» амаль ідэнтычна, але акрамя ўключаных актаў, паколькі ім даюцца вызначэнні як самастойным дакументам. Уключаныя акты пазначаюцца ў ХПД праз літару «а», калі ў гістарычным дакуменце маецца адзін такі дакумент, і праз літару «б», калі з дакумента вылучаецца другі ўключаны акт (дак. № 40 ад 24.03.1558 г., напісаны ў Вільні, уключае два акты, напісаныя ў Навагрудку 25.11.1557 г.). Да ўключаных актаў складзены загалоўкі як да самастойных дакументаў у ХПД, што патрабуе пэўнай працы, паколькі некаторыя з уключаных актаў не маюць саманазвы. Прысутнасць уключаных актаў кнігі Метрыкі ВКЛ 43 у «Змесце» не абазначана яўна, для іх не выдзелены асобныя рэдакцыйныя загалоўкі, як гэта робіцца для астатніх дакументаў. Тым не менш з рэдакцыйных загалоўкаў «Зместа» чытач можа ў пераважнай большасці выпадкаў даведацца пра такія акты (напр., загаловак дак. № 40 сфармуляваны як пацвярджэнне «дароўнага» «листа» ад 25.11. 1557 г.).

У «Методических рекомендациях по изданию и описанию книг Литовской Метрики» (Вільнюс. 1985), складзеных Г. В. Харашкевіч і М. С. Каштанавым, не агавораны ўсе моманты, звязаныя са складаннем рэдакцыйных загалоўкаў. Археографы-публікатары кніг Метрыкі ВКЛ уносяць у іх пэўныя карэктывы або прытрымліваюцца іншы раз некаторых сваіх метадычных пазіцый. Пры вызначэнні разнавіднасці



дакументаў В. С. Мянжынскім у ПРД вылучаны новыя (якія не сустракаюцца ў археаграфіі дакументаў беларускага паходжання) разнавіднасці дакументаў — прызнанне, спавяданне, перанясенне. Яны датычацца вызначэння такой групы справаводчай дакументацыі, як судовыя. Гэтымі дакументамі абслугоўваліся судовыя сесіі, на якіх вялікі князь разам з Панамі рады разбіраў судовыя справы.

Дак. № 1 з саманазвай «лист» значыцца ў двух раздзелах пераліку — да раздзела «лист» (прывілей) і да раздзела «потверженье» (пацвярджэнне). Гэта выклікана, пэўна, тым, што ён мае шматпланавы змест. У ХПД дак. № 1 пазначаецца двойчы. Ён вызначаемы як «лист», уключаны ў яго акт вызначаемы як «рашэнне суда «лист», у «Змесце» — толькі як «лист», без паведамлення пра ўключаны акт. Сама назва яго — лист (г. зн. без двукосся), а саманазва ўключанага акта — «лист судовы господарски». Дак. № 2 у тэксце значыцца як «лист», у ПРД — як «лист» (прывілей), у ХПД і ў «Змесце» — як загад. Справа ў тым, што рэдакцыйны загаловак дакумента даецца складальнікам паводле яго зместу. Аднак дакумент Метрыкі ВКЛ, які мае саманазву «лист», можа быць вызначаны паводле яго зместу і як «прывілей», і як «пацвярджэнне» (у пэўных выпадках маецца да 7 розных вызначэнняў, якія адпавядаюць зместу дакумента), што ўскладняе складанне рэдакцыйных загалоўкаў. Той жа дак.№ 2 нясе змест, які адпавядае вызначэнню дакумента як «загада», разам з тым, асабліва калі ўлічваць першапачатковую форму фармуляра, яго мэтазгодна вызначаць праз найменне «прывілей». Акрамя дак. № 1, у кнізе Метрыкі маюцца і іншыя са шматпланавым зместам, але толькі ён прыводзіцца ў ПРД двойчы. Адсюль вынікае, што найбольшую складанасць пры вызначэнні разнавіднасці дакументаў прадстаўляў для складальніка менавіта гэты дакумент.

Пры вывучэнні загалоўкаў да дакументаў кнігі Метрыкі ВКЛ 43 становіцца відавочным, што В. С. Мянжынскі імкнуўся аптымізаваць разыходжанне паміж аўтэнтычнымі назвамі дакументаў і вызначэннямі іх разнавіднасці ў адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі археаграфіі дакументаў беларускага паходжання. Належыць заўважыць, што В. С. Мянжынскі беражліва адносіцца як да аўтэнтычных назваў дакументаў, наяўных у кнігах Метрыкі ВКЛ, так і да наяўных у іх вызначэннях разнавіднасцяў дакументаў.

Дастасаванне паміж саманазвамі, рэдакцыйнымі назвамі дакументаў (у «Змесце») і вызначэннем разнавіднасці дакументаў (у ПРД) недастатковае. Складальнік паслядоўна азначае дакументы з саманазвай «лист» у «Змесце» праз найменне «лист» у двукосси. Гэта цалкам мэтазгодна, улічваючы тое, што саманазву «лист» маюць шматпланавыя дакументы (і ў такіх выпадках узнаўленне (паўтарэнне) назвы апраўдана). Але ў ПРД гэтыя ж дакументы

ён вызначе ўжо як «лист» (прывілей), г. зн. што складальнік вызначыўся наконт разнавіднасці дакумента, нягледзячы на яго шматзначнасць.

У ПРД як «привилей» (прывілей) значыцца дак. № 6, хаця ён мае саманазву «потвержене», а ў «Змесце» значыцца як «пацвярджэнне». У 3-м раздзеле ПРД — «лист» (прывілей), з пазначаных ў ім сямі дакументаў толькі адзін адпавядае формуле раздзела.

Дак. № 2 мае саманазву «лист», у «Змесце» вызначаецца як загад, а ў ПРД — як «лист» (прывілей). Дак. № 4 мае саманазву «вызнане», у «Змесце» пазначаецца як прызнанне, а ў ПРД — як «вызнане» (прызнанне), г. зн. што ў дадзеным выпадку маецца поўная адпаведнасць паміж вызначэннем дакумента ў ПРД з саманазвай аўтэнтыка і з вызначэннем у «Змесце». Але такая адпаведнасць рэдкая. Дак. № 9, 10 з саманазвамі «лист» і «привилей» (без двукосся) у «Змесце» бяруцца ў двукоссе, а ў пераліку ў двукоссе бяруцца ўжо не найменні, якія ўстанаўліваюцца для дакументаў складальнікам, а гэтыя саманазвы. Дак. № 15 у ПРД аднесены да раздзела — «сознанье» (спавяданне), але ў «Змесце» азначаецца як аб’яўленне і ўнясенне ў кнігі. Дак. № 16 мае саманазву «лист», у «Змесце» мае двайное азначэнне — загад («лист»), а ў ПРД аднесены да раздзела — «лист» (прывілей). Падобная неадпаведнасць паміж вызначэннем дакумента ў ПРД з саманазвай аўтэнтыка і з вызначэннем дакументаў у «Змесце» сустракаецца і далей.

Гэтая неадпаведнасць у дадзенай працы вынікае з прынцыпаў, узятых В. С. Мянжынскім пры складанні ПРД, ХПД і «Зместа». Пры складанні ПРД В. С. Мянжынскі ў першым слупку прыводзіць аўтэнтычную назву дакумента, або вызначэнне разнавіднасці дакумента паводле аўтэнтыка, у другім слупку — вызначэнне разнавіднасці дакумента ў адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі археаграфіі. Пры складанні ХПД В. С. Мянжынскі прарабіў тое, пра што не клапаціліся пісары — даць у храналогіі разам са звычайна пададзенымі і ўключаныя акты. Пры складанні рэдакцыйных загалоўкаў В. С. Мянжынскі прытрымліваецца падыходу, паводле якога загаловак павінен быць аптымальным па аб’ёме, добра перадаваць змест дакумента, мець літаратурны стыль і пры гэтым улічваць тагачасную назву дакумента. Часам апошняе супадае з вызначэннем дакумента складальнікам. У такіх выпадках праводзілася аптымізацыя афармлення загалоўка. Напрыклад, калі прывілей супадае з вызначэннем яго складальнікам як прывілея, то немэтазгодна паўтараць найменне.

У заключэнне пажадаем В. С. Мянжынскаму (як і іншым айчынным археографам, якія рыхтуюць дакументы Метрыкі ВКЛ да друку) далейшых поспехаў у плённай і руплівай працы.



[1] Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 43 (1523—1560): Кн. запісаў 43 (Коп. канца XVI ст.) / Падрыхт. В. С. Мянжынскі. Мн., 2003.

[2] На друкаваную версію кн. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 28 (1522—1552): Кн. запісаў 28 / Падрыхт. тэкстаў да друку і навук. апарат: В. Мянжынскі, У. Свяжынскі. Мн., 2000. (Калекцыя «Помнікі». Т. 1).

***Рэцэнзіі:***


Олег Дернович. Возобновление издания Метрики в Беларуси // Новости Литовской Метрики. Вильнюс, 2000. № 4. С. 11—12;

Анатоль Фурс. Доўгачаканае выданне // Книжный мир. № 21 (60). Мн., 25 мая 2000 г. С. 1—2;

Алег Дзярновіч. Вяртанне Метрыкі // Наша Слова. № 24 (461). 21 чэрв. 2000 г. С. 2;

Міхаіл Спірыдонаў. Чарговая кніга Метрыкі ВКЛ // БГА. Т. 7. Сш. 1 (12). Мн., чэрв. 2000 г. С. 191—199;

Ганна Харашкевіч. Праблемы выдання Літоўскай Метрыкі і першая беларуская публікацыя // БГА. Т. 7. Сш. 2 (13). Мн., снеж. 2000 г. С. 509—524;

Світлана Амбросимова. Відроджэння археографічних традицій у парині метриканістики // Гуманітарний журнал. № 2 (6). Дніпропетровськ, 2000 (весна). С. 123—126;

Генадзь Семянчук. Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 28 (1522—1552): Кн. запісаў 28 // Białoruskie Zeszyty Historyczne. № 14. Białystok, 2000. S. 242—244.

Jacek Wijaczka. Metryka Vialikaha Kniastva Litouskaha (1522—1552). Kniha zapisaŭ 28 // Zeitschrift für Ostmitteleuropa-Forschung. № 49. 2000. H. 4. S. 611;

Світлана Амбросимова. Археографічний «Ренесанс» Метрики Великого Князівства Литовського // Metriciana: Дослед. і матэр. Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага. Т. 1. Мн., 2001. С. 163—166;

Володимир Поліщук. Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 28 (1522—1552). Кніга запісаў 28. Українській гуманітарний огляд. Вип. 6. К., 2001. С. 250—252.

Compact Disk «Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 28 (1522—1552)» // Падрыхт. тэкстаў да друку і нав. апарат. В. Мянжынскі, У. Свяжынскі. Мн., 2000. (Калекцыя «Помнікі», Т. 1) (36,3 д. а. — 12,5 MB).


***На электронную версію кнігі:***


Алег Дзярновіч. Ля пачаткаў стварэння электроннага архіву Метрыкі ВКЛ // Наша Слова. № 43 (480), 7 ліст. 2000 г. С. 2; Ён жа. Кніга № 28 Метрыкі ВКЛ на кампакт-дыску // Metriciana: Даслед. і матэр. Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага. Т. 1. Мн., 2001. С. 176—180.


***Ю. У. Несцяровіч***

## ЭНЦИКЛОПЕДИЯ АРХИВНОЙ ВИТЕБЩИНЫ

*Витебщина архивная: история, фонды, персоналии (сер. XIX—XX вв.) / Сост. М. В. Пищуленок и др.; Науч. ред. М. Ф. Шумейко. Мн.: БелНИИДАД. 2002. — 213 с.*

В этом году* коллеги из Белорусского научно-исследовательского института документоведения и архивного дела сделали нам** весьма ценный подарок — объемный фолиант «Витебщина архивная: история, фонды, персоналии (середина XIX — XX вв.)». Книга была подготовлена группой видных витебских (М. В. Пищуленком, В. В. Шарендо, В. П. Коханко, А. В. Долговой, О. В. Пашкевич и др.) и минских (М. Ф. Шумейко, А. К. Голубович, Л. М. Лисовой и др.) архивистов. Без преувеличения — это уникальное издание, аналогов которому пока, пожалуй, не существует не только в Беларуси, но и других странах. По сути, это своего рода энциклопедия, заключающая в себе богатейший справочный и познавательный материал, ценный для различных слоев читателей: от научных работников, преподавателей вузов и учителей школ до самих школьников. Прежде всего привлекает основной замысел книги — показать архивные богатства Витебщины, дать общие сведения о документах, с ней связанных, хранящихся не только в самой области, но в целой Беларуси; рассказать об истории архивного дела и выдающихся архивистах северо-востока республики. Конечно же особое место занимает в издании очерк о знаменитом Витебском центральном архиве древних актовых книг и его, увы, драматической судьбе. Ликвидированный 100 лет назад, в 1903 г., он оказался вывезенным в Вильно, где был слит с Виленским центральным архивом древних актовых книг, на собрания которого сильно повлияли трагические события XX в. Ценнейшей частью, наряду с историческим разделом книги, являются занимающие добрую ее половину «обзоры фондов и перечни документов» о Витебщине, сберегающиеся в «государственных архивах Беларуси». Это Национальный исторический архив Беларуси, где находится большая часть древнейших материалов, Национальный исторический архив Беларуси в г. Гродно, Национальный архив Республики Беларусь, Белорусский государственный архив-музей литературы и искусства, Белорусский государственный архив кинофотофонодокументов, Белорусский архив научно-технической документации и, конечно же, государственные архивы Витебской области, в том числе областной Государственный архив, насчитывающий более одного миллиона единиц хранения за 1917—2000 гг. С большой любовью к своим предшественникам в заключительном, третьем, разделе книги («Архивисты и время») написаны биографические очерки о людях, посвятивших свою жизнь становлению и развитию архивного дела на Витебщине. Среди многих имен есть как широко ныне известные (А. М. Сазонов, А. П. Сапунов, Д. И. Довгялло, М. В. Мелешко, А. О. Шлюбский и др.), так и те, чьи имена будут увековечены благодаря работе современных исследователей-архивистов, рассказавших о них. Завершается издание серией различных хроникальных, документальных и различного рода справочных приложений, что еще более придает ему своеобразный энциклопедический вид. Стоит добавить, что книга полиграфически очень неплохо издана, особенно выигрышно выглядит обложка, на которой воспроизведены старинные открытки с видами Витебска. А вот тираж этого интереснейшего и удачного во всех отношениях издания, подготовленного с большой тщательностью, невероятно мал — всего 200 экземпляров*.

**Ю. А. Лабынцев, Л. Л. Щавинская**

* 2003 г. — *Рэд.*

** Супрацоўнікам Інстытута славяназнаўства РАН. — *Рэд.*



## ВАЖКІ НАБЫТАК БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАДСКАСЦІ

***Янка Купала**. Поўны збор твораў у дзевяці тамах. Т. I—IX. Мн.: Маст. літ., 1995—2003.*

Закладзеныя на пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя традыцыі выдання спадчыны класікаў беларускай літаратуры працягваюць развівацца і ўзбагачацца. Сказанае можна пацвердзіць шматлікімі прыкладамі выпушчаных у свет збораў твораў выдатных майстроў нацыянальнага прыгожага пісьменства. Нагадаем некаторыя з іх: Багдановіч М. Творы: У 2 т. (1927—1928), Зб тв.: У 2 т. (1968), Поўны зб. тв.: У 3 т. (1992—1995), Колас Я. Зб. тв.: У 12 т. (1961—1964), Зб. тв.: У 14 т. (1972—1978), Чорны К. Зб. тв.: У 6 т. (1954—1955), Зб. тв.: У 8 т. (1972—1975), Мележ І. Зб. тв.: У 6 т. (1969—1971), Зб. тв.: У 10 т. (1979—1985). Пералік можна працягваць, назваўшы выдадзеныя зборы твораў П. Труса, Цёткі, В. Дуніна-Марцінкевіча, П. Броўкі, З. Бядулі, М. Гарэцкага, К. Крапівы, У. Караткевіча…

Істотнае месца ў гісторыі айчыннай археаграфіі і тэксталогіі складае падрыхтоўка і выданне збораў твораў Я. Купалы. За пяцьдзесят гадоў тэкстолагамі Інстытута літаратуры НАН Беларусі ажыццёўлена чатыры выданні. Першыя два выйшлі ў шасці тамах (1952—1954; 1961—1963), трэ-

* Быў дадатковы тыраж (гл. с. 310). — *Рэд.*

цяе — у сямі (1972—1976), чацвёртае — у дзевяці (1995—2003). Апошняе з іх — *Поўны збор твораў народнага паэта*, які стаў каштоўным падарункам да 120-годдзя з дня нараджэння пісьменніка і прадстаўніча завяршыў паўвекавы перыяд выдання творчай спадчыны Я. Купалы.

Поўны збор твораў класіка беларускай літаратуры — гэта працяг працы тэкстолагаў-папярэднікаў на больш высокім навуковым узроўні. Пра новы дасягнуты ўзровень выдання сведчаць многія паказчыкі. Перш за ўсё — паўната. Упершыню ў беларускім літаратуразнаўстве ажыццёўлена выданне, дзе змешчана ўсё вядомае на дадзены момант, што напісана рукой Я. Купалы, у тым ліку тое выяўленае за час падрыхтоўкі Поўнага збору твораў.

Корпус новага выдання ўзбагачаны больш чым васьмідзесяццю вершаванымі творамі, якія публікаваліся ў розных друкаваных крыніцах пры жыцці паэта і пасля яго смерці, аднак па розных прычынах у названыя вышэй зборы твораў Я. Купалы не ўваходзілі. Да іх ліку адносяцца: «Папросту», «Забраны край», «Над Нёманам», «Сярод раз'юшаных сатрапаў»,»Чужым», «Беларушчына», «На рынку», «У чужой старонцы», «Чараўнік», «Вялікдзень», «За пасвячэнне вершык харошы», «Лямант пана Кавалюка», «Нашы дэпутаты», «Прыяцелі», «На дзяды», «На куццю» і інш… Верш «Не плюй у карытца» друкуецца наогул упершыню.

Колькасць публіцыстычных артыкулаў у Поўным зборы твораў павялічылася амаль на палову і склала сто сорак чатыры адзінкі. Тое ж можна сказаць пра эпісталярную спадчыну, якая ўключае лісты да ста дваццаці шасці адрасатаў. *Упершыню* ў навукова-каменціраванае выданне ўключаны *празаічныя пераклады* Я. Купалы (з украінскай мовы — П. Панча «Зямля», А. Любчанкі «Пастух», «№ 2002», «Ціхі хутар»), *дарчыя надпісы* (адрасаваны больш як васьмідзесяці асобам; сто сорак тры адзінкі), *калектыўныя творы* (семдзесят дзевяць адзінак), *службовыя і асабістыя дакументы* (семдзесят адна адзінка), *назвы кніг з уласнаручным подпісам паэта* з яго асабістай бібліятэкі (8 адзінак), а таксама «*Расійска-беларускі слоўнік*», у падрыхтоўцы якога прымаў актыўны ўдзел Я. Купала.

Адным з паказчыкаў высокага ўзроўню выдання з'яўляецца тое, што ў Поўным зборы твораў тэксты друкуюцца ў адпаведнасці з апошняй воляй пісьменніка: яны пазбаўлены цэнзарскіх купюр, скажэнняў, якія мелі месца ў папярэдніх выданнях. На аснове аналітычнай зверкі крыніц тэксту ўзноўлены асобныя радкі, строфы ў такіх вершах, як «З песень нядолі», «Мой пагляд і мэта», «Шчаслівасць», «Сядзь тут, пад крыжам», «Кругаварот», «Прыстаў я жыць», «Над Нёманам», «Новы год», «Па Даўгінаўскім гасцінцы», «Паўстань» і інш.



На падставе вывучэння гісторыі тэкстаў складальнікам удалося вырашыць шматлікія тэксталагічныя праблемы: узнаўленне кананічнага тэксту, атрыбуцыі, кампазіцыі, датавання. У новым выданні ўдакладнены даты напісання многіх вершаў, што, безумоўна, закранула ранейшы парадак іх чарговасці, а тым самым і перыядызацыю творчасці Я. Купалы.

Змешчаныя каментарыі ў параўнанні з папярэднімі выданнямі маюць шэраг новаўвядзенняў. Акрамя таго, што яны значна пашыраны, дапоўнены новымі звесткамі, зменена структура самога каментарыя: рознавычытанні тэксту вынесены ў асобны раздзел — «Іншыя рэдакцыі і варыянты» і змешчаны ў асноўным корпусе выдання. Гэта істотна павышае статус усяго, што напісана рукой Я. Купалы, дае магчымасць чытачу самастойна вызначыць прычыны і характар перапрацовак тэксту, асэнсаваць працэс ідэйна-мастацкай эвалюцыі пісьменніка.

Істотныя змены ўнесены ў кампазіцыю Поўнага збору твораў у цэлым. Пэўныя набыткі мае раздзел Dubia, па-новаму падаюцца польскамоўныя вершы Я. Купалы. Абноўлены кожны з раздзелаў Поўнага збору твораў.

Неабходна засяродзіць увагу на апошнім (дзевятым) томе выдання. Ён выйшаў у двух кнігах. Адметнасць іх у вялікай колькасці новых матэрыялаў у раздзелах, дзе змешчаны дарчыя надпісы, асабістыя і службовыя дакументы. «Летапіс жыцця і творчасці» пісьменніка, падрыхтаваны Я. Саламевічам. Жыццяпіс дапоўнены дакументальнымі матэрыяламі з НАРБ. У навукова-каменціраваных выданнях беларускіх пісьменнікаў гэта практыкуецца ўпершыню. Яны падаюцца ў «Дадатку».

Выданне Поўнага збору твораў Я. Купалы ў дзевяці тамах — значная культурная падзея. Важкасць такога набытку для Беларусі становіцца яшчэ больш відавочнай, калі ўлічыць, што ў эдыцыйнай практыцы нашых бліжэйшых суседзяў: Расіі, Украіны, Польшчы існуе даволі працяглая традыцыя выдання Поўных збораў твораў, а колькасць выданняў такога тыпу (навукова-каменціраваных) падлічваецца не адным дзесяткам.

Акрамя Інстытута літаратуры НАН Беларусі і НАРБ Поўны збор твораў рыхтавалі: Дзяржаўны літаратурны музей Я. Купалы і выдавецтва «Мастацкая літаратура». Праца ажыццяўлялася пад кіраўніцтвам членакарэспандэнта НАН Беларусі М. Мушынскага. Складальнікамі тамоў з'яўляюцца А. Гесь, Т. Голуб, С. Забродская, Э. Золава, К. Казыра, Л. Мазанік, В. Рагойша, В. Селяменеў, В. Скалабан, Т. Строева, А. Шамякіна, Г. Якаўлева, Я. Янушкевіч. Прадмова да выдання напісана акадэмікам НАН Беларусі У. Гніламёдавым. Ён, а таксама М. Мушынскі, П. Васючэнка, В. Рагойша, В. Скалабан, І. Багдановіч, Э. Золава з'яўляліся рэдактарамі Поўнага збору твораў народнага паэта Беларусі Я. Купалы.

***Т. С. Голуб***

# ПУБЛІКАЦЫЯ СТАРАЖЫТНЫХ СЛАВЯНСКІХ ПЕРАКЛАДАЎ БІБЛЕЙНАЙ КНІГІ «ПЕСНЯ ПЕСНЯМ»

***Алексеев А. А.*** *«Песнь Песней» в древней славяно-русской письменности. СПб.: Дмитрий Буланин, 2002. 236 с.*

Выданне ўяўляе сабой каменціраваную публікацыю 10 перакладаў біблейнай кнігі «Песня Песням», зробленых на царкоўнаславянскую і старабеларускую мовы ў розныя эпохі, пачынаючы ад першых славянскіх перакладаў кірыла-мяфодзьеўскай пары да XVI ст., часу першых выхадаў у друку. У полі зроку даследчыка апынулася практычна ўся рукапісная традыцыя кнігі, што існавала сярод праваслаўных славян у часы сярэднявечча ці, прынамсі, з'яўлялася тады ў славянскім пісьме (кірыліцай або глаголіцай).

Біблейная кніга «Песня Песням» з прычыны свайго своеасаблівага зместу (лірычная кахальна-вясельная паэма з элементамі эратызму) заўжды прыцягвала ўвагу чытачоў, як і выклікала сумненне ў сваёй набожнасці і магчымасцях тэалагічнага тлумачэння. Таму ніводная з біблейных кніг не мела ў эпоху сярэднявечча такой колькасці перакладаў ці рэдагаванняў і тлумачэнняў, як «Песня Песням». Але пераклад іх наогул не быў справай сінгулярнай, гэта быў працяглы працэс, які ўключаў супастаўленні і рэдактуры, узгадненне з адным ці некалькімі арыгіналамі і новыя пераклады. І толькі параўнальна невялікі аб'ём кнігі «Песні Песням» палягчае дэталёвае вывучэнне ўсёй яе перакладчыцкай традыцыі на царкоўнаславянскай і ўсходнеславянскай глебе, вынікам чаго і з'яўляецца публікацыя А. А. Аляксеева.

Над гэтым даследаваннем А. А. Аляксееў працаваў яшчэ ў 1970-я гг., тады ім жа быў падрыхтаваны падбор славянскіх версій, але з неспрыяльных эдыцыйных умоў савецкага часу публікацыя не была ажыццёўлена[1]. І толькі ў новым стагоддзі з'явілася магчымасць для выпуску каменціраванай публікацыі. Яе здзейсніла выдавецтва «Дмитрий Буланин», вядомае выданнямі старажытных славянскіх тэкстаў.

Праца А. А. Аляксеева складаецца з уводзін, 8 раздзелаў і 2 дадаткаў. Ва ўводзінах даецца агляд гісторыі існавання гэтага твора ў яўрэйскім, грэчаскім і лацінскім пісьменстве, а таксама выкладаюцца кароткія звесткі пра паходжанне славянскага пісьменства і функцыянальныя віды біблейных тэкстаў у праваслаўных славян. У дадатку публікуюцца тэксты, якія служылі арыгіналамі для перакладаў: яўрэйскі (масарэцкі тэкст), грэчаскі (Септуагінта), лацінскі (Вульгата) і старачэшскі пераклад (паводле венецыянскага выдання 1506 г.). У якасці дадатку змешчаны таксама мастацтвазнаўчы артыкул В. Белабровай, дзе разглядаецца адлюстраванне матываў і сюжэтаў



«Песні Песням» у паэзіі і мастацтве Масковіі XVI—XVIII стст. (аўтарка канстатуе, што яно адбывалася выключна пад заходнімі ўплывамі).

Кожны з раздзелаў кнігі прысвечаны аднаму ці двум тыпалагічна блізкім перакладам твора і звычайна складаецца з некалькіх частак. Напачатку ў раздзеле падаецца археаграфія перакладу (спіс рукапісаў з указаннем іх месцазнаходжання і зместу), калі ён прадстаўлены ў рукапіснай традыцыі, затым разглядаюцца тэксталогія (захаванне тэксту ў перакладзе і наяўнасць рознаачытанняў) або склад тэксту, напрыканцы даследчык аналізуе пераклад (лексіку і граматыку) ці яго мову з мэтай вызначыць паходжанне (час і краіну), дакладнасць і тэхніку перакладу. Раздзел завяршаецца публікацыяй тэксту перакладу паводле канкрэтнага рукапісу ці ў рэканструяваным выглядзе. Для набору гэтых тэкстаў у кнізе выкарыстоўваюцца розныя царкоўнаславянскія шрыфты, што робіць публікацыю менш манатоннай; у некаторых тэкстах асобныя фрагменты, важныя для структуры тэксту, надрукаваны чырвонай фарбай (калі гэта мела месца ў арыгінале).

Усяго даследчык вылучыў 10 перакладаў «Песні Песням», якія цалкам (наколькі гэта дазваляў наяўны тэкставы матэрыял) апублікаваны ў кнізе: 1) старажытны, які даследчык прыпісвае архібіскупу Мяфодзію, асветніку славян (21 рукапіс), надрукаваны ў рэканструяваным выглядзе на базе ранейшай публікацыі аўтара; 2) глагалічны, яго рукапісная традыцыя засталася нявывучанай, таму публікацыя здзейснена ў азнаямленчых мэтах паводле выпадкова абранага старажытнага спіса; 3) тлумачальны (30 рукапісаў), які апублікаваны з катэнамі, г. зн. тлумачэннямі візантыйскіх экзегетаў да кожнага верша ці групы вершаў; 4) цытаты з твора ў розных царкоўнаславянскіх помніках, якія нярэдка выступаюць ва ўласным перакладзе; 5) царкоўнаславянскі пераклад з яўрэйскага арыгінала (1 спіс); 6) старабеларускі пераклад таксама з яўрэйскага арыгінала (1 спіс); 7) пераклад паводле тлумачэнняў візантыйца Феадарыта Кірскага, які быў выкананы на мяжы XIV—XV стст. Канстанцінам Касцянецкім (8 спісаў), публікацыя здзейснена без суправаджэння тлумачэнняў; 8) старабеларускі пераклад, выкананы з чэшскай версіі (1 спіс); 9) пераклад Францішка Скарыны, які быў выкананы паводле чэшскай версіі і апублікаваны ў 1518 г.; 10) пераклад, змешчаны ў Астрожскай біблії 1580 г.

З пералічанага відаць, што старажытныя пераклады «Песні Песням» (1, 2, 3, 7) маюць значную рукапісную традыцыю, у складзе якой даследчык вызначае цэлыя рэдакцыі, тады як пераклады твора ў больш познія часы (XIV—XVI стст.) прадстаўлены альбо адзінкавымі рукапісамі (5, 6, 8) альбо наогул выданнямі (9, 10). Гэта адлюстроўвае гістарычныя змены як у характары перакладчыцкай працы (ад царкоўна-манаскай дзейнасці да ін-

дывідуальнай справы), так і ў функцыяніраванні перакладаў (ад царкоўнага выкарыстання да пазацаркоўнага, прыватнага ўжытку).

Практычна ўсе вызначаныя А. А. Аляксеевым пераклады паходзяць або з Балкан (1, 2, 7), або з рэгіёна, названага ў кнізе «Заходняй Руссю» (5, 6, 8, 9). Толькі ў дачыненні да тлумачальнага перакладу (3) і перакладу яго катэн даследчык абмяркоўвае магчымасць паходжання з Кіеўскай Русі (С. 48—51, 59—61), хаця іншыя вучоныя лічаць яго ўсходнеславянскай апрацоўкай балканскага арыгінала[2], што названы ў А. А. Аляксеева «мяфодзьеўскім» (1). Дарэчы, пераклад Канстанціна Касцянецкага (7) таксама можа лічыцца апрацоўкай мяфодзьеўскага перакладу. У выніку, калі не ўлічваць даных цытат (4), то можна вызначыць два пераклады, што з'явіліся на Балканах: старажытны пераклад (1), які прадстаўлены ва ўсходнеславянскай (3) і сербскай (7) рэдакцыях, затым глагалічны пераклад (2) і пяць перакладаў, што ўзніклі ў арэале сучасных Беларусі і Украіны (5, 6, 8, 9, 10).

Цікавым раздзелам у даследаванні А. А. Аляксеева з'яўляецца аналіз цытат з «Песні Песням», прадстаўленых у розных царкоўнаславянскіх помніках. Вывучэнне цытат вельмі важнае для гісторыі любога біблейнага твора, паколькі іх выкарыстанне, з аднаго боку, сведчыць пра стан біблейнага тэксту ў даўнюю эпоху, ад якой часта не дайшлі спраўныя рукапісы, а з другога, адлюстроўвае адносіны аўтараў да гэтага тэксту і іх тэалагічную адукаванасць (С. 123—125). Нават біблейныя цытаты не заўжды апазнаваліся перакладчыкамі ў тэксце іншых твораў, але калі і апазнаваліся, то, звычайна, не запазычваліся з ужо існуючага перакладу, а перакладаліся нанова. Матэрыял, сабраны А. А. Аляксеевым, наглядным чынам пацвярджае гэта.

Праца А. А. Аляксеева каштоўная для беларускіх даследчыкаў перш за ўсё прысутнасцю ў ёй перакладу Ф. Скарыны. Паколькі даследчык падае тэксталагічную гісторыю «Песні Песням», то гэта стварае магчымасць для аналізу Скарынавага перакладу гэтай біблейнай кнігі на фоне ўсёй перакладчыцкай традыцыі праваслаўных славян[3]. Трэба спадзявацца, што выданнне А. А. Аляксеева з публікацыяй арыгіналаў у дадатку будзе скарыстана скарыназнаўцамі Беларусі і паслужыць крыніцай для вывучэння перакладчыцкай тэхнікі беларускага асветніка.

Заўваг патрабуюць лінгвонімы, якія выкарыстоўвае даследчык пры кваліфікацыі мовы і паходжання перакладаў. У загалоўку і тэксце сваёй працы пераклады ён называе «славяна-рускімі», аб'ядноўваючы такім чынам царкоўнаславянскія пераклады балканскага і ўсходнеславянскага паходжання. Рукапісы ўсходнеславянскага паходжання ў працы рэгулярна называюцца «рускімі». Нарэшце, пераклады беларускага паходжання — «заходнерускімі», а сама старабеларуская мова звычайна называецца «заходнерускай мовай» (хаця часам аўтар называе яе старабеларускай (С. 140, 164), а ў



анатацыі выдання — ужо ўкраінскай мовай). Падобныя недакладныя найменні былі прыняты ў савецкіх вучоных (і захоўваюцца яшчэ і зараз у асобных расійскіх), якія пераняліх іх у спадчыну ад сваіх калег Расійскай імперыі, але прызнаць іх карэктнымі ў наш час не выпадае. Гэтыя тэрміны вядуць да ўспрымання ўсходнеславянскай культуры праз прызму адной толькі рускай. Такі недыферэнцыраваны падыход не толькі ігнаруе прысутнасць у культурным працэсе беларусаў і ўкраінцаў, але і скажае яго рэальны кірунак. Міжволі ў чытача складваецца ўражанне, што менавіта рускія спрычыніліся да паўстання значнай часткі з разгледжаных А. А. Аляксеевым перакладаў, хаця, як вынікае з яго даследавання, ініцыятыва па перакладзе «Песні Песням» на працягу некалькіх стагоддзяў зыходзіла з Балкан і беларуска-ўкраінскага арэала (нават Астрожская біблія была падрыхтавана і выдадзена на Валыні), тады як у Масковіі не з'явілася нічога.

Праца А. А. Аляксеева з'яўляецца першым манаграфічным апісаннем перакладчыцкай традыцыі «Песні Песням» у праваслаўных славян. Яна таксама можа служыць добрым прыкладам каменціраванай публікацыі. Дэталёвы аналіз, праведзены даследчыкам, раскрывае тэксталагічную і перакладчыцкую працу паўднёва- і ўсходнеславянскіх кніжнікаў эпохі сярэднявечча. Усё гэта робіць кнігу А. А. Аляксеева карыснай і цікавай працай па тэксталогіі і крыніцазнаўстве.

[1] Тады ўбачыла свет толькі праца: Алексеев А. А. «Песнь Песней» в древней славяно-русской письменности. Ч. 1—2 // Предварительные публикации Института русского языка АН СССР: Проблемная группа по экспериментальной и прикладной лингвистике. М., 1980. Вып. 133, 134. Некаторыя часткі даследавання пазней былі апублікаваны ў розных крыніцах: Алексеев А. А. «Песнь Песней» по русскому списку XVI в. в переводе с древнееврейского оригинала // Палестинский сборник. Л., 1981. Т. 27. С. 63—79; Ён жа. К опрелению объема литературного наследия Мефодия (четий перевод «Песни Песней») // ТОДРЛ. Л., 1983. Т. 37. С. 229—255; Ён жа. «Песнь Песней» в Чешской библии и восточнославянские переводы XV—XVI вв. // Slavia. 1983. Roč. 52. Seš. 2. S. 283—289; Ён жа. Цитаты из «Песни Песней» в славянской письменности: (Цитаты и текстология) // Старобългарска литература. 1985. № 18. С. 74—92.

[2] Гл.: Lant H. G. The OCS Song of Songs: One translation or two? // Die Welt der Slaven. 1985. Bd. 30. S. 279—316.

[3] У свой час такія задачы сабраць і абагульніць усю папярэднюю перакладчыцкую традыцыю (прынамсі, на славянскай глебе) тых ці іншых біблейных кніг ставіліся перад скарыназнаўствам некаторымі даследчыкамі, гл.: Дышыневіч В. Н. Аб крыніцазнаўчым аналізе спадчыны Ф. Скарыны // Весці АН БССР: Серыя грамадскіх навук. 1985. № 3. С. 95—96; Яна ж. Пытанне не зусім простае… // ЛіМ. 24 жн. 1987 г.; Чамярыцкі В. А. Літаратурныя крыні-

цы скарынаўскіх прадмоў // Спадчына Скарыны: Зб. матэр. першых скарынаўскіх чытанняў (1986 г.). Мн., 1989. С. 113—123; С. 117, 122.

***І. П. Клімаў***

## НОВЫЯ АРХЕАГРАФІЧНЫЯ ПРАЦЫ Я. Я. ЯНУШКЕВІЧА

***Язэп Янушкевіч.*** *Дыярыюш з ХІХ стагоддзя: Дзённікі Міхала Галубовіча як гістарычная крыніца. Мн.: Выдавец В. Хурсік, 2003. 350 с.*

У нашым недалёкім мінулым — у савецкі час сярод прадстаўнікоў гістарычнай навукі ніхто нават не мог і марыць, каб апублікаваць артыкул пра святара-праваслаўнага, каталіцкага, уніята, тым больш выдаць яго кнігу, ды яшчэ напісаную на польскай мове. Сёння такую кнігу падрыхтаваў Я. Я. Янушкевіч. Найперш належыць адзначыць, што выданне гэтага працаёмкага даследавання, якое складаецца з тэксталагічнай падрыхтоўкі польскага арыгінала, перакладу, археаграфічнай апрацоўкі, запланавана як частка мерапрыемстваў да 200-годдзя з дня нараджэння класіка нашай літаратуры Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1808—1884), якое будзе адзначацца ў нашай краіне ў 2008 г. Кніга выйшла пад грыфам БелНДІДАС, Археаграфічнай камісіі Белкамархіва, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Ёю распачынаецца серыя публікацый наратыўных гістарычных крыніц — «Літаратура ХІХ стагоддзя».

Язэп Янушкевіч, добра ведаючы польскую мову, старанна (літаратурна) пераклаў на беларускую мову дзённікі мінскага архіепіскага (з 1853 г.), доктара багаслоў'я і царкоўнага права, праваслаўнага царкоўнага дзеяча Міхала Галубовіча (1800—1881), занатаваныя ім у 1858—1860 гг. З агульнага аб'ёму кнігі (350 старонак друкарскага тэксту) «Дыярыюш» займае 258 старонак ($^5/_7$ аб'ёму).

Даследчык Рамуальд Зямкевіч у кнізе «Стары Мінск у беларускіх успамінах» (1919—1920) гэтак пісаў пра аўтара «Дыярыюша»: «Міхаіл Галубовіч — мінскі, шчыры і добры беларус».

Праз падрабязныя, амаль штодзённыя нататкі-запісы ў «Дыярыюшы» М. Галубовіч паўстае як рознабакова адукаваны чалавек, з шырокімі культурнымі інтарэсамі і шматлікімі асабістымі сувязямі.

На старонках «Дзённіка» перад намі праплываюць цікавыя постаці другой паловы ХІХ ст.: расійскі імператар Аляксандр II; папскі прэлат Д. Антанэлі; беларускі абшарнік А. Аскерка; апошні мінскі маршалак дваранін Ігнат Багдашэўскі; легендарны беларускі паэт-самавук, па прафесіі каваль Паўлюк Багрым (1812 — каля 1891). П. Багрыму для кабінета мінскага генерал-губернатара Э. Г. Келера архірэй М. Галубовіч заказаў два французскія замкі з засаўкамі для дзвярэй, кожны па 15 руб., стары з дарobленай засаўкай за 3 руб. і 3 сцізорыкі; рэктар Мінска-Магілёўскай каталіцкай семінарыі А. Вайткевіч; вядомы памешчык Эдвард Ваньковіч; кіраўнік палаты дзяржаўных скарбаў Д. В. Гатоўцаў; археолаг, краязнавец М.-Л. Гаусман; уладальнік маёнтка Прылукі Антон Горват, мінскі генерал-губернатар граф Э. Г. Келер; мінскі віцэ-губернатар А. В. Лучынскі; маршалак Мінскага павета Р. С. Пішчала (падрадчык-будаўнічы Мінскага турэмнага замка (1825) (цяпер турма ў Мінску па вул. Валадарскага); праваслаўныя святары браты І. і М. Прорвічы; сям'я Прушынскіх; сям'я Пушчыных; англійскі барон Рутлянд; шляхціц з в. Віцкаўшчына Сікорскі; мінскі маршалак Л. А. Слатвінскі; царкоўны дзеяч, праваслаўны мітрапаліт Я. Сямашка; сям'я Тышкевічаў; вядомы нумізмат, бібліяфіл, калекцыянер, дзяржаўны дзеяч граф Эмерык фон Гутэн-Чапскі (1828—1896); графы Цеханавецкія; генерал-лейтэнат І. Я. Штадэ; выконваючы абавязкі паліцмайстра А. М. Якабсон; паўстанец, рэвалюцыянер, асветнік Н. Яленскі; пратаіерэй катэдральнага сабора ў Мінску, член Мінскай духоўнай кансісторыі П. Р. Яліноўскі; «столоначальник штатного отделения казенной палаты», сын пісьменніка Плакіда Янкоўскага К. П. Янкоўскі; майстар з Гродна Янушкевіч; удзельнік рэвалюцыйнага руху Фэлікс Ястрэмбскі, эмігрыраваў у 1831 г. ў г. Брусель, найбліжэйшы паплечнік Іяхіма Левеля і яго «душапрыказчык», у свой час слынны фартэпіянны фабрыкант (як занатавала адна энцыклапедыя: «Яго піяніна шукаюць па ўсёй Еўропе») і многія інш., усяго звыш 650 прозвішчаў-персаналій.



У «Дыярыюшы» ўпамянуты звыш 200 гарадоў, мястэчак, вёсак, фальваркаў, засценкаў, амаль ва ўсіх іх быў М. Галубовіч, а ў некаторых з іх па некалькі разоў. Да гэтых населеных пунктаў добрае тлумачэнне даў Я. Янушкевіч.

Кніга атрымалася грунтоўная і таму, што Я. Я. Янушкевіч напісаў да яе прадмову «Люстрадзён эпохі Багрыма і Дуніна-Марцінкевіча», змясціў каментарый на 47 спасылак па тэксце «Дыярыюша», «Паказальнік імёнаў», «Геаграфічны паказальнік», «Гласар».

У канцы кнігі змешчаны «Гласар» — тлумачальны слоўнік малавядомых і састарэлых беларускіх і рускіх слоў, іншых слоў і тэрмінаў, разлічаных і на польскамоўнага чытача.

Я ўпэўнены, што гэтая кніга будзе карыснай для гісторыкаў, краязнаўцаў, філолагаў, мастацтвазнаўцаў, усіх тых, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

***Вацлаў Ластоўскі****. Кароткая энцыклапедыя старасьвеччыны / Укл. Язэп Янушкевіч. Мн.: Выдавец В. Хурсік, 2003. 226 с.*

Імя Вацлава Юстынавіча Ластоўскага (1883—1938) у 20—30-я гады ХХ ст. было добра вядома на Беларусі: грамадска-палітычны дзеяч,

гісторык, філолаг, этнограф, публіцыст, пісьменнік, літаратуразнавец, акадэмік Акадэміі навук Беларусі (1928). Ён удзельнічаў у абвяшчэнні 25 сакавіка 1918 г. незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Калі ў снежні 1919 г. была створана Народная рада БНР, В. Ю. Ластоўскі ўзначаліў Кабінет Міністраў. Акрамя гэтага, у савецкі час В. Ластоўскі займаў пасады дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея, загадчыка кафедры этнаграфіі пры Інбелькульце, неадменнага сакратара Беларускай акадэміі навук (1928—1930) і інш.

Першы раз ён быў арыштаваны 21 ліпеня 1930 г. па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Паўторна арыштаваны 20 жніўня 1937 г. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 23 студзеня 1938 г. «як агент польскай разведкі і ўдзельнік нацыянал-фашысцкай арганізацыі». Усе яго кнігі ў свой час былі забаронены.

Хочацца адзначыць, што ў нашай краіне працягваюць шанаваць памяць выдатнага грамадскага дзеяча і навукоўцы. У 2003 г. (да 120-годдзя з дня нараджэння В. Ластоўскага) у Мінску ў прыватным выдавецтве «Выдавец В. Хурсік» пад грыфам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі і Археаграфічнай камісіі Белкамархіва выйшла ягоная кніга «Кароткая энцыклапедыя старасьвеччыны». Укладальнік, аўтар каментара і рэдактар яе — беларускі пісьменнік, археограф, архівіст Язэп Янушкевіч.

У кнігу ўвайшло 85 артыкулаў з тлумачэннямі энцыклапедычных тэрмінаў: «Арыстакратыя», «Баяры», «Ваявода», «Возніч», «Войт», «Гарадні-чы», «Дваране», «Канцлер», «Канюшы», «Каштэлян», «Ключнік», «Князь», «Купцы», «Маршалак», «Мяшчане», «Пасаднікі і Цівуны», «Пісар», «Земскія суды», «Копныя суды», «Гарадзельская унія», «Хлебаробства на Беларусі», «Якога мы роду-племені», «Кроніка Вялікага Княства Літоўскага», «Жыды ў Беларусі», «Слуцкія паясы», «Беларусь пад Расеяй», «Кальвінскія зборы на Беларусі», «Аб славянстве маскалёў» і інш.

Усе гэтыя і іншыя артыкулы з тлумачэннямі тэрмінаў, знітаваныя ў адно цэлае, даюць стройнае ўяўленне пра гісторыю Беларусі ад старажытных часоў да пачатку XX ст., асвятляюць значныя дзяржаўныя, палітычныя, рэлігійныя і культурныя падзеі. У дадатку да гэтай кнігі далучаны шэраг артыкулаў, якія былі надрукаваны В. Ластоўскім у 1912—1926 гг. у газеце «Наша ніва», часопісах «Лучынка», «Крывіч», у «Беларускім календары «Сваяк» на 1919 год» і іншых беларускіх выданнях.

Ва «Уступе» Я. Янушкевіч ацэньвае В. Ластоўскага як навукоўца, даўшы загаловак «Наш Глогер: Вацлаў Ластоўскі — энцыклапедыст», параўноўваючы В. Ластоўскага з вядомым польскім археолагам, этнографам, стваральнікам «Старапольскай энцыклапедыі» ў 4 тамах (1900—1903) Зыгмунтам Глогерам (1845—1910).



Вельмі пажадана было б увесці ў шырокі ўжытак наш багаты ілюстравана-іканаграфічны матэрыял, які, несумненна, аздобіў бы гэтае каштоўнае выданне, надаўшы яму не толькі навуковы змест, але і «прыгожай мастацкай формаю» годны ўзровень, пацвердзіўшы адно з галоўных слоў кнігі — «Энцыклапедыя» з вялікай літары.

На прыкладзе дадзенай кнігі бачна, як непажадана, калі і ўкладальнік і рэдактар сумяшчаліся ў адной асобе. Пажадана, каб падрыхтаваны да друку тэкст карэкціравала «свежае вока».

У кнізе сустракаюцца недакладнасці і памылкі друку: напрыклад, належыць выкладаць: дырэктар выдавецтва «Беларусь» — Яўген Малашэвіч, а не Я. Малашкевіч; прозвішча галоўнага рэдактара выдавецтва А. І. Законнікавай дадзена без ініцыялаў; Збор твораў у 8 т. Уладзіміра Караткевіча, а не Уладзімера.

Нягледзячы на гэтыя і некаторыя іншыя недакладнасці ды памылкі друку, якія ёсць у тэксце кнігі, Я. Я. Янушкевічам падрыхтаваны карысны дапаможнік для вывучэння гісторыі Беларусі.

***А. І. Валахановіч***

# ХРОНІКА. ІНФАРМАЦЫЯ

## ДЗЕЙНАСЦЬ БЮРО АРХЕАГРАФІЧНАЙ КАМІСІІ БЕЛКАМАРХІВА
*(ліпень 2003 г. — май 2004 г.)*

У № 2 часопіса «Наша вера» за 2003 г. з’явіўся артыкул намесніка старшыні АК Я. Я. Янушкевіча «На сустрэчу з мінулым», у якім змешчаны матэрыялы пра каталіцкіх святароў Беларусі.

15—21 жніўня Я. Я. Янушкевіч прымаў удзел у дзейнасці XIII Міжнароднага з’езда славістаў у Любляне. Даклад «Славянскія рэмінісцэнцыі ў творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча», прачытаны ім на з’ездзе, апублікаваны ў кнігах: «Мовазнаўства. Літаратура. Культуралогія. Фальклярыстыка: XIII Міжнародны з’езд славістаў» (Любляна, 2003); «Даклад бедарускай дэлегацыі» (Мн., 2003).

У т. 9 навуковага выдання «Студії з архівної справи та документознавства» апублікаваны артыкул намесніка старшыні АК М. Ф. Шумейкі «Беларуські архіви та краєзнавство». У т. 10 «Студій» апублікаваны артыкул вучонага сакратара АК Ю. У. Несцяровіча «Діяльність Археографічної комісії Белкомархіву» і рэцэнзія на кнігу Я. Я. Янушкевіча «За архіўным парогам» (Мн., 2002) Расціслава Раманоўскага «Архівні подорожі» Язэпа Янушкевіча».

18—19 верасня ў г. Рэчыца адбыліся 4-я Міжнародныя Доўнараўскія чытанні, на якія былі прадстаўлены даклады М. Ф. Шумейкі і дырэктара БелНДІДАС У. В. Фядосава і паведамленне Ю. У. Несцяровіча.

25 верасня АК правяла пасяджэнне «круглага стала» па актуальных праблемах методыкі археаграфіі. Інфармацыя пра яго была змешчана М. Ф. Шумейкам у № 6 часопіса «Архівы і справаводства».

У кастрычніку выйшаў з друку вып. 4 БАШ. Бюро АК прапанавала рэдакцыйна-выдавецкаму аддзелу БелНДІДАС павялічыць тыраж чарговых выпускаў БАШ.

У пачатку лістапада выйшла з друку кніга Вацлава Ластоўскага «Кароткая энцыклапедыя старасьвеччыны». Укладальнік Язэп Янушкевіч. 11 лістапада ў памяшканні Дома літаратараў адбылася вечарына, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння В. Ластоўскага. Адным з арганізатараў яе з’явілася АК Белкамархіва. Вёў вечарыну Я. Я. Янушкевіч.

У кн. 2 т. 6 «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» змешчаны артыкулы «Археаграфічная камісія Камітэта па архівах і справаводстве» і «Усенародная барацьба ў Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны» былога старшыні АК Р. П. Платонава; «Архивное дело», «Усебеларускія архіўна-археаграфічныя канферэнцыі» і «Усенародны партызанскі рух у Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (чэрвень 1941 — ліпень 1944)» М. Ф. Шумейкі; «Беларускі археаграфічны штогоднік» намесніка дырэктара БелНДІДАС С. У. Жумара.

10—11 кастрычніка ў Мінску адбылася IV Агульная канферэнцыя Еўразійскага рэгіянальнага аддзялення (ЕВРАЗИКА) Міжнароднага савета архіваў. Ад РБ у ёй прынялі ўдзел старшыня Белкамархіва У. І. Адамушка, супрацоўнік бюро АК В. Д. Селяменеў і У. В. Фядосаў. 11—12 кастрычніка адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Архівы і грамадства сёння». З дакладамі на ёй выступілі М. Ф. Шумейка і У. В. Фядосаў. Матэрыялы канферэнцыі былі апублікаваны БелНДІДАС (гл.: Архивы и общество сегодня: Материалы Международной научно-практической конференции (Минск, 11—12 ноября 2003 г.). Мн., 2004.



У верасні выйшаў з друку даведнік «Документы по истории Великой Отечественной войны в государственных архивах Республики Беларусь» (Дрезден—Минск—Грац). У складзе яго рэдкалегіі В. Д. Селяменеў і С. У. Жумар.

11 кастрычніка ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі адбылася міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Актуальныя пытанні вывучэння і выдання Метрыкі ВКЛ». На ёй былі прадстаўлены даклады Ю. У. Несцяровіча «Да пытання вызначэння гістарычных дакументаў беларускага паходжання як прывілеяў» і М. Ф. Шумейкі «О публикации документов Литовской метрики в Беларуси в XX в.».

У снежні Я. Я. Янушкевічам разам з былой супрацоўніцай аддзела археаграфіі БелНДІДАС І. М. Тамільчык складзены электронны даведнік «Чыноўнікі Мінскай губерні XIX ст.» на падставе «Памятной книги Минской губернии за 1860 год».

18 снежня адбылося чарговае пасяджэнне бюро АК, на якім былі разгледжаны вынікі дзейнасці АК у 2003 г., зацверджаны планы дзейнасці АК і бюро АК на 2004 г., абмеркаваны пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай вып. 5 БАШ.

У снежні на старонку АК у сайце архіваў РБ у Інтэрнеце (archivts.gov.by.) разам з электроннымі копіямі вып. 3 і 4 БАШ змешчана і электронная версія праграмы публікацыі матэрыялаў НАФ РБ установамі архіўнай галіны РБ «Архіўная беларусіка», якая складаецца з трох раздзелаў: 1. «Сучасны стан археаграфічнай базы па гісторыі Беларусі» (з падраздзеламі: «Пералік зборнікаў дакументальных матэрыялаў, выдадзеных на Беларусі», «Пералік расійскіх, савецкіх і постсавецкіх публікацый дакументальных матэрыялаў па гісторыі Беларусі», «Пералік польскіх каталогаў і інвентароў па гісторыі Беларусі»); 2. «Прыярытэтныя накірункі археаграфічнай распрацоўкі дакументаў і матэрыялаў НАФ РБ установамі архіўнай галіны РБ»; 3. «Перспектыўны план археаграфічных выданняў устаноў архіўнай галіны РБ на 2004—2008 гг.»

3 лютага абдылося чарговае пасяджэнне бюро АК, на якім былі абмеркаваны пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай агульнага сходу АК і выкананнем плана публікацый дакументаў НАФ РБ установамі архіўнай галіны РБ у 2004 г. Акрамя таго, М. Ф. Шумейка, В. Д. Селяменеў і Ю. У. Несцяровіч правялі экспертызу зборнікаў дакументаў і матэрыялаў: «2-я Северо-западная конференция РСДРП», «Восстановление и развитие народного хозяйства БССР (1943—1950)», «На защите западных рубежей Советской Республики: 16-я армия в боях за Литву и Белоруссию», падрыхтаваных, але не выдадзеных у савецкі час, рукапісы якіх захоўваюцца ў бібліятэцы БелНДІДАС. Члены бюро АК палічылі мэтазгодным не толькі электроннае ўзнаўленне, але і апублікаванне (поўнасцю ці часткова) рукапісу апошняга зборніка, улічваючы, што ў яго ўключаны карысныя для распрацоўкі ваеннай і палітычнай гісторыі Беларусі XX ст. крыніцы (у прыватнасці, дадзеныя пра ваенныя дзеянні Чырвонай Арміі супраць рускай народнай добраахвотніцкай арміі Булак-Балаховіча), апускаючы (або перарабіўшы) кан’юнктурна напісаную гістарычную частку прадмовы з тэндэнцыйным асвятленнем падзей мінулага і прапагандысцкую назву.

У падрыхтаваны супрацоўнікамі Цэнтральнага дзяржархіва Савецкай Арміі ў Маскве, Галоўархіва БССР, Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ і Інстытута ваеннай гісторыі Міністэрства абароны СССР зборнік акрамя 172 дакументаль-

ных матэрыялаў (дырэктывы, загады, разведзводкі, журналы баявых дзеянняў 16-й арміі Заходняга фронту Савецкай рэспублікі і інш.) былі ўключаны спісы дывізій, кіруючага складу, байцоў і камандзіраў 16-й арміі, якія былі ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі.

19 лютага ў НАРБ адбылася прэзентацыя даведніка «Лагеря советских военнопленных в Беларуси 1941—1944 гг.» (Мн., 2003) і зборніка дакументаў «Лагерь смерти Тростенец» (Мн., 2003), якую адкрыў В. Д. Селяменеў, які з'яўляецца адным са складальнікаў і рэдактараў гэтых выданняў.

4 сакавіка 2004 г. адбыўся агульны сход АК, 18 сакавіка — пасяджэнне бюро АК, на якім былі рэкамендаваны да друку матэрыялы вып. 5 БАШ, абмеркаваны праект «II Літоўскі статут (раннія спісы)», уведзены ў склад рэдкалегіі БАШ У. М. Міхнюк і І. В. Саверчанка, вырашана хадайнічаць перад кіраўніцтвам БелНДІДАС аб правядзенні з апошнім у 2005 г. сумеснай навуковай канферэнцыі па праблемах археаграфіі і сацыяльна-палітычнай гісторыі Беларусі, прысвечанай 75-годдзю з дня нараджэння Р. П. Платонава.

У красавіку выдадзена кніга: «21 век: Актуальные проблемы исторической науки. Материалы Международной научной конференции, посвященной 70-летию исторического факультета БГУ 15—16 апреля 2004 г.» (Мн., 2004). У ёй змешчаны даклад удзельніка канферэнцыі М. Ф. Шумейкі «От терминологических споров об «архивном источниковедении» к обоснованию спецкурса». У № 2 часопіса «Архівы і справаводства» апублікаваны артыкул М. Ф. Шумейкі «У истоков белорусской археографии», прысвечаны да 250-годдзя з дня нараджэння графа М. П. Румянцава, 180-годдзю выхаду ў свет «Белорусского архива древних грамот», 140-годдзю стварэння Віленскай археаграфічнай камісіі. Ім жа ў гэтым нумары змешчана інфармацыя пра агульны сход АК Белкамархіва, які адбыўся 4 сакавіка 2004 г.

25 мая АК разам з БелНДІДАС правялі пасяджэнне «круглага стала» па тэме «Крыніцазнаўчыя, архівазнаўчыя і гістарыяграфічныя пытанні распрацоўкі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны», якое было прысвечана 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У пасяджэнні прыняло ўдзел 16 супрацоўнікаў Белкамархіва, БелНДІДАС, НАРБ, дзяржархіваў РБ, Інстытута гісторыі НАН Беларусі і Ваеннай акадэміі РБ. З прывітальнымі словамі да ўдзельнікаў пасяджэння звярнуліся У. В. Фядосаў і намеснік старшыні АК У. П. Крук. Вёў пасяджэнне М. Ф. Шумейка; ён жа падвёў яго вынікі.

На пасяджэнні асвятляліся і аналізаваліся нераспрацаваныя і малавыкарыстаныя ў навуковым ужытку групы дакументальных матэрыялаў, якія з'яўляюцца крыніцамі для вывучэння пытанняў гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (ВАВ) — франтавыя пісьмы, баявыя характарыстыкі чырвонаармейцаў, дзённікі ўдзельнікаў вайны і інш., узнімаліся і абмяркоўваліся пытанні ацэнкі савецкай і постсавецкай гістарыяграфіі партызанскай вайна 1941—1944 гг. на Беларусі, праяў маральнасці ва ўмовах вайны, распрацоўкі гісторыі штодзённасці, камплектавання архіваў Беларусі матэрыяламі ўдзельнікаў ВАВ, скажэння і нераўнамернасці ў камплектаванні архіўных фондаў у выніку дзейнасці цэнзурных устаноў, пашырэння тэматыкі даследаванняў і навуковай тэрміналогіі даследаванняў па ваеннай гісторыі, перш за ўсё гісторыі ВАВ.



М. Ф. Шумейка адзначыў, што ў апошні час пры распрацоўцы пытанняў гісторыі ВАВ адбываецца перамяшчэнне акцэнта з выкарыстання афіцыйных крыніц да выкарыстання крыніц асабістага паходжання. А. М. Ліцвін выказаў канцэптуальную заўвагу, датычную навуковага тлумачэння гісторыі ВАВ на Беларусі: паколькі да часу прыходу Савецкай Арміі на Беларусь 60% тэрыторыі БССР была ўжо вызвалена партызанамі, то адэкватным будзе сцвярджаць не пра вызваленне Беларусі часцямі Савецкай Арміі, а пра злучэнне партызанскіх фарміраванняў і войск Савецкай Арміі пры вызваленні Беларусі.

Інфармацыя пра пасяджэнне змешчана ў № 4 часопіса «Архівы і справаводства». Матэрыялы «круглала стала» будуць выдадзены БелНДІДАС і АК.

*Матэрыял падрыхтаваны Ю.У.Несцяровічам*

## ІНФАРМАЦЫЯ ПРА АГУЛЬНЫ СХОД АРХЕАГРАФІЧНАЙ КАМІСІІ БЕЛКАМАРХІВА

На чарговым агульным сходзе АК Белкамархіва 4 сакавіка 2004 г., пасяджэнне якога традыцыйна адбылося ў актавай зале НГАБ, прысутнічала 26 вучоных і архівістаў, 23 з якіх з'яўляюцца членамі АК (усяго сёння АК налічвае ў сваім складзе 40 членаў): кіраўнікі Белкамархіва, БелНДІДАС, НГАБ, БелНІЦЭД, БДАМЛІМ, гарадскога архіва ў г. Віцебску, гістарычнага факультэта БДУ; супрацоўнікі Белкамархіва, БелНДІДАС, НГАБ, НАРБ, БДАККФД, дзяржархіваў Гродзенскай і Віцебскай абласцей, занальнага архіва ў г. Маладзечна, БІП, Інстытута гісторыі НАН Беларусі, Нацыянальнай бібліятэкі РБ. Звяртае на сабе ўвагу той факт, што з дзесяці вучоных НАН Беларусі, прадстаўленых у АК, ніводны на пасяджэнні не прысутнічаў.

Першым на сходзе з інфармацыяй пра стан працы над выкананнем плана публікацыі матэрыялаў НАФ РБ архіўнымі ўстановамі РБ выступіў намеснік старшыні АК У. П. Крук. Ён звярнуў увагу прысутных на тое, што выкананне $^1/_3$ часткі запланаваных публікацый прыходзіцца на бягучы год. Другім на сходзе з інфармацыяй пра дзейнасць Гродзенскага аддзялення АК выступіў яго старшыня праф. Д. У. Караў. Увага прысутных была скіравана ім на розныя аспекты і моманты арганізацыі і практычнай дзейнасці аддзялення, у прыватнасці, на тое, што адсутнасць юрыдычнага статуса АК уносіць перашкоды ў яе дзейнасць. Трэцім на сходзе з дакладам пра новыя задачы дзейнасці АК выступіў М. Ф. Шумейка (публікуецца ў раздзеле «Археаграфія» дадзенага выпуску БАШ).

Дэкан гістарычнага факультэта БДУ С. М. Ходзін падтрымаў ідэі дакладчыка аб правядзенні археаграфічных экспедыцый для студэнтаў і стварэнні Інтэрнэт-сайтаў, на якіх будуць размяшчацца крыніцы па гісторыі Беларусі. Дырэктар БелНІЦЭД В. Л. Насевіч адзначыў, што падобныя Інтэрнэт-сайты існуюць і пры складанні новых сайтаў АК варта ўлічваць іх напрацоўкі. Ю. У. Несцяровіч заўважыў, што на бюро АК разглядалася пытанне пра мэтазгоднасць праходжання студэнтамі археаграфічнай практыкі не толькі у форме ўдзелу іх у археаграфічных экспедыцыях, а і ў форме працы з гістарычнымі дакументамі ў архівах. Дырэктар БДАМЛІМ Г. В. Запартыка паведаміла, што супрацоўнікі архіва-музея кожны год праводзяць археаграфічныя экспедыцыі; па іх выніках архіў прымае да 10 тыс. дакументаў у год.

Галоўны архіварыус НГАБ З. Л. Яцкевіч закрануў моманты актывізацыі археаграфічнай працы ў апошні час у краіне, звярнуў увагу на дзейнасць гродзенскіх вучоных, якія шырока займаюцца палявой археаграфіяй, выдаюць зборнік «Герольд», уключаючы ў яго не толькі дакументальныя публікацыі і геральдыка-генеалагічныя артыкулы, але і вопісы дакументаў, якія захоўваюцца ў сховішчах беларускіх музеяў, цэркваў, а таксама за мяжой. Адзначыў актуальнасць і перспектыўнасць правядзення археаграфічных экспедыцый. Прапанаваў прысвойваць ганаровыя прэміі найбольш плённа працуючым археографам і архівістам архіўнай галіны.

Старшыня Белкамархіва У. І. Адамушка ў сваім выступленні надаў новы імпульс дзейнасці АК. Ён заклікаў членаў АК пашыраць кантакты з замежнымі археаграфічнымі ўстановамі, шырэй выкарыстоўваць сучасныя тэхнічныя электронныя сродкі, распрацоўваць электронныя праекты публікацыі архіўных дакументаў і іх вопісаў; падвёў некаторыя вынікі і зрабіў ацэнку дзейнасці АК у мінулым годзе; адзначыў, што наданне юрыдычнага статуса АК мае не толькі свае плюсы, але і мінусы.

Я. Я. Янушкевіч, які вёў сход, у заключным слове падтрымаў ідэі і прапановы, зробленыя У. І. Адамушкам.

Пастанова агульнага сходу АК:

1. Прыняць да ведама інфармацыю дакладчыкаў.
2. Прыняць асноўныя накірункі дзейнасці АК на бліжэйшыя гады:

а) выкананне плана публікацый дакументаў НАФ РБ архіўнымі ўстановамі РБ на 2004—2008 гг.;

б) пашырэнне сеткі аддзяленняў АК: стварэнне Гомельскага аддзялення АК;

в) прыцягненне студэнтаў гістарычных факультэтаў ВНУ РБ да выканання археаграфічных праектаў АК;

г) пашырэнне супрацоўніцтва з установамі замежных краін, якія вядуць археаграфічную дзейнасць;

д) распрацоўка археаграфічных праектаў сумесна са згуртаваннем «Гісторыкі-архівісты»;

е) удасканаленне арганізацыйна-метадычнай дзейнасці АК.

3. Увесці ў склад бюро АК праф. Д. У. Карава і праф. В. А. Космача.

*Матэрыял падрыхтаваны Ю. У. Несцяровічам*

## ИНФОРМАЦИЯ О РАБОТЕ ВИТЕБСКОГО ОТДЕЛЕНИЯ АРХЕОГРАФИЧЕСКОЙ КОМИССИИ БЕЛКОМАРХИВА ЗА 2003 г. И О ПЛАНЕ РАБОТЫ НА 2004 г.

Первое документальное издание, осуществленное Витебским отделением Археографической комиссии Белкомархива, «Витебщина архивная: история, фонды, персоналии (сер. XIX—XX вв.)» получило широкий резонанс среди ученых, краеведов, архивных и музейных сотрудников, работников образования. 4 февраля состоялась его презентация в Государственном архиве Витебской области. Рецензия на книгу российских ученых Ю. Лабынцева и Л. Щавинской публикуется в данном выпуске БАШ в разделе «Рецензии» (см. с. 6).



Поскольку тираж сборника составил всего 200 экземпляров, Управление образования Витебского облисполкома профинансировало 2-е дополнительное издание «Витебщины архивной…» тиражом в 500 экземпляров, чтобы этим сборником материалов и документов могли пользоваться учителя практически в каждой школе.

На состоявшемся областном семинаре-практикуме «Горрайархивы: реальность и перспективы» 29 октября 2003 г. управляющие делами горрайисполкомов получили сборник «Витебщина архивная…», чтобы каждый район области имел в пользовании такое издание.

Таким образом, Витебское отделение АК высоким признанием своей работы со стороны специалистов и широких слоев общественности получило хороший заряд на дальнейшую работу по издательской деятельности.

В 2003 г. подготовлен электронный вариант сборника документов «История Витебского художественного училища в документах Государственного архива Витебской области (сентябрь 1918 г. — сентябрь 1923 г.)». В сборник включено 210 документов на 194 номера, подготовлено предисловие, составлен НСА (64 комментария, списки, указатели, перечни и др.). Рукопись получила положительную рецензию ведущего научного сотрудника отдела современного белорусского искусства Национального художественного музея РБ Л. Д. Наливайко и специалистов отдела публикации документов НАРБ.

В течение 2003 г. проведена большая работа по подготовке материалов для научно-популярного издания-сборника документов «Судьба православной церкви на Витебщине в XX столетии» объемом в 20 печатных листов.

В структуре сборника предусмотрены следующие разделы: историческое предисловие; документы по истории православной церкви на Витебщине в XX в. из фондов НИАБ, ГАВО, ЗГА в г. Полоцке, Орше, Глубоком; перечень неопубликованных документов, содержащих сведения о церквях и священнослужителях по регионам Витебщины; хроника развития православной церкви на Витебщине.

В 2003 г. проведены выявление, отбор и археографическая обработка документов. В 2004 г. планируется формирование разделов сборника, окончательный отбор документов, составление примечаний по содержанию документов и вся другая работа для подготовки электронного варианта издания.

В процессе работы над сборником к картотеке, составленной по выявленным документам, постоянно обращаются сотрудники архива при исполнении тематических запросов, исследователи, работающие в читальном зале архива. Тема весьма актуальная, вызывает интерес краеведов, священнослужителей, историков и др.

На перспективу планируется подготовка архивного справочного издания «Органы государственной власти Витебской области»: ведется выявление документов и написание исторических справок.

30—31 октября 2003 г. в ВГУ состоялась международная научно-теоретическая конференция «История и культура Европы в контексте становления и развития региональных цивилизаций и культур: актуальные проблемы из исторического прошлого и современности», на которой с сообщением выступил научный сотрудник Госархива Витебской области В. П. Коханко, член Витебского

отделения АК по теме «Передача дореволюционных фондов Госархива Витебской области в Центральный государственный исторический архив БССР».

В течение нескольких лет налажена тесная связь и сотрудничество работников Госархива с органами образования: проводятся совместные семинары, практикумы, в рамках экспедиции «Наш край» ведется поисковая работа по выявлению архивных документов из истории школ, местечек Витебщины, жизни известных людей для пополнения школьных музеев.

Представители Витебского областного государственного института повышения квалификации и переподготовки руководящих работников и специалистов образования и Витебского областного объединения по организации внешкольной работы с детьми и подростками, учителя-краеведы являются членами Витебского отделения АК.

В результате такого сотрудничества в 2003 г. проведено выявление документов к 100-летию репрессированного белорусского поэта Ф. Ф. Кляшторного, уроженца Лепельского района, планируется издание книги.

В связи с подготовкой к 60-летию освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков в 2004 г. будет подготовлена тематическая подборка документов из фонда ГАВО для учителей истории «Великая Отечественная война на Витебщине».

В 2004 г. члены Витебского отделения АК примут участие в подготовке Витебским облисполкомом справочно-представительского издания «Витебская область», для которого будут подготовлены исторический очерк «Витебщина — исконная славянская земля» и хронология величайших событий в истории Витебщины.

Постоянно проводится работа по пополнению фонда пользования Госархива Витебской области копиями документов из архивных, библиотечных, музейных фондов Республики Беларусь, особенно при подготовке материалов к изданиям. Считаем, что эту работу нужно проводить более целенаправленно и продуктивно в рамках программы деятельности АК Белкомархива.

*Материал подготовлен В. В. Шарендо*

## ІНФАРМАЦЫЯ ПРА ДЗЕЙНАСЦЬ ГРОДЗЕНСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ АРХЕАГРАФІЧНАЙ КАМІСІІ Ў 2004 г.

4 сакавіка 2004 г. у Мінску адбыўся агульны сход Археаграфічнай камісіі Белкамархіва, на якім была заслухана справаздача старшыні Гродзенскага аддзялення АК прафесара, дырэктара Гуманітарнага цэнтра даследаванняў Усходняй Еўропы Д. У. Карава, які расказаў пра дзейнасць аддзялення ў 2002—2003 гг. і планах на бягучы год.

Д. У. Караў паведаміў, што ў верасні 2004 г. намечана правесці беларуска-польскі «круглы стол» па гісторыі паўстання 1863—1864 гг., затым на базе Цэнтра, НГАБ у г. Гродна, Гродзенскага аддзялення АК выдаць матэрыялы канферэнцыі і зборнік дакументаў пра паўстанцкі рух Гродзенскай губ. у 1863—1864 гг. Акрамя таго, плануецца выдаць пад грыфам Цэнтра, Гродзенскага аддзялення АК і Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага даведнік «Гродзенская губерня ў бібліяграфічных крыніцах XIX — пач. XX ст.».



У 2004 г. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна і дзяржаўныя архівы Гродзенскай вобласці вядуць інтэнсіўную працу па падрыхтоўцы і выданні архіўных крыніц.

НГАБ у г. Гродна падрыхтаваны і здадзены ў набор у Слонімскую друкарню зборнік «Гродзенская губерня ў заканадаўчых актах Расійскай імперыі (1801—1913 гг.)». Выданне будзе надрукавана пад рубрыкай «Да 60-годдзя Гродзенскай вобласці», спонсарам яго з'яўляецца Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт.

Пад кіраўніцтвам загадчыка аддзела па архівах і справаводстве Гродзенскага аблвыканкама Я. М. Жэбруна ў пачатку 2004 г. зданы ў друк даведнік «Архівісты Гродзеншчыны», у падрыхтоўцы якога прынялі ўдзел НГАБ у г. Гродна і дзяржаўныя архівы Гродзенскай вобласці.

Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці працягвае весці падрыхтоўку зборніка дакументаў пасляваеннага перыяду па гісторыі Гродзенскай вобласці, прысвечанага 60-годдзю з дня яе ўтварэння.

У студзені 2004 г. аддзелам па архівах і справаводстве, і інфармацыі Гродзенскага аблвыканкама здзейснены ў камп'ютэрным наборы праект «Дакументы пра Вялікую Айчынную вайну ў дзяржаўных архівах Гродзеншчыны», прысвечаны 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкай акупацыі.

Гродзенскім абласным архівам падрыхтаваны даведнік «Пералік фондаў па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і ўспамінаў удзельнікаў яе».

*Матэрыял падрыхтаваны М. М. Сачок*

## ІНФАРМАЦЫЯ ПРА ПАСЯДЖЭННЕ «КРУГЛАГА СТАЛА» ПА ПРАБЛЕМАХ МЕТАДЫКІ АРХЕАГРАФІІ

25 верасня 2003 г. у актавай зале НГАБ (вул. Крапоткіна, 55) адбылося пасяджэнне «круглага стала» па актуальных праблемах методыкі археаграфіі. Яно мела наступную павестку дня:

1. Пра нарматыўна-метадычную базу па археаграфіі ў Рэспубліцы Беларусь.
2. Праблема уніфікацыі тэрміналогіі археаграфічных публікацый.
3. Пытанне аб прымальнасці розных падыходаў да археаграфічнай апрацоўкі дакументальных матэрыялаў (археаграфічнага афармлення, перадачы тэксту і г. д.).

У пасяджэнні прыняло ўдзел 17 архівістаў і навукоўцаў: прадстаўнікі БелНДІДАС, НГАБ, НАРБ (В. Д. Селяменеў, В. У. Скалабан, Г. Д. Кнацько); БДАМЛІМ (Г. В. Запартыка), Дзяржархіва Гомельскай вобласці (А. Д. Карасёў), Інстытута гісторыі НАН Беларусі (В. С. Мянжынскі) і інш.

Пасяджэнне правёў М. Ф. Шумейка. Першым выступаў Ю. У. Несцяровіч, які адзначыў, што пасля працяглага перыяду, калі не ўдзялялася ўвага айчыннай археаграфіі, пачынаючы з канца 1990-х гг. зноў стала распрацоўвацца. Тут асабліва належыць адзначыць метадычную распрацоўку А. І. Грушы — «Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII — XVIII стст., перыяд ВКЛ)». У дадзены момант рыхтуюцца рэкамендацыі па публікацыі іншых перыядаў гісторыі, тэкстаў на лацінскай мове. Напрыканцы мінулага года

Вучоны савет БелНДІДАС палічыў мэтазгодным адмовіцца ў дадзены момант ад складання агульных правіл гістарычных дакументаў у Беларусі. Але, на наш погляд, адсутнасць такіх агульных правіл, улічваючы тое, што розныя метадысты-археографы могуць прапаноўваць розныя рэкамендацыі па розных аспектах археаграфічнай працы без узаемнага дастасавання іх рэкамендацый, можа прывесці не толькі да неаптымальных і неуніфікаваных момантаў у публікацыях, але і да свавольства археографаў-практыкаў. Пра тое, што стварэнне агульных правіл не перастала быць актуальнай задачай айчыннай археаграфіі, ускосна сведчыць цікавасць да іх архівістаў, якія звыклі карыстацца падобнымі правіламі (маюцца на ўвазе «Правила издания исторических документов в СССР» (М., 1969, 1990). Некаторыя айчынныя археографы, як метадысты, так і практыкі, лічаць, што складанне агульных правіл неабавязкова; дастаткова будзе абыходзіцца рэкамендацыямі. Адна з мэт складання агульных правіл — уніфікацыя асноўных момантаў археаграфічнай працы, якой належыць прытрымлівацца ўсім публікатарам дакументаў у навуковых мэтах.

Некаторыя айчынныя публікатары гістарычных дакументаў, не аддаючы значнай увагі археаграфічнай апрацоўцы дакументаў (іншы раз увогуле не апрацоўваючы пэўныя аспекты публікацыі ў адпаведнасці з патрабаваннямі археаграфіі), дазваляюць у сваіх публікацыях значныя адхіленні ад дзейнічаючых правіл і рэкамендацый. На ўказванне першых з пералічаных недахопаў маецца, зразумела, археаграфічная крытыка. А для пераадолення другіх зноў жа патрэбныя агульныя правілы, з якімі павінен будзе лічыцца публікатар дакументаў, калі ён рыхтуе археаграфічную публікацыю для даследчыкаў (г. зн. павінен і ўжываць строгія прынцыпы і дакладныя метады публікацыі). Некаторымі архівістамі выказваецца думка, што агульныя правілы патрэбны, аднак на сённяшні час у нас у краіне адсутнічае патэнцыяльны калектыў аўтараў, які б здолеў іх падрыхтаваць.

М. Ф. Шумейка паведаміў прысутным пра сустрэчу вядомага расійскага археографа Г. В. Харашкевіч са студэнтамі і выкладчыкамі БДУ, якая адбылася ў верасні 2003 г. У прыватнасці, на ёй вучоная канстатавала тое, што РНА страціла сваю манаполію на археаграфічныя публікацыі, што асноўная маса археаграфічнай прадукцыі ў Расіі сёння рыхтуецца супрацоўнікамі архіўных устаноў. Падобны стан спраў мае месца і ў Беларусі. Нездарма прадстаўнікі НАН Беларусі не праяўляюць вялікай зацікаўленасці археаграфічнымі справамі ў краіне. Разглядаючы пытанне, ці могуць рэкамендацыі замяніць агульныя правілы, М. Ф. Шумейка адзначыў, што рэгламентацыя парадку выдання гістарычных дакументаў, якая прадугледжваецца агульнымі правіламі, адмоўна ўплывае на ўзровень працы публікатараў іх, паколькі нельга прадугледзець усе моманты і праблемы археаграфічнай працы. Вопыт выкарыстання падобных правіл у савецкі час паказвае, што яны адмоўна паўплывалі на практычную археаграфію. Таму ён негатыўна ставіцца да стварэння асноўных правіл. Разам з тым сучасны вопыт украінскіх калег паказвае, што метадычныя распрацоўкі неагульнага характару вельмі патрэбныя, паколькі сёння ў публікацыях гістарычных дакументаў назіраецца вельмі шмат суб'ектывісцкіх момантаў, якія значна зніжаюць узровень падрыхтаваных публікацый. У прыватнасці, у іх выданнях намецілася абарачэнне да буквалісцкага спосабу выдання, незалежна



ад часу стварэння дакумента. На наш погляд, буквалісцкі падыход зусім немэтазгодны пры публікацыі гістарычных дакументаў, якія не з'яўляюцца старажытнымі.

Супрацоўнік НГАБ З. Л. Яцкевіч адзначыў, што выдаваемыя метадычныя рэкамендацыі маюць розную практычную прымянімасць. Маюцца метадычныя распрацоўкі, прымяненне якіх на практыцы вельмі праблематычна з прычыны вялікага аб'ёму іх і перанасычанасці тэрміналогіяй. Гэта адносіцца і да выдадзеных «Метадычных рэкамендацый...» А. І. Грушы. Агульныя правілы публікацыі гістарычных дакументаў у РБ патрэбныя і менавіта сёння, на гэта паказвае і нізкі ўзровень выданняў, у якіх друкуюцца гістарычныя дакументы. Прамоўца адзначае, што вопыт практычнай археаграфіі ў нашай краіне яскрава сведчыць пра негатыўныя моманты, якія звязаны з адсутнасцю нарматыўна-метадычных распрацовак па публікацыі гістарычных дакументаў беларускага паходжання; такія моманты, напрыклад, наяўныя ў дакументальных публікацыях у кнізе «Памяць». І таму лічыць, што нейкія агульныя правілы сёння павінны быць. Наконт праблемы уніфікацыі тэрміналогіі З. Л. Яцкевіч заўважыў, што строга распрацаваная тэрміналогія па археаграфіі Беларусі (як, дарэчы, і па гісторыі Беларусі) на сённяшні момант увогуле адсутнічае. Перш чым прыступаць да распрацоўкі тэрміналогіі, трэба выдаць у належным аб'ёме гістарычныя слоўнікі. Слоўнік Гарбачэўскага сёння, безумоўна, не можа цалкам задаволіць даследчыкаў. Лічыць бясспрэчным неабходнасць уніфікацыі тэрміналогіі, якой бы прытрымліваліся ўсе публікатары. У прыватнасці, неабходна уніфікацыя разнавіднасці дакументаў беларускага паходжання XIII — XVIII стст. Патрэбна таксама звяртаць увагу на той момант, што падыход да археаграфічнай распрацоўкі дакументаў залежыць ад таго, ці выдаецца зборнік дакумкентаў або некалькі дакументаў, ці гэта навуковае выданне або папулярнае.

Супрацоўнік НГАБ А. М. Латушкін заўважыў, што традыцыйная метадычная база па публікацыі дакументаў перыяду ВКЛ была закладзена яшчэ дарэвалюцыйнымі вучонымі, пераважна расійскімі, і з тых пор кардынальна не перапрацоўвалася, г. зн. у методыцы археаграфіі не ўлічаны тэхнічныя дасягненні апошняга часу. А яны дазваляюць у значнай ступені скараціць пэўныя і метадычныя, і практычныя аспекты археаграфіі.

В. У. Скалабан, адзначыўшы, што сённяшняя наша размова патрэбная для справы беларускай археграфіі, удакладніў, што размова ідзе пра культуру археаграфічных выданняў, г. зн. пра тое, пра што належыць не толькі гаварыць, а чым трэба сур'ёзна займацца. Прамоўца канстатаваў, што археаграфічная непісьменасць у айчынных гісторыкаў яшчэ не зжыта. З 1990-х гг. пачаўся этап т. зв. «ксеракснай археаграфіі». Паявілася новая разнавіднасць выкарыстання гістарычных дакументаў — праз Інтэрнет. Але не толькі дакументы, змешчаныя ў Інтэрнеце, але і дакументы, якія друкуюцца новымі выдавецтвамі, уяўляюць сабой жахлівае відовішча з пункту гледжання археаграфіі. Сёння мы пераходзім да этапу публікацый дакументаў, у якіх апошнія апрацоўваюцца ў адпаведнасці з патрабаваннямі археаграфіі, з наяўнасцю аналітычнай працы. Хаця нярэдка сустракаюцца вялізныя прадмовы да археаграфічных публікацый, што зусім немэтазгодна. А прадмова павінна быць кароткай.

М. Ф. Шумейка пагаджаецца з В. У. Скалабанам наконт яго заўваг пра ступені крыніцазнаўчай крытыкі, лічачы, што археограф не павінен замяняць

сабой даследчыка, удакладняючы, што, на яго погляд, прадмова павінна быць не кароткай, а цікавай, каштоўнай для даследчыка.

Я. Я. Янушкевіч адзначыў, што для айчынных публікатараў патрэбныя і асноўныя правілы, і метадычныя рэкамендацыі, але на сённяшні момант мы не маем ні таго, ні іншага. Асноўныя правілы маглі б быць карыснымі не толькі для архівістаў, але і для пачынаючых гісторыкаў. Археаграфічная культура выдання дакументаў — першачарговы аспект публікацыі іх. Належыць карыстацца агульнапрынятымі археаграфічнымі формуламі.

У дыскусіі, якая адбылася на пасяджэнні, прымаў удзел супрацоўнік НГАБ Г. М. Брэгер, які выказаўся за мэтазгоднасць стварэння агульных правіл, заўважыўшы таксама, што ў археаграфічных публікацыях на тыя тэмы, у якіх гістарычныя праблемы дастаткова не распрацаваны, не выдадзена ніводнай манаграфіі, мэтазгодна рабіць вялікія прадмовы, ажыццяўляючы, такім чынам, сінтэз археаграфічнага і гістарычнага выданняў.

Андрэй Радаван звярнуў увагу прысутных на наяўнасць у архівах каштоўных, але неапублікаваных рукапісных спісаў Статута ВКЛ 1566 г. (пералік іх дадаецца) і на неабходнасць іх хутчэйшай публікацыі. Апаніруючы некаторым айчынным вучоным, ён заўважыў, што пры навуковым падыходзе публікацыя не можа быць выданнем, якое б адначасова мела і навуковую, і навукова-папулярную мэты.

**Пералік рукапісных спісаў Статута ВКЛ 1566 г., якія захоўваюцца ў архівах і кнігазборах Еўропы**

*На старабеларускай мове*

***1. Курніцкі спіс.***

Biblioteka Kornicka Polskiej Akademii Nauk, Kornik k. Poznania (BK; Bkor) = Бібліятэка Польскай акадэміі навук у Курніку (БПАН у Курніку).

Rkps. № 818 [BK — 818]. Statut Litewski 1566 r. (rus.) (microfilm w BN).

***2. Чудаўскі спіс.***

Государственный исторический музей в Москве. Отдел письменных источников (РО).

Чуд. № 364 [62]. —
Арк. 1 — … Статут 1566 г.;
Арк. 200. — 20.VII.1566 г. Поправы Берестейского сойма;
Арк. 205. — VIII.1568 г. Рецесс Городенского сойма.
(Гл.: Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 1. 1903. С. 119—126).

***3. Луцкі спіс.***

Цэнтральная навуковая бібліятэка Акадэміі навук Украіны.
РО. Мел. М. П/120.

***4. Спіс Васіля Усовіча (Румянцаўскі спіс).***

Румянцевский список (Список Василия Усовича). *Друкаваўся двойчы*.

Российская государственная библиотека (РГБ) = Расійская дзяржаўная бібліятэка (РДБ).

Отдел рукописей.



Фонд 256. № 412. Статут Великого Knязства Литовского 1566 г.

***5. Спіс Адама Залускага.***

Львоўскі музей украінскага мастацтва.
Ркп. 977.

***6. Спіс Яна Хоцімскага (няпоўны).***

Российская национальная библиотека (СПб.).
РО. F. П. (11). 34.

***7. Пачаеўскі спіс.***

Львоўская навуковая бібліятэка імя В. Стэфаніка АН Украіны.
РО. Ф. 9 (б/н). № 15/59.

***8. Спіс Яблонскіса (фрагмент).***

Lietuvos Mokslu Akademijos Biblioteka (LMAB). Rankrasciu skyrius = Бібліятэка Акадэміі навук Літвы (БАН Літвы). Аддзел рукапісаў.

RS. F. 29. Nr. 31.

*Матэрыял падрыхтаваны Ю. У. Несцяровічам*

## ІНФАРМАЦЫЯ ПРА ВЕЧАРЫНУ, ПРЫСВЕЧАНУЮ ЎГОДКАМ В. ЛАСТОЎСКАГА

11 лістапада 2003 г. у вялікай зале Дома літаратара адбылася вечарына, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Вацлава Ластоўскага (1883—1938) — пісьменніка (празаіка і паэта), публіцыста, гісторыка-археографа, фалькларыста-этнографа, педагога, даследчыка-энцыклапедыста, філолага-мовазнаўцы, перакладчыка, бібліёграфа — чалавека, постаць якога была адной з цэнтральнай у нашай нацыянальнай гісторыі першай трэці мінулага XX ст.

Вечарына была арганізавана Саюзам пісьменнікаў Беларусі і Археаграфічнай камісіяй Белкамархіва. У ёй прынялі ўдзел: доктар гістарычных навук, кіраўнік Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» прафесар Анатоль Грыцкевіч; доктар філалагічных навук Арсен Ліс; народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч і паэт Леанід Дранько-Майсюк; старшыня саюза пісьменнікаў Беларусі доктар філалагічных навук Алесь Пашкевіч; колішні міністар замежных спраў кандыдат гістарычнх навук Пятро Краўчанка; прадстаўнік Дзяржаўнага камітэта архіваў Украіны, дырэктар Украінскага навукова-даследчага інстытута архіўнай справы і дакументазнаўства доктар гістарычных навук Ірына Мацяш; публіцыст Анатоль Сідарэвіч. Выдавец Віктар Хурсік расказаў пра стварэнне «Кароткай энцыклапедыі старасьвеччыны» В. Ластоўскага, выхад якой асобным выданнем быў прымеркаваны да 120-годдзя з дня нараджэння выдатнага сына зямлі беларускай.

Усе выступоўцы адзначалі, што, разам з прыкметнымі і важкімі здабыткамі ў вывучэнні Ластоўскіяны на працягу апошняга дзесяцігоддзя, шмат што яшчэ належыць зрабіць для выдання агромністай спадчыны аднаго з ідэолагаў беларускага адраджэння XX ст. Сабранае ўсё разам, што напісаў Вацлаў Лас-

тоўскі, складзе не адзін змястоўны том — надзейны падмурак, закладзены верным сынам Бацькаўшчыны дзеля незалежнасці радзімы.

*Матэрыял падрыхтаваны Язэпам Янушкевічам*

## ПЕРШЫ СХОД АРХЕАГРАФІЧНАЙ КАМІСІІ БЕЛКАМАРХІВА

Падаем рэтраінфармацыю пра першы агульны сход АК Белкамархіва (на час яго правядзення — Дзяржкамархіва) паводле пратакола. Інфармацыя пра гэты сход ужо сцісла давалася Р. П. Платонавым і М. Ф. Шумейкам у вып. 1 БАШ і часопісе «Архівы і справаводства», № 3 за 2000 г.

Першы агульны сход адбыўся ў актавай зале НГАБ 27 сакавіка 2000 г. (вул. Крапоткіна, 55). На ім прысутнічалі 31 чалавек: вучоныя, архівісты і дзеячы культуры, 27 з іх — члены АК; замест двух членаў АК прысутнічалі іх намеснікі па месцы працы. З інфармацыяй «Аб працы АК за перыяд з лістапада 1999 г. па сакавік 2000 г.» у форме даклада выступіў старшыня АК Р. П. Платонаў.

Р. П. Платонаў азнаёміў прысутных з зацверджаным Дзяржкамархівам «Палажэннем пра Археаграфічную камісію Дзяржкамархіва», з тэматычнай структурай друкаванага органа АК і БелНДІДАС — БАШ, падрыхтоўку якога АК будзе весці разам з БелНДІДАС. Выступоўца праанalізаваў становішча, якое склалася ў РБ у галіне навуковай публікацыі гістарычных крыніц пра мінулае Беларусі. Адзначыў, што большасць зборнікаў дакументаў і матэрыялаў, выдадзеных у РБ на працягу 1990-х гг., з пункту гледжання патрабаванняў методыкі археаграфіі маюць недахопы. Пры публікацыі гістарычных дакументаў у часопісах і газетах відавочна рэдактарскае самавольства; звычайнай справай з’яўляецца зняцце архіўнага шыфру дакументаў, робяцца купюры без паведамлення аўтарам і іншыя негатыўныя моманты. Дакладчык зрабіў выснову, што руплівая праца складальнікаў павінна падмацоўвацца высокай адказнасцю навуковых рэдактараў археаграфічных выданняў і заклікаў прысутных спрыяць павышэнню ўзроўню археаграфічных публікацый у РБ. Паведаміў пра дзейнасць бюро АК, якая сёння носіць арганізацыйны характар. Першачарговай задачай працы АК Р. П. Платонаў вызначыў распрацоўку праграмы публікацыі дакументальных матэрыялаў НАФ РБ пад назвай «Архіўная беларусіка».

Для абмеркавання момантаў, звязаных з утварэннем і працай АК, першым слова ўзяў А. І. Мальдзіс. Ён прывітаў аднаўленне на Беларусі традыцыі навуковай публікацыі гістарычных крыніц пра мінулае Беларусі, закладзенай вучонымі Інбелкульта ў другой палове 20-х гадоў. Адзначыў, што як АК Дзяржкамархіва, так і навукова-асветны Цэнтр імя Ф. Скарыны правамоцна лічыць спадкаемцамі Інбелкульта. Нагадаў, што ў 70-я гады беларускія вучоныя, у першую чаргу М. М. Улашчык, прадпрымалі крокі да аднаўлення АК Беларусі, аднак іх ініцыятыву ўсяляк гасіла тагачаснае кіраўніцтва АН БССР. Сваю асабістую задачу ў складзе камісіі А. І. Мальдзіс акрэсліў вывучэннем і апісаннем архіўнай і рукапіснай спадчыны, якая захоўваецца за межамі краіны.

В. Л. Насевіч паведаміў, што на сайце архіваў Беларусі ў Інтэрнэце, ёсць старонка АК Дзяржкамархіва, на якую ім рэгулярна ўводзіцца інфармацыя пра



дзейнасць камісіі. І. В. Саверчанка адзначыў, што камісія рухаецца ў правільным напрамку, акрэсліваючы «праблемнае ядро» сваёй дзейнасці распрацоўкай навуковых праграм публікацыі крыніц пра мінулае Беларусі і фарміраваннем часовых навуковых калектываў для іх выканання. Ён заўважыў, што заканадаўства па развіцці навукі ў нашай краіне глыбокае, і палічыў, што АК, працуючы над выкананнем сваіх праграм і прытрымліваючыся дзейнічаючых у ёй нарматыўных актаў, у адпаведнасці з імі можа звяртацца ва ўстаноўленым парадку да дзяржустаноў (у прыватнасці, да Камітэта па навуцы і тэхналогіях) за фінансавай падтрымкай. І. В. Саверчанка мяркуе, што адным з прыярытэтных накірункаў праграмы «Архіўная беларусіка» павінна стаць распрацоўка помнікаў беларускага пісьменства XV—XVI стст., што сёння беларусазнаўцы плённа працуюць у гэтым накірунку, у прыватнасці, ім рыхтуецца да публікацыі твор І. Пацея «Вунія». Я. Я. Янушкевіч падтрымаў папярэдняга прамоўцу. Ён упэўнены, што ўрад РБ не можа не прыняць і не прафінансаваць карысныя для навуковых даследаванняў і каштоўныя для развіцця беларускай культуры праграмы, у тым ліку і праграму, распрацаваную АК; яны ж не замежныя, а нашыя, нацыянальныя праграмы.

Г. Я. Галенчанка давёў да ведама прысутных, што вучоныя НАН Беларусі, у прыватнасці вучоныя аддзела спецыяльных гістарычных дысцыплін Інстытута гісторыі, вітаюць аднаўленне АК і яе першыя крокі. Адзначыў, што задуманы камісіяй зборнік навуковых прац БАШ — прэстыжнае выданне, вакол якога належыць канцэнтравацца лепшым даследчыкам беларускай і архіўнай мінуўшчыны. Прадставіў прысутным нядаўна выдадзеную кнігу Метрыкі ВКЛ 28, падрыхтаваную да друку супрацоўнікам узначальваемага ім аддзела спецыяльных гістарычных дысцыплін В. С. Мянжынскім. Звярнуў увагу на тое, што ў апошнія гады ў Літве, у адрозненні ад Беларусі, актыўна ажыццяўляецца публікацыя матэрыялаў Метрыкі ВКЛ. Ён упэўнены, што беларускім вучоным належыць ажыццяўляць серыйнае выданне кніг Метрыкі. А. К. Галубовіч паведаміла, што ў НГАБ, які яна ўзначальвае, пэўны час ляжыць, чакаючы выдання, падрыхтаваная да публікацыі супрацоўнікам архіва А. І. Грушам кніга Метрыкі ВКЛ 44.

М. Ф. Шумейка паведаміў, што інфармацыяй пра дакументальныя публікацыі беларускіх аўтараў цікавяцца па-за межамі краіны, у прыватнасці ў АК Расійскай АН. У. І. Навіцкі звярнуў увагу прысутных на неабходнасць каардынацыі археаграфічнай працы ў межах праграмы, задуманай АК, на больш цесную кааперацыю вучоных, архівістаў і дзеячаў культуры ў рамках археаграфічнай распрацоўкі гісторыі Беларусі.

В. У. Скалабан адзначыў слушнасць сцвярджэнняў усіх папярэдніх прамоўцаў. Ён лічыць, што АК, маючы ў сваім складзе вопытных археографаў (у прыватнасці, класіка беларускай археаграфіі Г. В. Кісялёва, які падрыхтаваў нядаўна да публікацыі матэрыялы пра К. Каліноўскага для выдавецтва «Беларускі кнігазбор»), можа вырашаць любыя складаныя задачы, звязаныя з публікацыяй гістарычных дакументаў. Ён упэўнены, што статус археаграфічнай працы сёння павінен быць узняты, што той час, калі «галоўным археографам» выступала машыністка (а гэта факт гісторыі навукі), ужо скончыўся.

У. І. Адамушка адзначыў, што беларускія вучоныя разам з дзеячамі культуры і архівістамі дэманструюць неабыякавасць і значную зацікаўленасць да ар-

хеаграфічнай распрацоўкі крыніц пра мінулае Беларусі. Ён запэўніў прысутных, што кіраўніцтва Дзяржкамархіва зробіць усё, што ад яго залежыць (у матэрыяльным плане), для паспяховага ажыццяўлення планаў АК, выканання праграмы «Архіўная беларусіка». Ён удакладніў, што ў канцэпцыі археаграфічнай працы ў РБ, якой прытрымліваецца кіраўніцтва Дзяржкамархіва, ведамасная АК разглядаецца як этап у стварэнні падобнай установы, якая будзе мець рэспубліканскі статус. Акрамя таго, ён выказаўся за тое, каб выданне падрыхтаваных беларускімі археографамі кніг Метрыкі ВКЛ было серыйным.

Пастанова агульнага сходу АК:

1. Інфармацыю старшыні АК Р. П. Платонава прыняць да ведама.

2. Ухваліць першачарговымі задачамі АК і бюро АК падрыхтоўку і выданне «Беларускага археаграфічнага штогодніка», распрацоўку праграмы публікацыі дакументаў НАФ РБ, распрацоўку Правіл публікацыі гістарычных дакументаў у РБ.

*Матэрыял падрыхтаваны Ю. У. Несцяровічам*



# РЭЗЮМЕ

**Шумейка Міхаіл Фёдаравіч**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт БДУ — «О новых задачах Археографической комиссии Белкомархива».

У артыкуле закранаюцца шматлікія аспекты сучаснага становішча і арганізацыі археаграфічнай справы ў РБ, разглядаюцца пытанні методыкі публікацыі гістарычных дакументаў.

**Несцяровіч Юрый Уладзіміравіч**, кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік БелНДІДАС — «Тэрміналогія і дэфініцыя паняцця археаграфіі».

Эксплікуюцца паняцці археаграфіі як сферы грамадскай дзейнасці і як феномена культуры, археаграфіі як навуковай дысцыпліны, археаграфічнай дзейнасці. Устанаўліваюцца аптымальныя значэнні базавых тэрмінаў тэорыі археаграфіі.

**Іванова Вольга Сяргееўна**, вядучы архівіст БДАМЛІМ — «Находка» третьей части «Белорусского архива древних грамот» в БГАМЛИ».

Прасочваюцца этапы працы над ч. 1—2 «Беларускага архіва старажытных грамат» І. І. Грыгаровіча. Аналізуюцца матэрыялы калекцыі Грыгаровіча ў БДАМЛІМ, якія з'яўляюцца крыніцамі для даследавання гісторыі Беларусі. Робіцца выснова, што сярод гэтых матэрыялаў ёсць дакументы, ідэнтычныя дакументам, якія І. І. Грыгаровіч меркаваў уключыць у склад ч. 3 «Архіва». Усяго маецца больш за $^{4}/_{5}$ дакументаў, ідэнтычных дакументам ч. 3.

**Новікаў Сяргей Яўгенавіч**, кандыдат гістарычных навук, загадчык кафедры беларусазнаўства БГЛУ — «Неабходнасць археаграфічнай распрацоўкі дакументальных матэрыялаў фонду «Wi Stab Ost».

Упершыню ў айчынным крыніцазнаўстве праводзіцца аналіз дакументальных матэрыялаў фонду «Wi Stab Ost», якія дазваляюць асвятляць гаспадарчую палітыку акупантаў на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Робіцца выснова пра неабходнасць археаграфічнай распрацоўкі такіх матэрыялаў.

**Брэгер Герман Максімавіч**, галоўны архівіст НГАБ; **Лінская Ларыса Антонаўна**, старшы навуковы супрацоўнік НМГІКБ — «Фрагмент архіва Слуцкага Трайчанскага Свята-Траецкага манастыра ў фондах НМГІКБ».

Апісваюцца 86 дакументаў за 1517—1649 гг.(сярод якіх маюцца і копіі больш ранніх дакументаў) архіва Слуцкага Трайчанскага Св.-Траецкага манастыра.

**Буевіч Таццяна Уладзіміраўна**, намеснік дырэктара Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці — «Принципы комплектования архивов областных комитетов КПБ документами по учету личного состава».

Аналізуецца партыйнае справаводства ў БССР, разглядаюцца пытанні складу дакументаў абласных арганізацый КПБ па ўліку асабістага складу, прынцыпы камплектавання імі партархіваў.

**Фядосаў Уладзімір Васільевіч**, кандыдат эканамічных навук, дырэктар БелНДІДАС — «Некоторые вопросы экономики научно-исследовательской работы учреждений архивной отрасли (на примере БелНИИДАД)».

Разглядаюцца пытанні і праблемы планавання і пашырэння навукова-даследчай працы ўстаноў архіўнай галіны РБ, фінансавання даследаванняў і размеркавання бюджэтных сродкаў, адпаведнасці тэматыкі і працоўных рэсурсаў і іншыя пытанні, датычныя эканамічных аспектаў навуковай працы.

**Віцязь Сяргей Пятровіч**, кандыдат гістарычных навук — «Звесткі пісьмовых крыніц аб пражыванні яцвягаў на тэрыторыі Беларусі».

У паведамленні абагульнены і сістэматызаваны звесткі (прамыя і ўскосныя) пісьмовых гістарычных крыніц па тэме пражывання яцвягаў на тэрыторыі Беларусі (агульны перыяд XIII—XIX стст.). Зроблены высновы, што ў 1264 г. значная частка

яцвяжскіх зямель была ўключана ў склад Вялікага княства Літоўскага і з 2-й паловы XIII ст. яцвягі перасяляліся з Польскага Падляшша ў рэгіён Заходняй Беларусі, дзе ў далейшым захавалі пастаяннае пражыванне.

**Сагановіч Генадзь Мікалаевіч,** кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі — «Дзённік Конрада Кібурга 1397 г.: вяртанне да фальшыўкі».

Разглядаюцца абставіны публікацыі дзённіка пасольства Нямецкага ордэна да Вітаўта ў 1397 г. і гісторыя выкрывання яго падробленасці. Устанаўліваецца таксама пытанне аўтарства фальшыўкі, якая некаторымі гісторыкамі ў Беларусі да гэтага часу выкарыстоўваецца як аўтэнтычная.

**Стэфановіч Аляксандр Віктаравіч**, загадчык аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі — «Записи-пометы на книгах библиотеки Несвижской ординации Радзивиллов».

Асвятляюцца рукапісныя паметы, зробленыя на кнігах Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў калекцыі 1940 г. ЦНБ НАНБ. Робіцца выснова пра каштоўнасць выкарыстання такога роду пазнак у якасці гістарычнай крыніцы.

**Насытка Яўген Пятровіч**, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі — «Крыніцы па дэмаграфічнай гісторыі Беларусі XIX — пачатку XX ст.».

Прыведзены ўсе выяўленыя архіўныя і апублікаваныя крыніцы па народанасельніцтву Беларусі па даследуемым перыядзе; дадзена іх класіфікацыя, герменеўтычны аналіз. Зроблена выснова, што не ўсе крыніцы ў аднолькавай ступені выкарыстаны даследчыкамі-гісторыкамі і дэмографамі.

**Кісялёў Генадзь Васільевіч**, доктар філалагічных навук, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры НАН Беларусі — «Над загадкамі Скарыны («Феодосий… учитель великий греческаго языка»)».

Ацэньваецца ўклад Ф. Скарыны ў тэксталогію. Асвятляецца яго праца над біблейскімі першакрыніцамі, у прыватнасці выкарыстанне ім грэчаскай версіі перакладчыка II ст. н. э. Феадатыёна, якога Скарына называў «Феодосием».

**Клімаў Ігар Паўлавіч**, кандыдат філалагічных навук, дацэнт БДУК — «Даследаванне перакладаў Новага Запавету Сымонам Будным».

Аналізуюцца погляды Сымона Буднага (выкладзеныя ім у прадмовах да перакладзеных твораў) на пераклад сакральных тэкстаў. Разглядаецца, як крытыка Сымона Буднага сканцэнтравана па 4 пунктах: паказ хібаў у тэксце Св. Пісання і крыніц іх з'яўлення, вылучэнне найбольш схібленай версіі Новага Запавету, вызначэнне шляхоў эмендацый.

**Ялінская Марына Міхайлаўна**, галоўны спецыяліст Белкамархіва — «Родовая геральдика белорусского дворянства западноевропейского происхождения».

Праведзены аналіз архіўных дакументаў, якія ўтрымліваюць сведчанні пра гербы дваран іншаземнага паходжання, якія пражывалі на землях Беларусі з канца XVIII да пачатку XX ст. Пададзены апісанні некаторых гербаў. У залежнасці ад іх паходжання і ў адпаведнасці з існуючай геральдычнай традыцыяй вылучаюцца тры катэгорыі гербаў дваран-іншаземцаў.

**Жаўняркевіч Рыгор Сцяпанавіч**, галоўны спецыяліст Белкамархіва — «Сфрагістыка рэлігійных устаноў як крыніца па гісторыі канфесій Беларусі».

Разглядаюцца сфрагістычныя характарыстыкі, якія дазваляюць даследаваць сфрагістыку рэлігійных устаноў у якасці крыніцы па гісторыі канфесій Беларусі. Аналізуюцца асноўныя характарыстыкі пячатак; апісваюцца дапаможныя групы крыніц т. зв. «тэарэтычнай сфрагістыкі».

**Яцкевіч Зміцер Лявонцьевіч**, вядучы архівіст НГАБ — «Да пытання арганізацыйна-адміністрацыйнай структуры Магілёўскага магістрата ў сярэдзіне XVI—XVII ст.».



На падставе архіўных і друкаваных крыніц высвятляюцца адміністрацыйная структура, функцыі, персанальны склад Магілёўскага магістрата. Робіцца выснова пра спецыфічныя моманты ў арганізацыі дзейнасці Магілёўскага магістрата, пра існаванне пэўны час урадавага органа, які выконваў функцыі і рады, і лавы.

**Шпілеўская Ірына Мікалаеўна**, навуковы супрацоўнік БелНДІДАС — «Указ 1837 г. и новое организационное устройство канцелярий в России».

Апісваецца механізм функцыяніравання справаводства ў адміністрацыйных установах Мінскай губерні пасля прыняцця Указа 3 ліпеня 1837 г. пра ўвядзенне новага губернскага і павятовага кіравання. Робіцца выснова, што выкананне Указа надало мясцовым органам выканаўчай улады царскай Расіі такі ж высокі ўзровень арганізацыі справаводства, які быў уласцівы цэнтральным органам улады.

**Міхальчанка Аляксандр Мікалаевіч**, кандыдат гістарычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік БелНДІДАС — «Из истории мировых информационных агентств».

Упершыню ў айчыннай гістарыяграфіі даследуецца гісторыя станаўлення сусветнага інфармацыйнага агенцтва «Рэйтэр». У сувязі са зменай форм уласнасці аналізуюцца не толькі кадравыя змены, але і тэматычнае поле дзейнасці гэтага агенцтва.

**Жук Віталь Мікалаевіч**, малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі — «Национально-культурное строительство среди польского национального меньшинства в БССР в 1920-е годы».

Прыводзяцца малавядомыя і невядомыя факты пра развіццё нацыянальнай культуры польскай нацменшасці ў БССР. Робіцца выснова, што палітыка, якая вялася ў БССР у 1920-я гг. адносна польскай нацменшасці, спрыяла яе культурнаму развіццю.

**Ніхамкіна Наталля Уладзіміраўна**, навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці — «Институт уполномоченных Совета по делам русской православной церкви при СНК СССР по Белорусской ССР».

Асвятляюцца мэты стварэння, структура і асноўныя функцыі Інстытута ўпаўнаважаных па справах рускай праваслаўнай царквы пры СНК БССР, які існаваў з 1943 па 1965 г.

**Сарокін Анатоль Мікалаевіч**, доктар гістарычных навук, прафесар Беларускага інстытута правазнаўства — «Рэарганізацыя праваахоўных органаў Беларусі (1953—1958)».

Дадзены аналіз заканадаўчых актаў, датычных рэарганізацыі праваахоўных органаў Беларусі ў першае «паслясталінскае» пяцігоддзе. Робіцца выснова пра тое, што прынятыя ўладамі меры па ўзмацненні правапарадку і законнасці абмежавалі магчымасці для незаконных дзеянняў з боку праваахоўных органаў.

**Шчавінская Ларыса Леанідаўна**, кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута славяназнаўства РАН — «Никита Иванович Горбачевский (1804—1880)».

Асвятляюцца асноўныя этапы навуковай дзейнасці М. І. Гарбачэўскага, падаецца кароткі аналіз яго асноўных прац, прыводзяцца водгукі на іх.

**Мацяш Ірына Барысаўна**, доктар гістарычных навук, дырэктар УНДІАСД — «Труды и дни» украинского исследователя Пинского Полесья».

Асвятляюцца асноўныя вехі і моманты жыцця і дзейнасці ўкраінскага гісторыка, архівазнаўцы, гісторыка літаратуры А. С. Грушэўскага.

**Мянжынскі Валерый Станіслававіч**, кандыдат гістарычных навук, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі — «Дакументы па гісторыі Беларусі ў кнізе Метрыкі ВКЛ 46».

Упершыню друкуюцца 4 дакументы з кнігі Метрыкі ВКЛ 46, якія дазваляюць асвятліць падзеі, сацыяльныя і эканамічныя адносіны на землях Беларусі ў другой па-

лове XVI ст. Паказваецца каштоўнасць гэтых дакументаў для даследавання гісторыі права Беларусі XVI ст.

**Лебедзева Валянціна Міхайлаўна**, старшы выкладчык Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Ф. Скарыны — «Мінскі перыяд жыцця М. В. Доўнар-Запольскага (паводле дзённіка Н. М. Доўнар-Запольскай)».

Публікуецца фрагмент дзённіка жонкі М. В. Доўнар-Запольскага Н. М. Доўнар-Запольскай, у якім асвятляюцца падзеі з «мінскага перыяду» (1925—1926) жыцця вучонага.

**Жук Віталь Мікалаевіч**, малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі — «К вопросу о численности польского населения в БССР в 1920-е годы».

Друкуюцца дакументы, якія дазваляюць абвяргаць пункт гледжання, паводле якога ў 1920-я гг. у БССР пражывала 300 тыс. палякаў. Патлумачваецца, што даследчыкі, якія адстойваюць такі пункт гледжання, неадэкватна інтэрпрэтуюць даныя архіўных крыніц. Адной з падстаў для абгрунтавання такога пункту гледжання з'яўляецца залічэнне да палякаў беларусаў-католікаў.

**Шумейка Міхаіл Фёдаравіч**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт БДУ — «Судьба человека на войне».

Публікуюцца дакументы, датычныя лёсу савецкага ўрача, былога ваеннапалоннага Л. А. Атанясяна. Яны даюць уяўленне пра тыповыя лёсавыя падзеі, якія здараліся са звычайнымі савецкімі грамадзянамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.



# SUMMARY


Michail Shumeika discloses new tasks in the activity of Belkomarchive Archaeography Committee.

Juri Nesterovich analyses various concepts encompassed by the term «Archaeography».

Olga Ivanova informs that in the Grigorovich collection of the Belarusian State Archive-museum, there are materials identical to the ones which Ivan Grigorovich planned to include into Part three of the «Belarusian archive of ancient scripts» collection.

Sergei Novikov analyses the documents of the «Ost» economic headquarters fund of the German Federal Military Archive.

In their article Sergei Vityaz provide data (direct and indirect) of written historical sources on a theme of residing of jatvingious in lands of Belarus (for period XIII—XIX cc.) are generalized and systematized in the publication. There made a conclusion that since 2 half of XIII c. the jatvingious had moved from Polish Podlashje into region of Western Belarus and have kept constant residing there.

Gennadi Saganovich discusses historiografic diplomatic and source analysis aspects of Konrad Kibur's «Diary» 1397.

Alexander Stefanovich throws light on the handwritten notes found in the books of the Nesvizh branch of the Radzivils.

Yevgeni Nasytko analyses sources pertaining to the demographic history of Belarus of the 19$^{th}$ — beginning of the 20$^{th}$ century.

Gennadi Kiselev describes the personality of Pheodotion, the translator of the Biblical texts who lived in the 2$^{nd}$ century and whose translations were used by Francisk Skaryna.

Igor Klimov analyses the views of Simeon Budnyi, a Polish-Belarsian reformer, on the translation and critics of Biblical texts.

Marina Elinskaya analyses archival documents containing information on the coat-of-arms' of foreign nobility who lived in Belarus at the end of the 18$^{th}$ — beginnning of the 19$^{th}$ centuries.

Grigori Zholnerkevich touches upon sphragistics of religious establishments of Belarus as a source of information about the history of confessions in Belarus.

Some economic issues of the research activity of the archive institutions in Belarus are discussed in the article by the Director of the Institute of Documentation and Archive Studies Vladimir Fedosov.

Tatiana Buevich analyses the archive study aspects of using the archives of the Communist Party of Byelorussia.

German Breger and Larisa Linskaya provide a description of the 16$^{th}$ — mid-17$^{th}$ century documents stored in the archive of the Sluck Troichansk Holy Trinity monastery.

